# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
=ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ=

(СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)



## № 9

## ЛІСТАПАД





Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва
МЕНСК—1928



# РЫГОР У ПЕЦЯРБУРЗЕ[1])

## Цішка Гартны

### I

Вось ён, Пецярбург! Горад каменю і жалеза! Горад палацаў ды фабрык! Гняздо абсолютызму—і калыска рэволюцыйнага руху! Кузьня культуры—і засьценак сярэднявякоўя! Башта вастрогу народаў—і арэна будаўніцтва інтэрнацыяналу!.. Перад чым яго становіць неўгамоннае разьвіцьцё социяльна-грамадзкіх падзей? Што прaракуе яму недалёкае наступнае? Калі жыцьцё надасьць яму новую ролю стаць горадам тых, хто яго збудаваў?

З гэтымі думкамі Рыгор вышаў з вокзалу. Пецярбург гудзеў кіпучым жыцьцём. Адзін за адным праносіліся стройныя вагоны трамваю. Сьвісталі аўтомобілі і траскацелі рамізьнікі. Паводкаю ліліся людзі на вокзал і з вокзалу, у адзін бок вуліцы і ў другі, насустрач і ад яго. Над высокімі гмахамі муроў, пад струну адмяраўшых мяжу вуліцы ўсьцяж бруднае канавы, насіўся полаг разрэджанага дыму. Агромністыя шыльды вабілі какао, чакалядам і цукеркамі, дапаміналі шофэрам аб шынах „Континенталь“, а фабрыкам ды кватарантам—аб лямпачках „Osram“ і полуват. Процьма газэтчыкаў выгуквала шэраг найцікавейшых навін, з якіх рэзка выдзяляліся гэткія, як: „Аўстрыя рыхтуе наступ на Сэрбію“. „Пуанкарэ накіроўваецца ў Расію“. „Нямеччына падтрымлівае Аўстрыю“. Навіны востра інтрыгавалі публіку, якая брала газэты нарасхват, чытаючы іх нахаду.

Аднак на тварах людзей, ня гледзячы на трывожныя навіны, адмячаўся сьвяточны настрой адпачынку. Кожны быў заняты сваімі прыватнымі думкамі. Сур'ёзнасьць надыходзячых здарэньняў яксьці не гадзілася з жаданьнем ні тых, што сьпяшаліся выехаць за горад, каб пасапці сьвежым паветрам, ні тых, хто парамі ці грамадкамі знаходзілі задавальненьне і супачынак у шпацыры па гарачых камянёх гораду.

Рыгор таксама захапіўся газэтнымі навінамі, да якіх ён ужо быў падрыхтаваны. Купленая ім і насьпех прагледжаная газэта „Рэч“ узмацніла яго аналіз перадстаячых здарэньняў. Навіны ён пакідаў на абгавор з Пятрусём, а зараз не адрываўся ад назіраньня гарадзкога жыцьця. Духата і смурод, густа разбаўленыя ў паветры, яму былі няўпрыкмет:

[1]) З трэцяе квадры роману „Сокі цаліны“—„Крыжавыя дарогі“.

ён уцягаў іх з нейкаю асабліваю прагавітасьцю. Імкненьне публікі выбрацца за горад заставалася яму зараз незразумелым і чужым. Асалода жывога сутыканьня з горадам перамагла ўсё. І Рыгор назнарок прапусьціў два вагоны нумару восьмага трамваю, сеўшы ажно на трэці. Яму хацелася праехаць горадам у больш вольным вагоне, каб паўней магчы ўсё разглядзець па дарозе. Калі трамвай спыніўся, ён першым ускочыў на пярэднюю пляцоўку вагону і настаражыўся да нагляду. Збоку яго сядзеў важаты. Якраз не бясьцікаўным было ўведаць, які час патрабуецца на язду ў Лясное,—ён запытаў важатага:

— Колькі часу мы ехацьмем да Лясногa?

— Гэта зойме да гадзіны!

— Няўжо? Скажэце, калі ласка!

— Што? Доўга?

— Занадта, памойму.

— Гэтак заўсёды, чаго-ж дзівіцца...

— Я ўпяршыню еду.

Важаты агледзеў Рыгора з галавы да ног, падзівіўся ні то з яго самога, ні то з яго куфэрку і запытаў:

— Здалёк?

— З Беларусі.

— Дзе гэта?

— З Віленшчыны... Незнаёмы, хіба, вам гэтыя мясьціны?

— А хто яго ведацьме ўсё—Расія вялікая. Дзе Сібір, дзе Каўказ, дзе...

Важатага перабіў рэзкі бразг званка—сыгнал да ад'езду. Ён сьпешна адзеў скураную рукавіцу, паставіў кругленькі зэдлік і закруціў ключом; адначасна падаў працяжны электрычны званок. Людзі, што спакойліва пераступалі рэйкі перад вагонам, шустра разьбегліся ў бакі, агаліўшы дарогу трамваю. Апошні рушыў з месца і хутка панёсься вуліцаю. Праз ганоў двое ён павярнуў направа, на гарбаты мосьцік. Рыгор паглядзеў усьцяж канавы і пацісьнуў плячыма: яна цягнулася вузкаю роўнаю палосаю далёка-далёка ўглыб гораду. Абапал яе між гмахамі дамоў, паднімаліся коміны фабрычных будынкаў і пара-другая царкоўных баштаў. Рыгору мігам успомнілася Рыга, якраз тое месца, дзе перакінуты праз Дзьвіну даўжэразны мост Мітаўскае чыгункі. Яе шырыня і вадзяная прастора, усеяная плытамі, барлінамі, параходамі і караблямі, дзесяткі заводаў, набліжаных да берагоў, рабілі куды большае ўражаньне. Ад гэтае канавы дыхнула цеснатою і сухасьцю. Ці гэта так здалося? Рыгор намерыўся праверыць сябе, але было позна: трамвай ужо нёсься па шырокай простай вуліцы далёка ад мосту. Адна за аднэю, цэлы зьнізак падобных прасторных вуліц ператочвалі прадоўжную. Усе яны былі выведзены пад шнур і агароджаны роўнымі сьценамі будынкаў. Дарэмна Рыгорава вока шукала сваясаблівасьці рыскіх паломаў і вузкасьці старога месца

і палісаднікаў ды бульвараў—новага гораду. Вунь усяго прамігнуў перад ім невялікі пляцок перад агромным гмахам сабору. На пляцку рэдкія, закаржэлыя расьлінкі, мэрам-бы іх назнарок пасадзілі тут, каб пераканацца, што камень і чыгун не да твару зелені. Вострая жарства вакол клюмбаў выссала ўсе сокі. За высокім з медных жорлаў гармат помнікам схавалася парнае, але бледнае сонца. І далей той-жа камень: тоўстымі глыбамі, роўнымі і няроўнымі, наварочаны дзесьці ў гарах, нават дасьціпна не абсечаны і зложаны ў важкія сумныя будынкі. Колькі яго патрабавалася, каб узьвесьці гэту безьліч агромністых пяці-ды шасьціпавярховых гмахаў! Якое працы каштавала перакінуць яго сюды і тутака пералажыць у сьцены, у брук, у тротуары, захаваўшы спрэс зямлю і затуліўшы сонца! Цяжка выабразіць—не ахапіць думкамі, не ўвабрацъ пачуцьцём. І можа таму—ды напэўна з-за гэтага—Рыгору асалодна імпанаваў увесь гэты цяжар і гаматнасьць, гэта сіла і моц людзкое вытворчасьці. Ён не адводзіў у бок вачэй, не таміўся аднастайнасьцю выгляду спачатку да канца цэлае вуліцы, кварталу, адгону ад спынкі да спынкі. Яго ахапляў уздымны настрой, асаблівая ўцеха ад прысутнасьці ў гэткім горадзе, у разорах яго змрочных душных вуліц. Дзесь глыбока ў яго нутру, падсьвядома, формавалася пякучае жаданьне застацца ў Пецярбурзе як надалей, зьліцца з ім, растварыцца ў яго пякельным грукаце, у ветраным пудзе руху. Наляту ў думках складаліся пляны, як і што адшукаць Ганну і разам з ёю ды з Пятрусём аб'езьдзіць, аблётаць усе куткі і закавулкі гораду, каб азнаёміцца з ім да дробкі. Трэба-ж ведаць і назву вуліцы, і рэчкі, і пляцы, і асобныя ўстановы. Зараз ён ня ў моцы ўсё распытаць у важатага—ды таму некалі тлумачыць. Хаця з большага: Фантанка, Кацярынінскі канал, Нікольскі рынак, Марыінскі тэатр, Благавешчанскі пляц... Рыгор азірнуўся назад і ў бакі—колькі ўжо праехалі? Намерваўся запытаць, але не пасьпеў: выехалі на Мікалаеўскі мост і перад ім паўстаў цудоўны выгляд Нявы, шпіцы Петрапаўлаўкі ды Адміральтэйства, палацы ўзьбярэжнае, колёны каля біржавога будынку, масты—направа і лес маштаў і карабельных труб—налева. Ён адчуў, як мэрам-бы яго хтось схапіў рукамі, пакрышыў на частачкі і часьцінкі і рассыпаў абапал мосту на бліскучую празрыстую ваду Нявы. Вось ён нясецца з лёгкім параходам у бок Фінскае затокі, мерскаючы між чорных будынін караблёў, між сьцен набліжаных да рэчкі заводаў; вось раптам белы парусьнік абвозіць яго вакол веркаў Петрапалаўскае крэпасьці; і ён-жа каля палацаў узьбярэжнае і над біламі Троіцкага мосту... Хай-бы супыніўся трамвай і даў яму агледзець усё, як належыць, палюбавацца ўволю! „Не, тут ужо далёка перасягло рыскія вобразы", прагаказаў ён сам сабе ў думках, а ўголас дадаў:

— Якое хараство, аднакава!

Каля яго стаяла некалькі чалавек, зусім незаўважна вышаўшых з вагону. Што стаяў поруч з ім, сказаў:

— Гэта—гордасьць Пецярбургу!

— Гэтым ён і бярэ!—дадаў сусед.

— Ніводны з расійскіх гарадоў не пахваліцца гэтым...

Рыгор быў цалкам згодны з словамі незнаёмых яму суседзяў. Ці-ж варта пераказвацьісьціну? Так, цікавы горад! Зараз яго ніхто не перакавае ў іншых думках. Адно-б ня здарылася, каб з тэй ці другой прычыны не давялося разлучыцца з ім.

І крохкая баязьлівасьць зьлёгку кранула Рыгорава пачуцьцё. Ён адцягнуўся ўвагаю ад наглядданьняў вакольнага і спыніўся на думках аб сваім лёсе. „Хоцькі-б ня ўпусьціў Пятрусь абяцанага месца! Каб ня здарылася чаго-кольвек з боку паліцыі! Болей, як пэўна, што весткі аб яго ўцёку далятуць і да Пецярбургу. У першую хвіліну спатканьня трэба будзе дапомніць Пятрусю аб пашпарце... На кожны выпадак... А месца? Не павінна быць, каб яно так хутка было страчана... А калі і страціцца—дык няўжо ня знойдзецца новае?.. Плёвая справа!“

Трамвай вышаў на Тучкоў мост. І новы вобраз адчыніўся Рыгоравым вачом. Вялікая Неўка, адлучыўшыся ад Нявы, аддзяляла Васільеўскую выспу ад Пецярбурскае стараны. З левага яе боку—фабрыкі і заводы цягнуліся далёка ўздоўж берагу, губляючыся ў шэрым тумане паўзмор'я. Правы бераг убіралі густыя купы дрэў Пятроўскай і Крастовай выспаў. Зялёныя анталяжы расьлін яшчэ болей упякнялі выгляд... Але Неўка трацілa многае ад надмернага ліку згруджаных на ёй барлін з дрывамі, з вугалем, з цэглаю. Наабапал Тучкава мосту ад Васілеўскай выспы, як гаць, была выбрукавана імі шырокая рэчка. На барлінах ішло сваё жыцьцё. Граў гармонік, чуліся песьні, даносілася зычная гутарка. Па дровах і між дроў дзесяткамі сходаў тупалі, няпрыбраныя, у ніжніх кашулях з закасанымі рукавамі рабочыя-вартаўнікі, накладчыкі, каталі. І гэта жыцьцё зусім не гадзілася з тым, што шырокаю хваляю лінула на Рыгора з Пятроўскага парку. Тысячная грамада „простых“ людзей спраўляла тут свой сьвяточны адпачынак. Варушылася, як пчолы ў вульлі, гудзела, як моркі прыбой. Працавалі атракцыёны, гучэў бубен, разьлівалася шэйнакатрынка. Вайсковы оркестр грымеў абыграныя матывы вальсаў. На бягу трамваю гэта мігнула фэерыяй і паказалася Рыгору вельмі квяцістым. Але ціш і змрок бясконцага Вялікага проспэкту Пецярбурскае стараны дыхнулі на яго прыемнасьцю спакою. Рыгорава ўрачыстасьць была прасычана да адказу. Духата яго прытаміла. Увабраць за адзін раз усю рознастайнасьць, усю яскравасьць пецярбурскіх пякнот было не пад сілу. Разьюшаная потэнцыяльнасьць не адпавядала вялікасьці і багацьцю вобразаў гораду-волату. Вось чаму рэшту дарогі да клінікі Вільле Рыгор праехаў крыху ў іншым настроі. Дзякуючы гэтаму, ён спакайней прапусьціў між вачэй хараство Каменаастроўскага проспэкту, Сярэдняе Неўкі, Батанічнага саду. Толькі перасеўшы на паравік, ён яшчэ на нейкі час захапіўся выглядам дасканалай фаб-

рычнай мясцовасьці Выбарскае стараны. Нязьмерная даўжыня Сампсонеўскага проспэкту, застаноўленага дзесяткамі фабрык, усеянага рабочай публікаю, узбурліла ў ім пачуцьцё рабочае гордасьці. Ізноў думка прывяла ў памяць здарэньні з рыскага жыцьця, з моманту рэволюцыйных выступленьняў. Але тыповасьць і характарнасьць гэтае часткі Пецярбургу, як рабочага асяродку, куды перавышала рыскую. Тут менавіта дыхала працоўным імпэтам, сіла работнічай творчасьці панавала над усім. Рыгору ня толькі прыемна было праехаць гэтым раёнам, яму праглівa хацелася абраць месцам свае працы толькі Выбарскую старану. Водлуг гэтага хаценьня, ён праказаў сам сабе: „Хоць-бы ды тое месца, што падшукаў Пятрусь, было на адным з гэтых заводаў“. І ў думцы наконт гэтага ён захаваў намер зараз-жа абгаварыць гэта з Пятрусём.

II

К часу Рыгоравага прыезду ў Пецярбург Пятрусь дажываў у ім восьмы месяц. За гэты тэрмін ён пераліжыў багаты прыгодамі кавалак свайго жыцьця. Цікавым і нечаканым фармавалася яно ва ўмовах чужога і незнаёмага гораду. Тым болей складанейшым было яно для Пятруся, як чалавека без рамясла ў руках. Нагаворамі Рыгора ды юнацкаю сьмеласьцю набыў Пятрусь адвагі кінуць-рынуць сваіх бацькоў і паехаць у Пецярбург. І калі ехаў—зусім не ўяўляў сабе, як і што стрэне яго сталіца. Жаданьне вылюдзець, абабіцца, набрацца практыкі ў жыцьці і стажу ў рэволюцыйным змаганьні перамагала ўсё іншае, а ў тым ліку і перадбачаньне няпрыемнасьцяй. Гаспадарка бацькоў, яшчэ не старых, пры якіх Пятрусю ня было вялікіх клопатаў і ня мелася абавязкаў адказнасьці, не супыніла яго рашэньняў. Яно, гэта рашэньне, было скорае і цьвёрдае, для бацькоў і для таварышоў нечаканае. Тым болей цяжэй было паверыць у гэта Рыгору. Апошні больш спадзяваўся на падобны крок з боку Сёмкі, ну, зусім-жа не з Пятрусёвага боку. І толькі запозьненасьць вестак аб гэтым ня выклікала ў Рыгора задзіўленьня. Усё-ж самы факт Пятрусёвага ад‘езду з Сілцоў у Пецярбург Рыгора цікавіў не на жарты. І, бязумоўна, што ўсе здарэньні, зьвязаныя з васьмімесячным жыцьцём Пятруся ў сталіцы, павялічвалі гэту цікавасьць. Пятрусь пісаў ужо аб усіх пэрыпэтыях у гэтым жыцьці і Гэлі, і Сёмку і іншым сябрам. Апавядаў колькі разоў новым пецярбурскім сваім таварышом, і яны ня былі сакрэтам.

Гэтыя яго пэрыпэтыі пачаліся з блуканьня па вуліцах Пецярбургу ў час прыезду і прайшлі праз месячнае шуканьне працы, галадоўлю і начоўку па начлежках, праз работу за тачніка і за падносчыка пры будоўлях. Яны выказаліся яшчэ ў продажы апошняе жукеткі на таўкучцы і ў жабрацтве на вуліцах. Кончыліся-ж нечакана для Пятруся вельмі ўдачліва. Выпадковае знаёмства ў клюбе на лекцыі з адным рабочым-земляком выручыла яго з бяды і дало месца на мэталёвым заводзе.

Пятрусь каля трох месяцаў папрацаваў падручным, абабіўся, абазнаўся з варстатамі, зблізіўся з майстрам і на чацьверты месяц атрымаў самастойную працу. Нахіл да сьлясарнае работы пасобіў яму хутка аўладаць складанымі процэсамі працы—і гэта пацягнула за сабою матэрыяльную забясьпеку.

Многа пасобіла Пятрусю і яго рэволюцыйная сьвядомасьць. Натура-ж дружакі і пабраціма адчыніла перад ім шырокую дарогу да знаёмства і хэўры з рабочымі заводу. Гэтым тлумачыцца хуткае ўцягненьне Пятруся ў шэрагі організаваных рабочых. Нават у апошнія часы, перад Рыгоравым прыездам, Пятрусь правёў некалькі адказных заданьняў, часткаю па даручэньні таварышоў, часткаю па сваёй ініцыятыве. Абставіны працы на заводзе, колы знаёмых і посьпехі ў аўладаньні рамяслом уплывалі на Пятруся як найлепш. Ён адчуваў сябе бадзёрым, рашучым, жыцьцёрадым; у ім кіпела хэнць да грамадзкае чыннасьці і няўхільна расла прага да сьвядомасьці. Апошняе падказала таварышом абраць Пятруся сябрам управы культурна-асьветнага таварыства аднаго з пецярбурскіх раёнаў. Гэтай працы Пятрусь аддаваў многа ўвагі і стараньняў. Кожны дзень, пасьля работы, наведваў ён таварыства, пасабляючы організацыі і ўкомплектоўваньню бібліотэкі, апрацоўцы програмы чыннасьці, адшуканьню лектароў. Заахвоціўся Пятрусь і тэатрамі. Ня было таго тыдню, каб ён не пабыў ці на драме Гайдэбурава, ці на опэры ў Народным доме або ў Музычнай драме.

Пятрусь сам сабе дзівіўся, адкуль у яго стаўся гэткі круты, гэткі раптоўны перагін. Дапамінаў аб гэтым у сваіх лістох і не абмінаў у гутарках. Яго неўгамонна прагнула паказацца Рыгору—прадставіцца яму ў перавобразным выглядзе. Сустрэцца хутчэй з Рыгорам і пагутарыць з ім—ці-ж бы гэта дапаміналі сілцоўскую стрэчу? Ніколі! Ня выходзіла з памяці Пятруся, калі ён, угледзеўшы Рыгора, толькі слухаў яго, ня ведаючы, як падыйсьці да чапаных Рыгорам пытаньняў. Гарадзкое жыцьцё, умовы партыйнае працы ў горадзе, мажлівасьць стыкнуцца з рознастайнымі пытаньнямі і атрымаць на іх адказ—гэтага не хапала для Пятруся ў Сілцох. І ён разумеў Рыгора, калі той заўжды падгаварваў іх усіх, і асабліва Сёмку, кінуць мястэчка ды паехаць у горад. Пятрусь патаварыску ўпікаў Рыгора за вочы, чаму той не напіраў з гэтым на яго, а выключна на Сёмку. Ня верыў у Пятрусёву рашучасьць? Напэўна. Бо Сёмка, як зараз стала Пятрусю зразумелым, меў больш даных на гэта: мацней захапляўся ўдзелам у соцыялістычным руху, быў болей за яго начытаным, меў слабейшую матэрыяльную сувязь з домам. Рыгор усё гэта ўзважваў. Як-жа іначай? А цяпер? Пятрусь атрымліваў лісты ад Сёмкі, чытаў іх і недаўмяваў: якім, аднак, адсталым ён зрабіўся! Зацягнула жыцьцёвая дрыгва... І радаваўся, што лёс самога не ўвагнаў на гэта. Чым ня цікава сконструктаваны людзкія адносіны? Або чаму ня дзіўнымі выглядаюць рознастайнасьці ў людзкім поступе? Цэлы шэраг

пытаньняў, высунутых апошнімі месяцамі Пятрусёвага гарадзкога жыцьця, патрабаваў абгавору... Ды абгавору з гэткім чалавекам, як Рыгор.

З гэтых разважаньняў і, у дадатак, з пачуцьця шчырае таварыскасьці да Рыгора Пятрусь увесь час думаў аб ім, аб іхнай блізкай стрэчы. Словы Рыгоравай мацеры, выказаныя на праводзінах, Пятрусь выразна помніў: „Можа стрэнешся з Рыгорам, дык скажы яму, сынок...“ Рыгор тады быў у Рызе і ці меў думку наведацца ў Пецярбург—цяжка сказаць. Але Пятрусь ня траціў веры, што з Рыгорам спаткаецца, абы дзе— у Пецярбурзе ці ў Рызе. Жыцьцё намагала на першае: склалася гэтак спрыяюча, што ня выпісаць Рыгора ў Пецярбург—было-б ніякавата і не патаварыску нават.

І толькі Пятрусь замацаваўся на заводзе, разьвёў знаёмства з шырокім колам рабочых, ак упарта стаў шукаць Рыгору месца. Шукаючы, рэкомэндаваў таварыша, як добрага майстра і як сур'ёзнага дасканалага рэволюцыянэра. Таварышы пасабілі Пятрусю ў гэтым, і хутка знайшлося не адно, а некалькі месцаў. Але Пятрусь разгубіў іх, бо ўсё ня мог знайсьці Рыгора. Ліст ад Гэлі, а пасьля і бацькавы лісты, паведаміўшыя аб Рыгору, супалі з тым, калі з усіх мажлівасьцяй уладзіць Рыгора на работу мелася толькі адна, дый то не асабліва ўдачлівая. Тым ня меней, Пятрусь у першым-жа лісьце да таварыша запрасіў яго ў Пецярбург. І, паслаўшы ліст, Пятрусь дрыжэў ад нясьцерпу прычакаць Рыгора і баяўся, каб той не зацягнуў ад'езду. Як і што павінен быў уладзіць гэта Рыгор, Пятруся ня цікавала,—ці-ж Рыгора павінна хоць што-кольвечы спыніць? Каб іншага, а Рыгора—ніколі!

Аднак, Рыгорава маруднасьць прымушала Пятруся задумлівацца. Ня быў ён цалкам упэўнены і ў тым, што Рыгора неадкладна зрушыць і тэлеграма. Пятрусь меў намер праз пяць дзён біць паўторную. Ня гледзячы на гэта, ён некалькі разоў езьдзіў на вокзал „на кожны выпадак“. Але ў дзень прыезду Рыгора Пятрусь не зрабіў гэтага выпадкова, нават насупраць сваіх адчуваньняў. Нешта карцела, вымушала праехацца, а настойнасьць таварышоў, што зьявіліся да яго зранку, перашкодзіла гэтаму. Пятрусь ня мог адмовіцца прапусьціць міжзаводзкую нараду, якая была прызначана ў Азярках. Нарада адняла шмат часу і, калі кончылася, было ўжо позна ехаць на вокзал. Пятрусь, не сьпяшаючы, вярнуўся з Азяркоў а трэцяй гадзіне дня. Мажліва, застаўся-б там на многа пазьней, каб знаёмая яму дзяўчына не ўгаварыла ехаць разам.

Пятрусь якраз праводзіў яе па тэй вуліцы, на якой жыў, калі Рыгор угледзеў яго наваддалёк. Рыгора ўзяло сумненьне, ці паклікаць Пятруся, ці найсьці на яго ў вупор. Спыніўся на апошнім.

Выглядала цікавым, як Рыгор, ідучы настрэчу Пятрусю, нязьмігутна сачыў за кожным крокам таварыша, чакаючы, што Пятрусь вось-вось яго пазнае. Але той і не западозрываў нічога. Ён быў захоплены размоваю з сваёю падарожніцай. Неадхільна глядзеў дзяўчыне ў твар, пасьміхоў-

ваўся, нават рагатаў і ні на што не зважаў. І зусім раптам—прымха! Толькі Рыгор меўся перагарадзіць Пятрусю дарогу, як той падняў вочы і спыніўся, гледзячы на Рыгора.

— Добры вечар, таварыш!—пераняў яго зьдзіўленьне Рыгор і працягнуў руку.

Дзяўчына адступілася, мэрам-бы ведаючы сваю лішкасьць. Рыгор з Пятрусём пацалаваліся і раптам павярнуліся да дзяўчыны:

— Прабачайце, Рыма,—выказаў Пятрусь:—Гэта мой таварыш—зямляк, Рыгор Нязвычны... А вось Рыма Беразак, зямлячка з Віленшчыны.

Паружавеўшы на твары, дзяўчына гультайна працягнула Рыгору руку.

— Дзе-ж твае манаткі?—запытаў Пятрусь і паглядзеў на дзяўчыну.

Тая зьлёгку ўхмылялася, падазрона пазіраючы на Рыгора. Яго непрэзэнтабэльны местачковы выгляд крыху шокіраваў дасканала ўбраную і, відаць, ганарыстую знаёмую Пятруся. Рыгор заўважваў гэта, але не даваў выгляду, знарок падкрэсьліваючы свой провінцыялізм:

— Насіўся, насіўся па Лясному, а пасьля кінуў.

— Кінуў? Дзе? Жартуеш?

— Сапраўды... А ты-б хацеў, каб цябе стрэў з рэчамі за плячыма? Я ўжо гадзіны тры ў Лясным...

— Гэткая раптоўная стрэча магла-б мець розныя мажлівасьці.

— Прынамсі так, калі нечакана прыяжджаеш.

— Так... Нечакана... І чаму ты, скажы, калі ласка, не захацеў паведаміць мяне аб выезьдзе?..

— Чаму я не хацеў паведаміць?..—я сам сябе пытаю аб гэтым і не магу адказаць...

Дзяўчына затупала на месцы. Пасьля кранула Пятрусёвы рукі і праказала:

— Я вам перашкаджаю... Бывайце-э...

— Слухайце-э, Рыма... мы з вамі ўгледзімся? Сёньня? Заўтра?

— Будучына пакажа...

— Як?

— Ці-ж вам вытлумачыць усё да дробкі?

Дзяўчына пайшла.

— Яна занедаволена,—заўважыў Рыгор.

— Ганарыстая,—адказаў Пятрусь і раптам спыніўся:—Ах, а я абяцаў ёй пайсьці ў тэатр. Фу ты!..

Ён пакінуў Рыгора і намерыўся спыніць дзяўчыну, але тая пасьпела схавацца за брамаю.

Пятрусь вярнуўся, і яны пайшлі да яго на кватэру.

III

— Вось і мае манаткі,—пераступаючы парог, праказаў Рыгор.

Пятрусь зьдзіўлена паглядзеў на таварыша.

— Дык ты ўжо быў у мяне на кватэры?—запытаў ён.

— Бачыш!

— І хто цябе пусьціў?

— Цэлая гісторыя...

— Яны падняліся на другі паверх і прайшлі ў Пятрусёў пакоік.

— Вось мая абіцель... Садзіся і расказвай... Ну, паверыш, я ўсё яшчэ не магу апамятацца ад нашага спатканьня... Каб ты згарэў, каб ты... Як назнарок падстроіў... Да дзіва, што я забыў аб тэатры... Хто-б мог падумаць?! Ай...

Пятрусь ківаў галавою, тупаючы між крэслаў і канапкі, затуліўшы невялічкае гала наўзьдзіў цеснага пакоіку.

— І, пэўна, ты нічога ня еў?..

Пры гэтым Пятрусь гукнуў у прачыненыя дзьверы.

— Алена!

Праз хвіліну пачуўся стук у дзьверы.

— Патрэбна?

— Я папрашу вас нагрэць мне чаю...

Адкульсьці з глыбіні кватэры даляцэла:—Ладна!

— Зараз будзе гарбата,—абярнуўся Пятрусь да Рыгора і затупаў каля невялічкага буфэціку, што стаяў у правым кутку пакою.

Тут-жа забрашчэлі шклянкі, талеркі, заварушыўся стол. Рыгор наглядаў, як Пятрусь гаспадарна наладжваў перакуску. Рыгора цікавіла ўсё, што ён бачыў перад сабою: малюпаткі цесны пакоік, нядбала прыбраны ложак і запыленыя портрэткі на сьценах; папэцканы абрус на стале і неўпарадкаванасьць з кніжкамі ды газэтамі. Нясло знаёмым яму жыцьцём адзінокага чалавека. Якраз, як то было з ім у Рызе і як, напэўна, будзе тут, у Пецярбурзе. Але побач з гэтым Рыгора цешыла, што яго таварыш гэтак хутка прыстасаваўся да адзінотнага гарадзкога жыцьця. Цешылі Пятрусёвы павароты, Пятрусёў выгляд, Пятрусёвы манеры. Рыгор радаваўся таму, што Пятрусь лёгка падаваўся ўплыву на яго новых абставін, гарадзкой шліфоўцы. Было прыемна глядзець на таварыша прыадзетага, прыбранага, стройнага і далікатнага, якім зрабіў яго Пецярбург.

— Ну, а як табе тут?—запытаў Рыгор.

— Як бачыш—жыву,—адказаў Пятрусь.

— Падабаецца?

— Чаму-б не падабацца? А ты думаў, што я не падыйду да гораду?

— Ня тое, каб... але не спадзяваўся цябе стрэць тым, чым стрэў.

Пятрусь разрагатаўся.

— А я, браток, прывык і спадабаў горад.

— Гэта мяне цешыць...

— Вось скажы мне кінуць Пецярбург—дык нізашто... Звыкся і зросься... Не хапала цябе... Нудзеў, ведаеш, па табе і трывожыўся за твой лёс... А дазнаўся, дзе ты—надзвычайна ўзрадваўся... Ты мне раскажаш

аб сабе? Вось перакусім сяго-таго і пройдзем па вуліцы—пакажу табе Лясное... Як яно так вышла, што ты зараз перада мною—проста цуда...

Пятрусь паціснуў плячыма і прыемна ўсьміхнуўся.

— Мерам-бы ў тых самых Сілцох—году як ня было. Цэлага году! Падумаць! А колькі перажылося за гэты год!..

— У наступным большага трэба чакаць... Бачыш...

— Бачу, чаму не... Пецярбург ахоплены пачуцьцём трывогі... і ў нас сёньнека абгаварвалі бягучы момант... Надыходзяць буйныя здарэньні. Ты-ж чытаў.

— Чытаў, чаму не...

— Глядзі, як шпарка заблытваецца клубок... Але цікаўней з настроем рабочых. Вось так і бурліць... Мажліва забастоўка... Агульная...

У дзьверы пастукалі.

— Гарбата!

— Калі ласка.

Хударлявая, сярэдняга росту, з мілавідным тварам, чыста адзетая дзяўчына ўвайшла ў пакоік з невялікім чайнікам у руцэ.

— Дзе вяліце паставіць?

— Вось-вось, калі ласка.

Пятрусь узяў з яе рук чайнік і паставіў на стале, сярод згруджаных талерак, шклянак і кавалкаў булкі.

— Можа ў краму схадзіць?—запытала дзяўчына.

— Дзякуй, пакуль ня трэба.

Дзяўчына вышла. Пятрусь зачыніў за ёю дзьверы і пазваў Рыгора к сталу.

За гарбатаю хлопцы наперабой адзін аднаму задавалі розныя пытаньні. Падзеі з грамадзкага жыцьця цесна пераблытваліся са здарэньнямі з жыцьця прыватнага. Кожны стараўся як найпаўней абмаляваць свае паводзіны з часу разлукі ў Сілцох. Але казаньня было гэтулькі многа і цікавасьць яго была настолькі вострая, што каб усе іх абгаварыць—ня стала-б ня толькі вечару, а і цэлай ночы. Загэтым хлопцы абмяжоўваліся адрыўнымі сказамі, часта прапускаючы запытаньні і адказы або адкладаючы іх абгавор надалей.

Тым ня меней гутарка зацягнулася на некалькі гадзін. Няўпрыкмет ніводнаму на дварэ вечарэла. Па калідоры, за дзьвярыма пакою, затупалі крокі падсуседзяў-жыхароў. Знадворку пацягнула халадком.

На Рыгора павеяла прыемным спакоем вёскі. Гарадзкі шолам, як спаткаў яго на вокзале і праводзіў да Пятрусёвай кватэры, змаўкаў. Рабілася лягчэй у нутры, сьвяжэла галава. Забірала спакойнасьць бясьпечнага прытулку.

Пятрусь адчуваў таварышаў настрой і быў цалкам за тое, каб яго не зварушыць. Але яму здавалася, што Рыгору яшчэ прыямней будзе, калі ён яго выведзе на вуліцу. З гэтай думкаю Пятрусь запрапанаваў:

— Дык маеш ахвоту выйсьці на вуліцу? Га, Рыгор?

Рыгор ахвотна згадзіўся.

Яны вышлі з дому і пашлі дашчаным тротуарам усьцяж доўгае, роўнае вуліцы. Гэта была вуліца дач. Абапал яе цягнуліся агарожы, за якімі ў пярэмешку знаходзіліся сады, гароды і драўляныя адзін ці двохпаверховыя будынкі. Пад капяжамі іх выглядалі цьмяна-сінія нумары. Пахла водырам красак і зеляніны. У гушчы дзярэў чуліся зыкі гармонікаў і балалаек. Дзесьці наперадзе іх грала духавая музыка; управа—хор заводзіў „гусароў-вусачоў“.

Ад усяго гэтага несла ідыліяй і спакоем. Зусім ня чулася блізкае прысутнасьці гораду-волату з яго гулкім гоманам і нясупынным рухам.

Рыгор драбіўся на часткі, кідаючы погляды вакола сябе. Абачны вобраз надаваў яму новага пачуцьця, новых лятуценьняў.

— Якое хараство!—выказаў ён да Пятруся.

— Я кожны дзень любуюся ім,—адказаў той і дадаў:—Абы ўладзіўся з работаю, то нацешышся.

Рыгор ня думаў аб рабоце і, пэўна, на сёньня не крануў-бы гэтага пытаньня, каб не Пятрусь. А раз на тое пашло, ён ня прэч быў увязаць гэта з агульнай тэмаю іх гутаркі. Бач, работа папаўняла прыгожасьць вакольнага вобразу, чаму-б адмаўляцца ад яго ўдасканаленьня?

— Ну, а як, бок, з месцам для мяне?—запытаў Рыгор.

— Месца будзе!—запэўніў Пятрусь.

Гэта было выказана з цьвёрдасьцю, роўнаю да цьвёрдасьці іхных крокаў, накіраваных назад, на Рыгораву кватэру. І адпаведна—было цьвёрдым давер'е Пятрусёвым словам у нутру яго таварыша.

— Колькі ўжо страчана мною гэткіх мясцоў!—падмацаваў сваё завярэньне Пятрусь.

Можа было яно і лішне, але ня шкодзіла: Рыгоравы крокі сталі больш рашучымі і цьвёрдымі. І надзея на доўгую зьлітнасьць з Пецярбургам увачавідкі пачырванела ў яго ваччу.

— Мяне зачаравала Выбарская старана,—выказаў Рыгор:—і каб, здаецца, жыць у гэтым месцы—не хацеў-бы нічога!

— Каб чаго іншага захацеў, то трэ' было-б падумаць, а гэтага...

Рыгор разумеў памер і значэньне свайго хаценьня і ў адказ засьмяяўся.

— Мне думаецца, што цябе ўдасца ўстроіць на нашым заводзе... Я ўжо згаварыўся з майстрам.

— Гэта калі будзе вядома?

— Днямі высьветліцца...

Нарэшце Рыгор расказаў таварышу пра ўмовы свайго ад'езду, пра „хвост“, які пакінуў па сабе ў Смагіне. Але тут-жа дадаў, што аб гэтым ён мала думае і ў якую-б там небясьпеку ня верыць.

— На кожны выпадак трэба будзе і гэта ўладзіць. Як-ні-як, а гэта справа лягчэйшая ад іншых. У нашу карысьць усе дадзеныя...—пацешыў Пятрусь.

Гэтым былі скончаны першыя моманты іх цёплае, шчырае стрэчы, поўныя пачуцьця таварыскай блізкасьці,—яны ўляглiся спаць.

Была дванаццатая гадзіна ночы.

IV

Дзевяць дзён пашло на тое, каб уладзіць Рыгора на працу. Цэлы шэраг умоўнасьцяй перашкодзіў Пятрусю давесьці да канца гэта пытаньне. Перш два дні ў завод не зьяўляўся дырэктар; пасьля, са слоў майстра, у дырэкцыі паўсталі нейкія асаблівыя пляны наконт перабудаваньня ўсяго прадпрыемства; далей, калі з гэтым абышлося, захварэў майстар і цэлых тры дні не зьяўляўся на працу.

Пятрусь злаваў, нэрваваўся і дзень-ада-дня мерыўся шукаць іншага месца Рыгору. Вяртаючыся з заводу, ён доўга лаяўся, праклінаючы парадкі на заводзе і парадкі ў дзяржаве, разносячы капіталістычны лад і яго ахоўнікаў. „Чалавек хоча працаваць, а яму не даюць. Ласьне можна з гэтым гадзіцца? Нясе сваю сілу, свой розум для чужое карысьці, для эксплёатацыі яго, а яму адмаўляюць. Абурэньне! Вось у чым корань бяды... Вось аснова таго ладу, якому пара зламаць голаў“. Спагнаўшы злосьць, ён пераходзіў да спакойлівага абгавору стану і ўпэўняў Рыгора, сумняваючыся сам, што справа з месцам не павінна ня вырашыцца.

— Ты, браток, не клапаціся; я ня выклікаў цябе на папаўненьне беспрацоўных. Не... Абавязаўся—зраблю. Месца будзе-э! Го!.. Пакуль пагуляй—ня так яно хутка робіцца, як хочаш... А з грашыма—не бядуй: на дваіх зараблю...

Пятрусь выказваў убачэньне і ўпарта сачыў за Рыгорам: яму не хацелася, каб той хоць каліва засмуціўся ці астудзіў веру ў яго хаценьне пасобіць таварышу. Разам з гэтым, Пятрусь баяўся і таго, каб Рыгор не пачаў сароміцца расьцягнутага стану госьця. Чаго іншага, а пачне сьціскацца, адмаўляцца ад патрат на яго. Угледзіць няёмкасьць доўгага пражываньня ў яго пакоі... Наогул Пятрусь выключна клапаціўся аб тым, каб Рыгор не надаваў свайму стану сур‘ёзнае ўвагі. Чамусьці ў гэтым каразьлівым пытаньні ён не адважваўся палажыцца на Рыгораву цьвёрдасьць, не знаходзячы ў сабе цьвёрдасьці на гэту адвагу.

Тымчасам Рыгор не даваў жаднага поваду на западозранасьць да сябе ў гэтых слабасьцях. Ён чуўся ў Пятруся, як дома, і лічыў лішнімі таварышавы папярэджаньні. Пятрусёва ўбачэньне перад Рыгорам разумелася апошнім, як недахоп дасканалае працятасьці таварыша пачуцьцём працоўнае салідарнасьці. Наконт гэтага Рыгор казаў сабе: „Пятрусю патрэбна яшчэ поўгода пажыць рабочым жыцьцём, як у яго ні званьня не застанецца з мястэчковае псыхолёгіі“. Яму-ж у вочы адказваў спакойліва і сур‘ёзна:

— Я ня лічу сябе госьцем.

І гэтак-жа спакойліва ішоў з Пятрусём абедаць, езьдзіў да яго таварышоў, у культурна-асьветныя таварыствы і нават у тэатр. Толькі ўсяго рупіла Рыгору кватэра: Пятрусёў цесны пакоік вымушаў багатае клапатні пры надыходзе ночы. Трэба было пераварочваць усё дагары нагамі, грамадзіць барыкады, каб паслаць дзьве пасьцелі. Ад недахопу пасьцельных прылад даводзілася дзяліцца самым неабходным. Пятрусь аддаваў Рыгору сяньнік, а сабе пад бок падсьцілаў паліто. Зьвіхнутыя спружыны ложку ўядаліся ў цела; але і зьмяты сяньнік ня туліў ад цьвёрдае падлогі Рыгоравых бакоў... Слаліся пасьцелі пад стукі крэслаў і бразгі дзьвярэй. Мала каго суцяшала гэта. Далёка ад спакойнасьці была гаспадыня кватэры. Кожная стрэча з ёю сьведчыла Рыгору аб яе даволі няцёплым пачуцьці да яго. Крывілася і прыслуга. І Рыгор стараўся як найрадзей непакоіць іх. Тут ужо ня ўрэзоньвалі Рыгора таварышавы завярэньні, што з гаспадыняю кватэры ўсё ўладжана. Рыгор хоць і верыў Пятрусю, што ён паднімаў гэта пытаньне перад гаспадыняю, але ня верыў гаспадыні. Было выразна значна, што Пятрусёвы перамовы на яе ўплыву ня мелі.

— Яна ў цябе, як ведзьма,—характарызаваў Рыгор Пятрусю яго гаспадыню.

— Табе здаецца гэта, Рыгор,—адбіваўся Пятрусь.

А сьледам згаджаўся, што ня варта бараніць, хто гэтага не заслугоўвае. І бадзёрыў Рыгора:

— Плюй на ўсё; урэшце ты да мяне ходзіш, а не да яе... Што яна табе зробіць?

Рыгор меней усяго непакоіўся за апошняе. Пачуцьцё няпрыемнасьці, якое навявала на яго штодзеннае спатканьне з гаспадыняю, атрымлівалася зусім не ад баязьлівасьці. Рыгору не хацелася, каб Пятрусь хоць чым абавязваўся за яго перад ёю. Ён бачыў па яе твары, што ляпей усяго вырашыць пытаньне шляхам уходу з гаспадыніных вачэй.

Але вырашэньне кватэрнага пытаньня, як і наогул усякія пытаньні прыватнага зьместу, мусілі адкладацца да асталяваньня на месцы. Гэта было зразумела абодвум: як Рыгору, так і Пятрусю. І водлуг гэтага разуменьня і трэ' было ладзіць жыцьцё бліжэйшых дзён.

Яно ладзілася гэтак:

Пятрусь а палове восьмай раніцы кідаў Рыгора дома, а сам сьпяшаўся на працу. Выходзячы з пакоіку, пытаў яго:

— На абед грошы маеш? Калі ўжо вышлі, то я пакіну... К канцу работы наведай да заводу.

Рыгор адмаўляўся ад Пятрусёвых грошай толькі першых пяць дзён— далей прасіў таварыша, колькі магчыма, пакідаць. У яго бадай што хапіла-б на больш доўгі час сваіх пятнаццаці рублёў, з якімі ён ачуўся ў Пецярбурзе, але па радзе Пятруся ён распусьціў восем рублёў на пад-

апратак. У Смагіне Рыгору не ўдалося справіць нічога, ды яно мала было патрэбна, а ў Пецярбурзе яго старыя, памятыя ў вастрозе ўбёры выглядалі задужа ўбога.

І Рыгор са спакойным сумленьнем браў Пятрусёву пазычку і к канцу дня зьяўляўся к заводу.

Уражаньні дня, пераплеценыя з абдумамі і прогнозамі паміжнародных палітычных здарэньняў, складаліся ў Рыгоравым нутру чын-чынам, акуратна і дасьціпна, гатовымі да выкладу іх перад таварышам. Вярнуўшыся разам на кватэру, яны абіралі іх тэмаю для сваіх гарачых зацяжных гутарак.

У засосе гэтых гутарак хлопцы цалкам адцурваліся ўласных інтарэсаў і забывалі пра ўсялякія нечаканасьці ў сваім бліжэйшым наступным. Яны часта мянялі пляны і намеры, пабудаваныя ці зранку, ці ідучы на кватэру, або лічачы іх нясур'ёзнымі, або забываючы, што яны былі ў іх.

Трэба дзівіцца аднаму, што на працягу ажно васьмі дзён, ня глядзячы на рознастайную тэматыку гутарак, Рыгор ні разу ня ўспомніў пра Ганну. Мэрам-бы згубіў ён яе на вокзале прыехаўшы, калі пашукаў сярод публікі і не знашоў. Багацьце ўражаньняў, міжнародныя здарэньні, блытаніна ў плянах з месцам перапаўнялі яго галаву, не даючы запасьці ў яе думцы аб Ганьне. Цікава тое, што не навяла на гэта колькіразовая стрэча з Рымаю ў Пятруся на кватэры. Але на дапамогу пасьпеў зусім нечаканы і зусім дробны выпадак, які раптам вярнуў Рыгорава пачуцьцё да Ганны. Толькі Рыгор увайшоў у вагон, каб ехаць у горад, як перад ім ачулася дзяўчына, ну кропка ў кропку—Ганна. Яе падабенства прымусіла яго доўга і ўпарта глядзець у твар незнаёмай. Ажно яму карцела чапіць яе, каб упэўніцца. Яе пасьпешнае выйсьце з трамваю на першай-жа спынцы паперашкодзіла Рыгору гэта зрабіць. Выпадак востра яго кранаў і, стрэўшыся з Пятрусём, Рыгор перадаў аб ім, як аб найважнейшай навіне. Пятрусь зацікавіўся гэтым і быў зьдзіўлены, калі дазнаўся, што Ганна—гэта Рыгорава таварышка.

— Скажы ты, калі ласка-а! Восем дзён!.. І ты мяне не паведаміў нават, каб ня гэта тваё здарэньне. Ну і ну!

Рыгор ня мог нічога адказаць. Але не таіў ад Пятруся прыкметнага жаданьня спаткацца з ёю.

Ганна акрэсьліла доўгую гутарку гэтага вечару, даўшы Рыгору повад расказаць багатую эпопэю знаёмства з ёю, а Пятрусю—праслухаць цікавую гісторыю.

— Ты павінен адшукаць яе, як-бы там ні было,—намагаў Пятрусь.

— А трэба паспрабаваць,—згаджаўся Рыгор.

І ўжо з наступнае раніцы насіўся ён у думках па пецярбурскіх вуліцах, пляцох, па вокзалах і готэлях, усюдых, дзе можна было дапусьціць Ганьніну прысутнасьць. Яна ўбэрсалася ў агульны сплёт плянаў, намераў і разьлічэньняў, якія займалі Рыгора.

V

Агромністы гмах машына-будаўнічага заводу ўцягаў у сябе бясконцы лік рабочых. Яны цяклі ў яго вароты некалькімі чорнымі шнурамі поруч: блядыя і настарожаныя, расплываліся яны па майстэрнях, па цэхах. І там, дзе спынялася хада кожнага з іх, пачынаўся круціцца варстат. Завод вачавідкі паддаваўся магутнай сіле руху і на вачох пераходзіў у складаную суцэльную чыннасьць. На тысячы ладоў несьліся рознастайныя гукі і зыкі. Сотнямі струменцаў цягнуўся ва ўсе бакі шэры сьмярдзючы дым. Тумініліся потам агромністыя нішы вокан, прыцямсніўшы сонечны бляск. Па вузкіх праходах між бясконцага шэрагу ўсялякіх варстатаў і машын шнайдарылі клапатлівыя майстры, шчотчыкі, інжынэры. Усе яны здаваліся бязвольнымі часткамі аднае агромнае машыны і рухалі ў такту працоўнага мэханізму.

Рыгораў варстат мясьціўся ў фразэровачнай майстэрні, у левым куту другога паверху. Ён стаяў крайнім ад сьцяны, за якою была высокая цагляная агарожа. Далей за агарожаю прабягала ўзьбярэжная Неўкі. Сталёвыя хвалі рэчкі дзень-у-дзень калыхаліся на шырокім галу вады, б'ючыся ў гранітны бераг узьбярэжнай.

Рыгор раз-ад-разу кідаў узрокамі ў цьмяныя шыбы вакна. З-за агарожы відаць было ўсяго невялічкі кавалачак рэчкі; ён выглядаў нелапым стаўком, з аднаго берагу якога стаяў агромністы чырвоны будынак, з другога—калыхаўся высокімі дрэвамі векавы парк. Успаміналася Рыга—падобны вобраз, тое-ж разьмяшчэньне заводу. Ды завод амаль той самы. Прынамсі, адусюль у ім несла знаёмым выглядам. Аднакія машыны, прывычныя стукі малатоў і траскатня крантаў. Гэткія-ж разцы і нават аднолькавыя скрыначкі для струманту. Агульная падобнасьць надворных абставін сьцірала той многамесячны перабой, які аддзяляў яго ад Рыгі. Хай толькі адцягнуцца на хвіліну думкі аб сучаснасьці, як раптам аднаўляюцца цалкам вобразы з рыскага жыцьця... Але...

Рыгор адчуваў, што, апынуўшыся ў Пецярбурзе, ён стаў на далёкім адгоне ад Рыгі. Арышт, вастрог, Смагін—доўгі і багаты этап яго жыцьця. Ён многаму навучыўся, падрос, пасталеў, набраўся практыкі. Мэрам-бы скончыў асобную школу падрыхтоўкі да новага, больш складанага жыцьця, здаў экзамен на сталейшага барацьбіта. Рачаіснасьць прадстаўлялася яму ў іншых, больш суровых фарбах. Кожнае сьвежае ўражаньне знаходзіла ў яго нутру іншы ад ранейшага водгук, значна глыбейшы аналіз. Выкліканыя Пецярбургам пачуцьці былі не падобны на той Рыгораў стан, які складаўся пры яго ўездах у Рыгу. Другім настроем павявала ад нагляду за процэсам працоўнае чыннасьці заводу. Меней дыхала поэзіяй ад вёрту варстату, ад пагоджанай гармоніі ў руху машын і рабочых. Не зацягала работа. У кожнай рэчы, у малейшай зьяве, што праходзілі між Рыгорам на працягу працы, глядзелі суровыя рысы чар-

ствое сапраўднасьці. Рыгор праглядаў праз вачавідкі бляск у захаваную скрытнасьць усякага здарэньня і ясна абмацваў у ім тую ці іншую недаробленасьць, непрыстасаванасьць да патрэб жыцьця. Усё трымала ў сабе вялікую долю фальшы і робленага бляску і ва ўсім ня старчыла істотнага. Сама па сабе праца на заводзе была тэю-ж, якою ён яе праводзіў, бачыў і адчуваў у Рызе. Але вакол гэтае працы ён наглядаў большае зграмаджаньне адмоўных якасьцяй. Тысячы рабочых, што мятусіліся вакол яго і пад ім, кожным паваротам рукі і кожным згінам плеч дапаміналі яму аб завостраным да адказу прыгоне. У агульным шоламе гукаў і бразгу ён адчуваў выразныя позывы на змаганьне з ім. Але Рыгор, як і ў Рызе, ня цяжыўся працаю. Ён упэўнена і цьвёрда ўваходзіў у вароты заводу разам з усімі рабочымі, рашуча прыступаў да варстату і пачынаў работу. Сама работа ішла ўжо спакойным роўным тэмпам. Як і раней, ён любіў цеганіну вытворчасьці, працэс ператварэньня кавалку сталі ў стройную каштоўную рэч. Паранейшаму заглядаўся бегам калёсікаў у варстаце, сачыў за выкручастаю стужкаю з-пад разца. Але разам з гэтым ён вёў падлік затрачанай для фабрыканта рабочай энэргіі, абяртаў яе ў дадатковую вартасьць і заключаў: „Якія капіталы мы складаем у кішэні кучкі эксплёататараў! А пайдзі-б гэта на агульную карысьць— якіх-бы посьпехаў дасяглі ў людзкім дабрабыце. Якімі-б спорнымі крокамі жыцьцё пасувалася наперад!“

Вырашэньне задачы, калі і што скончыцца, нарэшце, гэты лад, часта адрывала Рыгора ад працы і перакідала яго думкі за сьцены заводу. Ён перабіраў у памяці прачытаныя ў газэце зранку ці ў абед навіны і з нясьцерпам чакаў іх далейшага разьвіцьця. Тымчасам навіны хавалі ў сабе неабмежна глыбокія, нязьмерна шырокія магчымасьці. Рыгор, як той вынаходца, вышукваў у іх разгортваньні пажаданых сабе вынікаў. Гэтыя вынікі, здавалася Рыгору, меліся ў самой істоце падзей, і ён абнадзейваўся імі. Памеж з гэтым Рыгор адчуваў, што па заводзе носіцца выразнае чаканьне таго, што цікаўна яму. Гэтым чаканьнем захоплены ўсе рабочыя, імі прасякнута паветра ў заводзе. І дзень-ада-дня Рыгор гразьлівей пазіраў у бок Зімніх палацаў і на заводзкую кантору.

За лічаныя дні работы на заводзе ў Рыгора ўстанавілася шырокае знаёмства. Яго хутка ўвялі з дапамогаю Пятруса ў організацыю соцыялдэмократычнай партыі, прынялі ў сябры культурна-асветнага таварыства. Рыгор наведваў амаль ня кожную нараду рабочых, прымаў удзел ва ўсіх іх сходках. Да яго голасу сталі прыслухоўвацца, сталі даваць розныя адказныя даручэньні. Няпрыметна, але ўпэўнена, Рыгор уваходзіў у гушчу рабочага жыцьця, у вір грамадзкай працы. Дзякуючы гэтаму, ён быў у курсе настрою рабочых ня толькі на сваім заводзе, а і ва ўсім Пецярбурзе. Гэта Рыгора захапляла, зацягала, бадзёрыла. З-за гэтага ён мала зварачаў увагі на ўсталяваньне прыватнага жыцьця і мала клапаціўся аб сваёй асьцярожлівасьці. Забыў пра няпрыязьнь Пятрусёвай гаспадыні і,

як нібы той, дзень-у-дзень трывожыў яе па некалькі разоў самастойнымі патрэбамі. Выпадкова і паміж іншым дапамінаў Пятрусю:

— Трэба, браток, мне знайсьці хутчэй пакой, а то ўжо я табе надазоліў.

Пятрусь яго разважаў:

— Кінь клапаціцца,—і гэтым вычэрпваў пытаньне.

Але як і месца на заводзе, Пятрусь цішком апытаў для Рыгора пакой і спакойліва перасяліў у яго таварыша. Рыгор з гэтае прычыны жартаваў:

— Дзякуючы табе я парываю сваяўство з Абломавым.

Пятрусь не згаджаўся з Рыгоравым парадоксам і ўхмыляўся яму ў адказ. Аднак было вачавідкім, што Рыгор зусім ня той, з якім ён расстаўся апошнім разам. Асабліва кідалася ў вочы Рыгорава сталасьць, сур'ёзнасьць і халодны погляд на акольваючую рачаіснасьць. Цікавіў яго падыход да кожнага здарэньня, аналіз гэтага здарэньня. Бягучы момант знаходзіў у Рыгоры трапнага ацэншчыка сабе. Рыгор поўнасьцю выяўляў усю вялікасьць і складанасьць таго калыханьня грамадзкіх падвалін, якое адбывалася вакола. Ён бачыў рэзкую супярэчнасьць між воляю людзей і вымаганьнямі гістарычнай канечнасьці. Яму прадстаўлялася ясным, што ўсе рухі жыцьця бягучага моманту атрымалі папярэдняе прызначэньне. Зьведзены ў адно, зьлітны іх развой выганяў ачулую энэргію для акрэсьленага падзеямі выбуху. Рыгору паказвалася зусім звычайным, калі ён глядзеў на знэрваванасьць гарадзкога натоўпу, на падазронасьць паліцейскае ўлады ад гарадавога да гэнэрала, калі адчуваў узмоцнены тон сталічнага шоламу,—гэта, па яго, было ўтварэньнем, фармаваньнем, правядзеньнем процэсу нараджэньня. Куды-ж гэтым момантам адводзіць сваю думку на дробныя рэчы прыватнага дабрабыту? Для чаго браць на ўвагу дробныя шурпатасьці самотнага побыту?.. І Пятрусь... Так, Пятрусь недааценьваў, калі думаў, чакаючы Рыгора, што ён яго нагнаў у політычным росьце. Пятрусь выпускаў з ваччу тое, аб чым дазнаўся ад Рыгора і што зараз дасканала ўзважыў. І пачуцьцё ранейшае павагі да таварыша ізноў займала месца ў яго нутры, ужо ўступленае некалькі пачуцьцю эгоізму. Пятрусю стала вачавідкі, што Рыгор пашоў іншым ад яго шляхам духоўнага выхаваньня. Нясупрэчна, індывідуальная асаблівасьць—не апошні фактар у цягу сконструяваньня асобы. Безьліч рознастайных зьяў у бегу часу і ў пераборы месцаў шліфуюць людзкую істоту рознастайнымі законамі. Ужо вышэй—гэтыя законы яднаюцца ў буйнейшыя катэгорыі агульнасьці, прасьціраючы роўнаю ніткаю фактары кляшавага збліжэньня... У гэтым хаваецца хараство мозаікі самотнасьці на гладкасьці колектыўнае цэласьці...

У гэтым цэлым і ён—Пятрусь... Ды зусім не здалёк ад Рыгора. Удваіх яны папаўняюць цалкавітасьць агульнага. Што-ж да таго, калі наглядаецца рознагляднасьць самотных асаблівасьцяй у кожнага з іх! Натуральнасьць—жывая, звычайная, людзкая зьява. Яна ні каліва ні

беднага не ўстрамляе сабою лёгкага бегу ў росьце таварыскіх адносін у Рыгора з Пятрусём, а ў Пятруся з Рыгорам.

Раніца ў раніцу, пакуль жылі ўдваіх, побач сьпяшаліся на завод, разам вярталіся назад. Чуткі і весткі, думкі і настроі, пляны і намеры перапляталіся ў крытычным абгаворы абодвух. Ня было вечару, каб доўгімі кавалкамі часу не знаходзіліся разам: ці езьдзячы ў культурна-асьветнае таварыства, ці бываючы на сходках, ці трапляючы ў тэатр. Праўда, гэтага часу ім не хапала, каб задаволіць іх гутарку, выпаўніць пабудаваныя сумесна пляны. Незалежныя ад іх абставіны агульнарабочае справы адцягалі хлопцаву ўвагу. Праз гэта Рыгору ня было калі пазнаёміцца поўнасьцю з горадам, пабываць у намечаных мясцох. Ня мог ён вылучыць вольнае гадзіны, каб наведаць адрасны стол і справіцца аб Ганьне...

А, між іншым, з вядомага выпадку ніводнага дня не абмінала Рыгоравых успамінаў. Нагальна ўрывалася яна ў гушчу яго натужных раздумаў, выбірала сабе месца і на нейкі момант захапляла сабою Рыгора. Сёньня—пры рабоце, заўтра—у хвілі адбываньня сходу, трэці дзень—па дарозе дамоў, чацьверты—на ўздроме. І кожны раз пасьля гэтага Рыгор усхвалюецца, укорыць сябе нядбайнасьцю, рашыць у бліжэйшы дзень зрабіць даведку—і да чарговага разу супакоіцца. Бач, на ўсё гэта патрэбен час! Даводзіцца кінуць працу, ахвяраваць сходам, занядбаць пасяджэньнем, каб пабываць у адрасным стале... А ці выйдзе што? Рыгор сумняваўся і разважаў: „А ўсё-ж нельга не зрабіць гэтага. Нельга!“ На запытаньні Пятруся аб Ганьне абяцаў як найхутчэй яе адшукаць. Рыме хваліўся аб знаёмай, якую вось-вось знойдзе і прывядзе да Пятруся... і якою абоіх зьдзівіць... Рыгоравы думкі і Рыгораву гутарку пра Ганну справодзіла яго напружнае жаданьне бачыць яе, сустрэцца і пагутарыць з ёю, аддзякаваць ёй... за падмогу мацеры, за ўцеху, зробленую старой.

Ды маці!.. Чаму-ж не адвесьці ёй месца ў сваім нутры? Старая ўставала перад Рыгорам у поўным аблічы. З сумам на твары, з пяшчотай увачу, з палкаю прагаю ў нутру, з укорам... Ці не забывае яе сынок? Ці будзе час, калі ўдасца з ім спаткацца? Вось канчаецца год, а ніякіх адзнак на гэта. Круціцца, мелецца—маланкаю мінаюць дні, тыдні, месяцы, а яна ні з месца. Сілцы. Варажнае акаленьне. Розныя гутаркі аб Рыгору—больш ябедныя, злыя, нараклівыя; брахня і глум... Пятрусь не разьбівае іх сваімі лістамі... Вось толькі Ганна—адкуль і што, нябачная, чужая дзяўчына... Мігнулася перад ваччу і атуліла сэрца ласкавым словам аб Рыгору...

Рыгор—сынок!.. Вось-вось ён адыме квадранчык часу і прысьвеціць яго мацеры. Гэта неабходна! Асталюецца і кіне ліст, перашле некалькі рублёў. Раней днём, тыднем пазьней—ці-ж ад гэтага многае зьменіцца? Нельга-ж кінуць агульнае справы і аддацца пытаньням прыватнага жыцьця. Ды зноў-жа, ён толечкі што пераехаў на сваю кватэру. Амаль ня голая яна ў яго. Ложак без сяньніка, адзін ламаны зэдлік, кульгавы

стол—усяго. Хоць-бы крыху агледзець... А там—пойдзе чарадою адно за другім... Мажліва, каб Ганна... Рыгор яе адшукае, няпраўда...

— Я ўсё-ткі, Пятрусь, на днях праедуся ў адрасны стол!—завяраў Рыгор.

— Чаго-ж ты, сапраўды, шкадуеш паўдня страціць на гэта?—папікнуў яго Пятрусь.

— Праўду кажаш... Ці варта шкадаваць паўдня часу,—згаджаўся Рыгор.—Усяе работы не пераробіш...

— Менавіта...

Пасьля гэтага Рыгор загадзя намеціў дзень, калі ён абавязкова паедзе ў горад, і запэўніў таварыша. Пятрусь спачувальна ўхмыльнуўся.

VI

Ганна ніколі-б не паверыла, каб хто ёй сказаў, што Рыгор у Пецярбурзе. Тым болей яна зьдзівілася-б, каб уведала, што ён аб ёй думае, гутарыць з таварышом і дзень-ада-дня маніцца шукаць. Адкуль і што тыя даныя на гэта! Ні намёку, ні знаку. Праўда, Ганна чула ад Рыгоравай мацеры, што ў Пецярбурзе жыве Рыгораў таварыш. Гэта Ганну цікавіла ды інтрыгавала. Яна захапіла з сабою яго адрас. І, прыехаўшы ў Пецярбург, пісала Пятрусю ліст, каб той паведаміў, мо' што ведае аб Рыгору. Чамусьці на ліст не атрымала адказу—пэўна загубіўся. Праз некалькі дзён праехала сама ў Лясное, але не застала Пятруся дома. Зьбіралася з дня-на-дзень паўтарыць паездку, ды... усё не магла сабрацца. Цэлы шэраг прычын перашкодзіў ёй зрабіць гэта. Ганна паехала ў Пецярбург на сваю рызыку. Згуба мацеры растрывожыла яе да нэрвовасьці, і ў Пецярбурзе яна шукала сабе спакою. Без усялякіх хадайніцтваў да начальства, не разьлічаючы на наступнае, яна раптоўна разьвіталася з Рыгаю і паехала да дзядзькі пад Ліцк. Адтуль наведала Сілцы і ў пачатку траўня накіравала ў Пецярбург. Яе прыезд у сталіцу супаў з канікулярным часам. Пайсьці шукаць ходаў да прызначэньня на месца настаўніцы Ганна не хацела, ведаючы, што гэта пацягне за сабою цэлы шэраг адміністрацыйных формальнасьцяй. Ды самая праца настаўніцы ёй не падабалася. Яшчэ ў Рызе, калі жыла маці, Ганна ня раз памыкалася пераменіць заняткі, старанна шукаючы адпаведнага месца. Маці перашкаджала ёй. Пасьля яе сьмерці Ганьне было вольна гэта зрабіць. Яна знашла, што ў Пецярбурзе ёй лёгка гэта ўдасца. Поўная ўпэўненасьці ў гэта, Ганна ня ўлічыла тых цяжкасьцяй, з якімі сустрэў яе чужы, вялікі горад. Без знаёмага, з ненадзейнымі разьлікамі на даўнюю таварышку, на Пятруся і, як ня дзіўна, на Рыгора, Ганна ачулася ў Пецярбурзе. Горад беспагадліва схапіў яе ў свае абоймы і закалыхаў на хвалях глыбокае клапатлівасьці. Што надумоўвала тыднямі—разьляталася ў хвіліну. Стройна апрацаваныя пляны ламаліся пад націскам жывое сапраўднасьці. Ганна зьбівалася з панталыку. Куды ёй

было да ўсяго іншага, калі ня выразнасьць наступнага дня не давала спакою. Ужо прасочвалася вільгаць роспачы, ужо думкі сплятаалі пляны мажлівага выезду з негасьціннае сталіцы, як зьнянацку ёй напаткалася праца. Гэта вышла праз газэту, па дробна надрукаванай абвестцы. Патрабавалася „перапісчыца, маладая барышня“. Ганна пасьпяшалася па адрасу і атрымала месца ў экспэдыцыі газэты—па перапісцы адрасоў. Адшуканая работа перайначыла яе настрой і накіравала Ганьніна жыцьцё ў спакойнае рэчышча. Тое, што не знаходзіла месца ў думках у час беспрацоўя, зараз адцягала на сябе яе ўвагу. Зарупела наведаць Пятруся яшчэ раз і, мажліва, выпытаць ў яго пра Рыгора. А мо‘-ж знойдзецца кончык, і клубок пачне разбэрсвацца... У Ганьніным выабражэньні сукалася доўгая каляровая нітка саладжавых надзей. Рознымі выкрунтасамі яна працягалася кудысьці, дзе ападала ў Рыгораву душу... Вакол гэтае ніткі дзень-ада-дня набіралася гусьцейшых асадкаў пачуцьця, намераў і жаданьняў. З мільённага людзкога мурашніку, што трапятаў перад Ганьнінымі вачмі, рэльефна выступала постаць Рыгора. Гэта постаць засьціла сабою і гмах Ісакіеўскага сабору, і шпіц Петрапаўлаўкі. У чыстай каморцы экспэдыцыі мігаліся яе абрысы між шырокіх лістоў паперы. Яе ня мог засьціць дасьціпны, жывы, мілавыглядны экспэдытар Лука Дарафееў. Хоць уважліва накіроўваў ён да Ганны гасьцінныя сказы і мяккаю ўхмылкаю абліваў іх адпаведзь, Ганна ня губіла з ваччу Рыгорава вобразу... Апошні выпукляўся, што далей—болей. Ганна паступова ўкладала ў яго зьмест жывое істоты, і Рыгор уставаў у чыннасьці аднаго з шэрагаў тых забастоўшчыкаў, што ўзьюшвалі бакінскімі падзеямі ўсю Расію. Яна ўспамінала рыскія гутаркі з Рыгорам наконт яго ўдзелу ў забастоўках. Уяўляла Рыгораву захопленасьць імі, адчувала палкасьць змаганьня і вастрату злосьці на існуючы лад. Узважвала поўнасьцю вынікі гэтага. І заключала: „А зараз, напэўна, ён перагарвае прагаю хутчэй апынуцца ў асяродку падобных бакінскім здарэньняў. Каб гэта ды яго сюды, у Пецярбург, колькі-б энэргіі ён палажыў на арганізацыю рабочых да выступленьня!..“

Ганна не папікнула-б яго за гэта, не! Цяпер... яна зусім іншых поглядаў на рэчы! Ёй сорамна прызнацца, што яшчэ летась Рыгорава чыннасьць выклікала ў яе нутру варожае пачуцьцё. Цяжка растлумачыць, чаму яна трымалася тады выразна мяшчанскіх пераконаньняў. Але яшчэ цяжэй уявіць, калі і што адбывалася тая крутая перамена, якая зрабіла Ганну цяперашняй. Дзе тыя фактары, што павярнулі яе сьветапогляд на дзевяноста градусаў улева? Ганна правярала гэта тым пільней, чым вастрэй рабілася жаданьне выспавядацца пачуцьцямі з Рыгорам. Яна падрахоўвала: сьмерць мацеры, Рыгораў арышт, свой пераезд з Рыгі ў Пецярбург, блуканьне ў няпэўнасьці па яго цьвёрдых вуліцах. Няўжо ўсяго? Ды што ў гэтым надзвычайнага ёсьць? Рабілася цьмяным—і прычыны губіліся ў змроку гэтае цьмянасьці. Іх нявыразнасьць яшчэ больш

ускладняла іх важкасьць і сілу. Бо яна разумела, што з пераменаю поглядаў на рэчы ёй стала не падабацца роля настаўніцы. Калі прасачыць ад пачатку нараджэньня думкі аб тым, каб кінуць настаўніцкую службу, то, бадай, і можна будзе выявіць процэс перабудаваньня сьветапогляду... У кожным разе, Ганна стрэнецца з Рыгорам зусім інакшаю, чымсь рассталася. І таму, што факт расстаньня меў вялікі ўплыў на яе думкі, няхай той факт будзе блаславенным. Якава-ж будзе стрэча? Ды калі яна будзе?

Ганна ўважліва вяла спакойлівую перапіску адрасоў. Сотні прозьвішчаў пярэсьціліся ў яе памяці. Губляючыся і паўстаючы адно за адным. Сярод іх многа пападала знаёмых, мэрам-бы дзесьці спатыканых ці чутых. Але ніводнае з прозьвішчаў не выдзялялася самотным і ня спынялася ў памяці. Ні за водным з іх не вырысоўвалася жывога вобразу чалавека, на якім-бы спынілася яе ўвага. А за многімі прозьвішчамі беглі чыны і званьні: тайны саветнік, колескі асэсар, правіцель канцылярыі, сьвяшчэньнік, вучыцель гімназіі, земскі начальнік, народны вучыцель. Чамусьці не менаваліся сяляне і рабочыя. Гэтыя званьні нікога ня вабылі... Мэрам-бы ўсе іх ведалі і не хацелі аб іх успамінаць.

Для Ганны пустым зьвінелі ўсе чыны, ад вялікага—да малога. І вось гэта няўважлівасьць да бліскучага і зычнага—чым несла ад іх—цікавіла яе самую. Ці даўно яна не магла спакойліва глядзець на чыста адзетага, стройнага настаўніка гімназіі? Колькі разоў, бывала, закрадалася хаценьне стаць жонкаю аднаго з іх! А гэта? Нібыта тая... Гартаюцца мяртвыя формы, як сухія лісты на дрэвах. А вострыя ножны яе суседкі паласуюць іх на доўгія стужкі, якія, у сваю чаргу, дробяцца на прадаўгаватыя лісты, перабіраюцца, складаюцца па трактах і адносяцца на пошту... Сёньня, заўтра, пазаўтра, з месяца ў месяц. Звычайна. І будзь іх дзесяткамі больш, дзесяткамі менш—аднакава. Згіне дзесяць папоў ці дзесяць земскіх—ніякае заўвагі. Сам Давыд Харлампавіч, старэнькі пілявы трактоўшчык, хутчэй заўважыць, калі выпадае месца, якоесь там Ладзейнае Поле ці станцыя Стругі Белыя, чымсь купа высокіх прозьвішчаў, справоджаных чынамі. Аб іх ня было клопату... Ды Ганна, нагогул, зусім ня дбала аб адрасох, калі кідала працу ды ішла дадому. Па дарозе мэханічна заходзіла ў крамку, брала да гарбаты, а трапіўшы ў пакой, грэла прымус і спраўляла вячэру. За вячэраю—думала: як і што іціме яе жыцьцё. І на першым адказе сустракалася з Рыгорам. Вачавідкі зьяўляліся да яе: Лясное, Пятрусь, двухпавярховая дачка... „Ці напісаць ліст, ці яшчэ раз паехаць?“ карцела ёй. За лістом разгортвалася прагаліна невядомага, сухі кароткі адказ або і маўчанка. Паездка суліла знаёмства, надзеі, цікавасьць... Толькі-б ня вісеў на дзьверах бліскучы замочак... Не, яна пераедзе—ня ў суботу, дык у недзелю, мажліва, на буднях, але не пазьней пачатку ліпня... Адкладаць нельга, уважаючы на тыя здарэньні, якімі жыцьцё частуе чалавецтва.

## VII

Тымчасам здарэньні дзень-ада-дня нясупынна ўскладняліся. Іх развой можна было параўнаць з бурхлівым вогнішчам, на якое дзьме вецер. Полымя шугае ў бакі і ўгору, шырыцца, расьце; награецца паветра. Вось-вось заверціцца ўсё ў каламутным вадакруце агню. Ня было таго, хто-б так ці іначай не ўцягаўся ў падвышаны настрой, хто-б не захапляўся пытаньнем — а што далей? Выразна перад кожным гэта „далей“ стаяла ў страшным выглядзе вайны. Кожны адчуваў яе крывавы, прапахлы куравам пораху, прыход. Але ніхто не выяўляў сабе яе размаху. Яе жах перавяртаўся ў завостраную цікавасьць, пад якою танула ўсё іншае. Звычайнага, прывыклага жыцьця ня было ні ў водным доме, ні ў якай асобы. Яно зьнікла, растала, абляпіўшы агромністы клуб разьюшаных падзей. Напружнасьцю струны глядзелі ў наступнае мільёны вачэй. Шукалі. Густым туманам надзей і трывогі ўбіралі перадвочныя прасторы. На чым спыніцца завіруха? Як праломіцца яна на лёсе данае асобы? Чорнымі густымі джараламі плавалі людзкія натаўпы па шырокіх тротуарах гораду-волату. У шолаху тысяч ног адбівалася крутая парушнасьць жыцьця. Няўпэўнена хадзіла рука, няцьвёрда ступалі ногі. Шыбы вокнаў сталі вельмі празрыстымі, мэрам-бы знарок, каб ня спыняць порскага лёту ўзрокаў. Пераступаючы парогі ўстаноў, кантор, крам і заводаў, вальней ды нядбайней прычыняліся дзьверы. Будынкі, наогул, цясьнілі людзей, прыгняталі іх пачуцьцё. Якаясьці магутная сіла цягнула іх на вуліцу, у гушчы, у натаўп. Чалавек стаў надзвычайна чулым, каразьлівым, як магнэс. І ў той-жа час—слабым, бяспомачным. Аднаму не хапала ні сілы, ні месца. Для цэлага, для грамады—ён быў неадменным. Грамада надавала характарнасьць здарэньням, але апошнія выразна рухалі грамаду. Было-б недарэчным, каб хто зрабіў намер павярнуць іх у іншы бок. Усе шляхі былі загароджаны, і бязмоцнасьць людзей цьміла іх сьвядомасьць.

Але ў агульным сплёце зьяў яскрава выпуклялася іх дваістасьць. Два асабістыя кірункі праразалі гушчэчу людзкіх настрояў, пачуцьцяў, думак і жаданьняў. Гэтыя кірункі крыжаваліся, як крыжавалася разьвіцьцё грамадзкіх падзей. Наператоч зданьню імпэрыялістычнай вайны расьлі сымптомы вайны грамадзянскае. З Дуркінхэна накіроўваў у Расію прэзыдэнцкі карабель Пуанкарэ. Буржуазны выхаванец вёз самадзяржаўнаму цару для падпісаньня ўмову: разам бараніць інтарэсы французскіх і рускіх капіталістых ды памешчыкаў, у саюзе губіць на вайне жыцьцё рускіх і французскіх рабочых ды сялян. Вайна супроць прускага юнкерства, у абарону слабое Сэрбіі—былі сыгналамі буржуазнаму Пецярбургу, Неўскаму—былі лёзунгамі імпэрыялістычнае вайны, кветкамі саюзьніцкага яднаньня.

А помеж з гэтым у Баку кіпела жорсткае змаганьне рабочых-забастоўшчыкаў з нафтавымі каралямі. Водгукі яго разносіліся па шырокіх

абшарах прыгнечанае краіны. З гораду ў горад, з фабрыкі на фабрыку прыходзілі весткі аб становішчы варожых лягераў; і разам—прызывы да падмогі, да солідарнасьці. Гэроізм змаганцаў прагудзеў брукам і пецярбурскіх вуліц—за заставамі, на ўскраінах. Зарэяў сьцяг грамадзянскае вайны.

Яшчэ Пуанкарэ ня выпусьціў з ваччу берагоў Францыі, калі яму на спатканьне паднялося да пяцідзесяці тысяч пецярбурскіх забастоўшчыкаў. Згода цароў ня цешыла сэрцаў працоўных. І тыя матросы, што праводзілі карабель прэзыдэнта, ня думалі аб пахвале з боку цара, а песьцілі ружовыя надзеі на спатканьне з рабочымі на вуліцах Выбарскае стараны.

---

Рыгорам валадаў настрой, якога ён дагэтуль не перажываў. Цэлымі днямі ён ня кідаў думаць аб наступным протэсьце—забастоўцы супроць зьвярынскага нападу паліцыі на пуцілаўскіх рабочых. Новыя ахвяры самадзяржаўя ўзьнімалі ў ім пачуцьцё злосьці і помсты. Было не да працы: не сядзелася каля варстату і разец раз-по-разу выпадаў з рук. У абед і вечарам Рыгор абыходзіў дзесяткі рабочых, настройваючы іх на рашучае выступленьне. На сходках яго голас гучэў усё мацней ды мацней.

Пятрусь бачыў, як настарожліва прыслухоўваўся яго таварыш да кожнага слова рабочых; адзначаў, якім хваляваньнем сустракаў ён кожную вестку з іншых заводаў. За два дні, якія аддзялялі сабою расстрэл пуцілаўцаў ад забастоўкі на іх заводзе, Пятрусь поўнасьцю выявіў сабе портрэт Рыгора-рэволюцыянэра. Трэба было дзівіцца яго стану, які складаўся з нясупыннага трапятаньня ўсіх частачак яго істоты. Рыгору нельга было казаць іншага, апроч гутаркі аб забастоўцы. Усе пытаньні, блізкія і цікавыя яму ў звычайным жыцьці, зараз не існавалі. Ён быў заняты забастоўкаю, яе нараджэньнем, цеганінаю і вынікамі... Раз перажытае ў Рызе, цяпер захапіла яго цалкам.

У захапленьні Рыгор не агледзеўся, як забастоўка стрэлася з ім тварам да твару. Звычайным днём па звычайнай дарозе ён накіраваў да заводу. І толькі пераступіў парог на заводзкі двор, як зараз-жа з грамадою таварышоў вярнуўся на вуліцу. Вышаў і ўгледзеў, як наўсьцяж ад клінікі Вільлье ажно да стыку з Выбарскім шосэ Сампсоніеўскі проспэкт выглядаў надзвычайным, прасторным і ўрачыстым. Ні ламавозаў, ні паравікоў, а грамады рабочых па тротуарах, каля брам у дварох, на рагох вуліц. Зычны гоман. Наперадзе іх—буйная маніфэстацыя. Над сотнямі галоў невялічкі чырвоны сьцяжок. Марсэльеза.

Рыгору не хапіла моцы сутрымацца ад нахлынуўшага на яго натхненьня. Ён мігам ачуўся наперадзе колёны і падхапіў песьню папярэдняе маніфэстацыі. Але не пасьпеў ён падаць знаку да пяяньня сваім суседзям, як перад ім вырас эскадрон казакоў. Разьюшаныя да пуду коні

стрэламі імчаліся на роўныя колёны рабочых. Сакаталі падковы сталёвым шротам па бруку. У запыленым паветры апісвалі кругі казацкія нагайкі. „Раз-зай-дзі-ісь!“—лавілі вушы перадавых радоў. Тысячная колёна зацішыла ходу, настаражылася. Казакі кіравалі, як на бар'ер. Сутрымаць? Бязмэтна! І маніфэстацыя раздваілася, прапускаючы азьвярэлых коньнікаў. Дзьвюма сьцянамі пасталі рабочыя абапал вуліцы. Сьвістам і гіканьнем пагналіся за казакамі і хутка, мо' ў дзесяць хвілін, зноў зьліліся ў маніфэстацыю. Усьлед ад'яжджаючых казакоў панесьліся гучныя тоны марсэльезы. Рыгор ішоў наперадзе, па правым флянгу колёны. Сутычка з казакамі, якія нясупынна гарцавалі ад аднае да другое маніфэстацыі, заклапочанасьць паліцэйскіх аддзелаў яго інтрыгавалі, зацягалі. Было відаць, што запал рабочых тугі і ўстойны.

Сампсоніеўскі проспэкт гудзеў голасам перадстаячых боек... Зьбіраньнем сіл... Рыгор бачыў, як хвіліна ад хвіліны людзкі натоўп гусьцеў, залііваючы прасторы шырокае вуліцы. Гэтаму вобразу было нельга ня схіліцца. Яго вялікасьць асьвячалася духам рабочае ваяўнічасьці... Паўстанцкі задзёр нішчыў баязьлівасьць. Сьмеласьць кідала вызаў непадгатаванаму ворагу... Вось-вось—то там, то сям—гудуць шыбкія палёты каменьняў у казакоў. Паліцэйскія бяруць наперавагу вінтоўкі... Але на іх ніхто не шманае. У рабочым раёне—сьцеражыся, вораг рабочых!

Рыгор пасьля трэцяга разгону іх маніфэстацыі згубіў Пятруся. Ён зьмяшаўся ў грамадзе рабочых з іншых фабрык і заводаў. Дзе і што Пятрусь, цяжка было рашыць. А шукаць—куды там! Ня час і ня месца. І ён, адзін сярод чужых, чуўся сваім кожнаму, з кім стыкаўся і каго бачыў вакола сябе... Не заўважыў, як маніфэстацыя наблізілася да новага спатканьня з казакамі. Яны нацянькі скакалі да іх наператоч, але ніхто не адлучыўся з радоў. Маніфэстацыя пасувалася наперад, і яе напорыстасьць спыніла казакоў; тыя зьмяшаліся ў кучу і павярнулі ў бакавую вуліцу, дзе чулася тая-ж марсэльеза. Рыгор з агідаю паглядзеў ім усьлед і адвярнуўся наперад—ішоў трамвай, а яго спынялі. Жалезным ланцугом апяразалі яго рабочыя з усіх бакоў, высадзілі публіку і тут-жа прыняліся валіць з рэек. Рыгора забрала хэнць пасобіць гэтаму. Ён цьвёрдым крокам накіраваў да пярэдняе пляцоўкі вагону. І ў момант, калі яго рукі выцягнуліся наперад, ён пачуў ззаду сябе:

— Рыгор! Таварыш Нязвычны!

Ён спыніўся і азірнуўся. Тут-жа ледзь ня поплеч, стаяла Ганна. Рыгор сумеўся ад нечаканасьці, адвёў рукі і некалькі хвілін ня ведаў, што сказаць.

— Якім чынам?—запытаў яе.

Але яго пытаньне мігам расплылося ў гучным „гура“ грамады, паваліўшай вагон трамвая. Толькі хвілін праз пяць, калі грамада заціхла, Ганна ўзяла Рыгора пад руку і праказала:

— Не пазнаеш?

— Цябе?

— Ганны.

Грамада закалыхалася, веерам разьбягаючыся ў бакі,—зноў несьліся казакі.

Рыгор з Ганнаю кінуліся ў бліжэйшы двор.

— Якім чынам ты тут?—паўтарыў Рыгор першае пытаньне, калі яны спыніліся ля жалезнае брамы.

— Не чакаў?

— У гэтых умовах--ня думаў... Прымха...

— Я чула нутром, што ты ў асяродку забастовачных падзей...

— Ты... чула... нутром?..

Гутарка не вязалася як сьлед,—уплыў вакольных абставін адцягваў Рыгораву ўвагу ад інтымнага пачуцьця спатканьня. Яму не стаялася пад скляпеньнем аркі, а прагла на вуліцу. Але прысутнасьць Ганны перашкодзіла. Нявыразна, а яе істота давала сябе адчуваць... І Рыгор, радуючыся, злаваўся ды непакоіўся: мэрам-бы знаходка ня поўнасьцю кампэнсавала згубу... Чаго і чаму? Ён ня мог выразна выявіць сабе гэтага, усё-ж перабой удзелу ў маніфэстацыі раўняўся чулай згубе... Як нагадаць гэта—было цяжка вырашыць. Усе хлынулі зноў на вуліцу, а яны стаялі, больш маўчучы, ніж размаўляючы.

— Я табе перашкоджу?—нерашуча выказала Ганна.

— Ды не, што ты, Ганна? Я ашаломлены стыкам падзей сёнешняга дня! Прымха... Але ў гэткую хвіліну—на табе!

— Тое і ў мяне. Я ніяк не чакала, што трапіцца гэтак, як трапілася...

— Няўжо?.. Ну, ехала-ж некуды?

— Да цябе ехала... бач, да Пятруся...

Яны вышлі з-пад двара і тут-жа ачуліся ў асяродку маніфэставаўшай грамадкі рабочых, вышаўшай з-за рогу вуліцы. Выгукі лёзунгаў і зыкі песьняў захапілі і Рыгора і Ганну. Уражаньне ад нечаканага спатканьня затаілася ў нутры абоіх—выразна, і яны пашлі ў маніфэстацыі.

## VIII

Стрэлы паліцэйскіх, накіраваныя ў пуцілаўскіх рабочых у адплату за іх солідарнасьць бакінскім забастоўшчыкам, надоўга заглушылі ваяўнічы шолам генэралаў, памешчыкаў, буржуазіі. Парады і тосты ў царскіх палацах і на рэйдах у гонар француcкага госьця ніклі пад хвалямі паўстаўшых ускраін сталіцы. Гукі „гура“ „благавернага воінства“ гінулі ў магутных сьпевах марсэльезы. Гімн французскае рэволюцыі, стаўшы гімнам працаўнікоў усяго сьвету, панаваў у рабочых раёнах Пецярбургу. Яго баявыя тоны апяразвалі сталіцу сталёвым ланцугом. За Нараўскаю, за Маскоўскаю, за Неўскаю заставамі, на Выбарскай і на Пецярбурскай

сторанах і на Васільеўскай высьпе—усюды зьлітна, зьяднана маршыравалі грамады забастоўшчыкаў пад яе ўздымныя, бадзёрыя напевы. Хутка водгукі марсэльезы пачалі пераносіцца праз шырокую Няву да буржуазных кварталаў цэнтру. Яны ўрываліся ў царскія палацы, у будынкі ўрадавых устаноў, у салі банкаў ды кантор, у рэдакцыі буржуазных газэт. На іх старонках чарней і буйней выпукляліся літары паведамленьняў аб „ходзе забастоўкі“, аб „працягу непарадкаў“. Думкі і пачуцьцё мільённага жыхарства накіраваліся ў бок затухлых халодных камінoў на рабочых ваколіцах сталіцы. Хатнія падзеі ненарокам затрывожылі падвостранага міжнародным становішчам абывателя. Куды яны накіруюцца і да чаго прывядуць? Гэтыя пытаньні неадходна мітусіліся ў думках соцен тысяч пецярбуржцаў. Яны выросталі да жахлівых зданяй, калі слупкі газэт дзень-на-дзень падносілі ўсё большую лічбу забастоўшчыкаў. За іх гушчаю прападалі ўражаньні ад падзей, якія набліжалі сабою сусьветную вайну. Ультыматум аўстрыяцкага ўраду блісНуў на Пецярбурскім небасхіле і зьнік у полымі забастовачных здарэньняў. Яны, гэтыя здарэньні, вачавідкі прымалі ўсё вастрэйшую форму і глыбейшы сэнс. Ад маніфэстацый і сутычак з казацкімі патрулямі яны абярнуліся ў спыненьне трамвайнага і чыгуначнага руху, у бомбардыраваньне фабрык і будаваньне барыкад. Часова аб Пуанкарэ ўсе забыліся: дзе і што ён—было аднакава. Няхай дапівае апошні кубак за ўзмацненьне дружбы буржуазнай Францыі з самадзяржаўнай Расіяй. У баку ад гэтага куецца іншым чынам іншая дружба між працоўнымі народамі абедзьвюх краін...

Рыгор дзень-у-дзень, на працягу двух тыдняў, не пакідаў вуліцы. Усюдых, дзе толькі трапунак прыводзіў да складаных выпадкаў, багатых у зацяжнай забастоўцы, ён знаходзіўся сярод першых. Спынка трамваю, падпілоўка тэлеграфных слупоў і перарэзка тэлеграфнага дроту—не абыходзіліся бяз Рыгора. Не прапусьціў ён далучыцца і да аддзелу сьмельчакоў, запёртых у доме на Ломанскім завулку і адважна дзень і ноч адбіваўшых напады казакоў і паліцыі. Першым займаў ён рызыкоўныя месцы, бадзёрыў таварышоў і адстрэльваўся з урачыстаю заўзятасьцю. Але ўвесь эпізод з захопам дому і са змаганьнем за яго былі бязумствам храбрых. Дзесяткі ахвяр вянчалі яго гэройствам, тоячы ў сабеападаньне забастовачнай хвалі. Апошняя перамога самадзяржаўя гнала з акрываўленых сьцен дому рэшткі мужных змаганцаў. Рыгор быў сярод іх, раззлаваны на ўвесь сьвет і на самога сябе. Ён цісНуў у кішэні ненабіты рэвольвэр і, тулячыся між сьцен будынкаў Сампсоніеўскага, скардзіўся.

БлісНула роспачная думка: „Тыдзень наступалі, дабіраючыся да гэтага будынку, а ў адну пору перайшлі ў адступленьне“.

Але глыбіня трагэдыі мясьцілася ня ў гэтым: яна выпірала з факту правалу забастоўкі. Значыць, не хапіла патрэбных сіл, каб перавярнуць гісторыю грамадзкага жыцьця. Значыць, ён, Рыгор, і на гэты раз пера-

ацаніў мажлівасьць рабочага руху... І там вунь, дзе разгортваецца прамень празрыстае электрыкі, у асяродку буржуазных кварталаў, уздыхаюць з палёгкай. Нанаў хлынуць уздоўж Неўскага весткі аб вайне. Газэты аднясуць радкі пра забастоўку ў хроніку трэцяй старонкі... Немажліва.. Няўжо забастоўка зруйнавана? Вось, вакола пустыя вуліцы. Прытоена маўчаць гмахі фабрык ды заводаў. Стухшы ліхтары на спынках паравіка. І ва ўсім—сум па згубленым.

Рыгор моўчкі спыніўся з двума таварышамі пад брамаю рагавога будынку. Узьнятае хваляваньне ня пускала адчыніць рот для вымовы слоў. Нутро цяжыла нявыразная жагучая млосьць. Утраіх глядзелі яны ў бок Ломанскага завулку. Там ідзе расправа?—Зьнянацку для іх пачуўся цьвёрды тупат крокаў і выразны, сьмелы выгук: „Пятрусь, пачакай!“ Яны хутка вышлі з-пад брамы на тротуар і паглядзелі ў бок выгуку. Тры цёмныя постаці пераходзілі касяком проспэкт.

— Пятрусь?—гукнуў Рыгор.

Постаці спыніліся. І толькі праз хвіліну Рыгор з таварышамі пачулі:

— Рыгор?

— Я! Вы адкуль?—падаў Рыгор.

Тыя не адказалі і накіравалі да Рыгора з таварышамі.

— А вы чаго тут?—запытаў Пятрусь, падышоўшы і ня верачы, што перад ім сапраўды Рыгор.

— Мы...

Рыгор намерыўся тлумачыць, але мусіў спыніцца: дзесьці недалёка заласкаталі аб брук конскія падковы—ехаў аб'езд. Яны цішком падаліся к браме, пад якой стаяў дасюль Рыгор з таварышамі.

— Няўжо іх чорт пагоніць сюды?—шэптам праказаў Пятрусь.

— Аблава, напэўна...

Яны змоўклі і насцаражыліся. Тупат конскіх крокаў нейкі час падбліжваўся, пасьля раптам зьнік. Было відаць, што разьезд завярнуў у бліжэйшы завулак.

— Цяпер можна рухаць далей, каму куды трэба,—выказаў Рыгор, і не пасьпеў ніводны з іх крануць з месца, як ён дадаў:

— Дык вось, браткі, значыць мы прайгралі забастоўку.

— Чаму?—запытаў адзін з тых, што ішоў з Пятрусём.

— Ня верыш? Во, глядзі на нас... Мы—рэштка абаронцаў дому на Ломанскім... Астатнія хмаркі расьсеянай буры.

— Здаліся?

— Папрабуй ня здацца...

— Разумею...

— Дык і ты ваяваў?!—зьдзівіўся Пятрусь.

— Так, цэлую пору ваяваў... А ты думаў?..

— А я думаў, што ты даўно ў „Крэстох“. Цэлых тры дні не паказваўся...

Рыгор матнуў рукою.

— Было-б лепей, каб хоць пазьней убачыцца, але пры лепшых умовах...

— Не ад нас з табою залежыць... Вось мы з Пецярбурскае стараны... Калтаўскую мануфактуру руйнавалі...

— Усё-ж забастоўка, браткі, пакажа... пакажа агромную сілу рабочага люду. Не скажы, таварыш,—выказаў другі з Пятрусёвых спадарожных.

— Ды я разумею, толькі... калі адгукнецца яна?

На рагу аднаго з завулкаў яны спыніліся.

— Ну, нам дваім сюды,—сказаў Рыгор:—будам зьбіраць сілу на новае выступленьне...—дадаў ён.

Яны разьбіліся на тры часткі. Рыгор застаўся з Пятрусём.

— Ня выходзіць панашаму,—праказаў Пятрусь.

— Ня выходзіць—і так балюча, балюча... Я ўжо думаў, хоць стану ахвярай, абы... Успамінаў цябе пад стрэлы браўнінга... І Ганну...

— Ганну?—зьдзівіўся Пятрусь.

— Так, я стрэўся, нарэшце, з Ганнаю...

— Калі?

— Учора... здаецца...

— Стрэўся і на гэтым скончана?

— Маніфэставаў разам... Абяцала прысьці, і тады я наведаю з ёю цябе.

— Прашу...

Тры стрэлы дзесьці ў баку заключылі іх гутарку.

IX

— Во, глядзі, Пятрусь, што піша „Біржоўка“... Подлыя... „Чэрнь прыходзіць да ўразуменьня“... „Падбухторшчыкі прыкусілі языкі“. „За Маскоўскаю заставаю частка баставаўшых варочаецца на работу“... Ці-ж я не казаў? Самадзяржаўе цяпер так зацісьне зашмаргу на нашай шыі, што толькі сумей дыхнуць... Пад настрой вайны прапіша такую мікстуру, ажно, браце ты мой...

Рыгор растрывожаным крокам тупаў па каморцы. У руках ён нэрвова камячыў „Биржевые ведомости“, спаганяючы на гэтай бульварнай газэце ўсю злосьць і нянавісьць да самадзяржаўнага ладу.

— Ведаеш, браток,—казаў ён далей Пятрусю, які скора ўвайшоў к Рыгору і спыніўся каля вакна:—я адчуваю сябе дрэнна. Быццам-бы мне перагарадзілі дарогу—і ні сюды, ні туды... Прачнуўся, паверыш, і жаднае хэнці ні да чога... Во...—ён ізноў разгарнуў „Біржоўку“:—„Патрыётычныя дэмонстрацыі па ўсёй Аўстрыі“. Вайна... Нідзе рабочыя не адгукнуліся на нашу забастоўку... Не падтрымалі нас і нашы ў другіх гарадох. Забачыш, усе, хочуць-ня-хочуць, залыгаюцца жалезным ланцугом і пойдуць на бойню... Сялянства адарвуць ад плуга, ад сярпа, ад

цэпу... Закалышуць мястэчкамі і сёламі... Усё для інтарэсаў тых, хто прыслаў сюды Пуанкарэ, хто... А мы ізноў на завод, ізноў да варстату... Цягні, брат...

Рыгор гіронічна ўсьміхнуўся.

— Затое самадзяржаўю забастоўка паказала, як небясьпечна яго наступнае... Ты паглядзі,—праказаў Пятрусь і рушыў з месца.

— Я дзіўлюся... і цешуся, наколькі вялікаснаю ёсьць наша забастоўка... Бач, яна на некалькі дзён спаралізавала ўсё жыцьцё сталіцы, сабрала вакол сябе ўсю грамадзкую думку і... і навяла не малога жаху... Я заўчора і ўчора аб'язджаў рабочыя раёны—і ўсюды адно: заводы і фабрыкі—маўчок, а вуліцы—у нясупынных маніфэстацыях. У фабрычных кварталах рабочыя—гаспадары. Мізэрнымі і бязмоцнымі здаюцца і паліцэйскія і вайсковыя патрулі... Сіла, калі хочаш ведаць, магутная сіла... Мы адмецілі забастоўкаю адну рысу—гэта бязмоцнасьць сучаснага стану...

— Зразумела,—нездаволена казаў Рыгор.—А ўсё-ж у мяне ўчора было вельмі балела сэрца, калі я мусіў уцякаць з абсаджанага дому на Ломанскім... Я зьбягаў па сходах, лез па трубе, а нешта нямоўчна шаптала на вуха: гэта расьпінаецца ваша агульная, рабочая справа...

— Так, балюча, вядома,—рашыў Пятрусь:—але... Мне здаешся ты іскраю, якая ня стухае, а ўсё гарыць, пыхкае. Паверыш, я назіраю за табою і дзіўлюся: адкуль у цябе столькі запалу? Гэта-ж, каб ты прымеў, у гадзіну сьвет перакруціў-бы...

Рыгор ухмыльнуўся.

— Гэтулькі накіпела, ведаеш... во тут... Прасачыўся да кончыкаў валасоў злосьцю і няпрывязьню да існуючага ладу... Праўдзівей, самы лад выпрацаваў з мяне гэткага прыхільніка сабе... Бачыш: з дзіцячых гадоў пашоў у яго школу і да апошняга часу адукуюся... У выніку—давай Ломанскія падзеі... Ну, а сыйсьці з поля бойкі пераможаным—паверыш, цяжка...

— Я цябе разумею...

Пятрусь зноў спыніўся каля вакна. Абодвы некалькі хвілін маўчалі. У Рыгоравых руках шарпала „Біржоўка".

— Усё-ж, браток, нам справы не паправіць...—перабіў маўчанку Пятрусь.—Пойдам, хіба, у горад, праведаем, як і што. Мо' стрэнемся з кім... Ты піў гарбату?

— Піў, здаецца... Пойдам...

Рыгор адзеўся.

— Так, буржуазны друк папальле памый на нашы галавы... Прадажныя пер'і ня мецьмуць сутрыманьня...

— Вось у тым та і рэч, ведаеш... Што-ж ты парадзіш...

— А ты ласьне меў у воку інакшыя, чымсь ёсьць, вынікі з нашае забастоўкі?

— Ня тое, каб верыў, але мне так хацелася, так хацелася, што між хаценьнем і вераю ня было мяжы... Ты ня можаш выабразіць таго пачуцьця натхненьня, якое валодала мною ў абсаджаным будынку...

Яны вышлі з пакою. На калідоры іх напаткала гаспадыня кватэры.

— Ї сёньня да другое?—жартліва кінула яна Рыгору.

— Калі хто пытацьме, скажэце, калі ласка, што а восьмай буду... А ўчора, часамі, ніхто ня пытаў?

— А хто ня ведаў, дзе вы?—загадліва адказала гаспадыня і схавалася на кухню.

— Цікавая яна ў цябе кабета,—адазваўся Пятрусь.

— Ды мне ўсё роўна... Адно-б мне не перашкаджала.. Ну, усё-ж ляпейшая твае...

Па сходах сышлі моўчкі. А ў дварэ Рыгор раптам успомніў пра Ганну.

— Я, здаецца, табе ўжо казаў, што меў выпадак стрэцца з Ганнаю?

— Казаў... Цікава...

— Перамянілася дзяўчына...

— Гутарыў?

— Ці-ж доўга трэба гутарыць—відаць...

— Можна павіншаваць?

З гутаркаю аб Ганьне яны прайшлі да Сампсоніеўскага праспэкту і спыніліся. Праспэкт не мяняў выгляду з дзён забастоўкі. Абапал тратуары і рагі ператочных вуліц ды завулкаў былі ўсеяны рабочымі. Сярэдзінаю праспэкту разьяжджалі конныя паліцэйскія патрулі. Сям-там паказваўся рэдкі рамізьнік, і пагаварвалі аб пуску паравіка. На спынках яго стаялі грамадкі людзей, пазіраючы то ўлева, то ўправа.

— Мы пройдам да трамваю, ці таксама пачакаем паравіка?—запытаў Рыгор у Пятруся.

— Памойму, ляпей прайсьці да клінікі Вільле...

— Давай...

Яны завярнулі налева і пашлі ўсьцяж праспэкту. Не даходзячы да трамвайнай спынкі, стрэліся з агульным знаёмым з заводу, які, запыніўшы іх, паведаміў:

— Што-ж, па нядзелі на працу.

— Ужо вырашана?—дзівіўся Рыгор.

— Яшчэ не афармлена, але бадай што... Чаго-ж чакаць?! У іншых раёнах заўтра пачынаюць варочацца на работу... Дзе-ж тут болей... Досыць... Скончана, зноў будні.

Знаёмы разьвітаўся і пашоў ад іх. Рыгор з Пятрусём падышлі да трамвайнае спынкі і зьмяшаліся ў натаўпе чакаючых.

Падзеі забастоўкі служылі тэмаю агульнае гутаркі. Уражаньне ад яе пакуль моцна сядзела ў галавах пецярбуржцаў. З пачуцьцём зьдзіўленьня, а то і жаху перадаваліся рознастайныя эпізоды з выступленьняў рабо-

чых. Да сапраўднасьці дадавалася шмат фантастычных рысаў. Увогуле, аднак, людзкая пагудка ўбірала забастовачныя падзеі ў фарбы гэроічнасьці. У большасьці тых, хто быў заняты гутаркаю аб іх, чулася выразная спагада да рабочых і іх чыннасьці. Спыненьне Прыморскае чыгункі, бомбардыраваньне фабрычных будынкаў, абварачаньне трамваяў — пераплятaлася з сакавітасьцю расказаў у рознастайных варыяцыях аб братаньні забастоўшчыкаў з францускімі матросамі, аб сумесным іх нападзе на казакоў. Вялікае месца ў гутарках чакаючых адводзілася ўзброенай сутычцы на Ломанскім завулку. Асада паліцыяй і войскам агромністага будынку, заселенага рабочымі, прымала адценьне сьвежай легендарнасьці. Пасылалася спачувальная павага „невялікай грамадцы баявікоў, якія цэлую пару адбіваліся ад многалікага войска“. Рыгор з асалодаю прыслухоўваўся да кожнага сказу, які датыкаўся Ломанскіх здарэньняў. Бач, нейкая доля і яго заслугі была ў гэтым. Але Рыгора цешыла на пачуцьцё гонару, а адбітак падзей у людзкім адзнаньні. Тон і мотывы водгуку на забастоўку сьведчылі Рыгору, што яе выбух быў на многа значнейшым, ніж аб тым ён заключаў. Калі-ж яно так,то можна ружавей глядзець настрэчу будучаму.

— Трамвай!—гукнуў Пятрусь. Грамада зарухала, націснула к рэйкам.

— Сядай, Рыгор, на пярэдні вагон,—падаў Пятрусь.

І толькі трамвай спыніўся, ён спрытна ўскочыў на заднюю пляцоўку. Яго заціснулі і ўпіхнулі ў вагон.

— Цішэй, грамадзяне,—прагукаў ён і абярнуўся назад.

Абярнуўся і замёр у задзіўленьні—на яго напірала Ганна.

— Рыгор?

— Гэта ты? Што за дзіва, зноў-жа тут... зноў у трамваі. Ха-ха-ха! Якім чынам?.. Пятрусь, а?—гукнуў ён.

Публіка паглядзела на Рыгора з усіх бакоў.

—Шша-а, ці маеш лад?—прыпыніла Ганна.

Пятрусь падняў палец, зьвяртаючы на сабе Рыгораву ўвагу.

— Сойдам на Каменаастроўскім, ці паедзем да Неўскага?—прагукаў зноў Рыгор.

— Да Неўскага...

Яны ўселіся з Ганнаю побач...

— Прызнацца, добры кавалак прайшла пехатой... Усё не магла дачакацца трамваю...

— Адкуль-жа ты зараз?

Яна засьмяялася.

— Была ў Пятруся, хацела з табою спаткацца... А ты, вось, надоевечы і адрасу ня мог паведаміць... Перабраўся ад Пятруся, а людзям—шукай...

— Няўжо я табе ня даў адрасу?—зьдзівіўся Рыгор.

— А то-ж бы я лішніх вёрст дзьве мерала горад... Туды, праўда, заехала, а адтуль — чакала-чакала паравіка і не дачакалася... Мусіла ісьці. А шостай гадзіне ў кантору трэба...

— Чаму-ж дагэтуль вольная?

— Газэта сёньня ня вышла; друкары забаставалі...

— Мажліва і заўтра ня выйдзе, ці выйдзе?

— Ня ведаю.

— Бачыш, і ты забастоўшчыца, хоць і не па сваёй волі...

Кабеты згаворна паглядзелі на Ганну і здаволена ўсьміхнуліся.

— Я-б баставала з гэткаю ахвотаю, як бастуеце вы самі...

— Няўжо?

— Вось якраз...

Ужо да сьмеху кабет далучыўся і Рыгор. Але ў яго ўхмылцы адсьвечвала сур'ёзная ўвага да Ганны. Рашучасьць і ўпэўненасьць, з якімі тая выказала свой сказ аб забастоўцы, выклікалі яго павагу.

— Мажліва, маніфэставалі-ж разам,—пагіронізаваў Рыгор.

Ганна адчула гэта, але не адказала нічога — па трамваю пранёсься нечаканы вокліч кондуктара: „Панове, трамвай ідзе да Марсавага поля. А там можна перасаджвацца на любы, які кіруе к Неўскаму".

На спынцы яны сышлі першымі.

— Варушыся спрытней,—пацьвіліўся Рыгор з Пятруся, які прапускаў наперад сябе дзесяткі пасажыраў.

Пятрусь зьлез перадапошнім і моўчкі падышоў да Рыгора з Ганнаю.

— Пазнайцеся: Ганна—мой таварыш і зямляк—Пятрусь.

— Я ўжо вас заўважыў у вагоне, — падаючы руку Ганьне, праказаў Пятрусь.

— А я колькі разоў у вас была і ўсё не магла вас убачыць... Нават і сёньня таксама... Вы мэрам знарок ад мяне ўцякаеце...

— Вы былі ў мяне?

— Так, ужо каторы раз...

— Цікава і шкада, што вы не засталі мяне ні разу.

Яны рушылі праз Марсава поле, не пакідаючы рэзвае, бойкае, улучнае першаму спатканьню і першаму знаёмству, гутаркі. Пятрусь уважліва аглядаў таварышаву знаёмую з ног да галавы, з адбіткам провінцыяльнае цікавасьці зазіраў ёй у вочы і... нясьціхана сыпаў пытаньнямі, Ганна адразу зрабіла на яго выгоднае ўражаньне; ён вачавідкі захапіўся ёю, як чалавекам і таварышам. Ганна падкупала Пятруся гаворкасьцю, рэзвасьцю і востраю пільнасьцю. Ад яе несла дасканаласьцю стойкае, вымуштраванае жыцьцём асобы. Ніякім чынам нельга было параўнаць з Ганнаю хоць любую сілцаўскую дзяўчыну, у тым ліку і Гэлю... Ды што Гэлю? Апошняя наогул выглядала ў Пятрусёвым вачу нясталаю, лёгкадумная асобаю. Яе выезд з Сілцоў і паступленьне ў тэатральную трупу сьведчыла за гэта. Фактычна Пятрусь ужо месяцаў са два як кінуў з

Гэляю ўсякую перапіску. Гэля стаяла далёка ад Ганны! Пятруся цікавіла, чаму так аднакава адносіцца да спатканьня з ёю Рыгор. Няўжо ён не знаходзіць у ёй таго, што становіць кабету на належную вышыню. Вось хоцькі-б і тут, калі яны ўтраіх ідуць Марсавым полем, Рыгор заўзята маўчыць. Гэта-ж не з дабра яно так!

— Ты-ж аб чым думаеш так моцна?—запытаў раптам Пятрусь.

Рыгор паглядзеў на яго і ўпэўнена адказаў:

— Наглядаю за гарадзкім рухам і пазнаю, чым ён аддае.

— І што-ж выявіў ты, пакуль прайшлі поле?

— Мне здаецца, што наша забастоўка палажыла адбітак на ўсім, што ёсьць жывога ў Пецярбургу... Але гэты адбітак можа хутка згладзіцца...

— Так... Я ўжо чуў ад цябе нешта падобнае...

Пятрусь адвярнуўся да Ганны.

— Чуеце?

— І я ўжо чула пахожыя на гэта ноты, — адказала Ганна: — Рыгор мастак на іх выцінаньне...

І праз колькі хвілін дадала:

— Усё-ж яны падабаюцца мне...

— Нават?—падхапіў Рыгор.

— Ня хлушу...

Пятрусь заўважыў, як яна гасьцінна пахілілася да Рыгора, але не паказаў знаку. Ён аглядзеўся навакола і запытаў іх:

— Ці не пара была-б паабедаць?

— Бадай што.

Яны прайшлі Садовую і ачуліся на Неўскім. Проспэкт зірнуў на іх усёю ўласьціваю яму вялікасьцю. Па іх прабегла электрычная іскра ўрачыстай настарожанасьці. Думкі вырваліся з галавы і завіхрылі ў скрутным зацягаючым руху паводкі людзей, трамваяў, самакатаў, рамізьнікаў. Гул і шолам абвісьлі над імі пластом рознастайных гукаў, трэску, звону, бразгу. Адчувалася віравое кіпеньне жыцьця, адкуль цяклі яго жаролы ва ўсе куткі вялікага гораду.

Хутка людзкая хваля хлынула на іх і пагнала на сабе ў бок Анічкава маста, на пекныя фігуры якога глядзелі з рагавога дому завучыя словы: „Вэгетэрыянская сталоўка“.

---

Была чацьвертая гадзіна па паўдні, калі Рыгор з Пятрусём, правёўшы Ганну на службу, селі ў трамвай, каб вяртацца дамоў. Неўскі абодвух авеяў настроем перадваеннае трывогі. У распаленым паветры маляваліся жывыя абрысы яе блізкага, неадмоўнага прыходу. Водгукі забастоўкі, якая дагарала, раставалі ў хмурых разорах вуліц, што вялі да фабрычных раёнаў. Нядаўні настрой выразнае жахлівасьці, які ачула цісную на Неўскі натаўп, зьмяняўся ў ім заўсёдашняй ганарліва-задзёрыстай нядбайнасьцю. Вось яна ўплыла ў вагон трамваю, выклікаючы ў Рыгора

з Пятрусём млоснае самапачуцьцё. Хутчэй на той бок рэчак, у суровыя абставіны сваіх, рабочых раёнаў...

І толькі трамвай крануў з месца, як да іх вушшу данёсься рэзкі, выразны крык газэтчыка: „Забойства Жана Жорэса ў Парыжы!“ Каму „Вечерние Биржевые“?

Рыгор уздрыгануўся і спалохана паглядзеў на пляцоўку. Там стаяў нелапы хлапчук, перадаючы сьвежыя газэты пасажырам. Да яго працягалася з дзесятак рук і чулася наперабой: „Мне газэтку!“ „Дайце Біржоўку!“ з „Сюды дайце!“.

— Чуеш, Пятрусь, Жорэса забілі?

Пятрусь пазваў газэтчыка.

— Вось табе, браток, штука!—заўважыў ён, застыўшы поглядам на буйных радкох жудаснага паведамленьня з Парыжу.

— Буржуазія здымае перашкоды на шляху да свае праступнае чыннасьці...

Трамвай мчаўся Марсавым полем...

X

Рыгор прачнуўся і прыслухаўся: у пакой урывалася зычнае гудзеньне фабрычных сырэн. „Зноў пачынаюцца будні“, праказаў ён сабе і тут-жа перад ім мігнула яскраваю істужкай нізка апошніх падзей з яго жыцьця. Мястэчка Смагін, яго ўцёкі ноччу, дарога ў Пецярбург, вобраз гораду, спатканьне з Пятрусём, з Ганнаю, забастоўка, Сампсоніеўскі проспэкт, Ломанскі завулак, бойка з паліцыяй і салдатамі, братаньне з францускімі матросамі і... учарашняя сходка ўпоўнаважаных ад цэхаў з выразнай і канчатковай пастановай—заўтра аднавіць работу. Цэлая багатая гісторыя на зусім кароткім адрэзку часу. Праняслася і зьнікла, абярнуўшы сапраўднасьць на левы бок. Было цікаўна, міла і ўцешна, а разам з тым—заблытана, незьясьнёна. Сьвет на момант завіхрыўся, сягнуў да неба і тут-жа зьнізіўся, апаў. Наперадзе—цёмная нявыразнасьць, крывавае бяздоньне ўсякіх мажлівасьцяй. Як яны пройдуць між Рыгоравага жыцьця, чым адаб'юцца на яго лёсе, куды павернуць яго жыцьцёвы шлях? Калі-б азірнуцца назад, то не ўявіць поўнасьцю яго крутых, хілкіх завілін, не ўясьніць рашучасьці сьмелых пераходаў. Няўжо тое і ў будучыне? У кожным разе яно, гэта будучае, сустрачае ў ім загартаваную, вытрывалую адзінку, перад якою разьляцяцца не адна перашкода.

Рыгор сышоў з ложку і паглядзеў у вакно. Палавое неба зацягалася дымам фабрычных камінёў. Разам з паветрам западалі ў нос крупінкі сажы. Работа пачыналася. Адпачнуўшыя махавікі разганялі без трансмісій, трансмісіі нацягалі рамяні, і прытупленыя разцы пазіралі на апыленыя балванкі сталі... Вось-вось увап'юцца яны ў сталь і пачнуць выразаць завілыя бліскучыя стружкі. Разгорнецца шырокае наладжанае гатаваньне знарадаў на патрэбу вайны. Цэлымі стосамі выкідацьмуць іх варстаты, перасылаючы ў прыгатаваныя скрынкі для адпраўкі на фронт. У кожным

знарадзе—сьмерць некалькіх чалавек, разбурэньне, пажары. А тымчасам іх гатавацьмуць яны, рабочыя, якія ўчора яшчэ, заўчора падавалі свой магутны протэст супроць пануючага ладу, супроць вайны і забойства. А сёньня, а заўтра? Няўмольны закон жыцьця вымагае ад іх схіліцца і пакорліва выпаўняць яго заданьні... Якая заблытанасьць у жыцьцёвых зьявах! Які сплёт вострых супярэчнасьцяй.

Рыгор пададзеўся, прамыў твар і папрасіў гаспадыні даць гарбату. Гаспадыня неадкладна выпаўніла просьбу, моўчкі ўвайшоўшы ў Рыгораў пакой і моўчкі вышаўшы з яго. Нават не паглядзеўшы на Рыгора, мэрам-бы яна была дзеравянаю і ўсё рабіла па заводу. Для Рыгора гэта гаспадыніна маўчанка была па настрою: ён, не патураючы на нічога, у вобдыме раздумаў прысеў да стала і пачаў піць чай. Неахвотліва лезла ў горла пачарсьцьвеўшая булка з пажоўклым маслам; але ня есьці—ня мог; самы процэс яды гармонаваў з перабегам думак у яго галаве, як-бы дапаўняючы цеганіну разважаньняў. Нават не глядзеў на тое, што стаяла ў яго пад носам, а бегаў узрокамі па сьценках пакою, перакідаў іх за вакно. Няўпрыкмет спыніўся на нейкай портрэтцы, якая вісела на сьценцы над рагавым круглым столікам. І портрэткі і століка Рыгор да гэтага і не заўважаў. Чаго яны тут і навошта? На портрэтцы—чыясьці мілавідная галоўка... Рыгор падняўся з шклянкаю ў руцэ і падблізіўся да сьценкі; так, якаясьці дзяўчына. Хто яна? Ён матнуў рукою, пасьмяяўшыся з сябе за руплівую цікавасьць, і адышоў. Але тут-жа навярнуўся яго выабражэньню вобраз Ганны... Яскравы, напружны... Рыгор адчуў, як нядаўнія об'екты яго думак мігнулі дзесьці ў нявыразнасьці і адапхнуліся выглядам Ганьнінага твару. Дзе яна зараз? Перапісвае формы? Ці, можа, бастуе? А вось няўшманкі стукне дзьвярыма і апынецца ў яго пакоі? Няхай-бы...

Ён паглядзеў навакола сябе—было яксьці няпрытульна. Негасьцінна. Накідана паперы, нацярушана на стале. Няўжо гаспадыня не прыбірала?

Рыгор дапіў гарбату і наліў новае. П'ючы, успомніў пра лісты: трэба напісаць мацеры, Сёмку, Сролю. Выбухнула ахвота да пісьма—і, здаецца, пісаў-бы многім, многім... Гэтулькі ёсьць аб чым пісаць... Сроль, Наталя... Ды дзе-ж яны абое? Сролеў адрас мэрам-бы ў Рыгора меўся... Толькі дзе ён яго запраторыў? Рыгор падышоў да сьцяны, дзе вісела жукетка, выняў з кішэні нататку і пачаў гартаць. Няма! Ня было і Наталінага. Цікава, аднак, дзе-б магла быць Наталя!

— Можна падабраць пакой?—запытала з калідору гаспадыня.

— Прашу вас.

Гаспадыня ўвайшла з анучкаю ў руках, руплівая і вёрткая.

— Што-ж вы сёньня дома ўвесь дзень?—запытала Рыгора:—ужо-ж забастоўка скончана.

— Так, скончылі,—задуменна адказаў Рыгор.

— Пара, пара ўжо, годзі-ы... баламуціць сьвет...

— Вы супроць забастоўкі?..

Рыгору хацелася хутчэй адвязацца ад гаспадыні—яна прышла ня к часу. Праказаўшы, ён папрасіў прабачэньня і вышаў з пакою. Бязмэтна прайшоў на кухню, адчыніў дзьверы і паглядзеў на сходы. І калі вярнуўся да сябе—гаспадыня прычыняла дзьверы.

— Калі ласка, ужо гатова,—праказала яна і шмыгнула на кухню.

Рыгор пасьпешна кінуўся да стала і хапіўся пісаць лісты. Першы—мацеры ў Сілцы. Кароткімі, нязьвязанымі сказамі, бяссыстэмнай навязкай думак—сьпісаў дзьве палавінкі пісьмовага аркушу і палажыў у кабэрт. Сьледам—ня болей Сёмку. Мацеру суцяшаў і абяцаў падмогу, у Сёмкі прасіў падрабязнага апісаньня сілцоўскіх падзей. Хопіць? Гэта Рыгора не заняло, бо, нарэшце, ён схамянуўся і стаў рымсьціць наведаць Пятруся... „Сапраўды, амаль ня цэлы дзень у хаце! Мажліва, Пятрусь ужо аб'ехаў горад і назьбіраў процьму навін... А тут і газэты ў руках ня было“... Рыгор заварушыўся; мігам адзеўся, забраў напісаныя лісты і стралою вышмыгнуў з пакою.

Рыгор быў на двары, калі Рыма перагарадзіла яму дарогу да варотцаў.

— Рыгор, я да вас!—палахлівым голасам праказала яна.

— Калі ласка. Пойдам наверх.

— Не, тут... Я з сумнаю навінаю да вас... Ці вы ня чулі хіба?—перарыўна пытала Рыма.

Рыгор вытарашчыў вочы і ўпарта паглядзеў ня дзяўчыну.

— Якія навіны?

— Учора вечарам... Пятруся арыштавалі... Я толькі з яго кватэры—проста да вас...

— Пятруся арыштавалі!.. Што за праява!—устрывожыўся Рыгор.—Што вы кажаце? Ґм? Як-жа быць? Як і што? Раскажэце...

— Так, вось... Учора а дванаццатай гадзіне ночы, а можа пазьней прышлі на кватэру і... А сёньня абвешчана ваеннае становішча... Чаго добрага...

— Вы былі ў яго на кватэры?

— Не, гаспадыня прыбягала да нас...

Зьнянацкая навіна Рыгора ашаламіла. Арышт Пятруся—нёс з сабою цэлы шэраг зьмен нядаўна апрацаваных плянаў, перакомбінацыю стасункаў у штодзенным жыцьці. І разам з гэтым сьведчыў аб разьнятым паліцыяй наступленьні на рабочых.

— Цікава, пры якіх абставінах гэта адбылося!—казаў ён Рыме:—Мо'-б нам наведаць гаспадыню кватэры?

— Ласьне ад яе выпытаеш? Гэта-ж зараза—не чалавек... Што-ж, прыедзеш на кватэру...

Яны вышлі з двара і пайшлі на Мурынскі проспэкт. Па дарозе Рыгор апусьціў у скрынку лісты. Праз поўгадзіны яны стаялі перад брамаю

дачы, у якой жыў Пятрусь. Гаспадыня Пятрусёвай кватэры загледзела іх з вакна і падала вокліч:

— Выбачайце, вы да Пятруся? Яго няма дома.

Рыгор з Рымаю спыніліся і паглядзелі на гаспадыню.

— Даруйце, нам трэба да вас,—праказаў Рыгор.

— Да мяне, гм...—гаспадыня завярцелася на бальконе і ўбегла ў пакой.

Яны прайшлі ў двор, узышлі на ганак і пазванілі.

— А дзе Пятрусь?—у прачыненыя гаспадыняй дзьверы запытаў Рыгор.

— Пятрусь учора ноччу арыштаваны. Я-ж паведамляла іх,—поўшэптам паведаміла гаспадыня, паказваючы на Рыму.—Вось я лічу, што і вам небясьпечна сюды наведваць.

Гаспадыня намерылася зачыніць дзьверы. Рыгор яе перапыніў:

— На хвілінку,—дазвольце нам зайсьці ў яго пакой... Можа часамі...
Гаспадыня крыху памаўчала, пасьля запытала:

— А гэта для чаго? Не, я ня маю права вас пусьціць туды... Кватэра запячатана...

— Ну, мы-ж просім. Мажліва, Пятрусь што-кольвечы катораму з нас пакінуў...

— Я нікому нічога ня выдам, хоць і пакінуў,—настойвала на сваім гаспадыня.

Але яна ня выявіла актыўнага протэсту, калі Рыгор самавольна пераступіў парог на ўсходы. Саступіўшы ў бок, гаспадыня моўчкі прапусьціла наперад сябе Рыгора з Рымай, а сама пайшла за імі.

Усе ўтраіх падняліся ўгору і прайшлі да Пятрусёвага пакою. Гаспадыня спакойліва адамкнула дзьверы і праказала:

— Вось, як пакінуў, так і ёсьць... Прасіў прыберагчы ўсё гэта... Я прыберагу, як бачыце...

Рыгор з Рымаю ўвайшлі ў пакоік і агледзелі наўкола. Ляжала незасланая пасьцель; на сьцяне вісела будзённая вопратка. З буфэціка-шафкі выглядала неўпарадкаваная пасуда. На стале былі раскіданы кніжкі і газэты. На відным месцы з асяродку белага поля паперы выглядала мужная галава правадыра францускіх соцыялістых—толькі што забітага Жана Жорэса.

— Жан Жорэс?—з трывогаю ў голасе запытала Рыма.

— Ён... Ахвяра цёмнае сілы,—адказаў Рыгор і павярнуўся да выйсьця.

— Пятрусь вам заплаціў за пакой?—запытаў Рыгор гаспадыню.

— А ў нас свае разьлікі; не пасварымся... Абы, бог даў, ён вярнуўся,—адказала спагадліва гаспадыня.—Ня можа-ж ён доўгі час быць арыштаваным.

— Мы ад сябе папросім—прыберагчы што ёсьць Пятрусёва,—папрасіў Рыгор.

Гаспадыня правяла іх да дзьвярэй і запэўніла:

— У мяне нічога ня згіне, абы... Бывайце...

Ĭ яшчэ ня змоўк гаспадынін голас за дзьвярыма, як з вуліцы варваўся на ўсходы зычны голас газэтчыка:

— У Кіеўскай акрузе абвешчана мобілізацыя трох узростаў... Француская войска адпраўлена на ўсходнія граніцы рэспублікі...

Яны накіравалі ўсьцяж вуліцы, на пагрозны, няўмочны пярэкліч газэтчыкаў.

*(Працяг будзе)*

# СЬМЕРЦЬ МУЖА І ЖОНКІ ПІВОДАВЫХ

*Апавяданьне*

**Язэп Гора**

I

Бацька сям'і Годзінаў быў задоўга да вайны вучастковым лекарам у глухой вясковай краіне. Яго высокія гаспадарскія боты таптаі на працягу дзесяцілецьцяў балотныя дарогі і мокрыя межы, якімі ён хадзіў да цяжкіх пацыентаў—цяжкіх, бо лёгкіх ня было. Краіна была вільготная, доўгімі гадамі пакрыта імглою, радзіма доўганогіх буслаў, багатая на рэдкае жыта, бульбу і жабы. Увесь сум гэтае краіны асядае ў возера, між узгоркамі і лясамі. Здаровыя і хворыя былі негаваркія, толькі алькоголь у часе фэсту і пасьля хаўтураў разьвязваў ім вусны. Доктара Годзінава больш любілі, чымся настаўніка і панскіх службоўцаў, і мо' толькі таму неахвотна плацілі, што любоў ад грошай гіне.

Хатнюю гаспадарку гадамі вяла лекару яго малодшая сястра. Былі яны з роду князёўскіх службоўцаў, сем'і якіх ніколі ня мелі зносін з жыхарамі малога мястэчка, і Тэрэза пасьля сьмерці бацькоў убачыла, што апрача хатняе абстаноўкі і твораў Шылера не засталося пасьля іх нічога. Перабралася дзеля гэтага да брата, які толькі што асталёўваўся на далёкай вёсцы, але не адчула перамен у жыцьці. Калі-б ня было яе чужых, цёмных вачэй, якія ўмелі пазіраць строга праз галавы братавых пацыентаў, то доктар не дачакаўся-б, мабыць, ніколі грошай ад сваіх даўжнікоў, прозьвішчы якіх дзеля свае нядбайнасьці забываў. Сядзеў ён ахватней ля вакна са сваёй флейтай, і яе гукі, якія Тэрэза ненавідзела, расьцьвіталі, як шчуплы кусьцік над бескаляровымі днямі.

Адзіным доктаравым прыяцелем быў багаты гаспадар Півода, з якім калісьці ён разам вучыўся.

— Каб мяне чэрці ўзялі, дарагі сябра, зноў ужо мяне гэтае сваё сумнае дрэва прыцягнула,—гукаў ужо пад вакном, з праскімі часопісамі пад пахаю і з шырокім патрыятычным гальштукам над вычышчанай сьвіткай, з якое выраслі ў яго сялянскія валасатыя рукі. Калі сядзеў адзін у пакоі з доктарам, размахваў у ўзбуджэньні, абураўся на венскі парлямант і, успамінаючы шэсьцьдзесят шосты год, праклінаў прусакоў. Але пры зьяўленьні Тэрэзы яго рукі асьцярожна хаваліся ў доўгіх манкетах, і яго гутаркі а палітыцы трацліся ў няпэўных зірках на яе.

Доктарава сястра мела на магутных плячах дзіўна вялікую голаў з арліным носам, непадатны лоб і ў вачох нейкую абаронную сьцяну проці людзей. Калі-ж яны пабраліся, дык гаварыў ёй Півода жартамі—Марыя-Тэрэза, аднак, ніколі ня ведаў, ці злуецца яна за гэтае імя, ці яно лесьціць ей. І доктар Годзіна ня мог адгадаць,—ідзе Тэрэза за Піводу з любашчаў ці з нуды.

Яе шылеравыя творы ў скураных вокладках перасяляліся ў суседзтва да піводавае гісторыі Палацкага, і доктар ажаніўся з дачкою свайго конкурэнта ў суседнім раёне. Мелі яны толькі адно дзіця, сына Гэнрыка.

Шлюб Піводавых ня быў шчасьлівы. Півода, найзаможнейшы гаспадар у вёсцы, запісаў на імя свае жонкі палавіну двара, ня гледзячы на тое, што яна прынесла ў пасагу ўсяго некалькі тысяч, якія ёй даў на вясельле брат. Ня чытала з ім яна газэт, ня ўмела захапляцца разам з ім сутычкамі чэхаў з немцамі, і нават тады, калі ён марыў аб дзіцяці, гладзячы яе чорныя валасы, што сплывалі ўніз па падушцы, пазіралі яе вочы неяк чужа ў цемру, і Півода адчуваў, як жаночае цела побач з ім, поўнае кіпучае крыві,—усё-ткі ўхіляецца ад яго самых натуральных жаданьняў. Аднак пакахалі яны абое Гэнрыка, доктаравага сына. У сялібе ніколі ня было ціха, коні іржалі ў стайні, на двары скрыпалі вазы, галубы вылятаді з высокай галубоўні і дзяўчаткі пялі квола ды жаласна, як на злосьць пані, якая іх увесь час мяняла, а тымчасам дома была хваравітая маці і бацька, што ўсё таўсьцеў і не згаджаўся нават дзеля сына зайграць на флейце, якая адна ажыўляла прастору дому і выганяла з яго цені гэтае цішыні.

II

У часе сваіх вучоных заняткаў памёр Гэнрыкаў бацька, і ў 1916 годзе, хутка пасьля сканчэньня сярэдняе школы, Гэнрыка забралі ў войска. Нічога страшнога ў гэтым ня было. Толькі маці плакала і прадчувала, што сына ўжо не дачакаецца. Гэнрык перажыў цярпліва вайсковыя муштры і калі везьлі транспорт на поўдзень праз альпейскія горныя сьцягі, яго сэрца радавалася, лёгкадумна імкнучыся насустрач гарам і марам, да якіх ехаў.

Альбанія... Ёсьць чароўныя словы, што ап'яняюць дух ды іскрацца ў мазгох, як фата моргана. Магла гэта быць таксама Сахара, Мэхіка альбо мог быць і Парыж. Але ўсё-ткі была толькі далячыня, усьцяж новыя небасхілы, усьцяж новыя людзі; новыя небасхілы і новыя людзі якраз у час, калі мужчынскае цела адчувае найдалікатнейшыя датыканьні хвілін, калі кожны гук стае незабыўнаю маемасьцю сэрца, адвечнай крыніцай уражаньня. Пакінуты запыленыя падручнікі і профэсары, перапалоханыя кепскай вучнёўскай пільнасьцю, распаліся межы тае прасторы, якую ўсё больш і больш нецярпліва перасягалі Гэнрыкавы вочы, прайшла няпэўнасьць хлопца, які ня ведае, ці цешыцца з жыцьця, ці баяцца яго—

і хоць была жорсткасьць, уласьцівая вайне, хоць далёкае грукаценьне гармат наводзіла жах—гэта нічога ня значыць. Сьвет кніг, у якім ён таптаўся на месцы, адважная гульня нязьлічоных зьмен лёсу, зьбег усіх паняцьцяў людзкога духу, мігаценьне невядомых вобразаў—усё гэта заставалася дома толькі на далёкім небасхіле фантазіі—але тут, прывітаньне табе, вайна! цела баліць ад цьвёрдай падлогі, зьяўляецца патрэба пры сьвечцы вывэрачваць швы кашулі, мыт мае мяккае імя, але робіць страшэнны смурод, і словы мужчын цякуць з вуснаў, як памыі, а ў іх вачох зьзяе зорка забойчае варожасьці ці вар'яцтва, хай.

На гары над пристанаю, ля замаскаванага рэфлектара, ляжыць Гэнрык з выведкай і, сыты ўжо ўражаньнямі ад бомб, чакае начы. Некалькі цыпрысаў шуміць у зьмяркань‌ні. На сьпічастай верхавіне аднаго з іх гойдаецца месяц. Яго срэбра разьлілося доўгімі палосамі на моры, на дне якога сьпяць вайсковыя караблі. Начальства чакае атакі аэропляў. У панурым сьвятле месяца ляціць Капроні[1]), як вялізны кажан. Цыкады ня спыняюць свайго сьпеву, цэлы вечар праходзіць у нейкім трымценьні, нават і яшчаркі ня сьпяць.

— Хто выйграе,—азываецца ціхі голас з-пад хмызьняка.—Уяві сабе, што адна толькі Амэрыка мае сто мільёнаў жыхароў. І гэта—не расійскія мужыкі, якім на д'ябла здалася гэтая вайна. І галоўнае—яны маюць што есьці. А ў нас...

— Ды яшчэ, каб мы мелі сваю ўласную дзяржаву,—пераскаквае на іншую думку другі голас, і Гэнрык кусае раптам пальцы, каб ня крыкнуць.

Большасьць жаўнераў, нават усе, цешацца думкай вярнуцца дамоў,—там цёплыя печы і пакінутыя рамёствы, плугі, што чакаюць іх надзейных рук. Гэнрык мае пісульку ад маці, сумныя нараканьні на недахваткі, на нябожчыка бацьку, які ня ўмеў берагчы грошы, клопаты аб будучыні сына. Будучыня,—усьміхаўся Гэнрык,—усё будзе іншае, цалкам іншае...

У скадарскай кавярні зірнуў ён у люстэрка і ў цьмяным, напоўпамутнелым шкле ўбачыў раптам іншага Гэнрыка. Таго, на каго ўтаропіла цяжкі, палкі ўзрок маладая жонка заўсёды п'янага маёра,—мужчыну Годзіну, дзяцюка з арліным носам на шырокім твары, з чорнымі валасамі, адным словам, Тэрэзу, Марыю Тэрэзу. І калі прыжмурыў мімавольна вочы, зьявілася ў іх маёрава жонка і напоўніла ўсё яго цела.

## III

Удава па лекару Годзіне памерла хутка пасьля вайны. Гэнрык, мобілізаваны процi мадзяр, прыбыў у 1919 г. ў Прагу і ўбачыў, што ня так лёгка знайсьці сабе працу ды пражывіцца. Дзядзька Півода дапамог яму крыху грашыма і яго рэкомэндацыя да знаёмага пасла мела ўрэшце посьпех.

[1]) Фірма італьянскіх аэроплянаў.

Штораніцу хадзіў Гэнрык у дзяржаўную ўстанову, і незнаёмыя вуліцы, цішыню якіх разрывалі аўтомобілі сваім трубным гукам, зьнікалі толькі паступова з яго думак, ён ужо бачыў іх хаднікі, мокрыя ад веснавое вільгаці або высланыя апалым увосень лісьцем акацый,—ходзячы гэтымі вуліцамі да канцэлярыі і назад.

Прага—гэта перш за ўсё кнігаводнае бюро. Ёсьць урадоўцы, якія там ходзяць, як у сябе дома, мераюць час паводле адслужаных гадоў і калі хто ў іх запытаецца аб даце якое-небудзь падзеі, дык паскрабуць перш за ўсё ў сябе за вушыма. Пачакайма. Ага... гэта было тады, калі атрымаў першую пяцігадовую прыбаўку. У канцэлярыі распранаюць шпацыровыя сурдуты і надзяюць чорныя блюзы, не забываючыся часта нават і на пантоплі. Змоўклі грымоты гармат і крыкі рэволюцыі.

Годзін адшукаў сабе ў прадмесьці малы пакоік і ўбачыў, што плата за гэты пакой становіць чвэрць яго месячнага даходу. Але за адзіным вакном пакоіку ляжалі вольныя палі з далёкай пэрспэктывай, і гаспадары ніколі не турбавалі кватаранта. Толькі часам яго наведваў гаспадар кватэры, заўсёды ў форме памочніка ўрадоўца электрычнае дарогі і, пераходзячы ад пагоды да політыкі, падкрэсьліваў яму выгоды організацыі.

— Неорганізаваны чалавек—мёртвы чалавек. Нават сабака не забрэша з жалю аб яго сьмерці. Чым-бы быў я цяпер, напрыклад, без організацыі. Да сягоньня я мог-бы месьці вуліцы—не зважаючы на ўсю маю інтэлігентнасьць, і нічога благога тут няма, пане Годзіна. Чаго няма сягоньня—тое можа быць заўтра. Аднак пераканаецеся.

У бурай паперы ляжала на стале Гэнрыкава вячэра. Дзьве каўбаскі з кавалкам хлеба. Вочы памочніка ўрадоўца каўзануліся па гэтым заціш-ным абразку, які дапаўняўся кішанёвым складанчыкам, прывезеным яшчэ з Альбаніі, і мо' ў гэтых вачох зьявілася хутчэй спачуваньне, чым насьмешка. Але зараз-жа вочы апусьціліся, хаваючыся ад гнеўнага выразу Гэнрыкавага ўзроку.

— Патрабую я,—кіпела ў ім,—твайго спачуваньня, дурань, і тваіх радаў, лавец душ. Організаваць. Організаваць. Вы зорганізуеце ўсё на сьвеце, бо баіцеся быць адны. Дваццаць чалавек зіркае на рыбаловаў ля Ватавы і ўжо ёсьць тут адзін, што раздае пасьведчаньні. Організаваць жывых і мёртвых, і разьнікоў і цялят, і бога і атэістых, каб ніхто ня меў часу задумацца і жыць паводле таго голасу, што гучыць у ім.

Калі яшчэ зайшлі з Вабажылам, Гэнрыкавым сябрам па ўстанове, у цёмны сад, паднімаўся ў Гэнрыку протэст проці гаспадара кватэры.

— Але гаспадар мае рацыю, Гэнрык. Бач, я маю таксама пасьведчаньне і таму сьмяюся з усяе гэтае організацыі. Гэта толькі—стайня з нізка апушчаным жалабом, цэлая гэта партыя, і не праходзіць месяца, каб з яе ня вываліўся які-небудзь бруд. Але і ў іншым месцы ня лепш, а недзе чалавек мусіць быць, каб схавацца. Я ў партыі нашага начальніка і чаму-ж бы мне там ня быць. Пагарджаю ім у сваіх думках. А ці

думаеш ты, што твой індывідуалізм больш дасканалы. Сам у сабе ты мусіш рабіць столькі компромісаў, колькі якая-небудзь організацыя, па сваёй волі жыць ты ўсё роўна ня можаш.

— Індывідуалізм,—раскрычаўся Гэнрык, аж за імі аглянуліся з рогатам дзьве дзяўчыны, мінаючы іх,—я не зьяўляюся індывідуалістым, я люблю, магчыма, тых убогіх людзей больш, чымся вы ўсе разам, я-ж адзін з іх.

Толькі ў рэсторане пад дрэвамі, якія зьзялі ў штучным сьвятле, як тэатральныя кулісы, дачакаўся Вабажыл канца Гэнрыкавае абуранае прамовы.

— Ласьне тут маю месца сустрэчы з дзьвюма дзяўчынамі,—заявіў ён, адчуваючы сябе лягчэй,—і мне ты патрэбен: каб бавіць другую,—дадаў з простадушным самалюбствам. Гэнрык прыняў адсутнасьць шчырае адданасьці з боку сябра з надзвычайным супакоем. Пасьля дзівачнага выступленьня супроць ветракоў, г. зн. нейкіх там організацый, захацелася яму музыкі, што грала ў садзе.

Вабажылавыя знаёмыя сядзелі ўжо ля стала з каляровым марожаным перад сабою.

Галена Тэсаркова была Вабажылавай сяброўкай. Прывітала Вабажыла шчырым сьмехам вялікіх белых зубоў і ўдзячным узрокам. Адразу Гэнрыку абрыдла. Яе плячо нахілялася да Вабажыла лёгка і без дрыганеньня, яе ўсьмех гаварыў бяз душэўнага палу: я—тваё малое мілае кацянё.

Цёмныя, як вадзяная роўнядзь, непразрыстыя вочы Соні Шэдзівай нагадалі адразу Гэнрыку знаёмы воблік. Дзе, у які момант жыцьця. Ах, так... гэтыя цёмныя, чужыя вочы належалі да яго цёткі Тэрэзы, і оказія, гэтая факторка лёсу іх нахіліла над сталом, ля якога ён сядзеў якраз у такі вечар, чыё несупакойнае зьзяньне патрэбна гэтым вачом, каб яны зіхацелі нехаця і гаварылі за вусны, што адкрываюцца для абы якіх гутарак. Оркестр за зялёнай заслонай іграў як быццам здалёку, толькі як-бы нейкую інтродукцыю да дзеі, што разгортваецца пад дрэвамі, а рака шумела і дыхала холадам.

Што ведаюць каханкі, якія словы ў іх зьляталі з вуснаў пры першым спатканьні.

Было ўжо позна ісьці ў кіно. Вабажыл, шчасьлівы прыхільнасьцю сваёй дзяўчыны, запрапанаваў пасяджэньне ў вінярні.

На зьдзіўленьне Галены Соня згадзілася. Гэнрык, наліваючы ёй з вузкае бутэлечкі белага віна, засьмяяўся і пачаў апавядаць аб Альбаніі ды Далмацыі. Аказалася, што Соня была ўлетку на поўдні, і ў іх гутарцы аджывала белае морскае ўзьбярэжжа, мёртвае і трагічнае ў яго ўспамінах і прахалоднае, поўнае жагеляў на небасхіле і летніх прыемнасьцяй ва ўспамінах Соні.

Сьвет малы і вусны тых двох людзей, што дагаварваюцца, знаходзяць у сваім духу столькі супольных рэчаў, вобразы якіх лётаюць між

імі, як мячыкі двох тэнісных гульцоў. Галена, чыя прыхільная ласка пад соладка прыплюшчанымі вачыма поўнае брунэткі не патрабавала лішніх слоў, сачыла з цікавасьцю за сваёй сяброўкай.

— Зірні, Вашо, яны адзін у аднаго закахаліся. Зусім з першага-ж погляду. Хто-б гэтага мог спадзявацца ад нашае халоднае Соні.

— З гэтага ня будзе нічога добрага. Ён—блазан,—адказаў ёй Вабажыл з неспакойнай інтонацыяй у голасе.

— Думаю, што ты яму не зайздросьціш?—і Галена зазірнула ў яго твар.

— Блазновачка ты!—бараніўся Вабажыл і апусьціў сваю руку на яе талію. На вуліцы было цёмна і веяў душны вецер.

IV

— Соня—расійскае імя і вашы вочы зманныя, як тая невядомая краіна. Імёны тых, што былі перад вамі, я забыў. Адно мела кшталт грудзей, а другое разьвявалася па ветры, як валасы даўнейшых жанок. Ведаю толькі імя свае маці—яна ўжо памерла—і імя свае цёткі, якое гучыць: Марыя-Тэрэза. Яно нагадвае мне бляск панцыраў і мечаў у музэях. Кахаў я вайну.

Сэрцы ў жанок ёсьць хутчэй ліськлівыя, чымся ваяўнічыя. Соня ўявіла сабе, што ёй хочацца даць аплявуху чорнаму Гэнрыку і ўкусіць яго за цьвёрдыя губы,—яго рукі ахапілі ўжо аднойчы ўвечары яе плечы, а іх ногі прыціснуліся, і яна ўся ўсхвалявалася ад вострых грудзей аж па круглы жывот, бяз слоў каханьня і бяз дыханьня. Сьцерпела ўсё да канца, нават і тады, калі, падняўшыся, адкрыла вочы і бачыла, як на яе Гэнрык нацэліў малую чорную рэч, якая была фотографічным кодаком, каб ёю яшчэ і так заваладаць.

— Вёсны хлусяць вачом аб нябесным бляску пачуцьцяў, якія пышна матэрыялізуюцца ў сутычцы дзьвюх усьмешак. Мы маркотныя анёлы, Соня. Але з усяго на сьвеце мы найбольш шалёна любім сваё цела. Ціхія словы ў змроку ўплываюць на цялесныя пачуцьці, як датыканьні рук. Ты—мапа сьвету, поўдзень, поўнач, твае рэкі і твае ўзгоркі...

Яна наказвала яму, каб маўчаў, і баялася. І ён ведаў, што яе халодныя, непразрыстыя вочы былі толькі вэлюмам для яе страху.

— Божа ты мой, мы-ж таксама былі маладымі,—балбатаў Гэнрыкаў гаспадар,—бачу, як вы ходзіце з паненкай у парку, ідзе восень і яшчэ застудзіцеся. А дома ў пакоі вам было-б цёпла.

Соня ступала па сходах з вачыма, пакрытымі сорамам, як быццам нейкаю павязкаю. Яна ня стыдалася за сябе, але ёй было ніякавага перад гаспадыняй дому. Гэнрык спасьцерагаў, аднак, што ў блядым зіхаценьні кахлёўкі, якая ў поўзмроку палівае цела нейкімі зваротнікавымі адценьнямі колераў, Соня кахае яго мацней, называючы яго больш даверліва сваім любым, і ягоная цікавасьць рабілася мацнейшаю сястрою каханьня, усё... усё... дык гэта ўжо ўсё?

Лежачы побач яе, стомленае і зьлёгку ўпацелае, ён прыціскаў лоб да яе грудзей і стараўся чытаць у яе дыханьні ўсе хваляваньні яе пачуцьцяў. На пэўныя бязвольныя выгіны Соніных суставаў, лёгкія, як трымценьні лісьцяў, ён адказваў сьмелымі пацалункамі, на іншае—павольным злучэньнем і потым у часе новых сударгаў выпадаў, як злодзей, што крадзе чужыя таямнічныя скарбы, але мусіць...

Умеў нарэшце ўгадваць усе мігценьні яе пачуцьцёвасьці, і, калі яна сядзела ля яго са зложанымі рукамі ля вакна, за якім парк ахінаўся ў змрок,—адчуваў сябе яе акрутным двайнікам, які думае за яе, і перахапляў рытм яе думак. І калі аднойчы яна прышла і, нічога не гаворачы, уселася зноў ля вакна, звыклая ўжо да таго, што ён дачытвае газэты або выконвае якую-небудзь работу,—то ён зразумеў, што цішыня, якая павявала ад яе, мае скрыдлы жаху. А была ўжо вясна, увечары знадворку яшчэ пяялі птушкі, разносячы дыханьне парку далёка над горадам.

— Цяжарная.

— Ты...—але не дагаварыў усяе жорсткасьці пытаньня, палахлівага і цікавага.

— Але, я цяжарная.

Кроў прылівае час ад часу да галавы і зьвініць у вушшу. Дагэтуль, якая была яму справа да ўсяго гэтага; мала таго, што жыў з платы падзёньніка, але яму ўжо ў установе напамянулі аб тым, што, калі прыйдзе звальненьне служачых, прадугледжанае законам аб экономіі, то ён будзе з першых, хто будзе змушаны шукаць сабе іншае месца. Што яго абыходзіць, як жыла дома Соня. Яна была яго... А ўсё-ткі яна дачка адвоката, будучага прэзыдэнта капіталістычнага трэсту, які, хаця дазваляў сваёй дачцы быць канцэлярысткай у міністэрстве, аднак, ніколі-б ня даў ёй дазволу на шлюб з нязначным канцэлярскім урадоўцам. І тое, што апавядала Соня аб сваёй маці, аднэй з вышэйшых кіраўнічак Чырвонага крыжу, нэўрастэнічнай каталічцы, якая ніколі ня гутарыла з дзяцьмі...

Пот яму зьвільгоціў скронь і, абняўшы Соніныя калені. Гэнрык цалаваў яе зьвялыя рукі. Але калі ён спрабаваў пранікнуць у яе маўчаньне, уцяміць усю моц яе распачлівасьці,—Соніна рука, выкаўзнуўшыся ад яго, упала лёгка на яго галаву і з сорамам ён пачуў:

— Небараку. Да чаго я цябе давяла... і ведала, што маеш сам столькі клопату, што, мабыць цябе зводьняць... а я была такая палкая, ні аб чым ня дбала, толькі гэткую долю наклікала.

Унізе пад вокнамі загучэлі крокі чужое хады. Ішлі аднекуль некуды, парушаючы цішыню вечара, вуліцы, месца, якраз гэтак, як Соніны словы парушалі Гэнрыкавыя думкі. У такія хвілі здаецца, што мы адчуваем найбольш інтэнсыўна, што перад намі адчыняюцца нячутна дзьверы і мы бачым усе пакоі, дзе на мэблі гніе пыл нічым не закранутых гадоў.

І Гэнрыку здаецца, што ён павінен-бы думаць, здагадвацца, схапіць у жменю аброці перапуджаных коняй. Але нічога гэтага няма. У галаве тупа. І толькі адзінае адчуваньне, незалежнае ад зроку—адчуваньне, што зьмяркае.

У яго вочы плывуць вобразы, што паглынаюць у дзіўным вярчэньні кругі жыцьця. І кожны рух ног, кожны рух сьвятла ды слоў разьбіваюць з грукатам нейкае нябачнае шкло, якое нас аддзяляе ад рэчаў, шкло радасьці, асалоды, бясьпечнасьці, законаў, няшчасьця... Мы—зблытаны натаўп сярод сьцен, што рассоўваюцца ў розныя бакі, і няма на што абаперціся. Слова: д з і ц я—імгла, і з гэтае імглы выплывае воблік лекара. Сьцюдзёны прыймовы пакой, мэталёвая ванначка, у якой варацца бліскучыя прылады. Калі вочы каханкаў сустракаюцца, яны пытаюцца маўклівымі вуснамі. А іх пальцы, моцна сьціснутыя, тыя пальцы, што столькі разоў блудзілі па гладкім целе, ведаюць раптам болей, чым слаўны і пышны розум. Надышла хвіля, калі гэтыя пальцы будуць змушаны сьціснуцца з роспачы ў кулакі, каб абое не закрычалі, ня крычалі... Ты—мапа сьвету, поўдзень, поўнач, твае рэкі і твае ўзгоркі. І сярод зямлі цягнецца чырвоная і крывавая рыса, глыбокае рэчышча раны, праз якое адыходзіць горкае жыцьцё...

## V

Соня пайшла да лекара.—„І цяпер... дома будуць думаць, што я паехала да прыяцелькі на вёску“. Ляжала два дні ў Гэнрыкавым пакоі. Асьлепленыя відовішчам гарачае крывянное цечы і бліскам хірургічных цацак, яны маўчалі. Калі Гэнрык пайшоў у канцэлярыю, Соня папрасіла перапалоханую гаспадыню даць ёй паперы і аловак. Усьміхнулася толькі крыва і жаласна, адчуваючы за сабою спагадны ўзрок добрай жанчыны.

Пані Шэдзіва ўвайшла ў пакой якраз, калі Гэнрык прытрымліваў Соню рукою ззаду, а другою нахіляў кубачак з чаем да яе вуснаў.

— Досыць вам ужо і таго, што вы яе кахалі, але мы маем з Соняй іншыя мэты,—пане Годзіна.

Людзі з добрага грамадзтва ня крычаць і дагаварваюцца ціха. На вуснах кіраўнічкі Чырвонага крыжу блудзіла задзёрыстая пагарда толькі як нявыказаная, але тым больш рачаісная думка.

Гэнрык адразу ўжо ведаў, што тут няма ніякае патрэбы высьвятляць што-колечы. Узрок дамы, што нават не зьняла рукавічак, выяўляў, што халоднаму розуму буржуазкі было ў адну хвіліну ясна ўсё. І нізкі грамадзкі стан Гэнрыка, і няўхільнасьць разлучыць з ім Соню назаўсёды.

— Досыць, проша. Будзе найлепш скончыць усё хутка. Самі вы ведалі, што Соню ўзяць за сябе ня можаце. Інакш вы-б яе не давялі да гэткае небясьпекі, што пагражае нават яе жыцьцю. Не гавары, Соня, не стамляйся. Дамагаюся тваім імем ад пана Годзіны, каб ён вярнуў корэспондэнцыю.

Соня маўчала. Гэнрык не разумеў выразу яе жоўта-блядога твару. Так, калі яго ўзрок прымусіў дзявочыя вочы да апошняга спатканьня, то знайшоў у іх толькі просьбу аб капітуляцыі. Лежачы ў кепска вымытай начной кашульцы Гэнрыкавае гаспадыні, у якую з вялікай цьвёрдасьцю былі ўтароплены матчыны вочы, Соня не магла не паддацца. Маўчала.

Калі Гэнрыка папрасілі, ён пайшоў і па аўтомобіль. Засталася пасьля Соні толькі чырвоная пляма на пасьцельнай бялізьне і ўспамін аб перапалоханым узроку, утоены ў чатырох сьценах.

Мужчыну, які застаўся адзінокім, можна прайсьці пяць, дзесяць, пятнаццаць кілёмэтраў. Ідзе вуліцамі прадмесьцяў, поўнымі дзяцей, апынецца між палямі, каменаломнямі ды цагельнямі, і калі вернецца дамоў, аддаліўшыся ад сьветлавое сымфоніі вуліц, то прывітае яго ложак, перасланы ў яго адсутнасьць.

VI

Сон паказвае нашы дні ў вобразе шляхаў і вядзе нас за рукі праз цемру несьвядомасьці ў чужы сьвет.

Соня ідзе з Гэнрыкам густым лесам да берагу яснага возера. Праўда: возера—яснае, але іх вочы ледзь бачаць. „Сядзь—перавязу цябе“.

На ўскраі вады сядаюць у човен. Соня, адвярнуўшыся ад яго, пускае траскатлівы мотор, і човен нясе іх па вадзянай роўнядзі. Зоркі плывуць у вадзе, як рыбы, і ў чароце на беразе шэпчуць сотні галасоў.

— Таксама мы паміж сабою шапталіся калісьці.

— Але цяпер мусім маўчаць, бо патаміліся,—адказвае Соня.

Ля другога берагу Гэнрык асьцярожна паднімаецца, каб не раскалыхаць човен, але калі хоча падаць руку Соні, пераконваецца ў тым, што гэта ня Соня, а стары перавозьнік у сіняй кашулі, пад якою бялее цьвёрдае тоўстае трыко.

Цяпер зусім цёмна. Грукат мотору сьціхае сярод возера, і Гэнрык, седзячы на камені пад адвіслаю сасною, чые карэньні лезуць у ваду, як вужакі, разважае ўпарта, дзе ён. Дзе знаходзіцца?—і пот мочыць яго твар і падае кроплямі ў вусны.

Гэта дзіўна, найстрашнейшымі снамі зьяўляюцца тыя, у якіх мы блукаем і ня ведаем, дзе мы знаходзімся. Добра, што гэта толькі сон. Але не ўдаецца яму прачнуцца, хоць магчыма, што ён і ўспамінае, як ужо аднойчы блукаў у сьне на вялікім вакзале між сотнямі чыгуначных каляй. І ўстае, ідзе перш за ўсё на гару, пад якою глыбока чуе плясканьне хваль, як у часе вайны ў Альбані ды Далмацыі, а потым па калдобінах лагчыны, у якой ударaецца аб пяшчанікавыя глызы. Бог ведае, куды хадзіў, але раптам стаіць перад варотамі, якія, здаецца, яму знаёмыя. Пад варотамі скуголіць сабака і рвецца канечна прэч.

— Ну, але-ж ты дурное шчанё,—кажа Гэнрык і адчыняе фортку, каб пусьціць старога сабаку.—Чаму ты за гэтыя гады не навучыўся ўскок-

ваць на клямку і сам адчыняць дзьверы. І ўжо адчувае вільготную морду ў сваіх далонях, а потым на сваёй барадзе і пачынае плакаць, бо пераконваецца ў тым, што знаходзіцца на дварэ ў Піводаў і што ўжо ня можа заблудзіць.

— Ня плач,—наказвае яму ціхі голас, і Гэнрык, хоць навокал цёмна, пазнае цётку Тэрэзу. Цётка, а ўсё-ткі ён бачыць, што яна без капялюха, сівая, з сумнымі, сярдзітымі вачыма.

— Ужо цябе чакаю два дні, хлопча. Пасылаю тэлеграмы за табою аж у Аўстралію. Жывое душы тут ня маю, каб магла ад ·Піводы абараніцца. Ляжыць цэлымі днямі ў ложку і забівае мяне вачыма. Ужо на мяне паглядзеў двойчы, а за трэцім разам я памру, бо ўкрадзе ў мяне ўсе чыста таемныя скарбы.

— Гэта дзіўна,—дзівіўся Гэнрык,—дзядзька-ж такі лагодны. Мушу з ім пагаманіць, мушу вас зноў пагадзіць.

— Лагодны! Гэта табе так здаецца. Зірні сюды, на гэту сякерку.— Гэнрык раптам бачыць, што цётка хавае за спадніцу сякеру.—Ён мне заўсёды пазірае на рукі, нібы гаворачы: „Ну, дык удар. Удар, блазоўка. Хачу бачыць кроў, шмат крыві, мы заўсёды жывём, быццам нейкія бяскрэўныя“.

— Цёця Тэрэза!—выкрыкнуў Гэнрык,—нашто ты аб гэтым думаеш? Хочаш дзядзьку забіць?

Але Тэрэза пачала сьмяяцца.

— Блазьнючок ты,—шэпча яму лісьліва,—гэта сякера ў мяне ляжыць на падлозе. Маю пад дошкамі цэлую бібліотэку. Ён ад мяне яе там схаваў, каб толькі я ня плакала, чытаючы ўлюбёныя вершы. Хадзі, дапаможаш мне. Маю там у аднэй кніжцы за вокладкамі грошы, шмат грошай—яны будуць твае. Усё роўна ты іх патрабуеш. Не забудзься. Прыдзі за імі. Півода цябе таксама хоча бачыць...

## VII

Цягнік едзе праз брудныя гарады і рэжа хвалі іскраў, якія дасягаюць антэн. Клінаватая чарада галубоў над страхамі бліснула срэбрам і ўпала ў шэрань. Таксама Соня бліскала яскрава, яна зьяўляецца аднэю з тых рэчаў, што пакідаюць сьлед свае плыні на імглістым беразе ў чароце. Абразы ды ўспаміны ўцякалі, як радкі яе ліста, крыло літары ўзьляціць угору і, сьціхаючы, застогне з вохканьнем „не магу супраціўляцца“—і зьнікае з памяці, як крохкія скалкі, „нікому ўжо не магу даць больш, чымся табе“—праімчыцца з дрынчэньнем у мазгох, як цягнік праз стрэлкі на станцыі, і ўсе тыя віткі, што адзначаюць Гэнрыкавае жыцьцё: урадовае паведамленьне аб звальненьні з дзяржаўнай пасады і разрахунак,—усе яны зьяўляюцца толькі вобразам. Пазіраеш, усё працякае і дзівішся.

Які жах ня мець нічога супольнага з людзьмі, што адчыняюць і зачыняюць дзьверы.—З тымі, хто прыбыў з радзімы, каб зноў вярнуцца,

і з узрокамі жанок, чыё жыцьцё выяўляецца ў шалёна-цікавым адбіцьці на люстрах усіх крам. Няпрыметна, як ветлівы лёкай непажаданага госьця, выключыў яго натаўп з свае асярэдзіны. Толькі бадзячы сабака падняў морду і зірнуў на яго немымі, прыгожымі вачыма.

Цягнік уздымаўся. Там унізе ля Прагі падала імглістая хмара кветак на буравата-зялёную зямлю; тут на гары толькі што распускаліся пупышкі, і глеба шурпатая, як напільнік, упорчыва ляжала пад высокімі нябёсамі.

Калі ашаломіць нас жыцьцё двума ўдарамі, трэці знаходзіцца блізка— вер гэтаму. З дубовых прысад, якія цягнуліся ад станцыі да вёскі, выскачыў насустрач Гэнрыку сабака і, выючы, лёг сабе ўпоперак дарогі. Быў ён схудалы, гэты воўкарэз, і запэцканы старою гразёю. Падобны не да таго, якога Гэнрык калісьці бачыў на дзядзькавым двары, але да таго сабакі з яго сну, што падлазіў пад вароты. Яго вочы былі поўны ўчынкаў,—шкада, аднак, што нямых. Толькі паволі цягнуўся ён за Гэнрыкам, як быццам яму не хацелася дамоў. Вось толькі ў варотах маёнтку жвава забурчэў і прабег каля ног старога шчацiністага чалавека, вартаўніка пры дзьвярах.

— Сустракаемся, сустракаемся,—расхліпаўся шчаціністы чалавек, і нос у яго сьмешна заварушыўся.—А дванаццатай гадзіне прыходзіш і мяркую, што надарма. Ня ведаеш сапраўды нічога. Брат і Тэрэза ляжаць на сьмяротным ложку.

Двор заарэндаванага маёнтку быў, дарэчы, асірацелым. Толькі галубы спалі на страсе, дзе ня было для іх зернятак, і з кухні чуліся гукі фэктаваньня некалькіх языкоў. Яно змоўкла недаверліва, калі Гэнрык увайшоў.

Толькі Гэнрыкавае трывожнае зьдзіўленьне над гэтай сумнай весткай зрабіла сваякоў ласкавейшымі. Сядзелі ля печы і ў кутках на крэслах, як панурыя вароны, што зьлятаюцца на месца няшчасьця. Шчаціністы Мацей усіх іх азіраў насьмешнымі вачыма. Відаць, яму падабалася тое, што іх ушчыплівыя вусны вылівалі цэлае мноства спачувальных слоў, прычым усе гэтыя людзі імкнуліся перакрычаць адзін аднаго; праз два дні пасьля гэтага паваліў паралюш і яе мужа.

І калі Гэнрык вышаў, каб наведаць хворых, зарухалася зараз-жа чэцьвера сваякоў і пашлі сьледам за імі. Не пакінулі адзін аднаго ані на хвіліну, такой моцнай была іх салідарнасьць. Уздыхаючы, сачылі вачыма за суседамі і віселі на вуснах абодвух хворых, як вісяць замкі на поўнай каморы. Смурод гнілых мышыных трупаў павеяў на Гэнрыка, якога праваджалі сваякі.

У пакоі цёткі Тэрэзы, дзе быў раней толькі адзін ложак, былі цяпер два. Абодва стаялі наўздоўж сьцяны, так што хворыя ня бачылі адзін аднаго. Дзядзька Півода спаў ужо даўно ў другой палове дому, цяпер, аднак, ён ляжаў тут. Толькі два дні даглядаў ён сваю жонку, у трэцюю

ноч занядужаў і ён. Змарнелы, зарослы сівымі вусамі, пазіраў ён у столь і хрыпеў, як далёкая піла. Рукі яго ляжалі на ружова-рабой пярыне і былі белыя, незямляробскія. Цётка Тэрэза ляжала галавою да вакна, і рэдкае сьвятло, прасяваючыся ў пакой праз запылены блюшч, ствараўшы вянок навакол усяго фасаду дому, павялічвала яе і без таго ўжо вялікую галаву, надаючы ёй выгляд вялізнае чорна-шэрае плямы, на якой сьвіціўся халодны і сухі лоб, быццам паласа месячнага зьзяньня на падлозе.

Сваякі, пракраўшыся за Гэнрыкам у пакой, сталі ў змроку, як быццам баяліся, што ўзрок цёткі Тэрэзы іх урачэ. Адно яе вока было амаль заслонена бясьсільнай, шэрай павекай, другое, аднак, зіхацела, як выпаліраваная эбэнавая галка і, ненатуральна абяртаючыся, азірала, азірала падлогу, скрыні і людзкія постаці зласьлівым, поўным падазрэньняў узрокам. Дзядзька Мацей хутка адступіў назад за Гэнрыка, на якім цяпер ужо напэўна спынілася цётчына вока.

Здалося Гэнрыку, што цётчын узрок яму наказвае падыйсьці бліжэй, і, падышоўшы, ён сеў на крэсла ля ложка. Шырокі цётчын твар заварушыўся страшэннаю намогаю, але цягліцы яе не паслухалі.

— Ніхто мне нават і не напісаў, што ты хварэеш,—сказаў Гэнрык і нахіліўся, як быццам хацеў на роўнядзі шырокага, бясьсільна затопленага ў падушцы аблічча цёткі Тэрэзы чытаць незнаёмы яму зьбег надзей, што затаілі асьцярожныя сваякі.

Ён адчуваў на патыліцы нездаволеныя палкія ўзрокі. Але яму і на думку ня прышло аглянуцца. Бачыў-бы варожае дрыжэньне вожыкаватае Мацеевае галавы і сухія, неспакойныя губы Тэрэзінае пляменьніцы—сялянкі, празванае між сваякамі жоўтаю Лідаю. Вузкі язык увесь час абвільгатняў мімавольным рухам сялянчыныя вусны, высахлыя на працягу цэлых гадоў прагавітай цікавасьці. Гэтак валтузіўся ён па губах заўсёды, калі толькі адчуваўся непрадбачаны зыск і выпадковыя перашкоды пагражалі стратай яе скнарлівай натуры.

Яе ўсё яшчэ незамужняя таўшчэразная дачка Лідачка стаяла за маткаю, як на аматарскім тэатры, і з шэрых яе вачэй, быццам намоклых у гразі, разыходзілася ва ўсе бакі яе дурная нуда. Патрэбны былі моцныя выкрыкі, напружнае рыканьне галодных кароў і поўнае перасьцярогі сычэньне малака на пліце, каб яна абудзілася з поўсну, у якім было затоплена яе няпрыдатнае для карыстаньня, хоць па цэлай акрузе сватамі прапанованае цела. Рабы Мацееў сынок у кароткіх нагавіцах заўзята смактаў сабе палец, усунены між зубамі, і калі бацька пляснуў яго, то прабаваў адчыніць у куце пярэгарадку тоўстапузага рукамыйніка.

Жоўтая Ліда, аднак, спасьцерагла ягонае шныпараньне і адцягнула яго за вуха ад скрыні. Усе пільнавалі адзін за адным, не дапушчаючы заўчаснага разрабаваньня дабра, якое чакала на спадкаемцаў.

— Чуеш мяне, цётачка,—паўтарыў Гэнрык. Галава цёткі заварушылася, яе вока, дагэтуль поўнае падазрэньняў, усьміхнулася бадай зусім натуральна і на жах усім сваяком раскрыліся пальцы Тэрэзінае рукі, якая дагэтуль ляжала на пярыне, быццам засохлы, скручаны сонечнай гарачынёй кляновы ліст. Жоўтая Ліда зараз-жа ўся ўзварушылася, падышла да ложка. Мацей, які натапырыўся, быццам певень, ішоў за ёю. Абое разумелі важнасьць Тэрэзінага руху, у якім хавалася для іх больш, чым убогая справа прывітаць Гэнрыка.

— Тэрэзачка, ужо табе лепш. Каб гасподзь даў,—захліпала Ліда, і ў вачох ёй затрапятала агіднае надзея на тое, што пляменьніца ўсё-ж перажыве Піводу, хоць на нейкі час. Магчыма, што мова ёй вернецца яшчэ на пару дзён. Затое Мацей маладушна перапалохаўся і зірнуў з дакорам ад Тэрэзінага ложка ў іншы бок на хваравіта хрыпкае братава цела. Мужчыны паміраюць хутчэй, высьміхалася з яго мазгоў нейкая цёмная думка. Біліся паміж сабою, пілі, бегалі за спадніцамі, марнавалі сваю сілу,—вось цяпер і маеш за тое. Памрэш, а напышлівая Тэрэзка будзе яшчэ на сваім сьмяротным ложку атрымліваць пасьля цябе спадчыну разам з намі.

Гэнрык ухапіўся за аджылы ліст цётчынае рукі. Тэрэзіныя пальцы ўпалі яму ў далонь, як пальцы соннага чалавека. Зірнуў на іх жоўтыя пазногці, на вузкі пярсьцёнак, які Тэрэза насіла яшчэ з маладых гадоў, і здалося яму, што абгладжаны, брудны рубінавы каменчык загартаваўся ад тых хваляў унутранага жару, якія прабягалі па гэтай руцэ, не цяпер, але ўжо даўно, ужо тады, калі хлопчыкам хадзіў ён у маёнтак і палкія цётчыны пацалункі яго вабілі ды ўзварушвалі сваёю раптоўнаю незразумеласьцю.

За абодвума вокнамі пакою вісеў запылены блюшч, адвечная заслона між пахмурным цётчыным і наўкольным сьветам. Укоснае сьвятло, цяжка праз яе працякаючы, распальвала рыжыя Мацеевыя шчаціны яшчэ больш яскраваю чырвонаю фарбаю, надзімала яшчэ шырэй белую, як твораг, скуру таўшчэразнай Лідачкі, надавала яе мацi, што мармытала ля пасьцелі пацеры на ачуляньне хворых, падабенства да ваўчыхі, змучанай сьпёкаю.

Цётчына вока, чорнае, як эбэнавае дрэва, утаропілася ў Гэнрыка. Зьзяла нясьцерпна, як сьвятло на столі вастрожнае каморы. Прабягалі ў гэтым воку нейкія крывадушныя шпігоўскія думкі і сьціскалі, быццам жалезным абручом, перамешваючы ў Гэнрыкавых мазгох рачаіснасьць са сном. Са сном, які вёў Гэнрыка густым лесам з Соняй і даў ёй зьнікнуць на начным возеры, ды прывёў яго аж да цёткі Тэрэзы, сівое, з сумнымі сярдзітымі вачыма, з сякерай, схаванай за спадніцаю. А ён тут сядзіць, як сядзеў ля Сонінага ложка, час праходзіць, зноў як мушынае зыканьне праходзіць, зыкае і заблытваецца ў нябачнай павуковай сетцы, кідаецца сюды ды туды і зыкае, як электрычная лямпка, што ўжо дагарае.

## VIII

— Пекныя тут справы,—сварыўся пад паветкай Мацей,—іржа тут зьядае тысячы, паглядзі. Ён ішоў заўсёды ўлева, а яна ўправа, і ў галаве ў іх было ўсё, што хочаш, толькі не маёнтак.—Пераварочваў прылады, штурхаў нагою плугі, пераварочваў бораны, варушыў асноўныя часьці сяўнікоў, саскрабаў кіем прысохлую гліну, і бросьняю падыхала ад усяго і нагадвала той пакой, у якім ляжалі абое на сьмерць хворыя людзі, злосьць пырскала з агідных Мацеевых вачэй. Пад страхой паветкі вісеў згнілы невад, даўно ўжо непатрэбны, і ўсё было тут непатрэбнае, страчанае ўжо для людзкога ўжытку, усё тут ляжала ў бясьпечнасьці магілы, якую і зладзеі абмінаюць, робячы вялікі круг.

— Калі ўжо столькі гадоў не гаспадарыў, дык ці ня мог прыпамятаваць, што ёсьць у яго брат, патрэбны для справы. Ці табе гэта, Гэнрыку, самому ня шкода, што тут навокал жывуць толькі ластаўкі і кажаны. Ці-ж бы я гэта сьцярпеў, Езус Марыя, каб вось там у кароўніку ня рыкалі каровы, каб у стайні не граблі зямлю капытамі коні і цэлы двор каб ня быў поўны руху людзкога і жывёлы. Але якую ўвагу гэтыя двое людзей зьвярталі на маёнтак. А калі-ж пры гэтым яшчэ і дзяцей няма.

Мацееў сынок знайшоў стары вехаць, абвязаў яго матузком і стараўся заўзята прычапіць старому сабацы на хвост. Ваўкарэз цярпліва перад ім выгінаўся і, калі яму гэтая гульня надакучыла, кінуўся на хлопца, забурчэў і ўцёк. Рабы хлопец пералякаўся, гопнуўся азадкам і загігікаў, як тое парасё.

— Гэтага сабаку прадамо. Хто яго будзе карміць. Яшчэ-б ашалеў,—зьвярнуўся да Гэнрыка Мацей.

— Чаму гэта?—атрымаў ён адказ.—Яшчэ нікога ён не пакусаў, хай дaслужыць,—сказаў Гэнрык, і Мацеева запытаньне навяло яго на думку, што і ён зьяўляецца спадкаемцам, што мае права разьвязваць пытаньні ня толькі аб сабацы, але і аб рассохлых вазох ды прыладах у вазоўні, па якіх блукалі Мацеевы прагавітыя вочы.

Але зараз-жа раптоўная чырвань заліла яго твар.

„Глядзі на іх, паскудаў,—зьехаліся перад сьмерцю сваякоў, каб пільнаваць адзін аднаго і прысуседзіцца да падзелу прыбыткаў. Двое блізкіх ім людзей змагаюцца са сьмерцю тут-жа, побач з імі, а тымчасам і я безмаль ужо пачаў-бы распараджацца іх маёнткам“.

— Усё роўна мы мусім умовіцца, Гэнрык,—пачаў зноў няўтомны шчаціністы чалавек.—Ты мусіш таксама думаць аб сабе; мабыць, ведаеш, што ім доктар не дае ўжо нават тыднёвага тэрміну. Але за гэты час можа ўсё стацца. Я цяпер паеду з хлопцам дамоў. І пашлю сюды жонку, каб пільнавала, гэта табе кажу адкрыта, бо ты сумленны чалавек. Жоўтая Ліда як найлепш магла-б нам удраць штуку. Пазірні яе матулі на пальцы. Мае на іх тры пярсьцёнкі, а калі сюды прышла—ня мела

аніводнага. Дык ведай-жа, што яны Тэрэзіны, твае цёткі. Каб маглі, дык упхнулі-б сабе пад спадніцы ўвесь чыста маёнтак.

Мацеевыя грыбкавітыя ноздры прагавіта разьдзьмухаліся, быццам зябры. Гэнрык, стомлены, не супраціляўся яму. Пасьля адходу Соні ён бачыў усё ў густой імгле, ды паміраньне цёткі Тэрэзы блыталася ў яго душы з цяжкім сном тае ночы, калі ад'яжджаў з Прагі, каб у цётчыным маёнтку пачакаць адповедзі на некалькі сваіх заяў з просьбай аб новай пасадзе. Але дзядзька, у пасярэдніцтва якога ён зноў верыў, ляжаў у агоніі адначасна з цёткай. Затое зладзейскія вочы сваякоў яго навучалі адносна таго, што сьмерць аднаго чалавека прыносіць карысьць другому і што часта ня плач, але скокі праводзяць людзей за парог жыцьця.

Над садам, які палахліва ахінуўся белым воблакам яблыневага цьвету, трашчэў жаўранак, як шалёная гуковая ракета. Дарога ад саду да лесу расьсьцілала перад вачыма абраз зямлі, з якога паднімалася пара і курылася імгла паміж высокімі вадзянымі травамі і нядаўна навезеным гноем на палёх. Стары Гонда, быдлячы пастух, абходзіў межы з крывым кіем, і, разьзявіўшы бяззубы рот, глядзеў на Гэнрыка.

— Але, але, малады пане, мусім усе памерці. Самі для сябе мы могілкі капаем. Півода, як старэйшы дзядзька, там пасадзіў ліпы, глядзі, як ужо вырасьлі. А ў доктара, у бацькі, усе блізкія туды ўжо паўцякалі. Таксама і яму гэтыя ліпы даюць прытулак. А гэтага бадай ня ведаюць, што я па ім атрымаў спадчыну.—Рукі Гонды, трасучыся ад холаду, што бывае на горных спадах, ад цяжкай працы і ад гарэлкі, усунуліся ў глыбокую жабрацкую торбу і выцягнулі адтуль абшмульганую флейту. Нават кляны ўжо ня блішчэлі, хоць і сьвяціла сонца.—А колькі я на ёй панайграў. Каровы прызвачаіліся, паварочвалі голавы. Але цяпер ужо толькі дзе-ні-дзе праходзіць паветра. Задмухаю—і сьліна ў мяне цячэ, дзясны ў мяне разьмяклі. А добра лячыў доктар, усё роўна, як родны бацька. Лекі?—казаў,—прыходзь штовечар у кухню пад'есьці. Што вам, дзедку, лекі.

Могілкі былі адгэтуль на сто крокаў. Увайшоўшы ў цень гэтых ліпаў, пачуў Гэнрык за сабою трапяткі гук флейты. Захрыпела яна, пасьля з яе вылецеў, хвалюючыся, чысты тон, разьбегся, як-бы хацеў зусім прагнаць імглу, якая ўжо адступала, але зламаўся, перайшоў у кароткае, сьмешнае жыцьцё і змоўк. Гэнрык азірнуўся і ўбачыў Гонду, які выціраў рукавом засьлінены мунштук флейты. На могілках пяялі птушкі.

Даволі было гэтых некалькі гукаў, каб Гэнрык зразумеў усё чыста. Як цікавіўся ён ведаць, чаму гэта бацька любіць сумную самотную ігру на флейце імглістымі вечарамі, блукаючы ля возера, схаванага ў лесе і паміж горнымі вярхамі, прычым бацьку прыцягвала да сябе сьвятло ад цягнікоў, што ляцелі ў поўныя руху гарады... Як Гэнрык сам сябе дакараў за сваю незразумелую радасьць у той час, калі яго ўзялі ў войска і ён убачыў мора. Як зайздросьціў матросам на вялікім крэйсары,

прагнуў бачыць морскі бой, а тымчасам цурчэў у алівавых гаёх цыкадавы сьпеў, пранікаў у цемру гэтае ваяўнічае ночы, у глыбіню мазгоў, поўных салодкіх і магутных прадчуваньняў.

Радзіма, сьмерць бацькоў, Прага. Як быццам цяпер яшчэ бачыў вачыма вялікія, неспакойныя натаўпы на вуліцах, але ўсім сваім целам, рукамі, мазгамі і прыціснутымі грудзямі адчуваў цяжар моцнае дальні вялікай шэрай канцылярыі, у якой падскаквалі, быццам задзірыстыя вераб'і, пальцы машыністак, што працавалі на пісаўных ды рахунковых машынках.

Між дрэвамі заблiскала сіняя паласа, поўная сонечнага зьзяньня. Зноў стаяў ля возера, аб якім столькі апавядаў Соні. Адзін, без яе. Аж духі яму заняло, але ня жахам, выкліканым тым, што яе ўжо няма для яго. Жорсткая, абыякая ўсьмешка як быццам перабегла з ціхага возера на яго твар: „Я-ж яе кахаў і меў. Захацелася мне—і меў. Канцылярская столь распалася, распалася і столь жаху перад жыцьцём,—што з таго, што вялікія ад малых адбіраюць працу і хлеб,—узяў я ад сваіх дзён больш, чымся працу і хлеб. Гэта ня толькі Соня, гэты цэлы горад быў маім, адкрываўся мне ў змроку сваімі агнямі, ударамі, музыкаю, цемраю перада мною, калі я пасьля стаяў над Соняй, якая ляжала і з якое доктар выняў жыцьцё; гэта цякла кроў цэлага места і ў асобе яе маці прышла да мяне ўся асьцярожнасьць ды роўнавага яго парадкаў, уся цьвярозасьць яго розуму, без фантазіі ды міласэрднасьці".

Гэнрык успомніў концэрт, дзе сядзеў побач з Соняй. Успрымала музыку пачуцьцём, будавала на ёй сваё душэўнае абуджэньне. Ужо канец, сказаў ён, Гэнрык, і ўбачыў, як цяжка было ёй прачнуцца, потым яна засьмяялася і ў струмянёх сьмеху вырываліся ў яе ўсе музычныя выразы, усе вокальныя тэрміны, гіпноз прайшоў, твар, падобны ў часе концэрту да твараў усіх іншых слухачоў, набыў зноў свой звычайны выгляд. Глядзеў ён на вадзяную роўнядзь і здавалася яму, што магілы бацькава і матчына, звальненьне Гэнрыка Годзіны з пасады, яго каханьне і расстаньне з Соняй—зьяўляюцца поўным мігаценьняў вобразам, чыё падабенства было калісьці ў ім, але выплыла ўжо з яго душы і жыве цяпер незалежным, чужым для яго існаваньнем, на якое ён пазірае, як у чужое люстра, як нейкі глядач.

Прышоў дамоў ужо ў поцемках. Ваўкарэз заскуголіў ля яго ног. Пайшоў у кухню і ўкроіў сабацы вялікі кавалак хлеба. У пакоі хворых гарэла ў шклянцы з дробным кноцікам алівавае сьвятло. Дзядзька храпеў і цяжка дыхаў, цётчына рука ляжала бясьсільна на пярыне. Яе пляменьніца Ліда папраўляла яе падушку і сказала Гэнрыку:

— Ня слухай Мацея, калі будзе нешта нагаварваць. Ён увесь поўны нікчэмнага страху, каб Півода не памёр хутчэй за Тэрэзу і каб мы яго не пазбавілі долі. Быў-бы вельмі рады, каб праглынуў усё толькі ён-бы, Піводавае сваяцтва. Як быццам гэты рыжы ня мае сам усяго даволі. Яшчэ распытваўся і аб пярсьцёнках, хцівец.

— І таксама нешта аб кніжках з касы ашчаднасьці гаварыў,—сказаў Гэнрык сваячцы з халоднай кусьлівасьцю.

Ліда высалапіла язык, затрапятала сваімі курынымі лапкамі, а яе вочы пахаладнелі ад падазрэньня.

Падпёршыся рукамі ў бакі, залапатала:

— Брудны агіднік. Сам-бы сьцягнуў з Піводы пярыну яшчэ з жывога, мала не прадаў воз Доліне ў млын, а мяне гэтак ганьбіць. Ну, пачакай. І ты, Гэнрыку, памятай, што павінен трымацца за адно са мной. Мы зьяўляемся Тэрэзінымі сваякамі, і хай-жа ён нам нешта зробіць. Тэрэза ніякага адказу адносна спадчыны не зрабіла, таму будзем спадкаемцамі паводле закону. Кніжкі з касы ашчаднасьці, якія ў іх былі, знаходзяцца ўсе ў нотарыуса. Ведай гэта і ня бойся. Іду яшчэ на адведзіны да Навакоў, а да хворых пашлю Лідачку. Вячэра для цябе ёсьць у кухні.

— Гэта дзіўна, ці-ж ня праўду кажу?—сказала тлустая пляменьніца, вяртаючыся ад хворых у кухню.

— Што?—запытаўся Гэнрык.

— Ну, так. Што абое адначасна захварэлі,—пазяхнула, казала далей:—ніколі разам ня жылі, а цяпер...

Яна села насупраць Гэнрыка, прыціснулася да канту, і грудзі ў незашпіленай вопратцы раскінуліся па стале. У яе шэрых мутных вачох відаць была плынь нейкіх млявых, але неадчэпных думак. Гэнрык курыў і гладзіў вушы лянога гнядога ваўкарэза.

— У Празе, кажуць, усе жанчыны кураць,—сказала пляменьніца зноў.

— Але, некаторыя,—сказаў Гэнрык.

— І на кожнай вуліцы ёсьць кіно...

— Амаль што так. Любіш хадзіць у кіно?

— А зразумела. Заўсёды расплачуся. Але ў Прагу хацела-б. Хоць на службу.

— Чаму гэта на службу. Маеце-ж хату. Выйдзеш замуж.

— Ну, але...—уздыхнула Лідачка, зірнула недаверліва на Гэнрыка, памацала сабе горла, знайшла расшпілены гузік і зашпіліла яго. Недзе глыбока ў ёй плылі палкія думкі, уступалі мутна ў ляныя вочы, але тут іх сьляды трацiліся, як далёкае сьвятло ў імгле.

Палажылі Гэнрыка спаць у адным з пакояў другога паверху, яшчэ затхлейшым, чымся першы.

Гэнрык трохі адчыніў з натугаю вакно, але зараз-жа яго зачыніў калі аб шкло стукнуўся кажан. Пасьля, калі ўжо Гэнрык заснуў, ажыла навакол цемра. Падлога трашчала, быццам па ёй хадзіў нехта на пальцах. Былі зусім ясна чуваць крокі, якія хвілінамі затрымліваліся, як-быццам чалавек, падкрадаючыся, сачыў, ці ўсё сьпіць. Потым змоўклі крокі і пачуўся шэпт некалькіх людзей. Загучэў ціхі, але ў цемры далёка чутны зык з суседняга пакою, да якога вялі зачыненыя толькі на клямку

дзьверы. Здавалася, што даткнуліся два пальцы да клявіятуры піяніна, што там стаяла. І зноў хтось зашаптаў, затрашчэла падлога. Ціканьне гадзіньніка недзе за сьцяною пачало неспадзявана адмерваць час.

— Чырваточа,—сказаў сабе Гэнрык,—усё тут распадаецца. Памруць якраз у адпаведны час тыя двое ўнізе.

Але воля не магла перамагчы душэўнае прыгнечаньне ў выніку гэтае неспакойнае начы. Дакрануўся да лобу, лоб быў спатнелы. Сэрца ў Гэнрыка білася моцна і заглушала часамі ціканьне чырваточы. Павольна сеў у пасьцелі, і ў галаву прыходзілі яму ўсе апавяданьні дзіцячага ўзросту, якімі так ахвотна яго забаўляла ўзімку бабка. Яе бацька быў за аконома ў князёвым маёнтку і жыў у значнай адлеглясьці, у доме за садамі. Пасьля жніва насіў дамоў грошы—прыбытак з сабранага ўраджаю—і хаваў іх у жалезнай схоўцы ў спачывальні. Часта праходзілі два або нават тры дні, пакуль ён аднясе іх у князёвую скарбніцу.

Аднойчы ён прынёс зноў мноства залатых і срэбных грошай на шмат тысяч. Прынёс грошы і сам пайшоў у півярню гуляць у карты. Аканоміха з дачкою—гэта была бабка—і са служкай засталіся адны ў хаце. Замкнуліся ў спальні, закрылі вокны вакяніцамі і леглі сабе спаць. Але бадай праз гадзіну іх абудзіла служка, і ўсе слухалі з жахам удары ў вакно. Рабаўнікі падпільнавалі адыход аконама, выламалі краты ў спачывальні на першым паверсе, што быў сумежны з садам, і выбівалі акаваными дубінамі вакяніцы. „Маці“, апавядала бабуля, „перш за ўсё з намі стала на калені і малілася. Але калі трэснула вакяніца і ў дзірцы паказалася валасатая рука, якая намацвала засаў, маці ўзяла са скрыні набіты пісталет, згасіла сьвятло і стрэліла ў вакно. Аднак ня было-б з гэтага ніякае карысьці, калі-б не вяртаўся якраз у гэты момант бацька з лясьніком і не прагналі яны рабаўнікоў стрэламі. Раніцою знайшлі за садам крывавую лужыну, але рабаўнікоў не адшукалі. У малодшае служкі сьсівелі валасы яшчэ ўначы перад раніцаю“.

Радасьць і каханьне нас цалкам напаўняюць. Ніколі пры іх не ўспамінаем аб мінулых прыгожых днёх. Але страх, зло і жах шукаюць хаўрусьніка, хочуць быць заўсёды памножанымі і ставяць нас на калені, палохаючы страшнымі вобразамі з мінуўшчыны.

У той момант, калі Гэнрык стараўся прыпамятаць, куды ён дзеў сярнічкі, зазьзяла сьвятло ў вакно, і месяц, выпаўшы з-за хмар, кінуў пук праменьняў у пакой. Адразу анямелі ўсе галасы—усе водгукі працы рэчаў ды ўяўленьняў,—і Гэнрык заснуў.

## IX

Хвалі ночнае чуйнасьці цягнуліся далей і несьлі яго неспакойнымі краінамі сноў. Ён сьніў, што ехаў цягніком з людзьмі, якія гаварылі незнаёмай яму мовай, і ўсё-ткі разумеў іх. Праз адчыненае вакно дзьмухаў у купэ цёплы, салоны вецер, і голагаловы мужчына, што сядзеў

насупраць Гэнрыка, апавядаў аб моры, маладой жанчыне ў жоўтай сукні. Потым Гэнрык быў у купэ толькі з маладой жанчынай, і гудзеньне цягніка, які ехаў тунэлем, заглушала ўсе яе словы. Яе рукі апынуліся ў яго руках—і Гэнрык, ня чуючы яе голасу ї ня бачачы ў цемры яе постаці, пазнаваў паводле біцьця пульсу ў яе плюсьні, што гэта была Соня. Але яны ўжо не сядзелі ў цягніку. Яны бадзяліся на ўзьбярэжных водах, лавілі з вады плывучыя галінкі алеандравага цьвету. І зноў была цемра. Соня зьнікла. Гэнрык выцягваў рукі перад сабою, шукаў вобмацкам і шаптаў: „Дзе ты, Соня, чаму не зазьзяеш, быццам сьветлы золак“. І потым зноў было сьвятло, ад хваляспыну адплываў белы параход, і Гэнрык зразумеў, што між сотнямі людзей, якія ківалі галовамі і махалі хусткамі з палубы, ёсьць і яна. І ані трохі суму не адчуваў, калі параход схаваўся за скалістым мысам.

Раніцою ў ім абудзіўся ціхі водгук запамятанага сну. Побач у пакоі пачуліся крокі. Гэнрык устаў ціха і, накінуўшы на сябе дзядзькаў халат, адчыніў ціхенька дзьверы. У слупе сонечнага сьвятла, поўным плывучага пылу, стаяла на каленях, задам да яго,—знаходзячыся сярод гэтага Малочнага Шляху,—пляменьніца Ліда і прабавала пучком ключоў замкі рассохлых шуфлядаў у стале, на зялёным сукне якога былі дробныя чарнільныя плямы іржавага колеру. Па голых Лідзіных лытках каўзаліся сонечныя праменьні, быццам вада, што цячэ ў гаршчок з тварагом. Шырокая, як у жывёліны, сьпіна зьлёгку варушылася, калі круціла Ліда ключ у непадатным замку.

Гэнрык адышоўся ад дзьвярэй, але спыніўся. Пляменьніца, цалкам занятая сваёй працай, ня чула. Чакаў, зацікаўлены высочваньнем гэтага зладзейскага прадпрыемства. Бач, і гэтае тупое стварэньне аджыло, яго рукі трасуцца ад прагавітае цікавасьці рабунку. Урэшце ўдалося ёй адчыніць шуфляду, і са жмені, поўнае папер, вываліўся жоўты пыл, расьсеяўся ў сонечных праменьнях і ўварваўся ёй у адкрыты рот. Кашляючы, усунула Ліда мясістую руку глыбока ў шуфляду і нарэшце выцягнула малую скрыначку, у якой зазьвінелі мэталёвыя грошы.

— Што робіш?—гукнуў Гэнрык ззаду яе.

Мэталёвая скрыначка выпала з рукі перапалоханае Ліды, старыя дукаты і залатыя грошы аўстрыйскія і чужыя, якія дзядзька зьбіраў, рассыпаліся, браскаючы па падлозе. Коцячыся, пакідалі яны за сабою выразныя дарожкі ў пыле.

— Езус Марыя,—заенкала пляменьніца, пазіраючы на Гэнрыка, як засьцігнутая кошка.

— Навошта гэта робіш, ня можаш пачакаць? Ведаеш, што гэтыя грошы дзядзькавы.

Ліда, спатнелая ад натугі і неспадзеўкі, забруджаная паднятым старым пылам, які, зьмяшаўшыся з потам, пэцкаў ёй поўны твар, стаяла перад ім толькі ў кашулі ды спадніцы, так, як яна выправілася ў дарогу

па сходах, думаючы, што Гэнрык, тут-жа побач, яшчэ сьпіць. У яе мутных вачох ня было ані сораму за свой сьмешны, пылам замурзаны твар, за кашулю, ссунутую з пляча, якая адкрывала яе цела, яе кулістыя грудзі, ані за тое, што была засьцігнута пры няпрыгожым порканьні ў чужых рэчах, толькі зьбянтэжанасьць жывёлы, загнанае ў куток, поўнае няведаньне, куды ўцячы, была прыкметна ў ёй.

— Ведае аб гэтым мацi?—запытаўся Гэнрык.

— Ня ведае, але, крый божа, не кажы ёй нічога,—зьявілася толькі цяпер абуджаная няскладная мова ў вуснах Ліды.—Сама сачыла, нічога мне аднак не сказала. Нават і адзежы мне ня купіць,—усё толькі скнарыцца. Я думала, што знайду якія-колечы грошы, куплю сабе нешта, каб апрануцца; гаварыў Пранусь, што ў мяне прыгожыя валасы, хацела-б, каб мне іх завілі, і я пайшла-б слухаць музыку.

Залатыя монэты на падлозе зьзялі ў струмянёх ранішняга сонца, як трыпутнікі на лузе. Праменьні мільгацелі па іх зубчастых крайчыках, і пыл скакаў пад імі весела, зласьліва.

— „Я бяз месца, хто ведае, куды падзенуся, а тут ляжыць золата, унізе, у пакоі памірае цётка, пасьля якое буду мець спадчыну,—шаптаў Гэнрыку даверлівы ціхі голас.—Нагніся, бяры, толькі падзяліся бяз слова з перапалоханай спатнелай дзяўчынай. Няжывыя грошы аджывуць у тваіх руках, абярнуцца ў цяпло жыцьця, у забясьпечанасьць на многа дзён".

Гэнрык адчуў у пальцах прагавітае імкненьне забраць раскіданае золата, адкрыў рот, але раней, чымся вырвалася ў яго з высахлага горла слова:

— Зьбірай!..

Мільганула міма яго, цяжка дыхаючы, Лідачка і зьнікла за дзьвярыма, пакідаючы ў вачох Гэнрыка шалёны, мутны ўзрок, поўны нямога дакору.

Бяручы ў рукі монэты і ўкладаючы іх у мэталёвую скрынку, Гэнрык адчуваў, як яго трасуцца пальцы і млеюць цягліцы. Толькі тады, калі ён паклаў дзядзькавую колекцыю ў шуфляду і замкнуў яе, зваліўся з яго цяжар, таму і змоўклі ў ім хцівыя нашэпты.

Унізе ў калідоры перабрэхваліся паміж сабою галовы сваякоў. Скрыпелі сходы, па якіх ступаў Гэнрык, і старываўкарэз завыў на парозе. Гэта сухая пахмурная Мацеева жонка яму наступіла на нагу і штурханула яго пагардліва. Мерылі адна адну пахмурнымі поглядамі Мацеіха і жоўтая Ліда, якая праваджала новага гасьця па цэлым маёнтку і, поўная неспакою, адкрыта выказвала свой страх з прычыны вельмі спрытных рук цікавае халупніцы.

Дзядзька Півода ўпаў уначы ў няпрытомнасьць і паміраў.

— Мы-ж мужчыны, Гэнрык,—шаптаў Мацей хрыпла ля яго ложка.

— Калі ня ўмовіліся, то ўсе дойдзем да вялікае шкоды. Нашто нам плаціць даніну з усялякае драбнічкі. Нашто пазіраць адзін аднаму на

пальцы, усё роўна, як тыя зладзеі, дазваляючы адвокату ўсё праглынуць. Ёсьць тут гатоўка, чаму-ж бы мы не маглі яе падзяліць паміж сабою бяз судоў. Усё роўна яна нам належыць.

— Яшчэ не.

— Яшчэ не? Паглядзі на гэтага небараку. Ён ужо не прачнецца. Як толькі паклічам нотарыуса, дык будзе ўжо позна.

Мацей шаптаў, хрыпеў, сыкаў, і грамада сваякоў, што кідаліся, ахопленыя тэю-ж самаю гарачкай, згуртавалася навакол яго. За вакном сьвістаў дрозд, і цётка Тэрэза, якая задыхалася на сьмяротным ложку ад недахвату паветра, пазірала сваім шырокім, эбэнава-бліскучым вокам на ўсіх адразу. Усе ўхіляліся ад гэтага ўзроку, але тыя, што не глядзелі на яе, згуртаваўшыся навакол Мацея, абмяркоўвалі ўпарта пытаньне аб тым, ці патрэбны ціхамірны падзел грошай і каштоўнасьцяй, што яны хціва адчувалі ў замкнутых пры скрынках куфраў і шуфлядах сталоў.

Голас з кухні аб'яднаў іх на хвіліну, і яны адышлі. Толькі Гэнрык застаўся. А перад яго вачыма ўсё яшчэ скача кучка золата, рассыпанага ў пыле—там у гары, у пакоі.

Гэнрык усеўся ў крэсьле ля цётчынага ложка і, сьціскаючыся ў душы ня ўзрокам хворае, але хутчэй за ўсё замяшаньнем у выніку свае хціваcьці, умела прагнанае, аднак увесь час зноў гатовае вярнуцца, і не адчуваючы нават і крышачкі радасьці, што перамог спакусу,—быў абуджаны з тупой амярцьвеласьцю голасам, якога перапалохаўся, як раптоўна зьяўленага ценю.

— Гэнрык!—пачулася зусім ясна пры руху цётчыных вуснаў,—я ведаю, што ў доме пекны парадак. Толькі хутка ўжо будзе канец. Мусіш пільнаваць замест мяне. Зладзеі ходзяць па сходах, прабуюць замкі...

Словы цёткі Тэрэзы паліліся з шалёнаю пасьпешнасьцю яго сэрца. Гэнрык не ўяўляў сабе іх нечаканасьці пасьля доўгае нямоты, апусьціў вочы нізка на пярыну, бо яму здавалася, быццам і яго цётка падазрае, быццам ад яе ня можа ён утаіць свае апошнія думкі.

Хацеў загаварыць, але цётка, у якое выступіў ад натугі пот, засіпела:

— Маўчы. Прышлі-б. Вось там... у кніжках ёсьць... грошы. Ідзі хутчэй, пакуль яны яшчэ не вярнуліся... не кажы...

Яе эбэнавае вока апальвала яму твар, паказвала яму.

Ен устаў і пасунуўся ўперад, як загіпнотызованы, і здавалася яму, быццам цётчын узрок кіруе яго дрыжэўшымі рукамі.

— Там, там...—сіпела цётка.

Зборнік твораў Шылера ў бурай вокладцы разгарнуўся на далоні і адкрыў банкаўскі, укладзены між старонкамі. Адвярнуўшыся ад ложка, адчуваў цётчыны вочы на сваіх пальцах, што хавалі грошы ў кішэню.

Паклаўшы кнігу ў шуфляду, Гэнрык падышоў да ложка. Цётчына рука пасунулася бліжэй да яго рукі. Гэнрык ухапіў яе, адчуваў, як яна халадзее, бачыў, як па бліскучых вачох кабеты, што паміраe, пашыраецца

імгла, быццам сьлед дыханьня на шкле, а ў зрэнках, якія мутнелі апошнімі, тымчасам як цётчыны губы шапталі незразумелыя словы,—зазіхацела яскравым бляскам апошняя ўсьмешка, злая, сумная і разьвітальная. А потым і прашэптаныя словы выявіліся.

— З богам, Півода таксама...

Калі зьявіўся Гэнрык у кухню, пазналі сваякі, седзячы перад талеркамі аб тым, што разам з ім прышла сьмерць. Зазванілі лыжкі, з горлаў вырваліся хрыплыя гукі плачу, і сабака, прыбегшы з двору, забрахаў на столь.

X

На могілках стаяў Гэнрык побач з бедным і далёкім сваяком, які прыехаў апошнім і расплакаўся над труною і над магілай, хоць і ня меў надзеі на спадчыну. На яго твары ляжалі бурыя зморшчкі, быццам рэдкія боразны гарыстых палёў, з якіх ён паходзіў. Калі-ж загучэў над магілай голас лясных вальторнаў, дык ён паглядзеў з ціхім зьдзіўленьнем на Гэнрыка, што адзін толькі з ім гаманіў, і ў вачох яго разьліўся вялікі спакой.

Музычныя нараканьні бліскучых іструмантаў мелі (як здавалася) цьмяна-сіні колер, быццам роўнядзь лясного возера, што прасьвечваецца, аддаляючыся ў далі, між лясамі. Калі Гэнрык адарваў свой унутраны ўзрок ад гэтых агледзін, ён заўважыў, што стаіць ля магілы дзядзькі Піводы і яго жонкі Тэрэзы з бедным сваяком удвох. Шчаціністы Мацей размахваў рукамі ля могілкавых варот, а жоўтая Ліда стаяла з падазронасьцю ў двух кроках ад яго. Яе дачка хадзіла, зыбаючыся ўздоўж магіл, быццам вялізная сумная гусь.

Пераклаў з чэскае мовы **М. Пружанскі.**

# НЯГОДНАЕ

*(З жыцьця Зах. Беларусі)*

**Л. Радзевіч**

Буйна хвалюецца рэволюцыйная ніва на Заходняй Беларусі.

Вялікае крывавае жніва мае дэфэнзыва. Няма тэй вёскі, тэй фабрыкі, дзе-б ні было двух-трох мучальнікаў за вызваленьне Беларусі. Няма тэй фабрыкі, вёскі, якая-б не стагнала:

— Эх, хутчэй-бы час расплаты!

Арыштаванага, перанёсшага найтанчэйшыя, найстрашнейшыя фізычныя мукі ў дэфэнзыве, пераводзяць або ў вастрожную больніцу, або ў вастрог. Тут доўгія гады прыходзіцца цярпець цяжкія перажываньні, душэўныя мукі.

Хто, як не рэволюцыянэр, урастае такімі раскідзістымі і глыбокімі карэньнямі ў масы, у жыцьцё, а вось яго сілком, гвалтам вырываюць з найдаражэйшага акружэньня, ад блізкай удзячнай працы, пазбаўляюць свабоды руху, кідаюць у каменны мяшок на монотоннае, дзіка-рэжымнае, напоўгалоднае бытаваньне, на прымусовую бясчыннасьць.

Паміма сваёй волі чалавек уваходзіць у нутро, пускае поўным ходам сваю мазгавую машыну, няўстрымана буяюць лёгка-крылыя думкі-лятункі, якіх нічым не падняволіць. На ўсе падзеі і праявы шырокага сьвету рэагуеш толькі, ці пераважна, сваімі думкамі, моцай сваіх перажываньняў.

Той, хто не трэніраваў сваіх думах, а больш займаўся фізычнай працай, вельмі цяжка звыкаецца з вастрожным жыцьцём. Шмат хто ня можа асіліць, апанаваць наплыў сваіх думак, ня можа вытрымаць, здужаць цяжар і складанасьць перажываньняў і канчае самагубствам, або вар'яцее. Быў выпадак, што адзін селянін, засуджаны на дзесяць гадоў у адзіночку, ня вынес адзіноцтва, запаліў сяньнік і сьпёк сябе жыўцом на ім.

Няма мабыць такога месца на сьвеце, дзе было-б уціснута столькі трагічных гісторый, самых складаных і глыбокіх чалавечых пачуцьцяў ды перажываньняў, як у каморы вастрогу. Камора вастрогу ў Заходняй Беларусі, апрача ўсяго гэтага, яшчэ фабрыка, дзе вырабляецца для буржуазіі сьмертаносная атрута—рэволюцыйная сьвядомасьць.

Але здараецца і так, што ў каморы, у сям'і палітвязьняў знаходзіцца часамі грунт, на якім узрастае нягоднае і шкоднае. Крутая зьмена

жыцьця, абмежаванае, замкнутае існаваньне, провокацыйная політыка адміністрацыі, цяжкія вастрожныя абставіны ўносяць часамі рознабой у сужыцьцё палітвязьняў, выклікаюць няпрыемныя, нетаварыскія выхадкі паасобных таварышоў. Зразумела, што руку ў гэтым прыкладае дэфэнзыва, што яна вельмі старанна кідае зерне і ўзрашчвае тое нягоднае ды шкоднае. Але і тут жалезная воля партыі найчасьцей рве провокатарскія сеткі, адсякае руку дэфэнзывы і зьлітоўвае яшчэ мацней у адну сям'ю палоньнікаў капіталу.

У каморы палітычных павятовага вастрогу ў горадзе В. грамадка палітвязьняў сядзела ўжо гадамі. Збольшага яны ўжо прывыклі, атупелі ад зьдзеку свавольнай адміністрацыі, ад смуроду ражак, голаду, клапоў і рознага бруду. Адно, што ўсе востра адчувалі,—гэта бязупынную патрэбу вырвацца на волю. Кожная вестка а партыі, а барацьбе на так званай волі хвалявала іх да глыбіні душы, перапаўняла гарачымі пачуцьцямі. Гэта былі моманты ня сьвята і ўрачыстых задаваленьняў, але моманты гарту рэволюцыйнай думкі, набіраньне сіл на трываласьць і стойкасьць, каб ня толькі адседзець свае гады і зноў стаць у шэрагі барацьбітоў, але каб вясьці барацьбу на кожным кроку з бязупыннa наступаючай адміністрацыяй.

Ад дружнага колектыву каморы адставаў Мэтак,—сядзеў ён ужо колькі месяцаў, аднак ні з кім яшчэ ня зжыўся, трымаўся адасоблена, замкнутым у самым сабе. Таварышы выкарысталі ўсе спосабы, каб даznацца аб Мэтаку ўсе падрабязнасьці, дакапацца прычын яго панурасьці, якая часамі пераходзіла нават у варожыя адносіны да іх. Ведалі толькі, што ён быў страшэнна зьбіты ў дэфэнзыве. Трапіў да іх у камору ўвесь у ранах, пляваў крывёй. Дапамогу і ежу таварышоў адкідаў, відавочна марыў сябе голадам, калупаў раны.

Мэтак часта буяніў з адміністрацыяй, за што адсіджваў у карцары, заўсёды стараўся правіннасьці таварышоў па каморы прыняць на сябе і нёс за гэта кару з нейкім схаваным задаволеньнем, выносіў за ўсіх ражкі, прыбіраў камору. Таварышы ня раз чулі, як Мэтак начамі варочаўся на пасьцелі, апанаваны думкамі, а раніцой на падушцы бачылі сьляды сьлёз. Не пераставаў дабівацца, каб яго пасадзілі ў адзіночку. Таварышы бачылі, што ён перажывае якісь душэўны непакой, але дзеля таго, што не маглі знайсьці прычын, дык прыпісалі ўсе дзівосы Мэтака нэўрастэніі, прыпісалі вынікам катаваньня дэфэнзывы.

Па сутнасьці справа стаяла так. Калі Мэтак на першым допыце з абурэньнем адмовіўся выказаць сваіх таварышоў і адкінуў усе ласыя абяцанкі, яго завялі ў дэфэнзыўную катоўню. Гэта быў спэцыяльны пакой з прыладамі катаваньня ахвяр капіталу. У адным кутку была жалезная печка для награваньня шомпалаў і цэглаў, якія тут-жа валяліся. Вісеў прыбіты да столі блёк з вяроўкамі для падвешваньня, прысьцяне—шырокі тапчан, невялікі столік, у шуфлядзе якога ляжалі шпількі

для забіваньня над пазногці і драўляныя дубчыкі для закладваньня між пальцамі. У кутку валялася брудная, карузлая гунька, якой укручвалі галаву, каб ня чутна было крыку і енку катаваных, апрача таго, пакой быў без вакон і ўвесь абіты тоўстым лямцам. Пабачыўшы ўсё гэта і сьляды крыві на ўсім, Мэтак здагадаўся, што яго тут чакае, і рашыў ня здацца,—ён пачуў вострае жаданьне фізычнага зьнішчэньня ворага. Не чакаючы, пакуль пачнуць катаваць, Мэтак раптам кінуўся на дэфэнзыўшчыкаў і пачаў іх раскідаць па пакоі. Напад зьнянацку і разьюшаная сіла Мэтака так зьбянтэжыла дэфэнзыўшчыкаў, што ён іх даволі лёгка зьбіў з ног і асіліў. Мэтак мог зрабіць спробу ўцячы, але думка яго працавала ў адным кірунку: зьнішчыць гэтых жывадзёраў, буржуазных гіен. Ён, як ашалелы, біў іх чым папала і як папала, кусаў зубамі, адрываючы кавалкамі вопратку і мяса. Урэшце падасьпеўшыя паліцыянты скруцілі да сінякоў Мэтака ланцугамі ды вяроўкамі і пачалі нялюдзкі зьдзек. Разважна, мэтодычна, з асалодай адзін спосаб катаваньня замянялі другім.

Мэтак ня помніў, калі страціў прытомнасьць. Прачнуўся ад страшнага болю—ад уколаў шпількамі пад пазногці.

— Прабудзіўся,—сказаў адзін кат.

— Ну, дык можна далей,—заўважыў другі.

І пачалі зноў...

Мэтак траціў прытомнасьць штораз часьцей.

Вось чуе ён, быццам у цяжкім сьне, як у летаргу, ні то ўдары цьвёрдай гумай па галаве, ні то капаньне халоднай вады, чуе нібы далёкі сіпаты голас-загад:

— Кажы, Сёмка комуніст?

І раптам шум, сьвіст, гоман, хохат заглушылі ўсё, хоць у катоўні, апрача паліцыянта ды аднаго шпега, больш нікога няма—паліцыянт сонны разьлёгся на стале, а шпег, разьмерна зацягваючыся папяроскай, кратаў вуснамі—відаць, нешта казаў, але Мэтак яго ня чуў. У носе грызла газа і да нудоты душыў яе смурод—відаць, улівалі праз нос. Паволі і шпег, і паліцыянт, і ўсё ў пакоі пачалі круціцца і нікнуць у імгле, быццам Мэтак апускаўся пад ваду і чым глыбей, тым цямней, тым цяжэй яму рабілася. Як ні намагаўся, каб павязаць думкі, каб валодаць сьвядомасьцяй—ня меў сіл, не хапала волі. Гойдаўся ў бязьмежнасьці сярод шуму і скавытаньня.

— Няўжо звар'яцею, няўжо ня вытрымаю...

І ўспомніўся Мэтаку яго таварыш, калісь быў, як дуб, здаровы, жыцьцярады, а цяпер, выпушчаны з дэфэнзывы, стаў мэлянхолікам. Такі сьмяхотны, непатрэбны, прыкры... І зноў натуга ўсіх сіл, усёй сьвядомасьці, каб не падацца, проціставіцца тэй страшной небясьпецы, каб разагнаць дакучлівы туман у вачох, шум у вушах. „Няхай заб'юць, але каб не звар'яцець. Мушу, павінен захаваць яснасьць думак..."

— Кажы, Сёмка комуніст?

І дэфэнзыўшчык, учапіўшыся ў валасы Мэтака, біў галавой аб падлогу ў такт сваіх запытаньняў. Ад самага нязначнага руху галавы Мэтак адчуваў цэлую гаму боляў у мазгох. Мэтаку здавалася, што на сьвеце больш нічога ня існуе, як толькі гэты клубок зматаных мук, болі...

— Кажы, Сёмка комуніст?

— Комуніст, комуніст...—дайшло да мутнай сьвядомасьці Мэтака і моцна яго ўстрывожыла. З вялікай натугай пачаў зьбіраць думкі, прыслухоўвацца, і яму здалося, што едзе ён у поезьдзе, а шалёны бег колаў выстукваў—комуніст, комуніст, комуніст...

Ня раз яшчэ мучылі Мэтака, каб вырваць у яго прызнаньне, але ён атупеў да катаваньняў, страшэнна саслабеў, выглядаў напоўпрытомным вельмі часта млеў.

Трапіўшы ў вастрог, Мэтак праз якісь час набраў сіл, пакрапчэў. Як праз сон, пачаў успамінаць, што з ім было ў дэфэнзыве. Першым чынам стараўся даведацца, ці арыштаваны Сёмка і гэтым праканацца, выказаў ён свайго лепшага таварыша і сябру ці не. Але ніхто яму нічога дакладнага і пэўнага сказаць ня мог. Мэтак аддаўся сваім затаеным думкам і самотным перажываньням.

— Няўжо я мог выказаць! Як гэта магло здарыцца: зрадзіць партыі, закапаць дарагога Сёмку... То-ж ён мяне дурнога малога выратаваў, калі мяне, пастушка, укусіла гадзіна—прыліп быў, як п'яўка, да раны і высмактаў атруту. Ён мяне запаліў агнём барацьбы і гартаваў, усьведамляў у палітычных спрэчках, а тут на табе: Мэтак выдаў, Мэтак провокатар. А чым давядзеш, што я нявінны, што я ня сумысьля выказаў, ды хоць-бы і давёў, дык усё роўна веры мне ўжо няма, бо пасьлізнуўся. Які-ж я да чорта рэволюцыянэр, калі нават мог падумаць, што можа лепш выдаць, як звар'яцець, а тым больш калі выказаў. Магчыма, што доўгія гады адданай барацьбы і змылі-б гэтую пляму. Але дзякуй за ласку, кожны дзень несьці такі цяжар, заусёды адчуваць скрытае недавер'е і асьцярогу таварышоў. Не, я ўжо прапашчы чалавек. Нават мая асаблівая стараннасьць і адданасьць да працы можа выклікаць у партыі падазронасьць, ці ня маю я іншай думкі, карэньні якой у тэй ганебнай пляме, якую нічым ня вытравіш, нічым не замажаш, якая на кожным маім добрым учынку будзе іржой напамінаць, што я калісь ня вытрымаў, што я рэволюцыянэр не да канца, што паміма самых шчырых жаданьняў магу зноў пахіснуцца... Вось цяпер у мяне самыя шчырыя і крыштальныя думкі і з поўнай сьвядомасьцю ганьбую свой учынак, аднак, тое, што сталася, падрывае давер'е да мяне ў мяне самога. Мала, што я цяпер гатоў на сьмерць, каб акупіць сваю зраду, гатоў усё сваё жыцьцё, усе надзеі, усё найдаражэйшае, наймілейшае кінуць у агонь барацьбы, ну, а што з гэтага? А хіба-ж я інакш думаў перш, чым трапіў у дэфэн-

зыву! Проста роспач агортвае. Чую, што тут ня ўсё ў парадку. Ці не ашукваю я сябе, быццам я яшчэ рэволюцыянэр, бальшавік? Зрадзіў партыі, ня маю пэўнасьці за сябе, кожная старонка майго жыцьця з тэй праклятай плямкай, ну хіба такія могуць быць у партыі? Рэч бясспрэчная, што я ў сетках дэфэнзывы, ды што ў сетках—сеткі можна парваць, разгрызьці, вырвацца. Дэфэнзыва ўпусьціла ў організм, у кроў сваёй атруты, і вось яна разьядае няверай усё нутро маё, атручвае сэрца, сушыць мазгі. Я дзіўлюся, як гэта таварышы не здагадваюцца, што я ня іх, што я шпег, дэфэнзыўшчык. І як ім забаліць, запячэ, калі даведаюцца, хто я, даведаюцца, як я іх ашукваў. Не! Далей так трываць няможна, годзе іх ашукваць і няма патрэбы сябе мучыць—усё роўна няма ані выхаду, ані ратунку. Трэба канчаць. Але зноў-жа самагубствам давядзеш, што не барацьбіт, а дрэньства, кісель і што нічога дзіўнага, што такі гніляк мог выказаць. А гэта самае страшнае. Вось ты, гад, паспрабуй усю сваю энэргію, кроў і розум аддаць справе рэволюцыі, паспрабуй агнём барацьбы выпаліць тую іржу на душы, паспрабуй памерці стойкім барацьбітом, паспрабуй прайсьці ўсе калючкі і перашкоды, усё жыцьцё цярпець, змагацца, перамагаць. Гэта адно, а другое—можа я ўсю гэтую бяду сам выдумаў, бо дзе доказы, што я выказаў, зрадзіў...

Так мучыўся Мэтак сярод сваіх цяжкіх перажываньняў, сярод трывог і здагадак, востра прыслухоўваўся і пільна сачыў, каб даведацца, што робіцца з Сёмкай. Прайшлі месяцы, а Сёмкі ў вастрозе ня было і ніякія чуткі аб ім не даходзілі. Мэтак пачаў супакойвацца, паправіўся здароўем і пакрыху насьміхаўся над сваімі зрадамі.

Ажно з аднаго вечара ўвялі ў камору зьбітага да поўсьмерці Сёмку. Выявілася, што ён быў арыштаваны хутка пасьля Мэтака і да гэтага часу ў дэфэнзыве яго мучылі і выпытвалі. Трымалі Сёмку дзеля таго доўга, бо ён стаяў цьвёрда, адпорна і нічога не казаў, а дэфэнзыва ведала, што ён мог-бы ім шмат цікавых рэчаў расказаць.

Мэтак прыпаў да ложка, дзе ляжаў Сёмка, і, цалуючы яго рукі ды крывавыя плямы на вопратцы, надрываўся ад енкаў і галашэньня. Ажно прыкра было таварышом прысутнічаць пры такой жаласьлівасьці таго, хто павінен сябе трымаць у руках нават на сьмерць ідучы, а то рассупоніўся, як баба на хаўтурах.

Мэтак ужо хацеў быў прызнацца перад усімі, хто ён—хай яго судзяць, даб'юць ці загадаюць чым-небудзь загладзіць свой учынак. Але не хапала адвагі, а галоўным чынам шкадаваў Сёмку—гэта для яго, зьняможанага, быў-бы гібельны ўдар, апрача таго, можа арышт Сёмкі ёсьць выпадковы, бо ня можа быць, каб ён, Мэтак, мог выказаць гэтага дарагога таварыша ды прыяцеля, каб ён, Мэтак, быў прычынай гэтых ран, крыві і мук... Мэтак з нявольніцкай пакорай служыў Сёмку, чым мог і як умеў, угадваў на поўслове кожны яго рух і, як адданы сабака, не адыходзіў ад ложка да позьняй ночы, хоць усе ўжо ляглі спаць, заснуў і Сёмка.

Ноччу крык аднаго таварыша абудзіў усю камору. Выявілася, што Мэтак павесіўся на рэмяні і ўжо страціў прытомнасьць, але пражка адарвалася,—ён сарваўся і, падаючы, абудзіў аднаго таварыша, які і падняў трывогу. Доўга не маглі прывесьці Мэтака да памяці, а калі ачуняў, дык адвярнуўся да сьценкі і, не адказваючы на пытаньні таварышоў, пралежаў цэлы дзень, толькі скрогат зубоў ды глыбокія ўздыхі казалі, што няўдалы самагубца перажывае цяжкі час.

Дрэннае пачуцьцё перажываў і Сёмка. У дэфэнзыве ў часе допытаў яму сказалі, што яго выказаў Мэтак. Абставіны так склаліся, што словы дэфэнзывы пацьвярджаліся, і Сёмка, чым далей, тым больш, пераконваўся што яго выказаў улюбёны прыяцель. Асабліва лішняе чулае спатканьне і намер кончыць самагубствам зусім упэўнілі Сёмку, што дэфэнзыва сказала праўду. Была толькі адна засьцярога: ці Мэтак выказаў пад біцьцём, ці ён зьяўляецца запісным провокатарам. Каб дайсьці праўды, Сёмка надумаў прыкінуцца, што нічога ня ведае і не здагадваецца, надумаўся сачыць. Яму было крыўдна да сьлёз за свайго сябру. Так-жа яны дружна працавалі, дзяліліся самымі затаёнымі думкамі, радасьцямі і няўдачамі, колькі вострых, рызыкоўных хвілін перажылі разам, неразрыўна зьліліся душой, маніліся разам рэволюцыю рабіць, расьцярушваць панскую окупацыю, а тут маеш табе...

„Зразумела, што дапамаглі яму зьвіхнуцца фашызм, дэфэнзыва", разважаў Сёмка—„а ўсё такі Мэтак свалата, дуплё гнілое. Вось білі і мяне, а ці я падумаў, ці заікнуўся аб такіх рэчах. Ламаны грош яму цана. Толькі ў такіх абставінах чалавека можна пазнаць".

Хутка Сёмка пераканаўся, што а провокатарстве ня можа быць і гутаркі. Мэтак проста-ткі спаткнуўся на шляху барацьбы, ня вытрымаў пробы і цяпер відавочна шкадуе. Гэта выклікала ў Сёмкі як-бы незадаваленьне ці расчараваньне—цяпер ён ня можа выцяць з усёй сілай па Мэтаку, як па сваім заклятым ворагу, каб разгрузіць тое набалеўшае, накіпеўшае на душы. Сёмка пачуў, як ён моцна азлоблены і як глыбака пагарджае свайго сябру. Дагаджваньне і пакорлівасьць Мэтака выклікалі агіду ў Сёмкі. Мэтак дзяліўся з ім сваёй ежай, папіросамі, рабіў за яго работу па каморы. Калі на 1-га мая Сёмка праз вакно каморы махаў чырвоным сьцягам і крычаў лёзунгі да вулічнай дэмонстрацыі, дык на допытах адміністрацыі, хто гэта рабіў, Мэтак узяў віну на сябе і за гэта панёс кару. У адказ на шчырыя, а часамі праз меру лісьлівыя адносіны Мэтака, Сёмка меў непаўстрыманае жаданьне чым-небудзь дапячы свайму сябру, зрабіць якую-небудзь скрытую няпрыемнасьць. У адсутнасьці Мэтака часта - густа абгаварваў яго перад таварышамі, а пасьля ўпікаў і лаяў сябе і даваў абяцанкі пакінуць гэтую шальмоўскую тактыку. Аднак вастрожныя абставіны, дзе, як кажуць, варышся ў сваім соку, зварочвалі Сёмку на папярэдні шлях. Ён заводзіў гутарку аб тым, як каталі ў дэфэнзыве, аб провокатарах і партыйнай зрадзе, граміў і ганьбаваў

нястойкіх партыйцаў, а пры гэтым цешыўся з душэўных мук і конфузу Мэтака, што ўчыняў яму сваёй гутаркай. Наогул-жа ў вочы Сёмка са сваёй ахвярай стараўся быць, як і перш, добрым прыяцелем і дружным таварышом, бо ведаў, што такія лагодныя адносіны больш мучаць Мэтака.

Але хутка гэты маральны зьдзек над Мэтакам перастаў задавольваць Сёмку, ён разважаў: адарваны ад работы, ад партыі, поўжыцьця адабралі ў дэфэнзыве, у баку заўсёды коле, засудзяць на гадоў шэсьць—восемь у вастрог,—але дзе-ж мне, хваравітаму, вытрымаць столькі гадоў. А ўсё дзякуючы яму, сябру дарагому, пастараўся, свалата.

Пасьля такіх разважаньняў ахоплівала жаданьне зрабіць Мэтаку якое зло, балючую няпрыемнасьць, зрабіць адкрыта, каб ён адчуў, што гэта ад яго, Сёмкі, што гэта заслужаная адплата за здраду, за ўсе злыбеды, якіх ужо не абмінеш, не паправіш. І дзеля таго, што бег дакучлівых думак ня меў сіл знайсьці іншы кірунак, што жаданьні ня мелі выхаду, Сёмка адчуваў, што яго апаноўваюць дрэнныя пачуцьці, пачуцьці помсты і нянавісьці, якія ў любы момант могуць прарвацца паміма яго волі і выліцца ў нешта нізкае, злачыннае, нявартае рэволюцыянэра.

Мэтак цярпліва пераносіў усе маральныя мукі, пераносіў, як пакуту, як кару за свой учынак. Кожны дзень прыносіў які-небудзь выпадак, што з болем напамінаў яго „шальмоўскі ўчынак“. Мукам гэтым ня было канца, вось чаму старая рана ня толькі не гаілася, але ўсё больш крывавілася. Камора рабілася да немагчымасьці цеснай і душнай, жыцьцё—цяжкім і непатрэбным.

„Жыць так даўжэй ня хопіць сіл“, разважаў з сабой Мэтак, „усяму ёсьць мера і свой канец, вось у гэты канец я ўжо ўпёрся. Таварышы кажуць, што плян маіх уцёкаў роўназначны самагубству. У гэтым я з імі згодны, але ня ўдасца ім мяне стрымаць. Яшчэ дзень, другі—і ўсё будзе падрыхтавана. Жывым ня здамся, а калі вырвуся на волю, давяду, што я магу і хто я“.

Аднак зьдзейсьніць свой плян яму не ўдалося. За дзень да яго ўцёкаў чыноўнік з вастрожнай канцэлярыі прынёс ліст у каморку і сказаў.

— Тут з вас нехта напісаў ліст да судзьдзі сьледчага, а адрасу зваротнага няма, не напісаў—ад каго. Хіба ня ведаеце, што гэткіх пісем ня прымаем.

Ліст кінуў на стол, а сам вышаў. У каморы ўсе былі зьдзіўлены, што ніхто не бярэ ліста. Пастанавілі расьпячатаць і прачытаць. У лісьце быў данос аб тым, што Мэтак зьбіраецца а такой-та гадзіне ўцячы. Трывога і абурэньне агарнула ўсіх вязьняў.

— Хто?—кожны пытаў вачыма прысутных сярод грознай маўчанкі.

— Я данёс на яго, бо ён мяне выказаў у дэфэнзыве,—сказаў панура Сёмка і пальцам ткнуў на Мэтака.

Ня здолелі апамятацца таварышы ад гэтай навіны, як Мэтак з асьцервяненьнем накінуўся на Сёмку і пачаў біць яго па твары зьлева на-

права. Сёмка не даваў ніякага адпору, не захінаўся ад udaраў, як-бы біцьцё было яму прыемна.

— Бі, браток, бі, вінны я, ашалеў ад нянавісьці, бі...—і сьлёзнымі вачмі Сёмка маліў дараваць яму.

Таварышы кінуліся бараніць. Але пакора Сёмкі ўраз-жа раззброіла раптоўны выбух злосьці Мэтака. Схапіўшы кволага Сёмку ў свае жалезныя абнімы, Мэтак насіў яго па каморы, аціраў сьлёзы, туліў, як дзіця, і прыгаварваў.

— Даруй, родненькі, я вінны, а ня ты. Свалата я, кулі варты. Але я не хацеў выказаць, ты-ж мяне ведаеш, ня мог я так зрабіць... ня ведаю, як сталася. Кулі я варты...

Ї хоць пабратэрску яны абнімаліся і іхнія сьлёзы пакуты, каяньня ды любасьці зьліваліся ў адно, аднак, недзе глыбока ў іхняй падсьвядомасьці быў вопадзь, мута ад мінулага, была лёгкая каламуць і гарката на душы. Адзін і другі нават у пачатку выбуху іхняй узварушанасьц, адчувалі, што мала дараваць адзін аднаму, што перад імі ляжыць доўгі шлях, на якім яны павінны акупіць перад партыяй свае ўчынкі. Ї ў кожным іх слове, руху, на пагляд скіраванымі адзін да аднаго, чулася мальба заклік да прысутных таварышоў, якія, апусьціўшы вочы, стараліся не глядзець на чулую сцэну. Не па сабе было таварышом, не самавіта сябе яны адчувалі, нібы хто ў вуха плюнуў, нібы паміж імі і тымі двума прабегла, як кажуць, чорная кошка. Ї кожны з іх сур'ёзна і спачуваючы разважаў: трэба тым, хто спаткнуўся, памагчы, трэба іх выручаць.

Праз якісь час палітычныя вязьні гэтай каморы, дзе адбыліся апісаныя выпадкі, даведаліся, што дэфэнзыва, каб скрыць сапраўднага провокатара, пусьціла чуткі, што Сёмку выказаў Мэтак.



АНДРЭЙ КУРЦІ (Куршынскі)
Латвійскі пролетарскі пісьменьнік

# ПРАКУРОР НАТ

*Апавяданьне*

**Андрэй Курці (Куршынскі)**

Эўропа нудзілася. Гэта было або змарнаваньне сіл ды энэргіі, або зьбянтэжаньне перад нечаканкай. Так можна было падумаць. Усё-ж ткі пракурор Нат думаў інакш: яму здавалася, што прышло проста звычайнае становішча, раўнавага пасьля юнацкай радасьці перамогі ды роспачы страты. Гэта была такая звычайная рэч: пракурор Нат быў адным з калішніх палітычных ссыльных. У пачатку рэвалюцыі ён зьвярнуўся на бацькаўшчыну, змагаўся супроць розных авантур і сам ледзь не зрабіўся гэроем нейкай заблытанай авантуры. Гэта крыху папсавала яму кар'еру. Ва ўсім сваім бляску яна ня была аднак бяз плям. А ўсё-ткі становішча пракурора Ната было трывалае: яму належаў нявялікі кавалак зямлі ў провінцыі, а таксама і акцыі ў розных гарадзкіх прадпрыемствах. Профэсія юрыстага, блізкія сувязі з шмат якімі сябрамі ўраду—таксама калішнімі ссыльнымі, мінулыя досьледы народнае гаспадаркі і соцыолегіі ды жыцьцёвая практыка—усё гэта знайшло цяпер практычнае дапасаваньне.

Але, ня гледзячы на ўсё гэта звычайнае, на думку пракурора Ната, становішча, яго душыла нейкае таемнае адчуваньне, якое ў апошнія часы, у зьвязку з шматлікімі маруднымі процэсамі, рабілася ўсё больш нясьцерпным. І вось у той вечар, калі чалавечае жыцьцё пракурора Ната зрабілася асабліва цяжкім, ён сядзеў у сваім габінэце і з непакоем глядзеў на поўасьветленыя дзьверы. Погляд быў нездаволены, твар зьлёгку заплыўшы, нібы атлусьцеўшы ад штучнага кармленьня. Бясформенна адбівалася на сьцяне згорбленая постаць пракурора Ната.

Пракурор Нат чагось чакаў. Выцягнуў гадзіньнік і паглядзеў: не, нельга яшчэ класьціся спаць, яшчэ зарана. Трэба пачакаць. „Магчыма, яшчэ сёньня ўночы"—падумаў ён і быццам спалохаўся. Думка, якая ўвесь час драмала ў ім напаўсьвядома, цяпер абудзілася. Як ён не прадбачыў гэтага? Цяпер магло здарыцца, што намесьнік пракурора спозьніцца, і тады яму—самому падтрымальніку абвінавачваньня супроць таго там, засуджанага цяпер на сьмерць чалавека—прыдзецца прысутнічаць пры выкананьні кары. І пракурор Нат ведаў, што адна справа вымагаць кары сьмерцю, а зусім іншая справа выканаць яе, таксама як не адно і тое-ж самае зрабіць злачынства і падбухторываць да яго. Дамагацца ў імя

закона—гэта-ж у пэўнай меры ёсьць рыторыка, асабліва, калі гэта рабіць часта, і розум у глыбіні сваёй прытупляецца. І так, гэта было ў апошнія часы з пракурорам Натам. Пры выкананьні-ж заўсёды могуць здарыцца якія-колечы нязручнасьці і непрадбачаныя перашкоды.

Апошняя справа з карай сьмерцю была нейкая асаблівая: засуджаны быў нейкі чалавек сярэдняга ўзросту, якога хацелі арыштаваць па падазрэньні, але ён кінуўся ўцякаць, уцякаючы адстрэльваўся і забіў аднаго паліцыянта. Нічога падазронага пры злачынцы не знайшлі, ня было і дакумантаў. Такім чынам невядомага судзілі як звычайнага забойцу. Да суда ён ставіўся нібыта са зьнявагай. Гэта зьняважлівая ўсьмешка асабліва ясна загарэлася ў вачох злачынца ў часе абвінаваўчае прамовы пракурора. Калі пракурор Нат у часе аднаго рытарычнага сказу паглядзеў у бок абвінавачанага, дык слова нібы застыгла ў яго на вуснах. Пракурору Нату на момант здалося, што ён ведае гэтага чалавека, ведае з часоў турмы і ссылкі. Гэта быў жудасны момант, які пракурор Нат перамог з вялікімі высілкамі—каб скончыць сваю лёгічна пабудованую прамову. Потым ён сябе неяк супакоіў. Усё-ж ткі нешта цяжкое і тупа-балючае засталося, і роўнавагу трэ' было кожны раз устанаўляць спачатку. Так і сёньня ўвечары. У злым аслупяненьні ён утаропіўся вачыма ў бок дзьвярэй, паглядаў час-ад-часу на гадзіньнік і чакаў.

У сумежным пакоі, за на поўзачыненымі дзьвярыма, спакойна ў сьне дыхалі дзеці. У адным з аддаленых пакояў яго жонка паігрывала на роялю, пачынаючы і кідаючы мотыў. Усё, як заўсёды. Але раптам ў калідоры забразгатаў званок. Пракурор Нат здрыгануўся і падняўся. Момант ён стаяў нібы ў задуменьні. Потым нячутнымі крокамі пасьпяшаўся адчыніць. Ён ведаў: прышоў пасланец. Атрымаўшы паведамленьне, пракурор Нат, не праказаўшы ані гуку, адпусьціў пасланца і нікім незаўважаны вярнуўся зноў у свой габінэт. Сеў і пэўны час тупа глядзеў у паведамленьне. Потым з хмурным тварам падраў яго на дробныя кавалачкі і кінуў—„няхай нават злачынец быў-бы ён—таварыш па ссылцы. Хай. Цяпер іншае, зусім іншая справа, чым тады. Цяпер—цяпер кара ад імя рэспублікі і ўсяго сувэрэннага народу",—праказаў ён і ўстаў каб пайсьці.

У калідоры, апрануўшы паліто ды ўзяўшы портфэль, пракурор Нат усё яшчэ стаяў і прыслухоўваўся. Ціша ва ўсім доме цяпер здавалася асабліва глыбокай. У спальні дзеці дыхалі таксама спакойна, як перад гэтым. І нямаведама чаму, пракурору Нату прышло ў голаву пайсьці і разьвітацца з імі. Ён увайшоў у дзіцячы пакой і асьцярожна пакруціў выключальнік электрычнай лямпачкі. Спакой па тварах дзяцей здаваўся прымітыўна сьвятым. Гэта расчуліла пракурора Ната. Дрыжачымі пальцамі ён выключыў сьвятло і, нібы засароміўшыся, пакінуў пакой. У калідоры ён спыніўся. З аддаленых пакояў зноў лена гучэлі першыя тахты з нейкай знаёмай старой студэнцкай песьні. Пракурор Нат уявіў сабе шырокую

сьпіну жонкі, таўстыя, з шэрагам пярсьцёнкаў, пальцы на чорна-белых клявішах, успомніў зграбную калісь студэнтку ды інстынктыўная варожасьць прачнулася ў ім супроць той там шырокасьпіннай жанчыны. Ён адчуў сумную самоту. Хмурна нацягнуў ён капялюш на вочы і асьцярожна адчыніў дзьверы.

Вышаўшы на вуліцу пракурор Нат агледзеўся наўкола. Маладзік блішчэў на зеленкаватым небе. У паветры адчувалася раньняе вясновае абуджэньне. Ноч была сьветлая. Толькі на другім баку вуліцы цені былі шырэйшыя. Пракурор Нат пасьпешна ўвайшоў у гэты цень. Там ён адчуваў сябе нібы сьмялей. Апроч таго, з гэтага боку вуліцы можна было ясьней назіраць, што робіцца навокал, можна было своечасна заўважыць сустрэчных і абмінуць іх. Пракурор Нат баяўся спаткаць па дарозе каго-колечы са знаёмых: ён ведаў, што ня здолее адказаць праўду на пытаньне аб тым, куды ён цяпер так сьпяшаецца ў гэту прыгожую месячную ноч. А маніць яму было брыдка.

Насустрэч з акраін гораду сьпяшаліся маладыя хлапцы і голасна паміж сабой гутарылі. Нехта з іх з абурэньнем выгукнуў імя пракурора Ната. Ён прыціснуўся бліжэй да сьцяны і пачакаў, пакуль кампанія гарача дэбатаваўшых прайшла міма.

На адным рагу вуліцы, каля гарадзкога парку, стаялі хлапец з дзяўчынай, нясьмела трымаючыся за рукі. Пракурор Нат назіраў са свайго змроку ласкавы і шчасьлівы водбліск месяца ў вачох моладзі. Ён завярнуўся і збочыў цяпер у алею парку. Тут ужо ня было цямністага прытулку і гэта яго хвалявала. Ён пашоў шпарчэй. Паміж драмаўшымі ствaламі дрэў бег яго цень. Калі за дрэвамі паказаўся пяшчаны пляц, ярка асьветлены месяцам, пракурор Нат ужо амаль што бег. Супакоіўся і пайшоў разважным крокам толькі тады, калі трапіў у цень нейкага вялікага шматкорпуснага будынку.

Гэта была турма. За агарожай былі чутны роўнамерныя крокі вартаўніка.

Пракурор Нат падышоў да брамы і пастукаў. У жалезнай браме адчынілася маленькае вочка. Нехта ўважліва праз яго паглядзеў. Потым адчынілася невялічкая фортка. Пракурор Нат увайшоў за агарожу турмы. Не адказаўшы на прывітаньні вартаўніка, ён пайшоў у бок галоўнага корпусу, дзе за кратамі сьвяціліся вокны. Пракурору Нату больш спадабалася-б, каб вартаўнік яго не пазнаў, патрабаваў-бы дакуманты і строга іх пераглядзеў-бы. Цяпер, наадварот, ясна было відаць, што на яго тут глядзяць, як на начальства—як на свайго чалавека. І гэта яшчэ болей яго засмуціла.

Калі пракурор Нат увайшоў пад скляпеньні турэмнай канторы, там ужо сядзеў начальнік турмы, ня зусім стары чалавек, тлустая шыя якога здавалася шырэйшая за галаву, доктар, бязвусы малады чалавек у вопратцы вайсковага доктара, потым, дзядок з рэдкай сівой бародкай і

палахлівымі мышынымі вочкамі—турэмны сьвяшчэньнік, і трохі далей—высокі абывательскага тыпу грамадзянін у зімовай шапцы ды высокіх ботах, спакойны і, здавалася, самапэўны. Гэты грамадзянін, як потым выявілася, быў кат. Пракурор Нат прывітаўся з усімі, паціснуў мясістую руку абывательскага выгляду грамадзяніну. Ён не зразумеў, чаму начальнік турмы пераміргваецца з прысутнымі ды агідліва ўсьміхаецца, і ён спахмурнеў. Але начальнік турмы сказаў нешта галосна ды вясёла і вышаў у калідор. Прагучэў загад. Чутно было пасьпешнае тупаньне ног па каменнай падлозе. Далёка ў калідоры забразгалі ключы. Потым зрабілася ціха. Цішу перарваў ляск кайданаў. Пракурор Нат прыслухоўваўся і кроў рынула яму ў галаву: у калідоры ён пачуў дзіўны задуменны поступ, нібыта нехта павольным поўным крокам пайшоў шпацыраваць у нядзелю пасьля полудня. Гэты ўпэўнены хадок яшчэ ня быў відаць, але пракурор Нат сьцяміў, што гэта засуджаны. Прыслухоўваючыся да гэтага поступу, пракурор Нат нешта ўспомніў. Ён амаль што закрычаў: „Ён, гэта ён!“ Халодныя кроплі пакрылі яго лоб.

— Вы, здаецца, упяршыню?—жаночым голасам дагодліва спытаў маляды доктар.

— Не,—глуха прабурчэў пракурор Нат і адвярнуўся.

Доктар нездаволена паціснуў плячыма.

— Так, так заўсёды, як у першы раз,—прашамкаў сьвяшчэньнік, аблізнуў сваю рэдзенькую бародку і палахліва паглядзеў на ката.

У гэты момант у дзьвярох зьявіўся начальнік турмы і ветліва запрасіў пачынаць.

На турэмным панадворку ўжо стаяла варта і чакалі фурманкі. У адной з іх сярод многіх вартаўнікоў сядзеў засуджаны. Побач з ім заняў месца кат. Чуваць было, як злосна перашэптвалася паміж сабой варта. Турэмная брама з воем расчыніла свае важкія весьніцы. Фурманкі выехалі, і брама зачынілася. У месячным сьвятле гэтая начная працэсія кідала на дарогу жудасныя цені. Усе маўчалі. Пракурор Нат, як у аслупяненьні, глядзеў туды, дзе сядзеў „ён“—абвінавачаны, і яму здавалася, што гэта начная паездка ўвозіць яго ад хаты, ад жонкі, ад дзяцей, ад усяго жыцьця ўсё далей.

Хутка фурманка завярнулася з шашы на бакавую дарогу, якая скончылася каля нейкага хляўка на леташнім картапляніку. Фурманкі спыніліся на гэты бок агарожы. Спрытна выскачыла варта, дбайна вылез кат. І зноў пракурор Нат пачуў ляск кайданаў: вялі засуджанага. За парканам была нейкая пустэча. Луна асьвятліла кучу сьмецьця і водкідаў гарадзкіх вуліц.

Пракурор Нат стаяў і ня мог зразумець, дзе тут зрабіць гэты ўрачысты акт у імя рэспублікі. Яго ахапіла нават цікавасьць паглядзець, як гэта ўсё тут адбудзецца. Хацелася распытацца ў сьвяшчэньніка, які павінен быў лепш ведаць гэту мясцовасьць. Але сьвяшчэньнік ужо стаяў, у

сваёй шапцы і вопратцы для набажэнства, каля хляўка і якраз начэпліваў на шыю вялікі залаты крыж, які блішчэў водблісками месяца. Ї толькі цяпер пракурор Нат убачыў ва ўсёй сваей мізэрнай рачаіснасьці абсталяваньне, дзе ўсё гэта павінна было адбыцца. Ні чорнага слупа, ні зыблівай пятлі ў паветры. Нічога тэатральнага. Пры канцы хляўка быў нявялічкі ўзгорачак, па-над ім з-пад даху чуць тырчэла жардзіна. Гэта ўсё. Каля гэтае жардзіны ўжо спрытна завіхаўся кат. Пракурор Нат бачыў мясістую руку, якую ён, вітаючыся ў турэмнай канторы, трымаў у сваёй, і з агідай адвярнуўся. У яго галаве была цяпер толькі адна думка: пайсьці. І ён сапраўды пайшоў-бы, каб ніхто яму не перашкодзіў. Але тут з нездаволенай мінай падышоў да яго начальнік турмы і сказаў, што ўсё ўжо падрыхтавана і няварта марнаваць час. У яго голасе чуваць была нецярплівасьць і пагарда.

Пракурор Нат нясьмела ступіў наперад крокаў з дзесяць і нейкі чыноўнік узьвёў яго на ўзгорак. Стуль пракурор Нат паглядзеў уніз, але ня мог добра разглядзець. У месячным сьвятле ўсё нібыта пералівалася. Ён адчуваў, што там унізе ў паўкрузе варты стаіць засуджаны, што зараз адбудзецца нейкае незразумелае злачынства. Нявыразна і блытана пачаў чытаць прысуд. Чытаў завіхаючыся. Трошкі спыніўся толькі там, дзе трэ' было спытаць імя засуджанага. Але засуджаны нічога не адказаў. Ён усьміхаўся так, што стаяўшы побач сьвяшчэньнік зноў пачаў нэрвова аблізваць сваю бародку, і пракурора Ната ўздрыганула, як ад сьмяротнага ўдару. Ніжняя губа ў яго не жадала ўжо слухацца. Ён прытрымаў яе пальцамі і шапялява скончыў чытаць. Уся ўрачыстасьць даўно ўжо зьнікла. Былі толькі мізэрныя людзі. І пракурору Нату здавалася, што засуджаны там унізе вырастае ўсё вышэй, што яго ўсьмешка робіцца ўсё вастрэй. І амаль што бегам ён зьбег з узгорка, адышоўся ўбок і чакаў. Цяпер дзейнічалі яшчэ сьвяшчэньнік і кат. Потым на момант зрабілася ціха. Чуваць было толькі дыханьне варты, і сьцюдзёная цемра бруілася з вачэй засуджанага. Пракурор Нат адвярнуўся і глядзеў у зямлю, на свае боты, якія здаліся яму чужымі і далёкімі. Потым нешта хляснула. Пракурор Нат не адважваўся зірнуць. Толькі адзін раз ён трошкі падняў галаву, і тады міма яго ў лунным сьвятле паплыў нейкі чорны ценярыс, як пуджала на ячменным полі, толькі з апушчанымі рукамі ды вісячымі нагамі. Праплыў, і зноў пракурор Нат бачыў толькі зямлю і свае боты. Нарэшце, калі чаканьне зрабілася нясьцерпным, да яго падышоў малады доктар і задаволеным голасам паведаміў, што сьмерць наступіла нормальна. Усе з палёгкай заварушыліся, і варта пачала нешта рабіць каля засуджанага, які ўжо быў зьняты з шыбеніцы. Пракурор Нат вышаў з агарожы. Перад хляўком стаяў начальнік турмы і размаўляў з нейкім тоўсьценькім дзядком. Гэты дзядок адамкнуў дзьверы хляўка і пусьціў начальства ў нейкае вільготнае памяшканьне. Цяжка было сказаць, што ў гэтым хляўку робяць, дзеля якое мэты ён пабудаваны. На дне пера-

вернутае бочкі палажылі пратакол, і ўсе, каму трэба, падпісалі. Пракурор Нат, невядома чаму, стараўся падпісаць свае імя нявыразьней. Падпісаўшы, адышоўся ўбок і агледзеўся. Пратакол падпісваў сьвяшчэньнік Іншыя стаялі наўкола. Уся гэтая група кідала на сьцены жудасныя, як здані, цені, якія рухаліся ды хісталіся разам з палыхаючым полымем сьвечкі „нібы змоўцы, нібы ўдзельнікі злачынства“, падумаў пракурор Нат і пасьпяшаўся выйсьці.

Дзьверы былі нізкія. Выходзячы, трэ' было вельмі нахіляцца. І ў той момант, калі пракурор Нат высунуў галаву за дзьверы гэтага хляўка, здарылася нешта дзіўнае і недарэчнае. Неба, здавалася, апусьцілася да самага даху і маладзік зусім блізка заглянуў у вочы пракурора Ната ды паморшчыўся. Так, ён з агідай усьміхаўся, як той—як той там павешаны. Ясна цяпер абрысавалася зьнявечанае, але знаёмае калісь аблічча. І пракурор Нат кінуўся як уджалены. Галава яго моцна выцялася аб вушак дзьвярэй, шапка звалілася. З голай галавой, у расшпіленым паліце, ён выбег з хляўка, пабег з пачатку па дарозе, потым зблытаўся і, спатыкаючыся ды падаючы, уцякаў па леташняму картапляніку. Яму здавалася, што нехта гоніцца за ім. У роспачы і стамленьні, ён, нарэшце, паваліўся каля нейкай вялікай кучы пагніўшага картаплянага лісьця, скруціўся ды стаіўся, як гэта робяць казюлькі, калі адчуюць, што небясьпека блізка.

Калі пракурор Нат апамятаўся, ён адчуў вялікую стомленасьць. Яго трэсла сьцюдзёная дрыгота. Ён выцягнуў галаву з картаплянага лісьця ды сеў. Месяц касурыўся дзесьці на небасхіле. Над картапляным полем гусьцеў туман. Скрозь туман момантамі здалёк выплывалі абрысы гарадзкіх фабрык і будынкаў. І пракурор Нат няясна ўспомніў сваю шырокаплечую жонку за роялем, успомніў спакой на тварах сьпячых дзяцей. Потым гэта зьява згасла, застаўся толькі жаль. Сухімі вачыма глядзеў пракурор Нат у туман і думаў. Праўдзівей кажучы, думка ішла міма яго. І ў гэтым паходзе ўсюль быў відаць ён сам—пракурор Нат.

Вось ён летнім ранкам прачнуўся ў сваім ложку. У пакоі нікога няма. Вакно адчынена. За вакном зеляніна, галіны, поўныя кветак. Сядзіць на галінцы птушка і разумнымі вачыма глядзіць на спаўшага.

„Дзень добры, дабрыдзень!“—Але птушка палохаецца і адлятае. Калышацца галінкі і пахнуць. Скрозь лісьце засьмяялася сонца...

Тады зноў позьні і хмарны асеньні вечар. Нат бяжыць са сваім таварышом па гэтаму самаму картаплянаму полю. Кружаць, як зайцы. А за імі лопаюць стрэлы. Але тут ён успамінае нядаўні малюнак за хляўком і ўсё пераблытваецца, як у брэду. На ўзгорку там цяпер стаіць у імя рэспублікі засуджаны, а ён сам—пракурор Нат—тырчыць, як злачынец, унізе паміж вартаўнікоў, тырчыць, як пуджала на ячменным полі, толькі з апушчанымі рукамі ды вісячымі нагамі.

Пракурор Нат падняўся на ногі і зноў хацеў бегчы. Але куды? Куды бегчы, дзе схавацца, каб ніхто ня бачыў, ні жонка, ні дзеці, і ён таксама

каб ня бачыў—гэты павешаны. Ён зразумеў, што схавацца ад сябе самога немагчыма, і таму няма болей ратунку. І яго ахапіў сьмяротны сум.

Стомленымі крокамі пракурор Нат пацягнуўся далей ад гораду па картаплянаму полю. Калі ён зноў прышоў да хляўка, ён пазнаў яго, але не спалохаўся. Ведаў, што іншага шляху ўжо няма. Вароты туды—да шыбеніцы—былі зачынены, але дзьверы хляўка былі адкрыты. Пракурор Нат пакорна нахіліў галаву і зьнік у поцемку. Месяц адвярнуўся ў тумане за небасхілам. Надышла непарушная ціша. Толькі чуваць было як брузьнее перапоўненая тленам вясновая зямля.

З латыскае мовы пераклаў **Кастусь Езавітаў**.

# З А В Е Я

*Апавяданьне*

**Н. Вішнеўская**

I

І здавалася, што гэта надыходзяць апошнія хвіліны, да таго круцілася і выла завея.

Вецер то раскідаў доўгія галіны калматых хвой, то зьбіраў іх у купу і прыгінаў вершаліны амаль не да зямлі.

Сьцяпан стаў. Высокая гурба сьнегу ці мо' кустоў перасекла яму дарогу. Зьнясілены, ён прытуліўся да тоўстае хвоі. У вачох ад напружаньня сьвяціліся жоўтыя ды зялёныя аганькі. Шынэля ад хуткага бегу расхрысталася, і вецер свабодна біў у змораныя грудзі. Падкасіліся ногі, і Сьцяпан ціха апусьціўся на невялікі пень. Абцёр рукавом пот і раптам з грудзей вырваўся ўздых аблягчэньня, уздых, з якім вярнулася думка і здольнасьць развагі.

Што было, што сталася за апошні момант? Цяжка сказаць, так усё вышла нечакана. Схапілі, павялі, і ня думаў Сьцяпан, за хвіліну перад сьмерцю, што будзе жыць.

На сьмерць ішоў спакойна. Яшчэ спакайней пазіраў у азьвярэлыя твары, у воўчыя бандыцкія вочы, і толькі холадна было ды рабілася крыўдна, што так нечакана трапіў у лапы.

Лесам вырасла нечаканая думка, што яшчэ можна пазбавіцца. Моцна закалацілася сэрца і ўстала цьвёрдае рашэньне ўцячы. Дапаможа завіруха. Каля самых кустоў так закруціла, так заляпіла вочы, што ў першы момант ніхто з трох не заўважыў адсутнасьці чацьвертага, Сьцяпана. А ён, нырнуўшы за кустамі ў гурбы сьнегу, у момант дабраўся да лесу. За плячыма вухнула адразу некалькі стрэлаў, адна куля сьвіснула каля самага вуха. Але не зачапіла, і Сьцяпан бег ды бег наперад. І невядома, колькі часу бег-бы ён яшчэ, натыкаючыся на кусты і пні, разрываючы адзежыну і рукі, каб ня гэты сумёт на дарозе.

Вялікая ўтома дала сябе знаць. Галава ў Сьцяпана была, як чужая, цяжка было падняць. Шапку недзе згубіў, і цяпер валасы, зацярушаныя сьнегамі, зьляпіліся ў космы і зьвісьлі на твар. Стала холадна. Сьцяпан мацней захінуў шынэль і сунуў скачанеўшыя рукі пад пахі. Раптам рука наткнулася на нешта цёплае і ліпучае. Мароз пабег па сьпіне. Няўжо зачапіла? Хутка падняўшыся і адвярнуўшыся ад ветру, Сьцяпан пачаў

мацаць бок. Няўжо ня мінула? Востры боль пацьвердзіў здагадку. Так, ён паранены, паранены ў бок. Раптам стала горка ў роце, зрабілася горача. Як-жа быць цяпер? Заставацца тут, у лесе, немагчыма. Да сьвету далёка... А ісьці—дык ці выберашся з гэтых нетраў у такую ноч.

Сьцяпан стаяў у нерашучасьці. Як быць, што рабіць? Пякучы боль і намокшая ад крыві кашуля прымусілі спыніцца на рашэньні ісьці. Куды?—ўсё роўна, абы ісьці, абы не заставацца сам-на-сам, абы дабіцца да якога-небудзь жыльля. Перш за ўсё трэ' было нечым сьцягнуць рану, каб стрымаць кроў. Але чым? Рукі хутка мацалі адзежу, шукаючы чаго-небудзь. Намацалі доўгі шалік, два разы абкручаны кругом шыі. Хутка Сьцяпан раскруціў яго і сьцягнуў моцным вузлом на грудзёх. Рана забалела і сьціхла, нібы-та стала лягчэй. Сьцяпан памацаў яшчэ раз мяккі вузел пуховага шаліка, і раптам у сэрца закралася туга. Мяккі шалік напомніў аб далёкай цяпер хаце і аб тых руках, што старанна вязалі яго. Захацелася да болю дамоў. У цёплую, прытульную хату, да мілых вачэй Тацяны. Нешта зашчымела ў грудзёх і захацелася ісьці зараз-жа, хутчэй. Захінуўшыся мацней і абмінуўшы сумёт, Сьцяпан падаўся ўправа.

Мяцеліца нібыта крыху сьціхла. Толькі вецер гудзеў таксама ды злосная панізуха з ціхім шурханьнем падкрадалася да Сьцяпана і моцна калола ў твар.

Ісьці было цяжка. Ногі штохвіліну танулі ў глыбокім сьнезе, панізуха сьляпіла вочы.

На хаду Сьцяпан стараўся арыентавацца. Пільна прыглядаўся ён па бакох, безнадзейна шукаючы хоць невялікага прасьвету. Але ў вочы адусюль глядзелі толькі чорныя сухія постаці дрэў, ды з рогатам неслася завіруха.

Вецер з поўначы—значыць трэба ісьці так, каб ён быў з правага боку. Тады ён павінен выбіцца на нейкае жыльлё.

Ішоў... выбіваўся з сіл, спыняўся... зноў ішоў.

Колькі прайшло часу з таго моманту, як Сьцяпан скрануўся з месца, ён ня ведаў. Навокал былі тыя самыя дрэвы, а ў вочы біла тая-ж завіруха. Толькі сілы ўсё больш і больш пакідалі змучанае цела. Усё менш слухаліся ногі. У галаве круцілася толькі адна думка—выбрацца з лесу, дабіцца ў вёску.

Аднаго толькі не разумеў Сьцяпан, чаму так доўга цягнецца лес. Свае лясы ведаў ён, як сваё поле, і асабліва гэты лясок. Ужо даўно павінен ён скончыцца. Ужо даўно павінна паказацца вёска,—калі не яго, то суседняя. А сьвету ўсё няма ды няма.

Раптам страшная здагадка працяла мазгі—ён зблудзіў. Ад гэтае думкі Сьцяпан нават спыніўся. Няўжо гэта магло стацца? Ужо даўно вецер дзьмуў з левага боку, а Сьцяпан толькі цяпер заўважыў гэта. Пільна пачаў ён аглядацца кругом, і раптам з грудзей вырваўся крык роспачы.

Сьцяпан прышоў на тое самае месца, дзе сядзеў. Вось той самы сумёт, вось вытаптаны сьнег.

Бясьсільна апусьціўся ён на той самы пень. А ноч усё снавала і снавала сваю сьнежную кудзелю.

Гудзелі вялічэзныя верацёны-сосны і высока наматваўся клубок сумётаў.

II

Вёска Выселкі ўжо другі дзень толькі і гаварыла пра зладзейскі нападак бандытаў на мястэчка Пяскі. Усе былі абураны зьверствам нечаканых гасьцей.

Гаманілі ўсе і непакоіліся.

Асабліва непакоілася маладзенькая Тацянка. Усяго два месяцы як запісалася яна з Сьцяпанам, а яго раптам ўзялі ды паслалі разам з другімі лавіць бандытаў. Комуніст ён, вось і паслалі. І жыве цяпер Тацянка адна аднэй у сваёй маленькай хатцы на краю вёскі.

Сумна аднэй, прадзе цэлы дзень, і розныя думкі рояцца ў галаве. То здаецца, што Сьцяпана забілі, то што загінуў дзе-небудзь.

Нудна аднэй, аісьці да сваіх ня хоча. Ня хоча, бо выгналі яе з дому, як дачуліся, што яна ня хоча ў царкве браць шлюб.

Гэта першы выпадак быў у Выселках, і ўсе зракліся яе, і жыла яна толькі ўдваіх з Сьцяпанам, бо Сьцяпан быў сірата. Цяпер паслалі яго і засталася яна аднэй. Закіпае злосьць у сэрцы процi тых, што паслалі яе Сьцяпанку на невядомы лёс. Загараюцца шэрыя вочы, але стрымлівае яна сябе. Калі паслалі і Сьцяпан пайшоў, то мусіць так трэ' было. Сьцяпан, адыходзячы, сказаў, што яму трэба быць там, разам са ўсімі, і Тацянка верыць, што гэта так бо не пакінуў-бы яе Сьцяпан дарма. А каб не баялася Тацянка начаваць адна, Сьцяпан папрасіў старую бабку Стэфу паначаваць з ёю. А за гэта абяцаў ёй заараць кавалачак поля.

Дзьве начы начавала бабка, а сёньня нешта занядужала, з печы зьлезьці ня можа. Страшна робіцца Тацянцы, што давядзецца начаваць аднэй, але прасіць нікога ня пойдзе.

Прыбралася ў хаце, закінула на ноч сівенькаму каню сена, а той у падзяку ласкава ўзяў яе цёплымі губамі за вуха. Падкінула сечкі карове ды ўзялася цяпер за прасьніцу.

Хутка набегла ноч. Запаліла Тацянка газовачку. Каб весялей было, зацягнула песьню. Гудзіць, гурчыць калаўротак, снуецца-цягнецца доўгая нітка... Зьвініць-галосіць тонкая песьня, снуюцца ціхія словы і пераплятаюцца разам з белай кудзелькай.

І весялей Тацянцы, адна і не адна. З ёю песьня. Заўжды, як сум агарне душу, як ляжа на грудзі цяжар, завядзі, засьпявай песьню—і ты пачуеш, як камень скоціцца з грудзей тваіх. У сьцюжу цяплей стане, а ў нядолі радасьць усьміхнецца ўсьмешкаю шчаснаю. У горы, у адзіноце сьпяваем мы і з песьняю адны і не адны мы.

Сьпявае Тацянка пра вясну і каханьне, а за сьцяной падпявае ёй стогалосая оркестра начы. Здаецца, усе цёмныя сілы абрушыліся на Тацянчыну хатку і правяць за тонкімі сьценкамі шалёны баль.

Страшна стане маладзіцы, як раптам завые ў каміне вецер ці заляпае ў дзьверы віхор. Перапыніць песьню, і міжвольна спуджаныя думкі панясуцца ў чорную ноч, да Сьцяпана. Дзе ён і што з ім. Непакойліва хмурнеюць бровы. З трывогаю пазіраюць шэрыя вочы на замеценае акно. Перапыняецца песьня калаўрота, каб загудзець мацней.

Цягнецца, цягнецца за вакенцам ноч, завіваецца на шпульку тонкая нітка і, здаецца, няма ім ні пачатку ні канца.

Маці, не падумаўшы,
Замуж аддала,—

зьвініць жаласная песьня, але чамусьці яна больш не супакойвае Тацянчынага сэрца. Нейкая незразумелая трывога кладзецца камнем на яго.

Сьціхае Тацянка—сіл няма сьпяваць. Забірае патроху страх.

Набягаюць на вочы сьлёзы, гатовыя скаціцца на белы хвартушок. Моцна шчыміць сэрца—страх за яго, за каханага.

— Сьцяпаначка, Сьцяпан. Дзе ты?

— Сьцяпан, дзе ты?

Сьціхае калаўротак, і ад таго, здаецца, яшчэ мацней шалее за сьцяной віхор. Усё пачынае палохаць Тацянку. Во за дзьвярыма нешта шаснула, во ў вакно нехта стукнуў.

„Ах, каб Сьцяпанка!" вырываецца ціхі ўздых.

А ноч цягнецца, цягнецца і, здаецца, канца ёй ня будзе.

Зморануюгалаву Тацянкі клоніць сон. Паднімаецца яна з лавы, а за ёю паднімаецца нехта вялікі, страшны... Халадзее Тацянка, прыглядаецца—гэта-ж цень! Сьмялей узьбіраецца на печ і, ня гасячы агню, туліцца да цёплага коміну, дзе так страшна гудзіць нячыстая сіла. Хоць і загадаў Сьцяпан ня хрысьціцца—усё-ж хрысьціцца Тацянка,—мо' паможа. Каб абразы былі ў хаце, то мо' і ня так страшна было-б. А то павыкідваў Сьцяпан іх, і праўду, мусіць, казалі людзі, што з таго часу завялася ў хаце нячыстая сіла. Але-ж чаму Сьцяпан не баяўся нячысьцікаў, як выкідаў з хаты абразы? Мусіць, і дапраўды іх няма, калі Сьцяпан казаў так.

Кахае Тацянка Сьцяпана. Ён такі разумны ды ласкавы, верыць яму Тацянка больш як каму. А ўсё-ж ткі добра было-б, каб начавала бабка. Яна-б супакоіла Тацянку... Расказала-б ёй многа розных дзіў... Харошая бабка Стэфа і Сьцяпанка харошы...

Змружываюцца павекі, адкідаецца русая галава на падушку, сон забірае хатку ў сваю ўладу, і толькі доўгія, цыбатыя цені ад газовачкі, як бяздомныя валацугі, сваявольна блукаюць па беленых сьценах і па палічцы з цёмнымі кніжкамі.

Бяжыць ноч. А Тацянцы сьняцца салодкія сны. Во вярнуўся Сьцяпан, узяў яе на рукі ды носіць па хаце. А кругом граюць музыкі—гэта іх вясельле... Радасна Тацянцы, выбягаюць яны з Сьцяпанам з хаты, бягуць у лес, сьмяюцца. Раптам выбягае з-за кустоў вялізны мядзьведзь, кідаецца на Сьцяпана—і раптам зьнікае Сьцяпан... Страшна ёй, хоча крыкнуць і ня можа, нехта душыць за горла.

Уся потная, прахапілася Тацянка. Палахліва аглядае хату, але ўсё пастарому, толькі газьніца ледзь сьвеціць, абяцаючы кожную хвіліну згаснуць.

Кідаецца Тацянка, напалохаў яе сон. За сьцяной нібы трохі сьціхла, хаця таксама гудзе вецер. Недзе на вёсцы пракрычаў певень. Каторы? Мусіць трэці, бо за замёрзшым вакном ноч не такая густая ды чорная.

Зноў ціхая дрымота ахапляе Тацянку, і раптам здаецца ёй—нешта скрабанула акенца. Не, гэта вецер. Сон ахапляе мацней. Зноў сьніцца ёй—прышоў, вярнуўся Сьцяпан.

— Тацянка!—далятае да яе вуха. Шпарка прахапляецца яна. Праціpae вочы, але кругом нікога. Толькі вецер вые і даносіць яшчэ ціхі шэпт сонных чар, ціхае „Тацянка“.

„Не, гэта чорт мяне марочыць сёньня“, ціха кажа сабе Тацянка. Рашуча кладзецца яна на бок і ўжо ня слухае ні ціхага скрабаньня ў акно, ні такіх жаласных стогнаў за сьцяной.

Моцна засыпае Тацянка і нічога больш ня сьніцца ёй.

На раніцу пад вакном Тацянкі знайшлі замёрзшага Сьцяпана.

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ

*Поэма*

**Якуб Колас**

Той час прайшоў. Забыты жахі.
Крыжы на могілках згнілі.
Дажджамі змыта кроў з зямлі.
Зьмянілі твар свой тыя гмахі,
Дзе сьмерці шворыліся страхі,
Свае ахвяры сьцераглі.
Пазбыта ўсё, прыціхла гора,
Прытуплен боль у сэрцы тых,
Хто страціў блізкіх, дарагіх,
Як лёсу цёмная пакора,
І глухне водгульле віхора
У далях вечна маладых.
Але жывуць яшчэ ўспаміны
Аб гэтай жудаснай вайне
Ня толькі ў нашай старане,
Дзе сьлед зьнішчэньня, сьлед руіны
І да апошняе часіны
Аб жахах сьведчаць выяўней.
Як нейкі сон, мільгнуцца цені
Мінулых дзён, былых падзей,
Адломкі зманлівых надзей,
І аднаўляюцца зноў зьвеньні
У ланцузе пакут, цярпеньня
Вайною зрушаных людзей...

Пакуль Дзяжа яшчэ ў дарозе,
Пара ў Засьценьне зазірнуць—
Той хутар нельга абмінуць
І нельга кінуць на парозе
Адну дзяўчыну крозы крозіць,
Каб потым моцна кульгануць.

І так. Адна стаяла Насьця,
На фронт прыціхшы глядзючы.
Шукала, бедная, ключы,

Каб ёй за той рубеж папасьці,
Ды, як на грэх ці на няшчасьце
Тут госьць падходзіць да дзяўчы.
Ідзе нясьмелы і пачціўы...
Яшчэ адзін ступае крок,
Руку бярэ пад казырок
Ды погляд кідае жычлівы,
Такі выразны, хоць маўклівы,
Нібы надуманы знарок.

АЎСТРЫЯК

Прабачайце, панна!..
Чым так засмучоны?
Ці ня там каханы,
Паньнін нарачоны?

Ад гэтых слоў, ад нечаканьня
Прыходзіць Насьця ў замяшаньне.
Зірнула ў вочы, і усьмешка—
Такі дзявочы ўжо звычай—
Зьмяняе смутак і адчай.
У міг канчаецца замешка,
Як у ігры—арол ці рэшка?
Вось сэрца іх і разгадай!

НАСЬЦЯ

А хіба-ж ня ўсё роўна вам,
Дзе мой каханы, тут ці там?

АЎСТРЫЯК

Даруйце мне: я мо' няўдала,
Не да рэчы запытаў,
Ды панна гэтак паглядала,
Як-бы ляцець туды жадала
Праз драты і сець застаў.
Але стаяць тут небясьпечна:
Свой-жа кроўны, друг ці брат,
Можа выпусьціць знарад,
Бо-ж вайна бесчалавечна,
Сьлепавока, недарэчна,
І такіх выпадкаў шмат...

І раптам, нібы ў падцьвярджэньне
Зьнячэўку сказаных ім слоў,
Пачуўся гук з тых берагоў,
Выцьцё і жудкае шыпеньне...
Яшчэ хвіліна, яшчэ мгненьне

І—ррах! аж дым і смрод пашоў.
Настуся бы аслупянела,
Зьбялела ўся, як палатно,—
Крывінкі ў твары ня відно.

АЎСТРЫЯК

За мною, панна! борзда! сьмела,
Калі жыцьцё вам не дадзела:
Нас тут зьмятуць, як парахно!

Хапае Насьцю ён за рукі,
А над галовамі іх зноў
Гудзе, вішчыць, аж стыне кроў.
Дзяўча бязвольна, без панукі
Уніз з ім коціцца, у лукі,
Пад сьцяты спад крутых ганоў.
І тут, за горкаю ў даліне,
Знаходзяць схованку яны—
Іх схоў надзейны, зацішны,
Ды страшна, моташна дзяўчыне:
Ці так ці сяк яна загіне—
Ёй голас шэпча патайны.

НАСЬЦЯ

О, божа мой! дзе мама? тата?
Што з дзецьмі? дзе наша сям'я?
Адна схавалася тут я!..
Рука сваіх на нас паднята!..
Да чым-жа дзеці вінаваты?
Ох, доля, долечка мая!

АЎСТРЫЯК

Будзьце мужны—пройдзе ліха,
Вы надзей ня траць це,
Бо-ж вайна: з яе кяліха
П'юць атруту брацьці...
Няхай панна тут пабудзе,
Покі б'юць гарматы,—
Схоў тут добры ад арудзій,—
Я-ж схаджу да хаты.

НАСЬЦЯ

Не хадзеце!.. Божа мілы!
Ён пашоў туды! чаго?
Прападзе, заб'юць яго,
Пахаваюць без магілы!..
Ой, блазьніца я, блазьніца!

Хто прасіў яго сюды?
Ён наклікаў нам бяды,
Ён—наш вораг, чужаніца!
Шкадаваць яго? ніколі!
Ён пашоў аддаць загад
Нашых біць з сваіх гармат,
Хоць і супраць свае волі!

Стаіць Настуся за гарою.
Навокал гром, яна адна...
Што-ж? піць няшчасьце, дык да дна!
А думак звадлівыя рої
Плывуць і кружацца над ёю,
У вір зацягвае вайна.
І гэты вобраз чужаніцы,
Што раптам вынікнуў і зьнік,
Нібы спакусьнік-чараўнік,
Мільгае ў шатах таямніцы,
Пераступаючы граніцы—
У сэрца свой закон, язык.
Хто ён такі і скуль ён родам?
Хоць вораг ён, а быў, як брат:
Адвёў ад сьмерці, ад гармат,—
На думкі прыдзе мімаходам,
І нават стане яго шкода,—
Вярнуўся-б хоць сюды назад.
Тымчасам сьціхла страляніна
З тае зарэчнае дугі,
Што нікне ў полагу смугі.
Яшчэ прайшла адна хвіліна,
Маўчыць зьнямелая даліна,
І тояць варажасьць лагі.
Ёй страшна тут адной і жудка,
Яна ня верыць цішыне
І гэтай здрадніцкай вайне
І ловіць вухам зыкі пудка,
Але спакойна і ціхутка
І ў іх і ў нашай старане.
Яна глядзіць і штось гадае
Ды йдзе разважліва лужком
І думкі думае цішком
І тропкі-сьцежкі разглядае,
А мо' яшчэ што—хто згадае?
Аж зірк—і ён бяжыць трушком!

Настуся раптам прасьвятлела,
Бо страшна ёй, што ні кажы,
А з ім сьмялей, хоць ён чужы,
І іскра к іскры паляцела,
Хоць Насьця й думаць не хацела
Аб кім другім, апроч Дзяжы.

НАСЬЦЯ

Скажэце, пане афіцэру,
Ня будуць больш ужо страляць?

АЎСТРЫЯК

Аб гэтым вашым штабам знаць,
А мне як ведаць іх намеры?
Пасыпалі крыху няпрошаных гасьцей,
Шукаючы напэўна батарэй.
Пашчупалі налева і направа—
Звычайная на фронце справа.
На гэты раз сышло шчасьліва,
І вашы дома цэлы ўсе.
Але што новы міг нясе?
Вайна так здрадліва, імгліва,
А вас мне шкода асабліва,
Як жыць у гэтай паласе
Пад грукат грозны страляніны,
Дзе сьмерць вандруе што хвіліну
І душу муціць і трасе?

НАСЬЦЯ

А што рабіць? Мы тут адны,
Дарогі пераняты,
І ноччу стаўся дзень відны.
Як ноч, сьляпы, зацяты...
Ды будзем жыць нейк тут—
Авось нас выратуе цуд.

АЎСТРЫЯК

На сьвеце людзі ёсьць усюды,
І вы тут, панна, не адны.
Не пакладайцеся на цуды,
Бо аджылі свой век яны.
Давайце лепш падбаем самі,
Як захавацца ад гармат,
Бо фронт ня зрушыцца назад,
Прынамсі гэтымі часамі:

Вайна ўжо цягнецца гадамі
І яшчэ возьме часу шмат...

НАСЬЦЯ

Ох, нярадасныя-ж весьці
Аб вайне сказалі вы:
Будзе фронт стаяць на месьце,
Каб усё спаліць і зьмесьці!
Хто-ж тут вытрывае ўрэшце,
З пекла вылезе жывы?

АЎСТРЫЯК

Каго заб'юць, хто будзе тут жывы—
Усё гэта ёсьць марнае гаданьне,
Дарэмнае пытаньне—
Ня варта турбаваць на гэта галавы.
А трэба, панна, мець прыпынак
На той выпадак, як адтуль,
Накіраваўшы зевы руль,
Пашле ваш рускі вам начынак:
Не захавае вас будынак
І ад шрапнэльных нават куль!

НАСЬЦЯ

Зямля прыпыніць нас усіх,
Далёкіх, блізкіх і чужых.

АЎСТРЫЯК

Эх, панна мілая!
Ня трэба быць такой:
Я за здароўе вам,
А вы мне за ўпакой!
А вось наконт зямлі,
То гэта справядліва,
І выхад вы знашлі.
Дык віват, панна, віват!

Жыцьцё спавольна, скокам-бокам,
І тут вашло ў свае правы.
Зямлю парэзалі равы,
А фронт міглівым сваім вокам
Глядзеў, змагаючыся з мрокам,
З-пад хмура ссунутай брывы.
Паўзла тады бясшумна пляма,
Халодны бляск, па скронях гор
І вырывалася ў прастор,

А сьледам гулкіх стрэлаў гаму
Гарматы кідалі за браму
У дрот завітых сваіх нор.
Гулі гарматы нясьціханна,
Калі здалёк, калі зблізка,
І чыясь грозная рука
Гразіла людзям пастаянна,
А гоман мараў, мілы, зманны,
У сьветлых далечах блукаў.
Такая ўжо ўласьцівасьць наша—
Ад цёмных будняў уцякаць,
Каб адплаціць сабе ў сто крадь
За гора выпітага чашу,
І мары выпусьціць на пашу,
Каб шчасьця ў марах пашукаць.

Але вярнуся я ў Засьценьне,
Дзе трохі звыкліся з вайной
І дзе з надзеяй патайной
Канца чакалі, замірэньня,
Ды фронт стаяў, як знак цярпеньня,
Завіты сеткай драцяной.
Стары Галута зноў пацiху
Абходы робіць на двары—
Ахвота ўсё-ж яго бярэ
Падбаць аб справах сваіх крыху,
І, прызвычаіўшыся к ліху,
Папар пад жыта ён арэ.
А з поля прыдзе, каля дому
Работу знойдзе зноў стары:
Бы крот, капаецца ў нары,
Сваю палепшвае харому,—
Той госьць, чужак, памог старому
Зямлянку зладзіць у гары.
І нават выслаў на падмогу
Ен, вораг наш, сваіх салдат!
Хіба-ж зрабіў-бы так свой брат?
Ёсьць дзе схавацца, дзякуй богу,
Калі дадуць з-пад тога логу,
Засыплюць нашы-жа з гармат!
І вось Галута ў тым кірунку
Пашоў і шмат яшчэ далей—
Скаціну так-жа пажалей,
На што-ж цярпець і ёй усчункі?

І тут ня хітрыя рахункі,
І так спакойней і сьмялей...
Зямлянка ўсіх надзейна туліць
І нават песьціць малышоў:
Такіх прыўдалых салашоў
Ніякі стрэл не перакуліць.
Зямлянка забаўкі ім суліць,
Нібы Вялікдзень ім прышоў.
Для іх цікава гэта зьмена
І новы быт, і новы стан,
І нявідомы той шатан,
Што здрыгане часамі сьцены,
І гуд крылатае сырэны.
Той шум, што ўзьніме араплян,
А гэты рух у блізкім тыле,
Нямоўчны гром калёс, машын!
Нібы шалёны нейкі млын:
Бранявікі, аўтомобілі,
Мотоцыклеты ў кожнай хвілі,—
Ці-ж мала дзецям тут навін?
Жанкі таксама каля хаты
Ці ў агародзе вядуць рэй—
З работай час ідзе скарэй.
І дзень, работаю заняты,
Разводзіць думак рой зацяты,
І ноч праходзіць весялей.
Ня век-жа будзе стан вось гэты,
І прыдзе нейкі ўсё-ж канец,
Апошні ўзложыць свой вянец,
Акорд апошні будзе сьпеты,
Бо што жыцьцё бяз жаднай мэты?
Прыдзі-ж, ты, міру пасланец!
Прыдзі, зьнімі ярмо тамленьня,
З народаў крыж пакут зьнімі,
Бо сьвет усеяны касьцьмі,
Бо дух сышоў людзкі ў зацьменьне,
Бо гасьне радасьці праменьне,
Бо твар зямлі абліт сьлязьмі.

Няма-ж надзей на мір жаданы,
Канец вайне губляўся ў цьме,
І фронт гатовіўся к зіме,
Прыціхшы, злы, неразгаданы,
Стаіўшы здрадніцкія пляны

І нешта маючы на ўме.
Мінуў і месяц з той часіны,
Як фронт спыніўся і заціх,
А Насьця ў думках патайных
Чакае зручнае часіны,
Каб кінуць дом свае айчыны
І перабрацца да сваіх.
Яе падчас грызе сумленьне,
Чаго сядзіць спакойна тут?
Чаму ня возьме часьць пакут
І боляў тых, таго мучэньня,
Таго бясконцага цярпеньня,
Што на сабе нясе там люд?
Ды як адолець ёй парогі,
Дазоры, варты і драты?
Не, марны плян яе, пусты!
Яна ня пройдзе стан аблогі—
Няма мажлівасьці, ні змогі
Прайці праз гэтыя платы.
І тут бывала, нечакана,
Бы злодзей, спотайку, ня ў знак,
На думкі прыдзе аўстрыяк.
Які ён добры, выхаваны—
Хоць прылажы яга да раны,
Хоць ён і вораг як-ні-як!
І пойдуць думкі мімаволі
У іншы бок, як на той грэх.
Іх госьць, Ян Крочак, родам чэх,
Настаўнік быў у чэскай школі,
Цяпер-жа стаўся ў іншай ролі.
Вайны прайшоўшы курс насьпех.
Ён ня чужаецца іх дому,
Гатовы ўсім дапамагчы
І ад бяды засьцерагчы.
Яму прызнаны, як нікому,
На гэтым страшным пераломе,
Дзе вір вайны іх налучыў.
Часамі зручнаю часінай,
Калі сустрэнуцца яны,
Забудуць грозны стан вайны,
А ён расказвае навіны
З сваіх прыгод, свае краіны,
Пра рост культуры іх буйны.

А як натхненна і ахвотна
Аб школе гутарку вядзе!
Няма тут школ такіх нідзе,
Хоць ён іх бачыў мімалётна;
Але уражаньне журботна:
Душа баліць—на іх глядзець...

І Насьця ўсё прыпамінае,
Ці лепш—прыпомніцца само.
Згрызоты, плян яе—дармо!
Сама ня ведае, ня знае,
Дзе думка-веюшка лунае,
Распрогшы клопату ярмо.

29/IX-24/X—1928 г.

# РАЗБОЙНІК БУ́ЙТРЭ

**А. Александровіч**

1

Ня зьмерыць вокам беларускі лес,
як і ня зьмерыць зор у ноч праяў зімовых.
Бязьмежны лес! Разбойнічы начлег.
Таемны—як зямля і як зямля—суровы.

За лесам плесьняй стыне шыр балот,
шуршацца зарасьлі засохшае асокі.
І толькі чуцен гул ад веку вольных вод
усьпененай Бярэзіны шырокай.

О, гэты гул! Як шмат гавора ён!
Як шмат ён захлынаў харобрых армій войска.
І шведы гінулі, і тут Наполеон
зламаў сваю сусьветнай славы стойкасьць.

Гнуць ветры над Бярэзінай крутой
строй сосен, як над морам кіпарысы.
І тут, нібы жабрак, з цярплівасьцю людзкой,
стаіць гісторыяй пакрыўджаны Барысаў.

2

Было таму год семдзесят назад,
той час жыве ўспамінамі на вуснах.
Разбойнік Бу́йтрэ жыў, ён вербаваў атрад,
атрад разбойнікаў яўрэяў беларускіх.

Прыняў іх лес, паіў сваёй расой,
захоўваў ад вачэй узброенай аблавы. -
А ноччу Бу́йтрэ сам атрад выводзіў свой
з гушчару страшнага на страшную расправу.

Пальлюцца кроплі чалавечае крыві,
агонь змывае сьлед: гарыць сялянскі хутар.
Сваімі буйнымі набегамі Давід
здабыў імя сабе: яго празвалі—Бу́йтрэ.

І буйным быў. Жыцьця не дараваў.
О, гора там, дзе быў налёт Давіда.
Калі папаў яўрэй—Давід яму даваў
Хвіліны тры жыцьця на прачытаньне „Відуй“ [1]).

А ў лесе жуць і страх. А лес шумеў, шумеў...
Праявы грудзі рвуць, як стогн вятроў заўзятых.
Разбойнікі ў кустох, здавалася ў турме,
як сьцены—змрок лясны, а сосны—быццам краты.

І банда меншала: ў мястэчкі беглі зноў.
Кідалі жудасьці гушчарнай цемры лесу.
За гандаль браліся, і зноў гішэфт пайшоў,
і кожны і цяпер—а гаслон он а мэссэр [2]).

За хвалямі ракі ляцелі ўсьлед і дні,
застаўся Буйтрэ ў адзіноце, без атраду.
Адзін застаўся ён. Прысеў з журбой на пні,
з сваімі думкамі дзяліў сваю дасаду.
Бязьмежны лес! Ня зьмерыць, не прайсьці.
Схаваўся Буйтрэ за зялёнаю завесу
ад сонца, ад жыцьця. Ён, зубы сьцяўшы, сьціх,
чытаючы штовечар—„Шмэйно-эсро“ [3]).

Ад сонца, ад жыцьця, ад грамады ён зьбег.
Чытаючы малітву—чуе: едуць кары.
Маліцца ня спыніў. Спыніць малітву грэх,
хоць сэрца точыць жаль—шкада згубіць ахвяру...

Нібы нажамі сонечнымі, страх
пралазіў у жыцьцё тутэйшых балаголаў.
Ламала рукі Буйтрава сястра.
Разбойніка кляла мальбой вячэрняй школа [4]).

О, многа сьвежае на могілках зямлі,
і што курган—то камень--шэры, хмуры.
Ён сьведка тых ахвяр, ён сьведка тых хвілін,
калі чало жыцьця кранаў разбойнік Буйтрэ.

О, гора там, дзе Буйтрэ пабываў,
прыносіў сьмерць, дзе толькі гляне вокам.
І з буйных рук сваіх людзкую кроў змываў
на беразе Бярэзіны шырокай.

[1]) Перадсьмертная малітва.
[2]) Разбойнік без нажа.
[3]) Вячэрняя малітва.
[4]) Меліцьвены дом (сінагога).

3

Прышоў на хмарах восенскіх эул[1]),
рассыпаўся халоднаю імглою.
Імглу прарэзываў лясны надрыўны гул—
абветранаю водгульнай стралою.

Разбойнік Буйтрэ з цемры лесу зьбег,
пярсьцёнкі-валасы рукамі злосьці рве ён...
У родным горадзе знайшоў сабе начлег,—
начлег дала яму ў сваім прытоне Лэя.

Чураўся ён дзяўчат, хаваўся ад людзей.
А як напоены адстоенаю брагай—
дарма ня пройдзе ноч. Бываць ліхой бядзе!
Пакажа Буйтрэ моц разбойнічай адвагі.

Пад хмелем выйдзе ён, пад хмелем, што яму?!
Навостраныя зубы, нож па-за халявай.
А ноч стаяла цёмная. Забраўшыся ў карчму,
ён там пачаў сваю звычайную расправу.

Спрасоньня гаспадарская дачка—
— „Дав-від“...—трывогай бацьку свайго звала.
— Пазнала!—крыкнуў Буйтрэ, і яго рука,
каб сьцяць сьляды,—жыцьцё дзяўчынкі сьцяла...

У вечар пятніцы, за сьвечкамі яўрэй
чытае нараспеў мальбу, як сьвет, старую.
Угледзіць кожны ў цёмных зарасьлях брывей
вялікі сум, журботнасьць векавую.

— Ня лёгка жыць і крыўдна, гэта горш,
разьня, пагром—няшчасны лёс народны.
Жыві, чакай—яшчэ—і ўсадзіць нож
рука аідэшэ[2]) пагібельлю холоднай.

Быў сын—і добрымі бывалі тыя дні,
чарнявы Лэйбэ—сын, о, радасьць бацькі рдзее.
Цяпер—ня Лэйбэ Кац,—а Качев Леонід,
цяпер—сароміцца сказаць, што ён з яўрэяў.

І мову родную, як прозьвішча, зьмяніў,
пяе на розны лад, як выгадна, як снадна.
Багаты іх, любога з іх крані—
пасыплецца з вачэй, ня кроплі сьлёз, а здрада.

[1]) Верасень месяц.
[2]) Яўрэя.

У вечар пятніцы разбойнік Буйтрэ спаў,
нібы забіты, зморany, загнаны.
Барысаў змоўк... З-за хмар'я месяц выглядаў
на родную зямлю, нібы з зямлі выгнаны...

Патухлі сьвечкі... Завіваўся сон.
Адно Бярэзіна раскідывала хвалі...
— Абходураднікаў... Гурбой зайшлі ў прытон.
Разбойнік Буйтрэ тут... Яго арыштавалі...

— Якая навіна! Папаўся чортаў чмут!
Барысаў—гутаркамі радаснымі ўсеян...
А неўзабаве ў менскую турму
вязьлі закутага разбойніка яўрэя...

## ВЯЛІЗАРНАЕ АБЖОРСТВА

(Grosses Fressen)

**Іоганэс Бэхэр**

1

Сярод дрэваў адвечных вялізных лясоў
цяжаровыя йдуць самаходы,—
то на Фордавых моцных машынах
на торг
едуць мурынаў чорных народы.
І над сіньню Сланёвага возера
ім збудаваць удалося
на палях гаражы...
У чароце ўжо гук грамафонны чуваць:
то Карузо пяе,—
і пад сьпеў той скакаць
будзе добра капланкам старое сьвятыні,
але з штучным натхненьнем
свой торг пачалі
іх зайздросьнікі
ў гэтай краіне.
Так.
са Злучаных Штатаў
з сабой прывязьлі
многа бібліяў і кулямётаў,
і склікаюць на сход
жыхароў тэй зямлі—
чорных мурынаў і готэнтотаў.

*

Рэвольвэры, нажы
не пашкодзяць тады,
каб загнаць у гушчар
гэтых горных лясоў
старажытных, адвечных паганскіх багоў,
і каб больш нарабіць ім бяды.

*

Вось вучоныя
сьпешна сьвідруюць зямлю—
шмат там нафтавых знойдуць
магутных крыніцаў.
Рынкам новым
збагацяць дзяржаву сваю,
з добрай весткаю
могуць вярнуцца ў сталіцу—
скажуць:
„Многа багацьцяў адразу:
дрэва шмат, дыямэнты і газа!“

*

Сьвідравальных машын
пераносяцца вежы,
па вісячых мастох
ужо ймчыцца трамвай;
аглядаюць дасьледчыкі
новыя межы—
гэты сьвежы,
багаты і нязьведаны край.

*

А на выспах Гавайскіх
чуем выбухі мінаў—
гэта камень будоўны
здабываецца там,—
гэткім чынам усюды,
у далёкіх краінах
моц і веліч работы
выяўляецца нам.

2

Міліёнамі глотак
уядаюцца хціва
эўропэйцы ў чужыя краіны,
і Амэрыцы
зноў удаецца шчасьліва
пераможны паход бязупынны.

*

Парушаюць яны
прагавітай рукою
сон адвечны—пакой пірамід;

і, пакончыўшы ўжо
з узьбярэжнай зямлёю,
пераможнік, аднак-жа, ня сыт,—
і рыдлёўкай, матыкай,
сьвідравальнай машынай,
нібы зубам, грызе ён зямлю,
а чыгункай, шасою,
караблём, параходам
ён трымае здабычу сваю.

*

Ёсьць яшчэ самаходы,
ёсьць яшчэ самалёты,
што адлегласьць зьнішчаюць зусім,
паглынаюць прастору,
надаюць больш ахвоты
пераможцам адважным такім.

*

Вось Эўропа з Амэрыкай
сьвет захапілі:
з рэк ваду
на турбіны пусьцілі яны,
правялі яны грэблі
на цэлыя мілі,
кругавід
на прасторы агромнай закрылі
масай фабрык,
кашараў, папраўчых дамоў.

*

Загародаю з мінаў
аточаны выспы,—
для краінаў
дзікунскіх ратунку няма:
сыплюць зьверху ў паўстанцаў
падпальныя бомбы,
газ атрутны
загубіць хутчэй, як чума.

*

А за дротам калючым
тытуновых плянтацыяй
пачынаецца зноў барацьба

валадарных
і ворагам пераможаных нацый,
хоць надзея тубыльцаў
слаба.

*

І асаднік
бяздольных зьнішчае і душыць,
шкодны опіум ім прадае,
забірае ў салдаты,
як гарматнае мяса,
для аховы
дзяржавы свае.

*

Іх сьвятыні—
у цэрквы свае пераробіць,
а калі ў абурэньні
паўстане народ,—
то іконамі
сьцены эўропэец аздобіць,
а паліцыі—
дасьць кулямёт...
і мядзяныя ногі
вялікага Брамы
нечакана пакрыюць
чырвоныя плямы.

Пераклаў з нямецкае мовы
**Л. Цьвяткоў.**

## ЛІСТ ДА СЯСТРЫ

**Паўлюк Трус**

*(З нізкі вершаў „Вясковыя мэлёдыі“)*

Маўклівасьць дум,
А за парогам сьцені...
І нейкі лёгкі сум
На зморанай душы.

Адны ў надроспачы
Ўкрыжоўваюць каменьні,
А я дзіўлюся ў сьвет,
І абнімаю шыр.

Гады пражытыя,
Як мары ў навальніцах,
Мяне сустрэлі вы
За чаркаю жыцьця.

Таму й над нівамі
Зара ў красе ільсьніцца,
Усьмешкі-водблескі
Над краем шалясьцяць.

Як старац з ліраю,
Іду ў пустыню сьвету;
Душою й песьняю
Я за жыцьцё згару!

— Тварцы і гэніі,
Прарокі і поэты!..
У калючых цернях
Ня слаўце Беларусь!

Ня слаўце містыкай,
Хто ў сэрцы мае зраду;
Хто ў сьне-агоніі
Ўзьняў рукі на крыжы.

— Таварыш, дружа мой,
    У чарках плешча радасьць—
Няма Вялікшага,
    Як будаваць і жыць...

. . . . . . . . . . . .

Прышоў я з казкамі
    У залатое раньне...
Ад Сожу ціхага,
    Ад берагоў Дняпра.

Краіна родная,
    Прымі-ж маё вітаньне,—
Прымі мой зорны сьпеў,
    Далёкая сястра!

— Сястрыца любая,
    Сястрыца дарагая!
Пішу сягоньня ліст
    І шлю табе уклон.

Цяпер вясна у вас,
    Вятры шумяць над гаем,
А позна ўвечары
    Красу цярушыць клён.

Ах, дружа, клён,
    Ну як яго ня ўспомніць?..
... Быў верасьнёвы дзень,
    А травы ў далавах.

Цьвілі... І адцьвіталі...—
    Як на парозе, помню,
Сказаў на ростані,
    Сястры сказаў—Бывай!..

Сказаў апошняе,
    Ды толькі не паверыў,
Што хвілі ў ростані—
    Глыбокі сум бяз слоў.

Яна ўсьміхнулася,
    Як зачыняла дзьверы...
Пакінуў я сястру
    І роднае сяло.

Сяджу ў маўклівасьці,
    І бровы спахмурнеюць,
Ты-ж, адзінокая,
    Пры кроснах ля вакна.

А ўзоры роняць сон,
    Вятры з далін павеюць—
Ты ў думках схілішся
    Над чаўнаком адна.

Адна выходзіш ты
    На залаты пагорак,
Дзе сосны журацца,
    Ў гаёх маўчаць сычы.

А там над Нёманам
    Плывуць чаўны ў прасторы;
Там сьпевы коцяцца
    Ў нямую далячынь.

    Селі гусанькі,
        Гусі-лебедзі.
    Палі шэрыя
        На ваду.

Ой, скажэце, гусанькі,
    Ой, скажэце, лебедзі,
Ці я сваё шчасьцейка
    Ды знайду?

    Ўстрапянуліся
        Гусі белыя.
    Пер'е скінулі
        На вадзе.

Не сказалі лебедзі,
    Не сказалі дзеўчыне
Дзе шукаці шчасьцейка,
    Долі дзе.

Ці ў палёх яна
    Лістам сьцелецца
Так, як сьцелюцца
    Верасы,

Ці над ціхім Нёманам,
  Адшумела з хвоямі,
Ці ў вянкі купальскія
  Ніжа каласы.

  Ой, пайду адна
  Яр-далінаю,
  Мо' спытаюцца:
   Хто? І скуль?..

А на хвалях лебедзі
  Паплылі ад берагу;
А дзяўчына журыцца
  На пяску...

— Сястрыца родная,
  Сястрыца дарагая!..
Пішу сягоньня ліст,
  І шлю усім уклон.

Цяпер вясна у вас,
  І зоры дагараюць;
А позна ўвечары
  Скрыпіць над хатай клён.

— Ах, дружа, клён,
  Яго я зноў успомніў.
... Быў верасьнёвы дзень,
  А кветы ў далавах.

Ў красе адцьвіталі,
  Як за парогам, помню,
Сказаў апошняе,
  Сястры сказаў—бывай!..

І з болем, з радасьцю
  Пашоў любіць і верыць...
Пазнаць жыцьцё, людзей—
  Адчуць гнеў навальніц.

Яна заплакала,
  Як зачыніла дзьверы.
І гэты вобраз-цень
  Пасьля я двойчы сьніў.

— Ня плач, забытая,
Прыеду на пасёлак.
Пазьней, ці ў чэрвені,
Як адцьвітуць сады.

Цябе ў „Наднёмані“
Сустрэну комсамолкай,
І ўславім песьнямі
Пражытыя гады.

Мы выйдзем з думамі
Ў бяскрайныя прасторы,
Асыплем ружамі
Адвечную красу.

І ў змроках-цемені,
Дзе недапіта горасьць,
Мы скажам з гордасьцю:
Ты—маладосьць, красуй!..

## ЁН АДЧЫНІЎ ВАКНО

**Валеры Маракоў**

Ен адчыніў вакно
І доўга ў сад глядзеў,
Ў душу ўліваўся непакой язьміну
І так хацелася
Да маладых грудзей
Зноў прыгарнуць каханую дзяўчыну.
Прайшла Наташа задрамаўшым садам
І абудзіла сум
Ў яго грудзёх,
І гэты сум
Ўзварухнуўся гадам,
Каб атруціць юнацкае жыцьцё.
Ў сваім прыгожым дарагім убраньні
Пад ружай дзіўнага закату
Яна прайшла
Якойсьці тайнай зданьню
І ён шаптаў,
Як сымболь шчасьця:
— Ната...
Над тапалямі ў прадвячэрняй стоме
Ўзыходзіў месяц
Лесьвіцай вякоў.
Усё было ціха
Ў гэтым старым доме,
Як у магіле,—ціша і спакой.
І ўспомніў ён былыя захапленьні,
І свой фальварак,
Згублены ў палёх,
Сваіх надзей
Сьвятло
І цені
І успамін на сэрца болем лёг.
І ён казаў: не адчыняй, ня трэба,
Не адчыняй вакна,

Ні сэрца,
Ні душы!..
Там, ў залатым тумане неба,
Табе, мой любы друг,
Ня жыць!
З тваімі песьнямі,
З тваёй душою змрочнай
Пад сум нябёс,
Пад музыку зямлі
Ня несьці радасьць песьні іх паўночнай
Ў свае маўклівыя палі.
Яна прайшла мо' з злосьцю,
Мо' з агідай
І вось ізноў прыгожая ідзе...
Ёй на спатканьне
Ў гэту змрочнасьць выйдуць
Ў разгары шчасьця,
Веры
І надзей.
Ён зачыніў вакно...
Ён стаў каля каміну...
Ён зачыніў вакно ад зорных непагод.
І толькі сьвет
Сваёй айчыны
Ён патушыць ў душы сваёй ня мог.
То быў поэт з блакітнымі вачыма
І з залатою ружай
Галавы,
То для сваёй загубленай,
Любімай
Ен краў у ночы кветкі і шыпы...

# АБ ЧЭРНЫШЭЎСКІМ-РЭВОЛЮЦЫЯНЭРУ І МЫСЬЛІЦЕЛІ

**Проф. С. Вольфсон**

Стогодні юбілей Мікалая Гаўрылавіча Чэрнышэўскага наблізіў савецкую інтэлігенцыю да адсунутай, здавалася, у гістарычную далячыню фігуры аднаго з найбольш рэволюцыйных прадстаўнікоў расійскай соцыялістычнай мысьлі і аднаго з самых раньніх нашых матэрыялістых.

У нашых кнігарнях зьявіліся сьвежыя матэрыялы аб Чэрнышэўскім, якія адкрываюць новыя старонкі яго жыцьця і даюць новыя рысы яго асобы [1]). У нашых тоўстых часопісах зьявілася шмат артыкулаў аб Чэрнышэўскім. Нанава выдаюцца старыя працы аб ім, выпушчан рад новых, пераважна популярных работ. Урэшце, разгарэлася досыць заядлая дыскусія наконт блізкасьці Чэрнышэўскага да навуковага соцыялізму і марксызму.

Усё гэта, нясумненна, зьяўляецца доказам таго, што Чэрнышэўскі мае для нас далёка не адну толькі гістарычную вартасьць. Чэрнышэўскі ў значнай частцы яго духоўнае спадчыны сучасны нам, сучасны нашай эпосе, і—пры пэўнай крытычнай ацэнцы—наша вучнёўская моладзь можа шмат узяць для свайго культурнага ўзбагачэньня, для свайго ідэолёгічнага загартаваньня, у аднаго з самых выдатных прадстаўнікоў нашага раньняга соцыялізму—у мысьліцеля, якога Карл Маркс называў „вялікім расійскім вучоным“.

З стракатых нітак саткана канва жыцьця М. Г. Чэрнышэўскага...

Унук вясковага дыякана, сын протопапа Аляксандра-Неўскае царквы, выхаванец Саратаўскай духоўнай сэмінарыі, студэнт Пецярбурскага унівэрсытэту, настаўнік гімназіі, выкладчык кадэцкага корпусу, чыноўнік губэрскага праўленьня, магістр і адстаўны тытулярны саветнік...

Ад рэлігіі, схолястыкі, унівэрсытэцкай лінгвістыкі эволюцыянізаваў да утопічнага соцыялізму, далучыўся да дыялектыкі Гэгеля і матэрыялізму Фэрбаха, палка перажываў рэволюцыйныя падзеі 48 году, радыкальны журналісты і адзін з кіраўнікоў „Современника“—буйнейшай публіцыстычнай трыбуны, навакол якое групавалася расійская разначынная інтэлігенцыя канца 50-х і пачатку 60-х гадоў.

К пачатку 60-х гадоў імя Чэрнышэўскага ўжо было рэволюцыйным сьцягам для лепшай часткі гэтай інтэлігенцыі. Ён быў сапраўдным ула-

---

[1]) У першую чаргу варта назваць—„Н. Г. Чернышевский. Литературное наследие. Т. I. Из автобиографии. Дневник 1848—1853“. ГИЗ. М.—Л. 1928 Стар. 748.

даром яе думак. Урад „цара-вызваліцеля“ ня мог вельмі доўга мірыцца з популярнасьцю Чэрнышэўскага, якая нясупынна расла. III аддзяленьне атрымала загад „прыбраць“ Чэрнышэўскага. Загад быў выканаьы,—„канавод юнакоў“, „хітры соцыялісты“, „павадыр нігілістых“ „прыбраны“ і запратораны...

„Адстаўны тытулярны саветнік Мікалай Чэрнышэўскі, які займаўся літаратурай“,—гаворыцца ў азначэньні Ўрадавага Сэнату ад 2-га сьнежня 1863 году,—„быў адным з галоўных супрацоўнікаў часопісу „Современник“. Часопіс гэты сваім кірункам зьвярнуў на сябе ўвагу Ўраду. У ім разьвіваліся ў пераважнасьці матэрыялістычныя і соцыялістычныя ідэі, якія імкнуцца адмаўляць рэлігію, мораль і закон, так што ўрад палічыў патрэбным спыніць на некаторы час выданьне ўсяго часопісу, а адначасна з гэтым выкрыты акалічнасьці, якія паказалі ўраду ў Чэрнышэўскім аднаго з шкодных дзеячоў у адносінах да дзяржавы“.

Пералічыўшы злачынствы Чэрнышэўскага, азначэньне агалашала: „З гэтых меркаваньняў і на падставе вышэйпаказаных законаў, Урадавы Сэнат пастанаўляе: адстаўнога тытулярнага саветніка Мікалая Чэрнышэўскага, 35 год, за злую думку скінуць існуючы парадак, за ўжываньне захадаў да абурэньня і за складаньне абурлівае адозвы „К барским крестьянам“ і перадачу яе для надрукаваньня з мэтаю распаўсюджваньня,—пазбавіць усіх правоў, маемасьці і выслаць на катаржную работу ў капальнях на 14 год, а потым пасяліць у Сібіры назаўсёды“...

19-га мая 1864 году на Мытнінскім пляцу, паблізу Неўскае вуліцы, праз ранічны туман відзен быў высокі чорны эшафот. У натаўпе навокал эшафоту згрудзіліся студэнты, пісьменьнікі, дробныя гандляры, сяляне, убраныя дамы, багалюбныя бабулі і майстры ў хвартухох са сваімі прыладамі. „Сярод народу“, гаварылі аб тым, што будуць „падпальшчыка зьневажаць“, што „будуць зрываць мундзір і эполеты“, што „з палякоў мабыць“ і інш.

В. Г. Караленка рысуе са слоў вачавідца малюнак грамадзянскай кары Чэрнышэўскага.

„Чэрнышэўскі,—блёндын, нявысокага росту, сухарлявы, бляды (ад прыроды), з невялічкай клінавіднай бародкай,—стаяў на эшафоце бяз шапкі, у акулярах, у асеньнім пальто з бабровым каўняром.

Каля ганебнага слупа,—да якога падвёў Чэрнышэўскага кат, надзеўшы яму ззаду на рукі колцы прыкаваных да слупа ланцугоў,—Чэрнышэўскі глядзеў увесь час на публіку, разы два-тры здымаючы і праціраючы пальцамі акуляры, змочаныя дажджом. Стаяньне ля ганебнага слупа цягнулася каля чвэрці гадзіны,—ды чытаньне столькі-ж, калі ня больш. Потым, вызваліўшы ад ланцугоў, кат вывеў Чэрнышэўскага на сярэдзіну эшафота і разламаў над яго галавою шпагу, кінуўшы яе палавінкі ў розныя бакі.

У заключэньне Чэрнышэўскі быў зьведзены з эшафота і пасаджаны ў карэту. У гэту мінуту з асяродку інтэлігентнай публікі паляцелі

букеты красак; частка іх папала ў карэту, а большая частка міма. Публіка зьлёгку падалася наперад. Коні падхапілі. Далейшых комэнтарый з боку натаўпу на чутно было... Дождж лінуў мацней“...

Чэрнышэўскі быў замураваны. Шэсьць гадоў ён правёў у капальнях Нерчынскай катаргі. А за імі пацягліся дванаццаць гадоў Валюйскага сасланьня-астрогу. Але імя „жыўцом пахаванага“ Чэрнышэўскага, як яго назваў Вільгэльм Лібкнэхт, ня спыняла даваць натхненьне рэволюцыйнай моладзі з глыбіні Сібіры, таксама як і з рэдакцыі „Современника“. Чэрнышэўскі стаў закладнікам рэволюцыі ў лягеры рэакцыі. Рэволюцыянэраў семідзесятых гадоў турбавала думка аб тым, што

В далекой сибирской тайге
Гибнет светоч науки опальной.

Вядомы рад спроб: Лапаціна, Мышкіна і іншых рэволюцыянэраў вызваліць Чэрнышэўскага,—усе яны не ўдаліся.

Але ўраду замала было жыўцом пахаваць Чэрнышэўскага,—трэба было паменшыць яго ўплыў на маладое пакаленьне рэволюцыянэраў. І вось з урадавых крыніц пачынаюць пускацца чуткі аб тым, што Чэрнышэўскі звар'яцеў. „Калі я быў у Іркуцку,—успамінае В. Г. Караленка,—мяне зноў спаткалі тут пастаянна хадзіўшыя чуткі: гаварылі, што Чэрнышэўскі памёр, і што за некалькі гадоў да сьмерці ён ужо быў вар'ятам. Тлумачылі нават прычыну: магутны розум, стомлены бязьдзейнасьцю, не знаходзіў выйсьця. Чэрнышэўскі нібы пісаў з раніцы да ночы, але баючыся, што рукапісы будуць адабраны, паліў іх у групцы“...

Сапраўды-ж Чэрнышэўскі цярпеў сваё зьняволеньне з выключнай мужнасьцю і рэдкім унутраным героізмам. Калі канчалася ўжо яго першае дзесяцілецьце, 12-га студзеня 1871 году ён пісаў сваёй жонцы: „...Што датычыцца асабіста мяне, я сам ня ўмею разабрацца, ці згадзіўся-б я выкрасьліць з майго лёсу гэты пераварот, які прымусіў мяне цэлых дзевяць год нудзіцца і пакутаваць. За цябе я шкадую, што гэта было так. За сябе самога зусім здаволены. А думаючы аб іншых—аб гэтых дзесятках мільёнаў жабракоў, я рады таму, што без маёй волі і заслугі надана больш сілы і аўторытэтнасьці майму голасу, які загучыць-жа калі-небудзь у абарону іх“.

Урад спрабаваў зламаць непахільнага рэволюцыянэра і іншым шляхам: яму абяцалі памілаваньне, калі ён падасьць адпаведную просьбу. Улада разьлічала вызваленьнем Чэрнышэўскага скомпромэтаваць яго ўваччу рэволюцыянэраў як капітулянта. Каб „схіліць“ Чэрнышэўскага, да яго была паслана спэцыяльная місія—ад'ютант сібірскага генэрал-губарнатара. Чэрнышэўскі адказаў: „Дзякую. Але, бачыце, за што-ж я павінен прасіць даравац мне? Гэта пытаньне... Мне здаецца, што я сасланы толькі таму, што мая галава і галава шэфа жандараў Шувалава збудаваны на розны манер—а хіба за гэта можна прасіць даравац? Дзякую вам

за турботы... Падаваць просьбу я катэгорычна адмаўляюся“... Адказ, які зрабіўся клясычным.

Чэрнышэўскі быў вызвалены ў 1883 годзе—праз дваццаць адзін год пасьля арышту.

Апошнія шэсьць гадоў жыцьця—так званы астраханскі пэрыод—як вядома, Чэрнышэўскі займаўся літаратурнай працай пераважна пераходнага характару. Праца адбывалася ў максымальна няспрыяльных умовах. Аднак яна давяла, наколькі магутны яшчэ быў пасьля астрогу і катаргі розум вялікага асьветніка...

Вялікі расійскі асьветнік быў аднэй з самых энцыклёпэдычных па рознастайнасьці сваіх ведаў і шматграннасьці навуковых інтарэсаў асобай.

Ён выявіў уменьне разьбірацца ў самых складаных проблемах філёзофіі, этыкі, эстэтыкі, экономікі, гісторыі, соцыолёгіі. Быў здольным бэлетрыстым (даволі прыпамятаць яго „Што рабіць?“). Наогул, у асобе Мікалая Гаўрылавіча мы маем энцыклёпэдычна разнабаковага мысьліцеля.

Але эпітэтам мысьліцеля ня вычэрпваецца характарыстыка Чэрнышэўскага. Ён быў ня толькі мысьліцель, але і змагаьнік. У юбілейныя дні мы павінны прыпамятаць і Чэрнышэўскага-рэволюцыянэра. Памылкаю нашых уяўленьняў аб Чэрнышэўскім зьяўляўся некаторы рацыяналістычны схэматызм. Мы ўяўляем звычайна Чэрнышэўскага як магутную лёгічную машыну, як чалавека цьвёрдай і непахільнай волі, як вучонага фанатыка. Гэтым мы грэшым супроць сапраўднасьці. Сапраўды-ж Чэрнышэўскі быў чалавек рэволюцыйнага тэмпэрамэнту,—закладзеныя ў ім магчымасьці змаганьніка не маглі выявіцца толькі з прычыны знадворных умоў, з прычыны так бязьлітасна скалечанага царызмам яго жыцьця. А. В. Луначарскі нядаўна вельмі дарэчы напомніў, што пануючае ўяўленьне аб Чэрнышэўскім, як аб чалавеку прозаічнага складу, аб дзелавой разважальнай натуры, аб „мазгавіку“ патрабуе сур'ёзнай папраўкі.

Чэрнышэўскі не габінэтны ўладар думак. З шмат якіх яго радкоў відаць, што ён быў сапраўдным рэволюцыянэрам, у іх адчуваецца палкасьць змаганьніка.

Нядаўна апублікаваны юнацкі дзеньнік яго сьведчыць аб наяўнасьці ў Чэрнышэўскага нясумненных элемэнтаў якабінства. Ён прызнаецца там самому сабе, што зьяўляецца ня толькі чалавекам „з нахілам да соцыялізму і ворагам застою і ўціску“. Юнак Чэрнышэўскі ўжо адчувае сябе ў адносінах да царскага рэжыму „асабістым ворагам... як адчувае сябе змоўшчык, як адчувае сябе генэрал у адносінах да няпрыяцельскага генэрала, з якім павінен распачаць заўтра бой“. Сіла яго нянавісьці да рэжыму такая вялікая, што ён „здольны на ўчынкі самыя адважныя, самыя сьмелыя, самыя шалёныя“... Але гэтыя „самыя сьмелыя, самыя шалёныя“ ўчынкі выплываюць у Чэрнышэўскага не з якога-

небудзь немотываванага романтычнага настрою. Не, гэта вынік яго пераконанасьці ў тым, што галава дзяржавы, што цар—прадстаўнік эксплёататарскіх груп насельніцтва, што ён „вяршыня конусу арыстократыі“. Чэрнышэўскі пачынае адчуваць, што пры такім палажэньні справы „мірнае, ціхае разьвіцьцё немагчыма, што краіну чакаюць няўхільныя сударгі“. І Чэрнышэўскі наперад апраўдвае гэтыя „конвульсіі“, цераз якія Расія можа толькі прыйсьці да новага, больш чыстага і больш справядлівага грамадзкага ладу. Ён пераконаны, што яго „не запалохае ні бруд, ні п'яныя мужыкі з дуб'ём, ні разаніна... Чэрнышэўскі малюе бяз упрыгожваньня пэрспэктыву грамадзянскай вайны і ўлічвае, што тыя, хто пачне яе, павінны быць гатовы ісьці без канца, тут не павінна быць хістаньняў, замінак, прыпынкаў: „... калі вы палохаецеся ці вам агідны тыя меры, якіх вымагае справа, то і не пачынайце яе і не бярэце на сябе адказнасьці кіраваць ёю, таму што вы толькі папсуеце справу“, з рэволюцыйнай рашучасьцю кажа ён будучым удзельнікам грамадзянскай вайны. І ўжо ў раньні пэрыод жыцьця Чэрнышэўскі марыць аб тым, што „гэта вайна прынясе краіне такі грамадзкі лад, пры якім улада пяройдзе ў рукі самае нізкае і самае шматлікае клясы—зямляробы, плюс падзёншчык, плюс рабочая кляса“...

Славутая проклямацыя „Воззвание к барским крестьянам“, якая зьявілася адным з галоўных матэрыялаў, каб засудзіць Чэрнышэўскага, напісана таксама рукой рэволюцыянэра, які цьвёрда і настойліва, але асьцярожна рыхтуецца да змаганьня не на жыцьцё, а на сьмерць...

Вось характарны ўрывак з гэтай проклямацыі: „А когда промеж вас единодушие будет, в ту пору и назначение выйдет, что пора дескать всем дружно начинать. Мы уж увидим, когда пора будет, и об'явление сделаем. Ведь у нас по всем местам свои люди есть,—отовсюду нам вести приходят, как народ, да что народ. Вот, мы и знаем, что покудова еще нет приготовленности. А когда приготовленность будет, нам тоже видно будет. Ну, тогда и пришлем такое об'явление, что пора, люди русские, доброе дело начинать, что во всех местах в одну пору начнется доброе дело, потому что везде тогда народ готов, и единодушие в нем есть, и одно от другого не отстанет. Тогда и легко будет волю добыть. А до той поры готовься к делу, а сам виду не показывай, что к делу подготовление у тебя идет“.

Чэрнышэўскі значна лепш за многіх іншых рэволюцыянэраў яго часу разумеў, як пакутлівы, як цяжкі шлях палітычнага змаганьня, шлях змаганьня за канчатковую перамогу прыгнечаных кляс. Але труднасьцяў гэтых ён не баяўся. „Гістарычны шлях,—любіць гаварыць ён,—не тротуар Неўскае вуліцы: ён ідзе напрасьцяк цераз палі то пыльныя, то гразкія, то цераз балота, то цераз нетры. Хто баіцца, што на яго насядзе пыл, баіцца запэцкаць боты, той не бярыся за грамадзкую дзейнасьць. Яна—занятак добры для людзей, калі вы думаеце сапраўды аб

карысьці людзей, але занятак ня зусім ахайны"... Чэрнышэўскі паказаў, што ён гатовы ў імя гэтага змаганьня несьці бясконцыя асабістыя ахвяры. Чэрнышэўскі не захапляўся і не пераўвялічваў, калі запісаў у свой дзеньнік у сувязі з караю нямецкага рэволюцыянэра Блюма: „Я не пашкадую свайго жыцьця для панаваньня сваіх пераконаньняў, для панаваньня свабоды, роўнасьці, братэрства і дастатку, зьнішчэньня галечы і брыдоты, калі толькі буду ўпэўнены, што мае пераконаньні справядлівы і запануюць, і калі ўпэўнен буду, што запануюць яны; нават не пашкадую, што ня ўбачу дня панаваньня і цараваньня іх, і салодка будзе памерці, а ня горка, калі толькі ў гэтым буду пераконаны".

Сваімі паводзінамі на катарзе і ў сасланьні Чэрнышэўскі давёў, што ён сапраўды ўмеў ахвяраваць жыцьцём у імя панаваньня сваіх пераконаньняў і рэволюцыйнае справы.

*
* *

Юбілей Чэрнышэўскага аднавіў ужо даўно пачатыя спрэчкі аб тым, у якой ступені сыстэма Чэрнышэўскага блізка да навуковага соцыялізму. У свой час на гэта пытаньне даў вычарпальны і ўсебаковы адказ Г. В. Пляханаў. Рад артыкулаў Пляханава, прысьвечаных Чэрнышэўскаму, і яго монографія аб ім складаюць тое лепшае, што сказана ў марксыцкай літаратуры аб Чэрнышэўскім. Не зважаючы на шэраг дробных памылак Пляханава, як, напр.: недаацэнка рэволюцыйнасьці Чэрнышэўскага, пераўвялічэньне утопічных элемэнтаў у экономічных поглядах Чэрнышэўскага і г. д.,—зроблены Пляханавым марксыцкі аналіз усяе багатае духоўнае спадчыны Чэрнышэўскага да гэтага часу ў асноўным застаецца непарушным. Таму ў дні юбілею будзе сваячасовым зьвярнуцца да гэтага аналізу.

У Чэрнышэўскім Пляханаў больш за ўсё цаніў філёзофа. Філёзофскую спадчыну Чэрнышэўскага Г. В. прымаў амаль бесьпярэчна. Чэрнышэўскі быў фэербахіянец, пры тым такі, які няясныя месцы ў вучэньні свайго настаўніка і якія выклікаюць сумненьні тлумачыў матэрыялістычна. У аснове яго філёзофскіх прадстаўленьняў ляжыць ідэя адзінства чалавечага організму. Ён непарыўна зьвязвае паміж сабою суб'ектыўны і об'ектыўны бок зьяў, але іх, аднак, не ўтоесамлівае. Яго гносэолёгічныя прынцыпы знаходзяцца на вышыні сучаснага навуковага матэрыялізму, пад яго тэорэтыка-пазнавальнымі разважаньнямі можа падпісацца і матэрыялісты нашых дзён. Адзінае чулае месца ў філёзофскім сьветапоглядзе Чэрнышэўскага,—і ў гэтых адносінах ён быў вучнем свайго настаўніка,—яго разуменьне дыялектыкі: як і Фэербах, ён не даацэньваў дыялектычны мэтод. Ён абмяжоўваў каштоўнасьць гэтага мэтоду яго вымаганьнем усебаковага вывучэньня рэчаіснасьці і не зьвяртаў увагі на галоўную адзначальную рысу дыялектыкі, геніяльна выяўленую Марксам—Энгельсам: усьведамленьне залежнасьці ходу ідэй ад ходу

рэчаў. У невыстарчальна ясным разуменьні дыялектычнага мэтоду—ахілесава пятка філёзофскіх поглядаў Чэрнышэўскага. Але гэта слабое месца ў філёзофскім сьветапоглядзе Чэрнышэўскага не памяншала ў вачох Пляханава тэй ролі, якую адыграў у гісторыі расійскай грамадзкай мысьлі Чэрнышэўскі, як філёзоф.

Азначаючы месца, якое належала Чэрнышэўскаму ў гісторыі нашай філёзофскай мысьлі, Пляханаў гаварыў: „Чэрнышэўскага ведаюць у нас як публіцыстага, часткаю як гісторыка літаратуры..., але яго зусім ня ведаюць як філёзофа. Гэта тлумачыцца, папершае, тым, што ён мала пісаў аб філёзофіі. А падругое, яго манерай выкладаньня сваіх мысьляй. Ён пісаў так проста і ясна, што некаторыя яго чытачы наіўна адмаўляліся іменна з гэтай прычыны лічыць за філёзофію тое, што ён выкладаў „Антропологический принцип“... І да гэтага часу, калі спытаеце сярэдняга расійскага „інтэлігента“, ці былі філёзофамі Лаўроў і Уладзімер Салаўёў, вы зараз-жа пачуеце: зразумела, былі. А калі вы скажаце такому „інтэлігенту“, што Чэрнышэўскі таксама быў філёзоф і пры тым значна больш глыбокі, чым Лаўроў і Салаўёў, то ён вельмі зьдзівіцца. У філёзофіі Чэрнышэўскага было замала туману“[1])...

Побач з філёзофскімі поглядамі Чэрнышэўскага Пляханаў вельмі цаніў і яго эстэтыку.

Чэрнышэўскі—першы з мысьліцеляў, якія зрабілі рашучую спробу выгнаць ідэалізм з галіны навукі аб мастацтве, падвесьці пад яе матэрыялістычную аснову, выявіць сувязь паміж эстэтыкай і экономікай. Чэрнышэўскі энэргічна паўстаў супроць паняцьця абсолютнага хараства; ён паказаў, як паняцьце хараства зьменьваецца ў залежнасьці ад таго грамадзкага асяродзьдзя, у якім яно складаецца, і ў залежнасьці ад таго экономічнага ўкладу, які пануе ў даным асяродзьдзі.

Але калі Чэрнышэўскі, абапёршыся на філёзофскую сыстэму Людвіга Фэербаха, зрабіў буйны крок уперад у навуцы аб мастацтве, то ў яго эстэтычнай тэорыі адбіліся і ўсе слабыя бакі фэербахіянства,—у першую чаргу яго няўменьне дынамічна, больш дакладна—дыялектычна зірнуць на грамадзкі працэс. Такім чынам, эстэтычны кодэкс Чэрнышэўскага склаўся з элемэнтаў матэрыялістычных і ідэалістычных, і нават тая самая мэтафізыка, супроць якое паўставаў Чэрнышэўскі, прарывалася ў яго разважаньнях аб мастацтве. Слабыя ідэалістычна-мэтафізычныя элемэнты ў тэорыі Чэрнышэўскага ў сваім крайнім выяўленьні прывялі да тэй позыцыі разбурэньня эстэтыкі і беспадзельнага ўтылітарызму, найбольш таленавітым абаронцам якое выступіў Д. І. Пісараў; яе здаровае ядро зрабіла нясумненны ўплыў на Пляханава, які спалучыў матэрыялістычныя погляды Чэрнышэўскага з марксыцкім мэтодам.

Чэрнышэўскі сьцьвярджаў, што твораў, створаных аднэй толькі ідэяй прыгожага, ня існуе, і калі мастацкі твор, з аднаго боку, адбівае ідэю

[1]) Н. Г. Чернышевский, стар. 147—148.

характва, то, з другога, пераважна,—ён абумоўліваецца нашымі імкненьнямі да праўды, любві, да палепшаньня быту. Пляханаў лічыць, што такою пастаноўкаю пытаньня Чэрнышэўскі робіць недапушчальную мэтолёгічную памылку, якая ў значнай ступені абясцэньвае той зусім правільны матэрыялістычны прынцып, які ён ужывае,—гэта памылка ў раскладзе органічнага цэлага—мастацкага твору—на паасобныя складаныя элемэнты.

— Калі твор мастацтва побач з ідэяй прыгожага і, стала быць, незалежна ад яе выражае таксама невядомыя моральныя ці практычныя імкненьні, то крытык мае права сконцэнтраваць сваю галоўную ўвагу іменна на гэтых імкненьнях, пакідаючы ў баку пытаньне аб тым, у якой меры яны атрымлівалі ў разгляданым творы сваё мастацкае выражэньне. Такая крытыка абавязкова будзе мець маралізуючы характар.

Гэта—сьцежка, якая вядзе ад Чэрнышэўскага да Пісарава з яго мэтафізычным утылітарызмам і ў корані ідэалістычным адмаўленьнем эстэтыкі.

Чэрнышэўскі даводзіць, што мастацтва аднаўляе жыцьцё, што яно адбівае рэчаіснасьць,—пры гэтым рэчаіснасьць заўсёды прыгажэй мастацтва, якое адбівае яе, арыгінал вышэй копіі. Прызначэньне мастацтва—адбіваць прыгожае, што існуе ў рэчаіснасьці.

Так, мастацтва аднаўляе жыцьцё. З гэтым палажэньнем Чэрнышэўскага Пляханаў цалкам згодзен. Але Чэрнышэўскі сам ведае, што аб жыцьці і аб прыгожым маюць рознае ўяўленьне людзі, якія належаць да розных грамадзкіх кляс.

Калі Чэрнышэўскі сьцьвярджаў, што мастацтва адбівае рэчаіснасьць, ён нясумненна не памыляўся; але так-жа сама нясумненна, што ён памыляўся, калі зачыняў вочы на тую акалічнасьць, што іншы раз мастацтва адбівае не сапраўднасьць, а пачуцьцё незадаволеньня ёю. Пачуцьцё незадаволеньня сапраўднасьцю сягонешняга дню, якое адчувае мастак, нярэдка вядзе яго да адбіцьця заўтрашняга дню. Не памыляецца, у гэтых адносінах, Гюйо, калі ён кажа, што, прызнаючы вышэйшую эстэтычную эмоцыю—эмоцыяй соцыяльнай, мы ахвотна прызнаем, што вышэйшае выражэньне грамадзтва ёсьць характарыстыка вышэйшага твору, каб гэта не датычылася толькі... грамадзтва сапраўднага, грамадзтва, сучаснага пісьменьніку. Галоўным чынам ступень прадбачаньня будучага грамадзтва і нават грамадзтва ідэальнага характарызуе вялікіх геніяў, павадыроў мысьлі і пачуцьця“ [1]). Памылка Чэрнышэўскага была абумоўлена яго няздольнасьцю глянуць на грамадзкі процэс, адчуць і ўсьвядоміць яго дынаміку, якая пастаянна зьменьвае рэчаіснасьць, а стала быць, і адносіны да яе тых соцыяльных пластоў, з якіх складаецца грамадзтва.

Такім чынам, ня будзе памылкай сказаць, што Пляханаў у асноўным прымаў філёзофскія погляды Чэрнышэўскага і яго эстэтычную тэорыю.

[1]) Гюйо. Искусство с социологической точки зрения, стар. 66.

Не такія былі адносіны Г. В. да гістарычных і політыка-экономічных разважаньняў таго-ж мысьліцеля.

На гістарычныя погляды Чэрнышэўскага непаступовасьць яго настаўніка,—слабыя месцы ў сыстэме Фэербаха,—паклала асабліва выразны адбітак. Таму, выказваючы нярэдка здаровыя матэрыялістычныя мысьлі, наконт гістарычнага процэсу, Чэрнышэўскі ў асноўных сваіх гістарычных поглядах зьяўляецца ідэалістым. Момант матэрыялізму і ідэалізму пераплятаюцца ў яго гістарычных разважаньнях, прычым заўсёды домінуюць погляды *ідэалістычныя*. Для марксыстага Пляханава гістарычныя погляды Чэрнышэўскага былі такім чынам ступеньню, даўно перавышанаю геніяльнымі заснавальнікамі дыялектычнага матэрыялізму.

У такой-жа меры *перавышанай ступеньню* зьяўляліся для Пляханава і політыка-экономічныя погляды Чэрнышэўскага. Чэрнышэўскага-політыка-эконома Пляханаў крытыкаваў вельмі грунтоўна і значна больш сурова, чым Чэрнышэўскага-гісторыка. Да гэтага яго прымушала тая гістарычная абстаноўка, у якой ён апублікаваў свае працы аб Чэрнышэўскім. То была пара заядлай полемікі з народнікамі, якія спрабавалі ў сваім змаганьні з марксызмам абаперціся на аўторытэт Чэрнышэўскага. Пляханаў і паказаў, як беспадстаўна спроба супроцьпаставіць экономічным поглядам Маркса погляды вялікага расійскага асьветніка. Экономічная тэорыя Маркса грунтуецца на фундаманце *навуковага* соцыялізму, экономічныя погляды Чэрнышэўскага выплываюць з *утопічнага* соцыялізму. Успрымаць іх, значыць варочацца ад Маркса да утопіі... Пляханаў уважліва вывучыў духоўную спадчыну Чэрнышэўскага і даў ёй гістарычную ацэнку. Ён выявіў шмат слабых месц у поглядах Чэрнышэўскага, які ў сваім разьвіцьці спыніўся на шляху ад Фэербаха да Маркса. Але ён паказаў, што ў *асноўным* Чэрнышэўскі падняўся на такія вышыні, да якіх не дайшлі эпігоны расійскага народніцтва,—мнімыя прадаўжацелі справы Чэрнышэўскага.

Пляханаў лічыў Чэрнышэўскага за аднаго з сваіх продкаў, за аднаго з папярэднікаў маладога расійскага марксызму. Ён сьцьвярджаў, што расійскія марксыстыя маюць усе даныя для таго, каб адчуваць сябе блізкімі да Чэрнышэўскага, бо толькі яны выступаюць захавальнікамі лепшых запаветаў самага буйнага з нашых асьветнікаў.

Трэба сказаць, што і У. І. Ленін, які спэцыяльна аб Чэрнышэўскім ня пісаў, у шэрагу сваіх заўваг паказаў, што ён ацэньваў яго таксама, як і Пляханаў. Выступаючы супроць „Рабочей мысли“, якая сьцьвярджала, што соцыял-дэмократы недаацэньвалі Чэрнышэўскага, і якая адмаўляла элемэнты утопізму ў яго, У. І. Ленін пісаў у артыкуле: „Понятное движение в русской социал-демократии“: „Пляханаў у сваёй працы аб Чэрнышэўскім (артыкулы ў зборніку „Социал-демократ“), выданай асобнай кнігай панямецку, поўнасьцю ацаніў значэньне Чэрнышэўскага і высьніў яго адносіны да тэорыі Маркса і Энгельса“.

У артыкуле „Крестьянская рэформа и пролетарско-крестьянская рэволюцыя“ (1911) Уладзімер Ільліч гаварыў, што Чэрнышэўскі быў соцыялістым-утопістым, які марыў аб пераходзе да соцыялізму цераз старую поўфэўдальную сялянскую абшчыну, які ня бачыў і ня мог бачыць у 60 гадох мінулага веку, што толькі разьвіцьцё капіталізму і пролётарыяту здольна стварыць матэрыяльныя ўмовы і грамадзкую сілу для ажыцьцяўленьня соцыялізму“. Разам з тым Ленін асабліва падкрэсьліваў і рэволюцыйны дэмократызм Чэрнышэўскага.

„Материализм и эмпириокрититизм“ зьмяшчае наступную ацэнку Чэрнышэўскага. „Чэрнышэўскі—адзіны сапраўды вялікі расійскі пісьменьнік, які здолеў з 50-ых гадоў аж да 1883 году застацца на ўзроўні цэльнага філёзофскага матэрыялізму...

Але Чэрнышэўскі ня здолеў, вярней ня мог, дзякуючы адсталасьці расійскага жыцьця, падняцца да дыялектычнага матэрыялізму Маркса і Энгельса“.

Нарэшце, ужо пасьля рэволюцыі, Ленін гаварыў, што Чэрнышэўскі „быў надзвычайна глыбокім крытыкам капіталізму, ня гледзячы на свой утопічны соцыялізм“ (артыкул: „Из прошлого рабочей печати в России“).

Як бачым, прынцыповая ацэнка Чэрнышэўскага Леніным супадае з ацэнкай Пляханава. Яна зводзіцца да прызнаньня вялізарных заслуг Чэрнышэўскага як рэволюцыянэра і буйнага мысьліцеля,—матэрыялістага, погляды якога, аднак, у цэлым радзе пытаньняў носяць на сабе утопічны адбітак. Гэта ацэнка зьяўляецца адзіна правільнай і адпавядаючай об'ектыўна-марксыцкаму аналізу.

Гэту акалічнасьць трэба асабліва падкрэсьліць у цяперашні час, бо з прычыны юбілею Чэрнышэўскага аднавіліся старыя спробы падыходу да М. Г. Чэрнышэўскага як да непасрэднага папярэдніка рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі, троха што не як да пасьлядоўнага марксыстага. З прадстаўнікоў падобных поглядаў варта ў першую чаргу назваць Ю. М. Сьцяклова, імкненьне якога затушаваць утопічныя элемэнты ў поглядах Чэрнышэўскага ў свой час бязьлітасна крытыкаваў Пляханаў. У мінулым годзе Сьцяклоў з вялізарнай энэргіяй і плоднасьцю аднавіў змаганьне за свой стары пункт гледжаньня. Трэба прызнаць, аднак, што яно за апошнія гады ня стала больш пераканальным.

Чэрнышэўскі мае вельмі многа незабыўных заслуг, ён займае вельмі вялікае месца ў гісторыі нашай рэволюцыйнай мысьлі, каб яго трэба было яшчэ грыміраваць „пад Маркса“.

Хто абарачае Чэрнышэўскага ў марксыстага, той цягне назад марксызм. Гэта і рэакцыйна і безнадзейна.

У Чэрнышэўскім мы паважаем мысьліцеля і змагаьніка, які быў на шляху ад утопічнага да навуковага соцыялізму, чалавека, які многа зрабіў для гістарычнай падрыхтоўкі таго магутнага панаваньня ідэй рэволюцыйнага марксызму, сьведкамі якога мы зьяўляемся...

# ФІЛЁЗОФСКІЯ ДЫ ГІСТАРЫЧНЫЯ ПОГЛЯДЫ М. Г. ЧЭРНЫШЭЎСКАГА

*(Да сталецьця з дня нараджэньня—1828—1928 г. г.)*

## І. Герчыкаў

Мікалай Гаўрылавіч Чэрнышэўскі належыць да ліку выдатных мысьліцеляў XIX веку. Конгеніяльным пачынальнікам і самым вялікім прадстаўніком тэорыі ды практыкі марксызму, ён заслугоўвае таго, каб над гісторыяй яго жыцьця быў напісаны эпіграф, які над гісторыяй свайго ўласнага жыцьця зусім несьвядома паставіў К. Маркс тады, калі ў пачатку свае грамадзкае дзейнасьці, у верасьні 1843 г., пісаў у пісьме да Руге: „Заўзятая крытыка ўсяго існуючага, заўзятая ў двух сэнсах: у тым, што гэтая крытыка не баіцца ўласных рэзультатаў, і ў тым, што яна не адступае ад сутычак з „придержащей“ уладай“. К. Маркс не зазначыў яшчэ трэцяга сэнсу гэтай крытыкі:—у тым, што яна заўзятая да самога сябе, да таго, хто крытыкуе. Чэрнышэўскі ажыцьцяўляў зазначаную крытычную працу ва ўсіх трох сэнсах і ўсё яго прасякнутае непарушнай шчырасьцю і строгімі крытычнымі адносінамі да сябе жыцьцё зьмянілася па знадворным сваім характары ў трагэдыю, выстарчальным адбіткам якой зьяўляюцца два гады Петрапаўлаўскай крэпасьці і высылка на шмат гадоў у Сібір. Можна сказаць, што Чэрнышэўскага згнаіла расійскае самаўладзтва. Ён ня мог даць і дзесятай часткі таго, што магла-б нарадзіць яго разумовая таленавітасьць, амаль геніяльная і надзвычайная працаздольнасьць.

Чэрнышэўскі меў нязбыўны оптымізм, веру ў сілу чалавечай мысьлі і ў сьветлую будучыню чалавецтва. Уся лютасьць кар не забіла ў ім сілу крытычнай думкі і дух протэсту проці ўсякай няпраўды ў імя будучай справядлівасьці.

Прычым яго крытыка сучаснага ня была якім-небудзь няпэўным настроем, романтычнай марай, плыўкім неладам паміж высокімі імкненьнямі душы да неба і будзённымі фактамі зямной рэчаіснасьці. Ад усіх думак і дзеяньняў Чэрнышэўскага ідзе здаровы рацыяналізм, сьвет чалавечых адносін у іх рэальных зямных праявах. Яго каханьне, як і нянавісьць, былі накіраваны на вельмі рэальныя і адчуваныя факты ў чалавечых адносінах. Ён ненавідзеў жадную эксплёатацыю чалавека чалавекам, жаднае прыгнечаньне асобы чалавека і гвалт над ёю. Яго ідэалам было грамадзтва без эксплёатацыі, у якім вольна і магутна

развівалася-б асоба чалавека. З гэтага абурэньня проці соцыяльнай няпраўды ды імкненьня да ўхіленьня яе практычна вынікала спачуцьцё і простае жаданьне дапамагчы клясавай барацьбе пролетарыяту ў Заходняй Эўропе ды барацьбе з прыгонным правам у Расіі да аграрнай рэформы 1861 г. і з новымі відамі заневальненьня мас расійскага насяленьня пасьля гэтай рэформы. Увасабленьне markup рознага гвалту і прыгнечаньня ў Расіі, дваранска-памешчыцкае самаўладзтва было зьявай асабіста яму варожай, і змаганьне з ім ён зрабіў сэнсам ды зьместам свайго жыцьця. Да ўсіх пытаньняў эўропэйскага і расійскага жыцьця, політыкі, літаратуры, навукі ён падыходзіў з пункту погляду іх карысьці або шкоды ў барацьбе з самай агіднай гістарычнай зьявай,—самаўладзтвам, якое панавала над Расіяй.

Чэрнышэўскі зьяўляецца адным з першых у Расіі публіцыстых, які надзвычайна гостра і ясна зразумеў, наколькі пасьля прыгону расійскіх сялян, другой асновай расійскага самаўладзтва, самай важнай часткай усяе сыстэмы гвалту, што вісеў над Расіяй, зьяўлялася прыгнечаньне другіх нацыянальнасьцяй, якія былі ў складзе Расійскай імпэрыі. Ён адзін з першых заклікаў да абуджэньня нацыянальнага пачуцьця ды нацыянальнай гордасьці ў вялікарасійцаў, для таго, каб яны, пакінуўшы быць нявольнікамі, зразумелі нацыянальна-вызваленчы рух прыгнечаных самаўладзтвам нацыянальнасьцяй, зразумелі нацыянальную гордасьць другіх народаў і злучыліся з імі ва ўзаемным імкненьні да свабоды.

Іменна насычаны зьняважаным і пагарджаным нацыянальным і соцыяльным пачуцьцём, пакутуючы, Чэрнышэўскі клікаў: „Бедная нацыя, нацыя нявольнікаў, зьнізу да верху—усе нявольнікі“. Недарма Ленін у сваіх артыкулах па нацыянальным пытаньні ўспамінае гэтыя словы Чэрнышэўскага, таксама як і ў артыкуле „О национальной гордости Великороссов“.

Чэрнышэўскі быў ня толькі рэальным мысьліцелем, але і рэальным політыкам рэволюцыянэрам. Гэта Чэрнышэўскаму належаць славутыя словы пра тое, што „політычная дзейнасьць—не тротуар Неўскага проспэкту“. „Гістарычны шлях, піша ён, ідзе цалкам праз палі то пыльныя, то грузкія, то праз балоты, то праз нетры. Хто баіцца пылу і запэцкаць боты, той не бярыся за грамадзкую дзейнасьць. Яна занятак здаровы для людзей, калі вы думаеце сапраўды аб карысьці людзей, але занятак ня зусім ахайны“. Апраўдваючы клясавы тэрор і заклікаючы да яго, ён кажа: „Хто змагаецца за справу, той павінен ведаць, да чаго павядзе яна, і калі ня хоча ён няўхільных яе рэзультатаў, то ён не павінен хацець і самае справы“. Для яго гістарычны процэс і праяўленьне яго ў рэволюцыі ёсьць перш за ўсё рух мас: „Хто ня хоча ўзрушаць народ, каму агідны сцэны, непарыўна зьвязаныя з абурэньнем народных палаў, той не павінен браць на сябе кіраваньне справай, падтрыманьнем якой можа быць толькі натхненьне мас“. Сваю асабістую

справу ён бачыць у служэньні масам, і з гэтага пункту погляду цэніць кожную гістарычную асобу. Надзвычайна яскрава гэта адбілася ў яго ацэнцы буйнейшага расійскага гісторыка і грамадзкага дзеяча Расіі 40-х гадоў XIX веку Т. Н. Граноўскага.

У крытычным нарысе, што адносіўся да першага тому твораў Граноўскага, Чэрнышэўскі зазначае на вялікую эрудыцыю Граноўскага ў розных галінах ведаў, тое, што ён мастацка скарыстаў эрудыцыю для таго, каб у галіне, якая спэцыяльна цікавіла яго, гістарычныя навукі стаялі ня ўзроўні апошніх навуковых дасягненьняў у Заходняй Эўропе, зазначае тое, што ў кожнай працы Граноўскага тахкае сур'ёзная навуковая думка і абараняе Граноўскага ад абвінавачаньня ў тым, што ён, непамерна сваім ведам і таленту, пакінуў вельмі невялікую літаратурную спадчыну ў выглядзе арыгінальных, заснаваных на працы ў архівах, на распрацоўцы сырога дакумантальнага матэрыялу гістарычных прац. Граноўскі,—сьцьвярджае Чэрнышэўскі, — мог-бы вельмі шмат зрабіць у гэтым сэнсе, калі-б ён пытаньні свае асабістае славы і несьмяротнасьці свайго імя ставіў вышэй інтарэсаў народаў. У той гістарычны час, у які ён жыў, перад расійскімі вучонымі гісторыкамі стаяла задача не замыкацца ў вузкую каморку адзіночных ды спэцыяльных, адарваных ад непасрэдных інтарэсаў мас досьледаў, а ўкараняць у расійскае грамадзтва дасягненьні заходня-эўропэйскай навукі, падымаць ды несьці асьвету расійскім масам. Чэрнышэўскі адзначае, як дадатны факт, тое, што Граноўскі наогул ня лічыў справай, якая павінна ляжаць (у той час. *І. Г.*) на расійскім вучоным, што займаецца агульнай гісторыяй, распрацоўку спэцыяльных пытаньняў агульнай гісторыі. Ён цалкам згодзен з Граноўскім у тым, што „адна з галоўных перашкод, што перашкаджае здароваму дзеяньню гісторыі, знаходзіцца ў пагардзе, якую гісторыкі выказваюць звычайна да большасьці чытачоў. Яны, як відаць, пішуць толькі для вучоных, нібы гісторыя можа дазволіць такое абмежаваньньне, нібы яна па самай сваёй сутнасьці ня ёсьць самая папулярная з усіх навук, якія заклікаюць да сябе ўсіх і кожнага“. Разам з Граноўскім, Чэрнышэўскі протэстуе проці „цэхавай, гордай сваёй выключнасьцю, навукі“. „У Граноўскага,—піша Чэрнышэўскі,—была другая мэта, больш блізкая да патрэб яго радзімы: служэньне айчыннай асьвеце,—*і блаславенная памяць яго, як аднаго з самых магутных і шляхетных дзеячоў на гэтай сьвятой ніве*“ [1]). (Падкрэсьлена мною. *І. Г.*). Апошнія словы павінны быць цалкам аднесены да самога Чэрнышэўскага.

„Цэхавыя“ расійскія вучоныя гісторыкі дарэволюцыйных расійскіх унівэрсытэтаў яшчэ згаджаюцца на тое, каб лічыць сваім папярэднікам Граноўскага, хоць і яго схільны грэбліва адносіць больш да публіцыстых, чым да гісторыкаў. Яны спалохаліся пры думцы аб тым, што да

[1]) Н. Г. Чернышевский. Полное собрание сочинений, т. II. „Сочинения Т. Н. Грановского“. Стр. 418, 419.

ліку заснавальнікаў, найвучоных заснавальнікаў расійскай навукі агульнай гісторыі, асабліва таго яе разьдзелу, які называюць „Новай гісторыяй“, адносіцца Н. Г. Чэрнышэўскі. А разам з тым, надзвычайная эрудыцыя Чэрнышэўскага, найбольш блізкі ў параўнаньні з расійскімі гісторыкамі, да ўтварэньня Марксыцкай школы, падыход да крытыкі гістарычных падзей з пункту погляду гістарычнага матэрыялізму, адзіна навуковага пункту погляду, ставяць Чэрнышэўскага побач з вялікімі гісторыкамі ня толькі Расіі, але і Эўропы.

Будучы на самай верхавіне дасягненьняў соцыялістычнай ды гістарычнай навукі 50-х і 60-х гадоў XIX веку, на верхавіне, да якой унівэрсытэцкім гісторыкам было надзвычайна далёка, Чэрнышэўскі апратваў найвысокую навуковую матэрыю ў надзвычайна зразумелыя і популярныя формы, ведаючы, што перад ім стаіць задача асьветніка мас, задача ўздыму культуры ў масах. Гэта была пільная гістарычная задача таго часу і для яе Чэрнышэўскі грэбаваў спэцыяльнымі і паасобнымі гістарычнымі дасьледамі, у якіх ён мог-бы праявіць свае колёсальныя дасьледчыя здольнасьці, зрабіць самыя каштоўныя ўклады ў навуку і можа быць дагадзіць „цэхавым“ вучоным, хоць апошняе і спрэчна. Той адзіна правільны мэтод гістарычных дасьледзін, з якімі падыходзіў да гістарычных зьяў Чэрнышэўскі, мэтод гістарычнага матэрыялізму рабіў яго працы нягоднымі для цэхавых вучоных, які-б характар гэтыя працы ня мелі.

Мы ведаем публіцыстычныя працы вялікай навуковай каштоўнасьці, як „Наемный труд и капитал“ К. Маркса, „Сущность конституции“ ды іншыя артыкулы Ф. Ласаля. Чэрнышэўскі адносіцца да ліку гэтых вялікіх вучоных публіцыстых, якія маглі зьмяняць у прадмет агульнага здабытку, абграмаджваць апошнія і самыя высокія дасягненьні навуковай думкі; і ня толькі перадаваць дасягнутае навукай, але гэтыя дасягненьні паглыбляць і пашыраць.

Але ня трэба запамінаць, што ў той пэрыод гісторыі Расіі, калі разьвівалася дзейнасьць Чэрнышэўскага, расійская грамадзкасьць была скавана самаўладзтвам. Яно паралюшавала ўсякія магчымасьці грунтоўнай навуковай працы, і расійская грамадзкая думка магла толькі адбівацца ў прыгожым пісьменстве ды публіцыстыцы. Пад формай публіцыстыкі Чэрнышэўскі таіў, і трапна таіў, сваю навуковую дзейнасьць. Як публіцысты, Чэрнышэўскі стаіць побач з такімі асілкамі заходня-эўропэйскай публіцыстыкі, як Бэрнэ і Гейнэ. Маркс, Энгельс, Каўцкі, Мэрынг ужо даўно паказалі вялізныя навуковыя заслугі Бэрнэ і Гейнэ, паказалі, што іх імёны маюць ня меншае, калі ня большае права на прызнаньне за імі вялікіх навуковых заслуг, чым імёны шмат якіх вучоных, якія напісалі таўстыя фоліянты часамі вельмі каштоўных, а часамі вельмі нудных і малакаштоўных досьледаў.

Чэрнышэўскі бадзёра і пэўна ішоў папэрадзе заходня-эўропэйскай навукі.

Скромны саратаўскі сэмінарысты,—„прыгожая дзяўчына“,—як называлі яго таварышы, ужо з юнацтва чалавек паглыбленай думкі. Чэрнышэўскі ў 18 гадоў трапляе ў 1846 г. у Пецярбурскі унівэрсытэт. Надзвычайна шпарка ён асіляе студэнтам ідэалізм гегельянскай філёзофіі, утопізм францускіх соцыялістых дамарксавага пэрыоду і знаёміцца з апошнімі дасягненьнямі ангельскай клясычнай і політычнай экономіі. У шпаркасьці гэтай сваёй навуковай і філёзофскай эволюцыі Чэрнышэўскі стаіць побач з Марксам і Энгельсам. Вельмі цікава тое, што Чэрнышэўскі стаяў у сваіх філёзофскіх поглядах куды вышэй, чым шмат якія політычныя дзеячы, непасрэдна зьвязаныя з перадавымі праяўленьнямі заходня-эўропэйскага рабочага руху. Такі буйны кіраўнік гэтага руху, як Ласаль, паводле слоў Гейнэ, у 1846 г. прапаведваў яму (Гейнэ) філёзофію Гегеля ва ўсёй яе ідэалістычнай цэльнасьці. У гэты час Маркс, адыходзячы ад Фэербаха, люта нападаў на ідэалізм гегельянства ў вядомых сваіх працах, як „Нищета философии“, „Немецкая идеология“ і г. д. Ня гледзячы на надзвычайную адсталасьць расійскай рэчаіснасьці, Чэрнышэўскі, адыходзячы ў 1846 годзе ад Гегеля, на працягу 4—5 год перайшоў ад гегельянскага ідэалізму да матэрыялізму Фэербаха і пашоў далей яго, у той час, як Ласаль ня мог кінуць гегельянства да канца свайго жыцьця (1864 г.).

Нельга, у зьвязку з гэтым, ня спыніцца на наступным надзвычайна цікавым факце. У 1862 г. Ласаль сказаў і надрукаваў сваю прамову о „Сущности конституции“, у якой ён абвяшчаў, што констытуцыя— гэта нішто іншае, як фактычныя суадносіны сіл, якія існуюць у даным грамадзтве і, ставячы кропкі над „і“, паўтараў: „кароль, якому падлягае войска і гарматы, ёсьць частка констытуцыі“. „Банкіры Мэндэльсон, Шыклер, наогул буржуа—частка констытуцыі“. і г. д. У 1860 г. Чэрнышэўскі апублікаваў артыкул: „Нынешние английские виги“ [1]). У гэтым артыкуле Чэрнышэўскі між іншым крытыкуе пісьмо вядомага ангельскага гісторыка Маколея. Маколей тут ідзе проці „чыста дэмократычнай“ констытуцыі Паўноч. Амэр. Злуч. Штатаў, бо ўстановы чыста дэмократычныя, раней або пазьней, павінны зьнішчыць свабоду або цывілізацыю, або тое і другое разам. „Прыдзе час,—піша Маколей,—калі ў Нью-Ёркскім Штаце пачне выбіраць законадаўчы сход натоўп людзей, з якіх ніводзін ня будзе мець больш, чым палавіну сьнеданьня, і ня будзе чакаць больш, чым палавіну полудня... Якога роду законадаўчы сход выберуць гэтыя людзі... Каго выбера работнік, які чуе, як яго дзеці крычаць:—хлеба... Выбера дэмагога, які дэклямуе пра тыранію капіталістых ды ліхвяроў, і пытаецца, ці можна дапусьціць, каб хто-небудзь піў шампанскае ды езьдзіў у брычцы, тымчасам, як тысячы сумленных людзей ня маюць самага патрэбнага“. У выніку, малюе далей Маколей, „рэспубліка будзе так страшна абрабавана і спустошана барбарамі ў XX сталецьці, як

[1]) Полное собр. соч., том VI.

Рымская Імпэрыя абрабавана і спустошана была ў IX сталецьці". Ня тое ў Англіі, супакойвае выдатны гісторык: „У нас, часамі, бывае многа нарокаў, а часамі і мяцеж, але і гэта ня так важна, бо ў нас тыя, якія церпяць, ня кіруюць дзяржавай. Вышэйшая ўлада знаходзіцца ў руках клясы, вельмі зацікаўленай у бясьпецы ўласнасьці і падтрыманьні грамадзкага парадку. Таму недавольных усьцішаюць ня вельмі срогімі, але рашучымі мерамі. Дрэнны час праходзіць без абрабаваньня багатых на карысьць незаможных". Робячы вынік з гэтых думак Маколея, Чэрнышэўскі піша: „Калі маса павінна цярпець гора, паводле закону канечнасьці, які ня можа быць ухіленым чалавечымі сіламі, то вынік, зразумела, ясны... Па сваім гаротным становішчы маса, гатовая за кавалак хлеба або нават за абяцанку кавалка хлеба прадаць сябе кожнаму ганароўцу, павінна быць ухілена ад уплыву на грамадзкія справы. Але ці дасягаецца гэта толькі тым, што грамадзтва будзе абаронена ад шкодных дэмократычных установаў? Гэтага мала. Маколей гаворыць пра „нарокі", мяцеж, „усьцішэньне занедаволеных", абарону краіны ад „рабаваньня і спусташэньня гуннамі і вандаламі". А калі так, то *вырашэньне справы залежыць ужо не ад існуючых законаў, а проста ад матэрыяльнай сілы. Калі меншасьць, „зацікаўленая ў бясьпецы ўласнасьці", мае ў сваіх руках матэрыяльную сілу „ўсьцішыць гаротную і нездаволеную меншасьць", то парадак будзе падтрыманы пры якім хаця складзе „законадаўчага сходу". Справа вырашаецца не „законадаўчым сходам", а войскам, не дэкрэтамі, а штыхамі і гарматамі.*

Так яна і вырашана была, напрыклад, у Францыі. У чэрвені 1848 г. перамога асталася за законадаўчым сходам, бо ён меў на сваім баку узброеную сілу; у сьнежні 1851 г. законадаўчы сход быў зьнішчаны, бо ўзброеная сіла была ў руках яго супраціўнікаў. *Характар установаў у абедзьве эпохі быў аднолькавы, але вынік справы для законадаўчага сходу зусім розны*". (Усё падкрэсьлена мною. *І. Г.*). Нельга больш выразна выказаць думку аб тым, што канстытуцыя—гэта фактычныя суадносіны сіл, або, як больш дакладна кажа Чэрнышэўскі, матэрыяльныя суадносіны сіл, у якіх гарматы зьяўляюцца самым важным, а часамі, вырашальным фактарам. Хто ведае ўмовы, пры якіх гаварыў сваю прамову Ласаль, у пэрыод канстытуцыйнага конфлікту ў Прусіі, той ведае, што пытаньне пра гарматы, як самы важны элемэнт канстытуцыі, складала галоўны зьмест яго прамовы.

Далей Чэрнышэўскі ў тым самым артыкуле разглядае артыкул Маколея, напісаны для абароны „даваньня дзяржаўных праў ангельскім яўрэям". Ангельская канстытуцыя не дапускала яўрэяў у палату грамад і на дзяржаўную службу, нібы пазбываючы іх гэтым палітычнай улады. „Сапраўды-ж, піша Маколей, яўрэі і цяпер не пазбыты палітычнай улады. Яны маюць яе, і пакуль будуць карыстацца правам назьбіраць вялікія багацьці, яны ня могуць ня мець яе. Якая ўлада ў адукаваным (разумей—

буржуазным. *І. Г.*) грамадзтве больш дужая за ўладу крэдыту над вінаватым... Яўрэй можа здабываць грошы, а грошы могуць рабіць членам парляманту... Яўрэй можа кіраваць біржай, а біржа можа кіраваць сьветам... Калі ўся рэшта дана, то дана і палітычная ўлада“. Падкрэсьліваючы супярэчнасьці паміж пісьмом Маколея і даным артыкулам, Чэрнышэўскі піша: „Удзел у дзяржаўнай уладзе, уплыў на грамадзкія справы залежыць не ад таго — атрыманы ці не вядомымі асобамі або вядомым станам фармальны ўдзел у фармальных актах кіраваньня,—*ён залежыць проста ад таго, ці знаходзяцца гэтыя асобы або гэты стан у такім становішчы сярод грамадзкага жыцьця, каб мець рэальнае значэньне ў ім. Сярод ангельскіх яўрэяў ёсьць людзі, якія маюць у сваіх руках адну з самых важных грамадзкіх сіл—багацьце; а калі так, то дарма чакаць, што яны могуць быць ухілены ад уплыву на дзяржаўныя справы Англіі, якімі-б то ні было законамі аб складзе палаты грамад або аб дзяржаўнай службе*“. Яшчэ раз выказаць больш выразна зазначаную вышэй думку, пра сутнасьць канстытуцыі, нельга, таксама як нельга больш выразна сказаць, што банк і біржа ёсьць таксама адзін з уплывовых элемэнтаў канстытуцыі ў буржуазным грамадзтве. Але Чэрнышэўскі, незаметна папраўляючы Маколея, надае клясавы характар свайму разважаньню, калі гаворыць ня так, як Маколей: яўрэі маюць магчымасьць назьбіраць“, а „паміж ангельскімі яўрэямі ёсьць людзі, якія маюць багацьці“, зазнаючы гэтым, што ўдзел ва ўладзе азначаецца не нацыянальнасьцю, а ўласнасьцю, і праўныя абмежаваньні, якія існуюць, рэальны толькі для тых яўрэяў, якія ня маюць багацьця.

Маколей быў ідэолёгам ангельскага вігізму, г. зн. лібэралізму 30—40 гадоў XIX сталецьця, у самы росквіт чартысцкага руху, калі самастойны рух рабочай клясы з яго палітычнымі і соцыяльнымі патрабаваньнямі спалохаў лібэралаў і яны пачалі адступаць назад, выкрэсьліваць з свае программы свабодалюбівыя словы ды ўсё больш і больш шукаць саюзу з торы, консэрватарамі, знаходзячыся ў дваістым, „междуумочном“ становішчы паміж сваёй старой праграмай і новымі рэакцыйнымі імкненьнямі. У артыкуле, што нас цікавіць, Чэрнышэўскі дае належную ацэнку вігізму, якая шмат чым нагадуе ацэнку Маркса, што выкрывае сапраўдную сутнасьць вігізму, яго сапраўдны твар. Чэрнышэўскі гаворыць пра тое, што ў творах Маколея адбіваецца „неадпаведнасьць прэтэнзій цяперашніх вігаў на вернасьць лібэральным паданьням з цяперашнім спосабам іх дзеяньняў, у сувязі з гэтым Маколей быў чалавек, які па паданьню ўсё паўтараў прогрэсыўныя выразы, а на справе ён быў консэрватарам“. „Гэткая сутнасьць цяперашняга ангельскага вігізму — быць прогрэсыўным у дробязях, якія ня маюць значэньня ў дзяржаўным жыцьці, быць консэрватыўным ва ўсім важным“.

Такі падыход да Маколея, наогул характарны для Чэрнышэўскага, які заўсёды разглядае чалавека толькі як продукт і выражэньне азна-

чанага грамадзкага асяродзішча. Усё добрае і дрэннае ў чалавеку ёсьць адбітак таго добрага і дрэннага, што ёсьць у тым грамадзкім асяродзішчы, з якога ён вышаў. Улюбёнымі афорызмамі Чэрнышэўскага, якія ён часта ўжывае ў сваіх артыкулах, былі suli, non hominis virxic—дабрачыннасьці эпохі, а не чалавека, і—saeculi vixia, non hominis—загана эпохі, а не чалавека. У бібліографічным нарысе: „Сочинения и письма Н. В. Гоголя“ 1) ён піша: „як разьвіцьцём усіх добрых сваіх якасьцяй чалавек бывае абавязан грамадзтву, якраз таксама абавязан і разьвіцьцём усіх дрэнных якасьцяй.

На лёс чалавека дастаецца толькі асалоджвацца або мучыцца тым, што дае яму грамадзтва“. Гэта ня значыць, што Чэрнышэўскаму ўласьцівы соцыяльны квіэтызм і фаталізм, не—ён сам чалавек напружанай волі, які шукаў сродкаў асабістага ўплыву на грамадзкія адносіны, ён да гэтага заклікае і другіх, але хоча паказаць толькі на тое, што сам продукт грамадзкіх адносінах, чалавек, можа зьмяняць сваё асабістае існаваньне ды ўнутраную сваю сутнасьць, уплываючы на грамадзкае асяродзішча і грамадзкія адносіны. Ён кліча ад лірызму індывідуальнай замкнёнасьці і тухлай атмосфэры індывідуалізму да шырокага эпосу грамадзкай дзейнасьці. Замест таго, каб акопвацца ў самааналізе, трэба выйсьці на шырокую прастору аналізу грамадзкага: „Лепей за ўсё падумаць аб тым, якімі акалічнасьцямі і адносінамі падтрымліваюцца ў нашым грамадзтве заганы, якімі мы незадаволены, і якім чынам можна было-б ухіліць гэтыя акалічнасьці ды палепшыць адносіны“.

Пра Фэербаха Ф. Мэрынг піша: „Фэербах быў прамежным зьвяном паміж Гегелем і Марксам, але, дзякуючы ўбоству нямецкіх умоў, спыніўся на палавіне дарогі“. Пра Чэрнышэўскага можна сказаць, што ён быў прамежным зьвяном паміж расійскім ідэалістычным народніцтвам і марксызмам і не дайшоў да апошняга, дзякуючы ўбоству расійскай эканомікі, дзякуючы ўціску „агіднай расійскай рэчаіснасьці“, як казаў Белінскі, дзякуючы жахлівым умовам яго асабістага існаваньня, якое вынікала з гэтай рэчаіснасьці.

Вывучэньне жыцьця, дзейнасьці і літаратурнай спадчыны Чэрнышэўскага яшчэ ня высьветліла надзвычайна важнага пытаньня аб тым ці зрабілі на Чэрнышэўскага непасрэдны ўплыў літаратурная праца і дзейнасьць Маркса. Ня гледзячы на адсутнасьць выстарчальных даных, нават больш за тое, ня гледзячы на наяўнасьць даных, якія кажуць проці гэтага, мы глыбока пераконаны ў тым, што Маркс зрабіў уплыў на Чэрнышэўскага. Да гэтага пераконваньня нас прыводзіць вывучэньне гістарычных прац Чэрнышэўскага, дзе ён зварачае ўвагу на факты, міма якіх прайшлі другія гісторыкі і на якіх з надзвычайнай увагай спыніўся першы Маркс. Ня толькі самыя факты, але і выкладаньне і тлумачэньне іх надзвычайна супадаюць з выкладаньнем і тлумачэньнем Маркса. Далейшае вывучэньне літаратурнай спадчыны Чэрнышэўскага высьветліць

гэтыя пытаньні. Але так ці інакш Чэрнышэўскі ішоў па шляху, па якім ішоў Маркс, хоць і ня ступіў так далёка, як апошні. Ленін паказвае на Чэрнышэўскага, як на аднаго з пачынальнікаў матэрыялістычнай навукі ў Расіі, ад твораў якога вее духам клясавай барацьбы.

Чэрнышэўскі быў цалкам палітыкам. Палітыкай прасякнуты ўсе яго погляды і літаратурная праца. У гэтым сіла Чэрнышэўскага, гэта рухала яго наперад ад Фэербаха, паставіла паперадзе барацьбітоў за прогрэс чалавецтва. У Чэрнышэўскім ажыцьцёвілася тое, аб чым пісаў Маркс і што было ўласьціва самому Марксу. У пісьме да Руге Маркс пісаў: „афорызмы Фэербаха слабаваты, на мой погляд, у тых адносінах, што ён вельмі многа напірае на прыроду і вельмі мала на палітыку. Тымчасам гэта—адзіны саюз, дзякуючы якому цяперашняя філёзофія можа стаць ідэёвай (сапраўды прогрэсыўнай — пераклалі-б мы гэтыя словы Маркса. *І. Г.)*. Але ўсё наладзіцца, як у XVI сталецьці, калі роўналежна з энтузіястымі прыроды быў другі род энтузіястаў дзяржавы (г. зн. палітычнай дзейнасьці *І. Г.)*“. Чэрнышэўскі цалкам задавальняў гэтаму патрабаваньню. Ён сапраўды быў энтузіястым палітыкі. Літаратуру, навуку, мастацтва ён ставіў на службу барацьбе за лепшую будучыню чалавецтва, якую ён бачыў у тым, „каб было зьнішчана рознае пролетарыяцтва“. Шуканьне навуковай ісьціны ў сэнсе ісьціннага разуменьня прыроды патрэбна было Чэрнышэўскаму для адшуканьня ісьціннага разуменьня грамадзкіх адносін ды іх разьвіцьця. Навука патрэбна для таго, каб змагацца з „сілай прывычкі“ ды „апатыяй“—грамадзкімі зьявамі, да якіх Чэрнышэўскі адносіўся з абурэньнем і агідай. „Патрэбен,—пісаў Чэрнышэўскі,—чалавек навукі, які заўсёды абуджаў-бы жаданьне шукаць ісьцінны шлях, заўсёды паказваў-бы кірунак дзейнасьці“. Навука павінна разьвівацца пад лёзунгам, які часта ў сваіх артыкулах паўтарае Чэрнышэўскі: „Ты ўставай, у цемры заснулы брат“. Уся дзейнасьць Чэрнышэўскага была зьвязана з сучаснасьцю, яго погляд быў накіраваны ў будучыню. У сваёй навуковай дзейнасьці ён цалкам ажыцьцёвіў палажэньне Энгельса, выказанае ў артыкуле „Die Lage Englands „Веды фактаў без разьвіцьця, якое вядзе да іх—нічога. Факты, якія фіксуюцца як нязьменныя, і не бяруцца за аснову далейшага разьвіцьця, горш, чым бескарысныя“. Вось чаму ўсе працы Чэрнышэўскага надзвычайна дынамічныя, гістарычныя. Усімі сваімі працамі ён сьцьвярджае думку Маркса, выказаную ім у 1845 г. у „Немецкой идеологии“: „Існуе толькі адна навука, гэта навука гісторыі“. М. Н. Пакроўскі, у артыкуле: „Чернышевский как историк“, гаворыць, што „публіцыстыка ды гісторыя ў Чэрнышэўскага заўсёды пераліваюцца адна ў другую, кажучы аб мінулым, ён мае на ўвазе сучаснае, а сучаснае заўсёды імкнецца растлумачыць гістарычна, ідзе ад мінулага“.

Пачаўшы сваю літаратурную дзейнасьць у 1854 г. Чэрнышэўскі свае асноўныя гістарычныя погляды даволі выразна і конкрэтна выказаў ужо

ў сярэдзіне 1856 г., у зазначаным намі артыкуле аб Граноўскім. Вельмі цікава наступнае. Н. Карэеў у 1896 г. сказаў вялікую прамову на тэму— „Историческое миросозерцание Грановского“[1]). Карэеў пачынае сваю прамову паказаньнем на тое, што гэтай тэме аддана вельмі мала ўвагі ў расійскай літаратуры, і зазначае толькі дзьве невялікія працы Кудраўцава (1856 г.) і П. Вінаградава (1893 г.), надрукаванага ў 1856 г. артыкулу Чэрнышэўскага паважаны профэсар, зразумела, не заўважыў, нягледзячы на тое, што гэты артыкул стаіць вышэй ня толькі артыкулу Кудраўцава, які ў сваіх поглядах ідзе назад ад Граноўскага, ня толькі артыкулу Вінаградава, але і артыкулу самога Н. Карэева, які не праяўляе ні тэй глыбіні думкі, ні тэй прыроды шырыні поглядаў, якія вабяць у артыкуле Чэрнышэўскага.

Нас ня цікавіць тут выкладаньне поглядаў Граноўскага, якімі яны выглядаюць пасьля аналізу Чэрнышэўскага, мы павінны адзначыць толькі адзін важны факт. Чэрнышэўскі, зазначаючы навуковую заслугу Граноўскага галоўным чынам у тым, што ён у расійскую гістарычную навуку прынёс разуменьне ўзаемаадносін паміж навукамі аб прыродзе і навукамі гістарычнымі ды ўзаемаадносін паміж прыроднымі ўмовамі, у якіх разьвіваецца данае грамадзтва, і характарам самога грамадзтва, паказвае і на адсутнасьць у Граноўскага таго, што Чэрнышэўскі лічыць самым важным элемэнтам гісторыі і выказвае наступную думку, якая характарызуе Чэрнышэўскага як гісторыка матэрыялістага: „Аб матэрыяльных умовах быту, якія граюць бадай ня першую ролю ў жыцьці, якія складаюць карэнную прычыну бадай усіх зьяў і ў другіх сфэрах жыцьця, жыльлё, ежа, сродкі здабычы ўсіх тых рэчаў і ўмоў, якія даюць жыцьцёвыя радасьці або гора (аб усім гэтым. *І. Г.*) ледзь спамінаецца, ды і то самым слабым чынам, таму лепей было-б каб і зусім не спаміналася [2])“.

Гэта ў агульным сэнсе выказаная думка аб пераважным значэньні, як мы цяпер сказалі-б, экономікі ў грамадзкіх адносінах, аб перавазе экономічных адносін над усёй рэштаю, апранаецца вельмі азначаным клясавым зьместам, калі Чэрнышэўскі падыходзіць да крытыкі асобных гістарычных фактаў ды зьяў. Мы ня можам у даным артыкуле вычарпаць усе працы Чэрнышэўскага, у якіх праяўляецца сіла яго матэрыялістычнай крытыкі ў выкладаньні падзей. Але для агульнай характарыстыкі Чэрнышэўскага, як гісторыка, даволі будзе зьвярнуць увагу на яго асноўныя чыста гістарычныя артыкулы ў IV томе поўнага збору твораў: „Кавеньяк“, „Борьба партий во Франции при Людовике XVIII и Карле X“, „Тюрго, его ученая и административная деятельность“, якія напісаны ў 1858 г., і ў VI томе „Июльская монархия“, якая напісана

[1]) Н. Кареев „Историко-философские и социологические этюды“, выд. II-ое, СПБ, 1899 г., стар. 357.

[2]) Названы артыкул. Стар. 409, 410.

ў 1860 г. Як і ўсе, хто вывучае працы Чэрнышэўскага, мне прыходзіцца адзначыць, той факт, што цэнзурныя ўмовы, у якіх яму прыходзілася пісаць, прымушалі яго таіць сваю думку, так каб яе магла пусьціць цэнзура, а часамі выказваць думкі відочна для яго неўласьцівыя ў надзеі (яна не абманвала яго) на тое, што чытач зразумее, якая яго сапраўды думка, для таго, каб побач з гэтым тайком правесьці думку, якую ён лічыў істотна важнай. Усе такія думкі, выказаныя толькі для заслоны, якія відочна пярэчаць усяму сьветапогляду Чэрнышэўскага, мы пакідаем збоку. Для прыкладу зазначым на такое месца з „Заметок о журналистах", дзе Чэрнышэўскі піша аб ганебным задушэньні Напалеонам III нацыянальнага вызваленчага руху наступнае і „Калі французы накіравалі сваю экспэдыцыю для захопу Рыму, і была спынена агідная анархія і ганебнае паўстаньне проці папы, па навучаньню злодзея Мадзіні"... Тут сымпатыі прогрэсыўнай часткі расійскага грамадзтва, да якой зварачаецца Чэрнышэўскі, былі так ясны і азначаныя, што паданы вынятак мог гучэць толькі вялікай гіроніяй з цэнзуры і ўсіх умоў і тых умоў, у якіх прыходзілася працаваць расійскаму публіцыстаму. Апрача таго, Чэрнышэўскі перадае думкі другіх, пераважна заходня-эўропэйскіх аўтараў, не называючы іх імён. Так у артыкуле аб Цюрго ён піша: „мы адмаўляемся ад арыгінальнасьці, і чытач, мабыць, не пакрыўдзіцца на нас за тое, што замест нарысу, які мы маглі-б падаць самі, ён прачытае нарыс куды больш лепшы". Усе думкі, якія так падаюцца, мы выкладаем, як думкі самога Чэрнышэўскага вось з якіх прычын.

Некаторыя, у тым ліку і Ю. Стеклов, выказваюць меркаваньні, што Чэрнышэўскі не называе імёны аўтараў таму, што яны былі забаронены для цэнзуры. Бясспрэчна, гэта больш рэдкія выпадкі, а ў пераважным ліку выпадкаў словы аб тым, што ён толькі перадае чужыя думкі, служаць для яго заслонай, для таго, каб на працягу ўсяго артыкулу мець магчымасьць падкрэсьліваць для цэнзуры тое, што гэта нібы не яго думкі і што ён да іх адносіцца абыяка. Вось чаму трэба меркаваць, што гэтыя аўтары міфічныя! Дзе-ж сапраўды мае месца выкладаньне другога аўтара, там яно набывае да таго крытычны характар і так прасякаецца ўласьцівым Чэрнышэўскаму стылем, што набывае характар, уласьцівы думкам і выкладаньню самога Чэрнышэўскага. Усе думкі, ім успринятыя і крытычна перапрацаваныя, набываюць уласьцівую яму арыгінальнасьць і характарнасьць.

Да названых намі вышэй артыкулаў Чэрнышэўскага мы падойдзем не хронолёгічна па часу іх надрукаваньня, а ў хронолёгічным парадку тых зьяў, якія ён наглядае, тады ў нас складзецца цэлы малюнак гістарычнага асьвятленьня Чэрнышэўскім падзей, пераважна Францыі, пачынаючы з Вялікай Францускай Рэволюцыі, канчаючы рэволюцыяй 1848 г. Гэта для нас тым больш цікава, што іменна Францыя прадстаўляе сабой краіну клясычнага рэволюцыйнага руху першай паловы XIX веку,

носіны да францускіх рэвалюцыйных рухаў бясспрэчна могуць служыць найлепшай характарыстыкай гістарычных ды палітычных поглядаў.

Рэвалюцыя 1848 г. так яскрава і зацята разьвінула супярэчнасьці паміж буржуазіяй і пралетарыятам, што кожнае меркаваньне аб ёй бясспрэчна павінна выявіць, на якім баку сымпатыі аўтара, а тыя або іншыя сымпатыі па адносінах да рэвалюцыі 48 году азначаюць адносіны і да эўрапэйскай рэчаіснасьці другой палавіны XIX веку, у якой клясавая барацьба паміж буржуазіяй і пралетарыятам набывае аголены і пэрманэнтны характар.

---

Над усімі дзеяньнямі Вялікай Францускай Рэвалюцыі высіўся лёзунг „свабоды, роўнасьці і братэрства“. Гэты лёзунг быў абвешчан ідэолёгамі буржуазіі яшчэ да рэвалюцыі. Аднэй з плыняй гэтай дарэвалюцыйнай буржуазнай ідэолёгіі была філёзофія і палітыка-экономічная школа фізіякратаў, якая галасьней за ўсіх крычала пра свабоду. У сваім артыкуле аб Цюрго Чэрнышэўскі крытыкуе гэты лёзунг і выкрывае той зьмест, які ўкладалі ў яго фізіякраты, а разам з імі ўся рэвалюцыйная француская буржуазія. Ён выкрывае гэты абстрактны лёзунг Вялікай Францускай Рэвалюцыі, абстрактнасьць якога захапляла і цяпер яшчэ захапляе шмат якія няздольныя да рэальнага мысьленьня галовы людзей, нават тады, калі іх інтарэсы зусім не супадаюць з інтарэсамі буржуазіі. Ён укладае ў гэты лёзунг конкрэтны гістарычны зьмест, нямінуча выкрываючы пры гэтым яго клясавы характар. „Свабода.—Важна было-б добра зразумець гэтыя словы. Колькі няшчасьцяў ухіліліся-б народы, калі-б зразумелі, што няма свабоды там, дзе слабы застаецца без дапамогі... Права (роўнасьць, палітычнае роўнапраўства. *І. Г.*) у тым сэнсе, як азначалі яго экономістыя XVIII веку (ідэолёгі буржуазіі напярэдадні рэвалюцыі. *І. Г.*), магло служыць толькі да замаскаваньня барбарства, якое пакідала бедняка без дапамогі. Мала таго, каб сказаць „ты маеш права“, трэба даць магчымасьць, даць сродкі карыстацца гэтым правам“. Такім чынам, Чэрнышэўскі высувае матэрыялістычны прынцып у аснову кожнай грамадзкай ідэі наогул ды ідэі свабоды, роўнасьці і братэрства паасобку. Падыходзячы з гэтага матэрыялістычнага погляду да францускай рэвалюцыі, ён кажа, што гэта было абвяшчэньнем „неабмежаванай свабоды ўласьніка... прычым азнакай вытворчай клясы была ня праца, а выдаткаваньне грошай (капіталу. *І. Г.*). Гэта пачатак эпохі панаваньня індывідуалізму, урачыстасьці сярэдняга стану (буржуазіі) у зямляробстве ды гандлі“. „Стварылася тая сыстэма грамадзкіх адносін, дзе кожны мае на ўвазе толькі самога сябе, дзе вірам конкурэнцыі няшчасныя пролетары прымушаны перабіваць адзін аднаму працу, нібы здабычу, з небясьпекай губіць адзін аднаго. Але хіба гэта не нялад, не несправядлівасьць, ня гвалт. Калі з аднаго боку дужы, з другога—слабы, свабода дужага хіба ня ёсьць прыгнечаньне слабага?“

Такім чынам Чэрнышэўскі вельмі ясна, бы Ў. І. Ленін, выкладае соцыяльны зьмест францускай рэволюцыі.

Але вось з тэрмідорыянскім пераваротам (27 ліпня 1794 г.) буржуазія, выкарыстаўшы перамогі рэволюцыі над фэўдальным зямляробствам, умацавала свае пазыцыі для эксплёатаваньня мас насяленьня на аснове новых буржуазных адносін. Наполеонаўскім мечам яна расчысьціла фэўдальную атмосфэру вакол сябе ў Аўстрыі, Прусіі ды іншых нямецкіх землях. За бітвамі Наполеона прышла эпоха рэстаўрацыі (1814—30 гг.), эпоха адноўленых Бурбонаў, якая скончылася рэволюцыяй 1830 г. Буржуазныя гісторыкі абвеялі гэту эпоху легендамі аб героічнай барацьбе буржуазіі, якой кіравала партыя лібэралаў з фэўдальнай бурбонскай рэакцыяй за конституцыйныя свабоды і народныя правы. Буржуазныя гісторыкі даходзілі да таго, што прыпісвалі лібэральнай партыі гонар заваяваньня рэволюцыі 1830 г., якая скінула Бурбонаў. У артыкуле „Борьба партий во Франции при Людовике XVIII и Карле X“, Чэрнышэўскі выкрывае легенды буржуазна-лібэральных гісторыкаў і паказвае ня толькі тое, наколькі буржуазія была чужая рашучым дзеяньнем проці бурбонскай рэакцыі, ня кажучы ўжо аб дзеяньнях рэволюцыйных, але наколькі яна была аддана дынастыі Бурбонаў, поўзала перад ёю, усяка падлізвалася—толькі-б дынастыя згадзілася кіраваць у яе, буржуазіі, інтарэсах. Буржуазія толькі абуралася ад таго, што Бурбоны па ўсім сваім мінулым зьвязаныя са старымі фэўдальнымі адносінамі і старымі фэўдальнымі фаміліямі, пад ціскам вакольных фэўдалаў, імкнуліся аднавіць старыя, адабраныя вялікай францускай рэволюцыяй, маёнткі і правы фэўдалаў. Гэтыя протэсты буржуазіі ніколі не набывалі рашучага характару, а выражаліся заўсёды ў высока паважных просьбах; ня прыходзіцца ўжо казаць аб тым, што думка выклікаць народнае паўстаньне проці каралеўскай улады і рэакцыі прыводзіла іх у жах. Конституцыя, свабода былі толькі прыгожымі словамі, якімі лібэралы засланялі свае маемасныя мары. У тыя рэдкія моманты, калі ўрад першага з каралёў эпохі рэстаўрацыі, Людовіка XVIII, ужываў самыя рэпрэсыўныя меры проці самага рэакцыйнага крыла дваранства, праследуючы з пераступаньнем конституцыі іх друк ды ігноруючы свабоду асобы, лібэралы запаміналі сваю прынцыповую адданасьць конституцыі і падтрымлівалі антыконституцыйныя дзеяньні ўраду. Яны спаміналі конституцыю толькі тады, калі кары сыпаліся на іх—лібэралаў. Таксама роялістыя толькі прыкрывалі сваёй адданасьцю прастолу і каралю свае рэакцыйныя маемасныя мары, а фактычна падкопвалі каралеўскую ўладу і дапамагалі яе скіданьню, высуваючы неажыцьцёўныя рэакцыйныя патрабаваньні звароту зямлі. Калі ўсе пераступаньні конституцыі накіроўваліся проці лібэралаў і народу, то дваранства сьвяткавала перамогу над конституцыйнымі прынцыпамі, марыла аб аднаўленьні монархіяй абсолютнага дваранскага самаўладзтва. Але калі кары сыпаліся на іх, то яны, топячы

каралеўскую ўладу, лемантавалі аб тым, што яна пераступае констытуцыю. Так барацьба паміж партыяй буржуа-лібэралаў і партыяй дваран-роялістых запаўняла дзяржаўна-політычнае жыцьцё Францыі эпохі рэстаўрацыі. „Сьвятымі“ словамі: монархія, кароль, констытуцыя, свабода перакідаліся ў гульні клясавых інтарэсаў, то выкідаючы іх уверх, то топчучы пад нагамі. „Якая справа,—пытаецца Чэрнышэўскі,—была народу да гэтай абманнай подлай гульні, у якой яго, народу, інтарэсы ня толькі тапталіся, але прыносіліся ў афяру інтарэсам пануючых кляс?“ Рэволюцыянэр Чэрнышэўскі ведае, што ў рашучыя моманты гістарычных клясавых сутычак на арэну выступае самая важная гістарычная сіла—народная маса, якой урэшце належыць апошняе і вырашальнае слова. „Тры сілы,—кажа Чэрнышэўскі,—прымалі ўдзел у падрыхтоўцы гвалтоўнай разьвязкі: каралеўская ўлада, лібэралы і роялістыя; вынік барацьбы, імі пачатай, быў вырашан раптоўным умяшаньнем чацьвертай сілы, на якую да таго часу ніхто не зварачаў увагі, на якую ніхто не разьлічаў,—умяшаньнем народу“.

Лібэралы потым, пасьля рэволюцыі, падняўшыся ўверх на плячох народу, экономічнымі інтарэсамі якога яны грабавалі, якога яны трэтавалі, як чэрнь, політычнае выступленьне якой гібельна для грамадзтва, станавілі сябе сябрамі народу ў дарэволюцыйны час і гаварылі, што ў эпоху рэстаўрацыі яны, „змагаючыся“ за констытуцыю і свабоду, змагаліся за інтарэсы народных мас. Чэрнышэўскі падае неабвяргальны доказ маны гэтых сьцьвярджэньняў. „Лібэральныя газэты вельмі часта простым чынам выказвалі сваю агіду ад думкі апірацца на ніжэйшыя клясы“. Калі, кажа далей Чэрнышэўскі, провокавалі каралеўскую ўладу, падманна выкінуўшы лёзунг усеагульнага выбарнага права, то лібэралы ня ставілі сабе задачай паказаць на падманны характар гэтага лёзунгу ў роялістых, а чарнілі самы лёзунг, як спробу роялістых абаперціся на народ, і вось што пісалі пра народ: „Яны (роялістыя. *І. Г.*) сталі ў супярэчнасьць з грамадзкай думкай краіны, ня могуць жыць у згодзе ні з законнымі прадстаўніцамі краіны, ні з газэтамі, такімі самымі законнымі яе прадстаўніцамі, ні з незалежнымі судовымі ўладамі, падпарадкаванымі аднаму закону; *зразумела пасьля гэтага—трэба ім шукаць нацыю па-за той нацыяй, якая чытае газэты, якая цікавіцца спрэчкамі палат, якая мае капіталістых, кіруе прамысловасьцю і ўладае зямлёю; ім трэба спусьціцца да ніжэйшых пластоў насяленьня, ужо няма грамадзкай думкі, дзе наўрад ці ёсьць які-небудзь політычны сэнс, дзе кошкаюцца тысячы істот добрых, адкрытых, простадушных, але якія лёгка падманваюцца і абураюцца, якія жывуць з дня на дзень, праводзяць кожны час свайго жыцьця ў барацьбе з патрэбаю, ня маюць ні часу, ні фізычнага ды разумовага адпачынку, патрэбнага, каб хоць часамі падумаць пра політычныя справы. Вось нацыя, якую хацелі-б паставіць вакол прастолу некаторыя з нашых рэакцыянэраў. Сапраўды, хто*

*адхіляе законы, той павінен кідацца ў абнімкі чэрні*". (Падкрэсьлена намі. *І. Г.*). Гэты вынятак не патрабуе комэнтараў.

Калі пачаўся бой паміж каралеўска-дваранскай арміяй і пролетарскімі масамі Парыжу ў ліпні 1830 г., то лібэралы, за выключэньнем толькі адзінак, хаваліся, дрыжучы ад страху і перад народным паўстаньнем і яшчэ больш перад гневам караля, які паводле іх думкі, павінен быў немінуча пасьці на іх галовы пасьля таго, як кароль переможа. А яны думалі, што кароль пераможа. Паражэньне паўстаньня, пры іх няверʻі ў народ, здавалася ім нямінучым. Толькі тады, калі паражэньне караля і перамога народу канчаткова высьветліліся, лібэральныя буржуа вышлі з сваіх палацаў для таго, каб выкарыстаць вынікі перамогі, эксплёатуючы тую падманную ў народзе думку, над укараненьнем якой у сьвядомасьць народу лібэралы досыць папрацавалі, што яны, лібэралы, за ўвесь час рэстаўрацыі змагаліся з роялістымі і каралём за свабоду і констытуцыю. Калі-ж лібэралы ўмацаваліся каля ўлады, то яны прысвоілі ўсе перамогі сабе для таго, каб, апіраючыся на гэтыя „перамогі", пашырыць сваю эксплёатацыю народных мас Францыі без перашкоды дваранства.

Абагульняючы вынікі рэволюцыі 1830 г., Чэрнышэўскі піша: „Што выйграў просты народ, сілаю якога сярэдні стан вызваліўся ад сваіх супраціўнікаў? Просты народ змагаўся бяз жадных азначаных уласных патрабаваньняў; ён захапляўся труднасьцю свайго становішча да ўдзелу ў пытаньнях, чужых для яго інтарэсаў; ён не паклапаціўся прадаць сваю дапамогу, ня вытаргаваў сабе ніякіх умоў перш, чым далучыцца да таго ці іншага боку. Зразумела, ён не атрымаў нічога... У перамене прозьвішча складалася самая істотная частка перавароту. У эпоху рэстаўрацыі ўрадавая ўлада знаходзілася ў руках старых фэўдальных фамілій; пры орлеанскай дынастыі (якая прышла да ўлады пасьля рэволюцыі ў ліпні) кіравалі Францыяй людзі сярэдняга стану (буржуазія. *І. Г.*). „Тут вывады Чарнышэўскага цалкам супадаюць з вывадамі марксыцкай гістарычнай навукі. Рэволюцыю рабіў народ, выкарыстала-ж яе і ўмацавалася ў сваіх экономічных і палітычных позыцыях буржуазія. Яна ўкараніла сваю монархію, паставіўшы на прастол герцага Орлеанскага. Монархія гэта, пад назвай Ліпеньскай, панавала над Францыяй з 1830 па 1848 г. г. і трапіла ў гісторыю пад назвай Ліпеньскай монархіі.

Крытыцы гэтай монархіі і тым падзеям яе часу, якія падрыхтавалі рэволюцыю 48 г., прысьвечан вялікі артыкул Чэрнышэўскага: „Июльская монархия". Чэрнышэўскі адразу падыходзіць да самай сутнасьці эўропэйскіх адносін і характару Ліпеньскай монархіі, калі пачынае з крытыкі цэнтру фэўдальнай рэакцыі ў Эўропе „Священного союза" і адносін да яго ўраду Луі Піліпа, які шукаў саюзу з фэўдальнай рэакцыяй, заўзятую барацьбу якой абвясьцілі масы Францыі і ў Вялікую Францускую Рэволюцыю і ў рэволюцыю 30 году. „Прыхільнасьць да старога

парадку, які панаваў да рэволюцыі ды меў сваімі прадстаўнікамі Бурбонаў, ясна выказвалася замежнай політыкай Луі Пíліпа",—правільна кажа Чэрнышэўскі. Пры такой сваёй рэакцыйнай політыцы монархія Луі Піліпа павінна была адмовіцца ад тых мас, якія ў рэволюцыю 1830 году ачысьцілі глебу для ўкараненьня гэтай монархіі. Адзін з першых міністраў Луі Піліпа Казімер Пер'е нават меў нахабнасьць абвясьціць 18 сакавіка 1831 году, „што ліпеньскі пераварот ня быў справай народнага паўстаньня, што ён хоча прыдушыць партыі, якія інакш разумеюць характар гэтага здарэньня". „За ўвесь орлеанскі пэрыод, — кажа Чэрнышэўскі,—нічога ня было зроблена на карысьць масы". Больш таго, уся політыка была накіравана, — гэта Чэрнышэўскі шмат разоў падкрэсьлівае,—проці матэрыяльных інтарэсаў мас і асабліва рабочых. Адказам на такую політыку былі народныя паўстаньні, што выбухалі то тут, то там. На самым важным з гэтых паўстаньняў,—пролетарыяту ў Ліоне ў кастрычніку 1831 г.,—Чэрнышэўскі спыняецца вельмі грунтоўна. Ён крытыкуе лёзунг, пад якім выступіў у гэтым паўстаньні пролетарыят: „жыць працаю, або памерці ў бойцы" і паказвае на тое, што гэты лёзунг быў накіраваны проці самай істоты буржуазных адносін, ды кажа бадай словамі Маркса аб пролетарыяце: „Ёсьць у грамадзтве элемэнт, які разvальвае, так моцна развальвае ўсе ранейшыя сродкі да кіраваньня, што ўлада няміnуча павінна быць перароблена". Вельмі дакладна разумеючы сутнасьць клясавых адносін ды гістарычнага процэсу, які ён малюе, ён шмат разоў падкрэсьлівае, што пасьля рэволюцыі 1830 г. пролетарыят выступіў, як самастойная сіла, са сваімі асаблівымі патрабаваньнямі, што ганарыстая і хцівая барацьба паміж групамі і групкамі буржуазіі з іх політычнымі лёзунгамі ня вабіла ўжо больш пролетарыят і што нават крайне левы радыкальна-буржуазны рух—рэспубліканцаў, быў чужы для пролетарыяту. Калі адбылося паўстаньне буржуазных рэспубліканцаў у час Ліпеньскай монархіі, то пролетарыят не пашоў за імі, бо пад усімі лёзунгамі буржуазных партый таілася сьцьвярджэньне панаваньня буржуазіі над пролетарыятам у тым або іншым выглядзе, а пролетарыят патрабаваў не політычнай, а соцыяльнай, экономічнай рэволюцыі, якая не ўкладалася ні ў якія буржуазныя плыні. Тады, калі гісторыкі яшчэ разглядалі ліпеньскае паўстаньне, як звычайны хутка прыдушаны выбух, Чэрнышэўскі здолеў глянуць у самую глыбіню яго, паказаць яго надзвычайна гістарычнае значэньне і адзначыць яго, як паварот у гісторыі чалавецтва. Праяўляючы надзвычайную гістарычную прадбачнасьць, ён напамінае рух Бабёфа, які сучаснай марксыцкай гістарычнай навукай прызнан папярэднікам пролетарска-рэволюцыйных рухаў XIX стагоддзя, у тым сэнсе, у якім мы, марксыстыя, яго разумеем.

„Дзіўнае ўражаньне,—піша Чэрнышэўскі, — было зроблена на Францыю ліонскім паўстаньнем, незразумелым здавалася яно" і таму спачатку патрывожыла галовы. Ліонскія работнікі паўсталі не за Генрыха V, не

за Напалеона ІІ, не для абвяшчэньня рэспублікі, — чаго-ж яны паўсталі, чаго хочуць—чагосьці чужога для разуменьня ўсіх паважных людзей, нават самых захопленых крайнімі рэспубліканскімі разуменьнямі. „Жыць працаю або памерці ў бойцы"—гэта лёзунг, чужы для ўсіх разуменьняў; што-ж будзе такое? Ці могуць усе партыі лічыць няшкоднай для сябе гэтую клясу, ці ўсе павінны злучыцца проці яе?"

Такім чынам, Чэрнышэўскі ясна выказвае тую думку, што пролетарыят ужо не захапляўся ніякімі політычнымі фантасмагорыямі, а ставіў рэальныя экономічныя патрабаваньні, якія павінны былі ў корані зьмяніць грамадзкія адносіны. Не выпадкова таксама, кажа Чэрнышэўскі, што пролетарыят „паўстаў не за Генрыха V, не за Напалеона ІІ". Чэрнышэўскі хоча гэтым адзначыць, што ідэя дэмократычнай народнай монархіі, якая сталецьцямі трымала ў палоне народны рух, сканала і была адхілена пролетарыятам. Будзем помніць, што гэта пісалася ў Расіі ў 1859 г., напярэдадні аграрнай рэформы 1861 г., калі ідэя дэмократычнай монархіі мужыцкага цара напаўняла сьвядомасьць расійскага сялянства, калі нават такія інтэлігенты-рэволюцыянэры, як Бакунін ды Герцэн, марылі аб тым, што Аляксандар ІІ можа адыйсьці ад дваранства і зрабіць рэформу на карысьць сялянству. „Спадчыннасьць уплыву на заканадаўчую ўладу і праў на ўдзел у вышэйшай адміністрацыі—рэштка фэўдальнага парадку", кажа Чэрнышэўскі. Пра тых, хто гаварыў аб дэмократычнай монархіі ў Францыі, ён піша: „Яны прымушаны былі абманваць сябе *софізмам пра магчымасьць дэмократычнай монархіі*" (падкрэсьлена мною. *І. Г.*).

Тое, што сам Чэрнышэўскі быў вольны ад забабону аб дэмократычнай монархіі, вылучае яго, як найбольш перадавога чалавека, з усяе расійскае інтэлігенцыі. І Бакунін, і Герцэн жылі заграніцаю, сутыкаліся з эўропэйскім рабочым рухам і ў разуменьні гэтага руху ішлі далёка ззаду Чэрнышэўскага, бо і ідэолёгічна ў сэнсе разуменьня значэньня матэрыяльнага фактару ў грамадзкіх адносінах яны далёка адставалі ад Чэрнышэўскага.

Мы ня можам больш падрабязна з прычыны абмежаванасьці месца і часу прасачыць усю глыбіню філёзофскай ды гістарычнай думкі, якая ёсьць у гэтым артыкуле Чэрнышэўскага, і прымушаны спыніцца на канцы гэтага артыкулу, дзе Чэрнышэўскі, выкладаючы навуку Сэн-Сімона і сэнсімоністых, якая вырасла напярэдадні і разьвілася ў час ліпеньскай монархіі, выкрывае сутнасьць рэволюцыі 1848 г.

Чэрнышэўскі правільна зазначае, што пачатак сэн-сімонізму знаходзіцца ў крытыцы буржуазных адносін. „Скрозь вакол сябе ён (Сэн-Сімон) бачыў зацятую барацьбу: барацьбу вытворцаў паміж сабою за збыт тавараў, барацьбу працаўнікоў паміж сабою за працу, барацьбу фабрыканта з работнікам за памер платы, барацьбу бедняка (рамесьніка, *І. Г.*) проці машыны, якая адбірала ад яго ранейшую работу і ранейшы кавалак хлеба; гэтая вайна называецца конкурэнцыяй, і нас пераконваюць,

што яна прыносіць больш карысьці, чым шкоды; усё можа быць; але пакуты, што яна прыносіць, куды большыя, бо яна губіць усіх слабейшых у кожным стане, у кожным промысьле... выгада кожнага пастаўлена проці выгады другіх людзей... усе вынайдзеньні навукі робяцца сродкамі заневальненьня, і яно ўзмацняецца самым прогрэсам: пролетары робіцца проста ручкаю машыны".

Чэрнышэўскі бачыць прогрэсыўную сутнасьць навукі Сэн-Сімона ў тым, што яна навучае аб такім грамадзтве, „у якім будуць панаваць працоўныя", але ён разам з тым выкрывае рэакцыйны зьмест сэн-сімонізму і трапна гаворыць: „тэорыя (сэн-сімонізму. *І. Г.*) прыходзіла да поўнага адмаўленьня каталіцтва, таксама як і ўсіх форм протэстанцтва, але вырасла яна на глебе каталіцтва". Сэн-сімонізм сьцьвярджаў „панства аўторытэту" ў рэлігійнай форме абсолютнага і нязьменнага бяспрэчнага аўторытэту. Тут Чэрнышэўскі ў сваёй крытыцы выступае атэістым: „Аўторытэт існуе ў руціне, г. зн. у справах, у якіх ня прымае ўдзел развага; развага ведае факты, пераконваецца доказамі, але нічога ня прымае па аўторытэту". Сурова крытыкуючы і выкрываючы рэакцыйны ды ўтопічны бок сэн-сімонізму, Чэрнышэўскі разам з тым шматкраць падкрэсьлівае прогрэсыўную аснову навукі: „Гэтая ідэя (сэн-сімонізму. *І. Г.*) простая і чыстая: для заспакаеньня грамадзтва патрэбна як найхутчэй магчымае палепшаньне матэрыяльнага і маральнага жыцьця шматлікай і бяднейшай клясы. Абавязак кожнага добрага грамадзяніна, кожнага шчырага чалавека складаецца з таго, каб прысьвеціць усе свае сілы гэтай справе... Мэтай тэорыі было даць працоўным перавагу над гультаямі". Канчае свой артыкул Чэрнышэўскі словамі: „Яна (навука сэн-сімонізму) важна, як азнака таго, што прышла пара грамадзтву займацца ідэямі, якія выразіліся на першы раз у гэтай нездавальняючай форме. Хутка мы ўбачым, што яны пачалі праяўляцца ў формах больш разважных і даходзіць да людзей, у якіх бываюць ужо не захопленай забавай, а справай уласнай патрэбы; а калі стане разважна клапаціцца аб сваім дабрабыце тая кляса (пролетарыят. *І. Г.*), з якой хацелі гуляць у лялькі сэнсімоністыя, тады напэўна будзе ёй лепей жыць на сьвеце, чым цяпер". Так вяшчуе Чэрнышэўскі рэволюцыю пролетарыяту.

З усяго паданага вынікае сутнасьць поглядаў Чэрнышэўскага на рэволюцыю 1848 г., выказаных у артыкуле „Кавеньяк". Ня маючы магчымасьці больш дэтальна на іх спыніцца, мы лічым, што досыць падкрэсьлілі гэтыя погляды паказаньнем на тое, што Чэрнышэўскі цэнтрам усяго руху 1848 году робіць патрабаваньні пролетарыяту: „зьмяніць адносіны паміж клясай капіталістых, з аднаго боку, клясай тых, хто жыве наёмнай працай, з другога боку". Ён вінаваціць кіраўнікоў рабочага руху ў нерашучасьці дзеяньня ў час рэволюцыі пры ажыцьцяўленьні патрабаваньняў пролетарыяту і далучаецца да тае плыні, якая дамагалася самых рашучых рэволюцыйных дзеяньняў пролетарыяту проці буржуазіі.

# ПРЫГОННАЯ ГАСПАДАРКА БЕЛАРУСІ ПАВОДЛЕ ДАНЫХ РАСІЙСКАЙ ГАСПАДАРЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ І ЖУРНАЛІСТЫКІ 30—40 ГАДОЎ [1])

**Проф. Зьм. Жарынаў**

## VII

Востраю тэмаю для сельска-гаспадарчае літаратуры 40-х гадоў зьяўляўся, зразумела, і гандаль збожжам.

Наконт гандлю збожжам і іншымі продуктамі сельскае гаспадаркі магілеўскі абшарнік С. Весялоўскі ў 1843 г. яшчэ скардзіцца на нязвычайна нізкія цэны. Гэтыя цэны, паводле слоў аўтара, такія, што ў кожнага гаспадара апускаюцца рукі займацца якімі-небудзь паляпшэньнямі.

Гарэлка прадавалася ў 1843 г. па 30—40 кап. сер. за вядро, авёс—па 1 руб., пянька—па 80 к., каноплі—2 р., канапляны алей—2 р. Між тым, пянька ў Рызе ў тым-жа самым годзе каштавала ў пачатку навігацыі ад 21 да 24 руб. за беркавец, ордынарная, і нават па 19 р. сер., палявая чорная, таму што ў чужаземных прыстанях яна каштуе ад 25 да 36 р. за беркавец.

Прычыны такога зьніжэньня цэн Весялоўскі бачыць, папершае, у агульным недахопе капіталаў, накіраваных на ўнутраны гандаль, а раней у дрэнным стане шляхоў; але, апроч таго, у артыкуле высунуты довад, які падаецца затым Заблоцкім-Дзесятоўскім у яго артыкуле аб цэнах на хлеб—менавіта, што гаспадары-абшарнікі, ва ўмовах прыгоннае гаспадаркі, яшчэ самі ня ведаюць, колькі каштуе ім выраб іхніх продуктаў, і таму, асабліва пры патрэбе ў грошах, аддаюць свой тавар за абы што [2]).

На думку Весялоўскага, „у губэрскім горадзе трэба заснаваць пасярэдніцкую комісыянэрскую кантору, дзе зводзіць гуртаўнікоў з прадаўцамі, з правам для прадаўцоў атрымліваць задаткі пад заклад складзеных у крамах тавараў. Абшарнік І. С. прапануе ўтварыць для Беларусі таварыства ня толькі для хлебнага гандлю, але і для гандлю пянькою і альняным насеньнем. Абшарнік-прадавец дастаўляў-бы продукты ў канторы і магазыны таварыства і атрымліваў палову грошай з тым, каб атрымаць рэшту пасьля продажу вырабаў самім таварыствам у Рызе.

---

[1]) Гл. „Полымя“ № 8.

[2]) С. Веселовский. Об облегченном сбыте земледельческих произведений. Ж. М. Г. Им. 1846, XXI, смесь 101—105.

таварыства засноўвалася-б на акцыях, і цэны штогод вызначаліся пасьля папярэдніх даведак, прыстасоўваючыся да замежных патрабаваньняў [1]).

Чуюцца скаргі на залежнасьць абшарніка ад скупнікаў, якія атрымоўваюць прыбытку да 10 проц., а самі купляюць у абшарнікаў збожжа за поўцаны. „Миллионы в руках купцов, в этом нет никакого сомнения, а мы (г. зн. абшарнікі) сидим в долгах и все в банковом залоге“ [2]). У гэтым праглядвае звычайная, тыповая для сярэдзіны XIX в. рыса — абвастрэньне соцыяльнай супрацiўнасьці між дзьвюма групамі насельніцтва, якія апіраюцца на гандлёвы капітал—між дваранствам і буржуазіяй; у Беларусі, разам з тым, паколькі ў ролі скупніка выступалі звычайна яўрэі, соцыяльная супраціўнасьць набывае час-ад-часу і нацыяналістычнае адценьне: „без участия еврея в Белоруссии ни купить, ни продать ничего нельзя“,—жаліцца Весялоўскі. Цікава, аднак, што ў адносінах да яўрэяў мы не знаходзім якіх-небудзь надта рэзкіх закідаў; той-жа Весялоўскі прымае пад увагу, што абшарнікі жывуць на вялікіх адзін ад аднаго адлегласьцях, рэдка бачацца між сабою, а калі і бачацца, дык яшчэ радзей сходзяцца ў поглядах, а яўрэі паміж іх—нібы жывая газэта; праз яўрэяў пашыраюцца ўсе навіны, паведамляюцца ўсе зьвесткі, даведваюцца аб усіх унутраных і замежных здарэньнях [3]).

Пры тым, паводле назіраньня Цэльлінскага, яўрэй яшчэ ня так моцны экономічна, каб зусім падняволіць абшарніка: вядучы прадпрыемства часта вышэй сваіх сродкаў, яўрэй ня можа чакаць лепшых цэн, бо, з прычыны вялікай сваёй ненадзейнасьці, атрымлівае пазыку толькі за надзвычайна высокія проценты; яўрэям прыходзіцца браць задаткі на дастаўку продуктаў са значнаю збаўкаю цэн, рабіць усялякія ўступкі на карысьць буйных капіталістых і, нарэшце, з відавочнай шкодаю для саміх сябе [4]). Цэханавецкі, уласьнік 2.000 душ, непасрэдна сам гандлюе з Рыгаю, без пасярэдніцтва скупнікаў-яўрэяў, і атрымоўвае значныя прыбыткі.

Сярэднюю цану пшаніца ў 1845 г. Бэнэке вылічвае ў 3-50—4 руб. сер. за чэцьверць, жыта 10 асыгнац. за чэцьверць (р. с. 2 р. 86 кап. сер.), ячменю—7 руб. асыгн. (2 руб.), аўса—1 руб. сер. за чэцьверць. Цэны на бульбу ў 1841 г.—86 кап.—1 руб. сер. чэцьверць, у 1863—34—40 кап. сер. чэцьверць [5]).

[1]) И. С. (Иван Сердюков). Мысли о средствах к удержанию цен на хлеб и другие произведения сельского хозяйства. Земл. Газ. 1844, № 44, 351.

[2]) Ibid., стар. 350.

[3]) С. Веселовский. Об облегченном сбыте земледельческих произведений Ж. М. Г. Им. 1846, XXI, смесь 104.

[4]) Ж. М. Г. Им. 1848, XXVI, 38—40.

[5]) Ж. М. Г. Им. 1845, XVII, 205—206.

## VIII

Зразумела, першараднейшае значэньне для беларускага земляробства мела жывёлагадоўля—і пытаньне аб гэтай гаспадарчай галіне займала ўжо ў 40-х гадох значнае месца ў гаспадарчай літаратуры. Аўтары скардзяцца на недахопы ўвагі да жывёлагадоўлі ня толькі з боку сялян, але і з боку большасьці абшарнікаў, хоць і знаходзяць зусім здавальняючае тлумачэньне гэтаму ў недахопе пашы і ў таннасьці продуктаў жывёлагадоўлі. Ва ўсіх заходніх губэрнях, за невялікімі выключэньнямі, паводле слоў Міхэльсона—на жывёлагадоўлю глядзяць, як на няўхільнае зло, якое канечна патрэбна ў сельскай гаспадарцы для атрыманьня, хоць і за дарагую цану, патрэбнага ўгнаеньня, „без которого здешняя малоплодородная земля не была бы в состоянии постоянно давать урожаи, вознаграждающие труд земледельца“. Апроч гною, ад жывёлагадоўлі вельмі мала прыбытку: лічачы даход ад малочнае каровы на вёсках ад 3 да 6 р. сер., да якіх трэба яшчэ дадаць кошт цяляці каля 1 р. 50 кап. сер., і маючы на ўвазе, што пры звычайнай тутэйшай жывёлагадоўлі дойныя каровы звычайна ў сярэднім ліку складаюць ня больш за палову ці трацiну статку, выяўляецца, што на даход ад аднае дойнае каровы, у 4 р. 50 к.—7 р. 50 к., трэба трымаць на працягу году 2—3 штукі быдла. Мяса каштуе 3—5 кап. сер. за фунт.

На 210 зімовых дзён патрэбна на $1^1/_2$ штукі жывёлы 90 пудоў сена і 4 чацьверці аўса; між тым, з прычыны недахопу пашы ў самыя ўрадлівыя гады, сена зьбіраецца ледзь выстарчаючая колькасьць для пракорму толькі трэцяе часткі таго ліку жывёлы, які патрэбны для належнага ўгнаеньня. Практыкуецца пасьба на папары. Дзе ёсьць магчымасьць, сялянам прыходзіцца купляць траву ў суседніх абшарнікаў, касіць і звозіць яе да сябе. Наогул было-б карысьней прадаваць сена, каб не патрэбен быў гной [1]). Хлявы для жывёлы часта будуюцца халодныя, без выстарчаючае абароны ад дажджу і ветру. Мала ўжываецца захадаў для паляпшэньня пароды жывёлы. Звычайна цэлая вёска дамаўляе пастуха або якога-небудзь селяніна, або, нарэшце, вясковага пана ўтрымліваць за пэўную плату аднаго ці двух бугаёў, якія ў большасьці ад дрэннага ўтрыманьня знаходзяцца ў горшым стане, чымся рэшта статку.

Калі сяляне зварочваюцца да абшарніка, дык ён дае самага горшага бугая [2]).

У некаторай як быццам-бы супярэчнасьці з гэтым стаяць даныя атлясу Эўропэйскае Расіі, выд. Мін. Дзярж. Маем. за 1857, паводле якіх

---

[1]) С. В. Михельсон. О средствах к улучшению скотоводства в Западн. губ. России. Ж. М. Г. Им. 1846, XXI, 116, 122. В. В. О винокурении в Белоруссии и причинах бедности ее жителей. Земл. Газ. 1840, № 21, 162.

Бенеке. Хозяйственные очерки. Ж. М. Г. Им. 1845, XVII, 210, 215.

[2]) Ж. М. Г. Им. 1846, XXI, 118.

Беларусь у агульным ня мае недахопу ў рагатай жывёле: у Магілеўск. губ. мы маем 58 штук на 100 жыхароў, у Менскай—49, у Віцебскай—35, у Віленскай—45, тады як, напрыклад, у Кіеўскай—34, у Маскоўскай—21. І. Кнюпфэр наогул констатуе, што жывёлагадоўля ў Менскай губ. у добрым стане [1]). Справа тлумачыцца, папершае, мабыць, тым, што аўтары, імкнучыся падкрэсьліць патрэбу ў паляпшэньні жывёлагадоўлі, схільны перапавялічваць свае пэсымістычныя водзывы. Далей, побач са слабаю ўвагаю да жывёлагадоўлі ў сярэдніх і малых маёнтках і ў сялян, самі аўтарыпэсымістыя ўсё-ж такі ня могуць не констатаваць некаторых посьпехаў ў шэрагу прогрэсыўных маёнткаў. Нарэшце, у экономічным атлясе, як відаць, у лік буйнае рагатае жывёлы залічана і дробная жывёла—авечкі, між тым, як гадоўля авечак пасьпела заняць у Беларусі значна больш спрыяючае месца, чымся гадоўля буйнае жывёлы.

Калі, такім чынам, дрэнна была справа з жывёлагадоўляй у сялян і ў дробных абшарнікаў, дык у абшарнікаў Пярольскага і Глуцкага ў Магілёўскаў губ., у графа Храптовіча ў Віцебскай, у Бухацкага ў маёнтку Гарадзея, Навагрудзкага павету, мы бачым заводзкае быдла голяндэрскае, тырольскае, швэйцарскае, орахляндзкае, халмагорскае і ангельскае парод. Жывёла ў графа Храбтовіча (150 штук буйнае рагатае жывёлы) утрымліваецца ў добра ўпарадкаваных каменных хлявох з цаглянаю падлогаю і з плеценае лазы стольлю, абмазанай на 2 вяршкі глінаю. Малочная жывёла аддадзена ў водкуп швэйцарцу, які з атрыманага малака робіць сыр, плацячы за кожную дойную карову па 8 р. сер. у год.

Апроч саломы ды сена, скаціна ўзімку атрымлівае сырую бульбу і знаходзіцца ва ўзорным стане. Хлеў для выкарму жывёлы па остзэйскай сыстэме маецца ў вяліскага абшарніка Гэрнгросса [2]). Дзе-ні-дзе паляпшаюць лугі. Сяўба кармовых траў практыкуецца ў графа Брухацкага ў Гарадзеі, для чаго загадзя былі асушаны і прыведзены да культурнага стану забалочаныя дагэтуль сенажаці.

Пры досыць усё-ж такі абмежаванай колькасьці буйнае рагатае жывёлы, у беларускіх губэрнях гадавалася даволі шмат авечак—простых і мерыносаў.

Паводле слоў Бэнэке, асаблівы посьпех у прыватных маёнтках мае аўчарства. „Здесь ныне все более и более убеждаются в том, что при теперешних обстоятельствах овцеводство при надлежащей связи с правильным земледелием может доставить доход более, чем содержание всякой другой породы скота“ [3]).

У той час, як у звычайных маёнтках гадуюцца простыя авечкі, да якіх, для палепшаньня пароды, далучаюцца купленыя за танную цану

[1]) Atlas économico-statistique de la Russie d'Europe, publié par ministére des domaines de l'état. Texti explicatif St. P. 1857, 85-86. Кнюпфер. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Г. Им. 1846, XX.

[2]) Ж. М. Г. Им. 1846, XXI, 118.

[3]) Ж. М. Г. Им. 1845, XVII, 210.

забракованыя авечкі з суседніх тонкавоўных аўчарнікаў; у буйных, добра ўпарадкаваных маёнтках, звычайна маецца досыць значная колькасьць уласных тонкавоўных авец, хоць гэта колькасьць ад 1841 да 1850 крыху і зьнізілася [1]). Першыя аўчарнікі ў межах Беларусі былі закладзены графам Мікал. Пятр. Румянцавым у горадзе (тады мястэчку) Гомелі, у 1802 г., прычым з Богэміі было выпісана 18 бараноў і 132 авечкі сапраўднае гішпанскае пароды. Спачатку справа разьвіналася ня зусім добра, але ўжо ў 1810 г. ў аўчарніку Румянцава было 253 бараны і 435 авечак, а ў 1845 г. іх было ўжо блізка 14000. У тым-жа 1810 г. магілеўскі абшарнік Ігнат Цэханавецкі (Клімавіцкі пав.) купіў, у сваю чаргу, некалькі дзесяткаў авец гішпанскае пароды і заснаваў аўчарнік у сваім маёнтку Капічах. Цэльлінскі знашоў тонкавоўных авечак і ў Цэккерта, і ў Храбтовіча (4000 штук), і ў Цэханавецкага. Воўна часта спажываецца на месцы, на мясцовых суконых фабрыках і сукнавальнях, а часткай ідзе за граніцу праз Броды. Цэны на воўну ад 14—15 р. сер. да 20—24 [2]).

Што тычыцца да коняй, дык і паводле даных экономічна-статыстычнага атлясу, на 100 жыхароў, за час ад 1845—1853 г., было ў Віцебскай губ.—24, у Віленскай—22, у Магілеўскай—40, у Менскай—14. Для параўнаньня возьмем Маскоўскую губ. (23), Ковенскую (7), краіну Донскага войска (36). Вялікая колькасьць коняй у Магілеўскай губ. тлумачыцца існаваньнем тут конскага заводу гр. Паскевіча ў Гомелі, а таксама, магчыма, і разьвіцьцём вазацтва (дастаўка хлеба гужам у Віцебск [3]).

Конскі завод у 75 коняй быў у Віцебскай губ. у гр. Храптовіча. Для кожнага ўзросту коняй вызначаўся асобны корм, асобная загарода і асобная стайня [4]).

## IX

Пераходзячы зараз да даных апрацоўчай прамысловасьці, на чале якое стаялі беларускія абшарнікі, мы, зразумела, страчаемся тут з такімі галінамі вытворчасьці, якія непасрэдна зьвязваліся ці з сельскаю гаспадаркаю, ці часткова са здабывальнаю прамысловасьцю. У прыватнасьці, для

[1]) Паводле вестак начальнікаў губэрній было тонкавоўных авец:

| | 1841 | 1842 | 1844 | 1844 | 1845 |
|---|---|---|---|---|---|
| Магілеўск. губ. | 32647 | 29113 | 27008 | 29950 | 25970 |
| Віцебск. губ. | 7298 | 5871 | 5249 | 3815 | |
| Гароднеск. губ. | | | 299913 | 307786 | 221563 |

К. Веселовский. Тонкорунное общество в России. Ж. М. Гос. Им. 1846, XX, 130. В. 1850 г. Паводле даных гаспадарчага атлясу, у Магілеўскай губ. было авец палепшаных парод 31770, у Віцебскай—1000. Для Менскай губ. ў 1846 г. К. Арсеньнеў дае значную лічбу ў 96245 тонкавоўных авец (пры 302038 звычайных): Статистические труды И. Ф. Штуккенберга, т. II. Статистические описания Могилевской, Витебской и Минской губ., К. Арсеньев. Статистические очерки России. Соб. 1848, 295, 296, 297.

[2]) Ж. М. Г. Им. 1845, XVII, 210. 1848, XXVI, 40, 1846, XX.

[3]) Atlas économico-statistique de la Russie d'Europe. Texte explicatif St. P. 1857, 85—86. К. Арсеньев. Статистические очерки России. Соб. 1848, 295.

[4]) Ж. М. Г. Им. 1846, XX.

разьвіцьця апрацоўчае прамысловасьці мела вялізарную вагу багацьце на Беларусі драўлянага паліва; у гэтых адносінах абшарнікі, якія мелі на сваіх землях досыць значную лясную плошчу, зьяўляюцца бліжэйшымі прыхільнікамі пераапрацоўкі на месцы беларускае сыравіны, хоцьбы гэта пераапрацоўка адбывалася і такой няпэўнай для народнага дабрабыту галіне, як браварніцтва.

Пра баварніцтва мы скажам ніжэй, а покуль што затрымаемся на іншых галінах прамысловасьці, менш пашыраных, але ўсё-ж такі зварачаючых на сябе ўвагу гаспадарчае літаратуры. Такая, перш за ўсё, пераапрацоўка спажыўных продуктаў. Кнюпфэр і Цэльлінскі падрабязна апісваюць вялікі млын-пытлявальню, бачаную імі ў маёнтку Забалоцьце І. Ф. Мянжынскага, якім ён уладаў супольна з братам Аляксандрам і ген.-маёрам Дзякавым. Млын з шасьцьма застаўкамі і дасканальным жорнам, пабудаваны мясцовым магілеўскім майстрам Флейшэрам. У 1843 г. у млыне было зьмелена 56000 п. пшаніцы, атрыманае як ад мясцовых абшарнікаў (яравая пшаніца), так і з Украіны (пшаніца-азімка, паколькі нельга атрымаць добрае крупчаткі з аднае яравое). Мука выходзіць пяці гатункаў: з 1000 пуд. пшаніцы—250 пуд. першага гатунку, ад 350 да 400 пудоў—другога, 80 пудоў—трэцяга, ад 50 да 60—чацьвертага, 25—30 пуд.—пятага. Першы гатунак прадаецца ад 7 да 9 руб. сер. за мяшок у 5 пуд.; другі—5—6 руб. сер.; трэці—4-50—5 р.; чацьверты—3-50—4 р.; пяты—2 р. 50 к. Млын займае як быццам монопольнае становішча, таму што пытляваная мука ня можа доўга захоўвацца ад псаваньня, а правоз з Кіева зручны толькі летнім часам—вадой. Потым вельмі значную карысьць атрымлівае Мянжынскі ад таго, што мае магчымасьць выкормліваць высеўкамі жывёлу і гэтым падтрымоўваць сваё ральніцтва.

Высеўкі ідуць і на продаж, па 14 кап. сер. за пуд. Млын знаходзіцца пад загадам мельніка, выпісанага з Яльца.

Прызнаючы надзвычайную прыбытковасьць мукамольнага прадпрыемства Мянжынскага, Цэльлінскі, аднак, лічыць, што і ў такога гатунку прадпрыемствах нельга бачыць прамысловасьці, якою маглі-б і іншыя абшарнікі тутэйшага краю займацца з такой-жа для сябе карысьцю [1]).

Мы ўжо мелі выпадак гаварыць аб патачна-крухмальным заводзе, пабудаваным у маёнтку Гурко, Крынках (Магілеўск. губ., Аршанскага пав.).

У гр. Бэнкендорфа, у Прапойску, пры вялікай колькасьці паліва, якое здабываецца з багатае лясное гаспадаркі, была заснована мядзяная і чыгунная гісэрня.

Між іншым—у канцы 40-х гадоў частка сялян, якая працавала на гэтай гісэрні, была пераведзена ўжо на сельскую гаспадарку (мабыць, у сувязі са зьнішчэньнем лесу [2]).

[1]) Ж. М. Г. Им. 1845, XX. 1848, XXVI, 118, 119.
[2]) Ж. М. Г. Им. 1848, XXVI, 158.

Нельга сказаць, каб у Беларусі была моцна разьвіта ў гэты час фабрычная прамысловасьць. У 1830 г. В. Пальчынскі лічыць, што калі ў Маскоўскай губ. адзін „прамысловец“ прыпадае на 54 чалавекі насельніцтва (г. зн. прамысловага насельніцтва было 1,8 проц.), а ў Пецярбурскай—на 41 (г. зн. 2,4 проц.), дык у Магілеўскай адзін прыпадае на 380 душ, у Віцебскай—на 435, Менскай—на 637 (0,27, 0,23, 0,16 проц.)[1].

Паводле Зяблоўскага, у Магілеўскай губ. было сялянскіх фабрык і прамысловых прадпрыемстваў 6, на іх 107 раб.; у Віцебскай, у 1840 г., сялянскіх фабрык і заводаў было 3, але, апроч таго, мелася скураных і цагляных заводаў (першых 66, другіх 65). У графа Храптовіча ў Шчорсах знаходзіўся ў 1850 г. вялікі бровар, у якім штогод выпарвалася некалькі дзясяткаў тысяч бочак піва, кожная ў 10—15 вёдраў[2]).

Далей нельга не констатаваць досыць значнага разьвіцьця абшарніцкіх сукнавальняў або нават малых суконных фабрык, на якіх і перапрацоўвалася частка воўны, атрыманая з мясцовых тонкавоўных аўчарнікаў. Бэнэке гаворыць аб мностве суконных фабрык: кожны год зьяўляюцца новыя ці пашыраюцца існуючыя. Даволі значная суконная фабрыка маецца ў гр. Савіча, у Кухліцы, Ігуменск. пав., Менскай губ.[3]).

Таксама аднэй з значных галін прамысловасьці было на Беларусі цукраварніцтва, хоць, паводле слоў Жданава, прамысловасьць гэта не абяцала асаблівага разьвіцьця ў пачатку 40-х гадоў. Сапраўды, у гэты час на Беларусі ня было яшчэ ніводнае цукраварні (калі не прылічаць да Беларусі Смаленскае губэрні, дзе ў 1844 г. былі ўжо дзьве цукраварні).

Але ўжо ў 1845 г. ў Менскай губ. працуюць дзьве цукраварні, у Магілеўскай—3, а потым у 1851—52 г. у Менскай губ.—12 цукраварань; у Магілеўскай—6[4]). Тры магілеўскія цукраварні ў 1848 г. далі 2900 пуд. цукру[5]) Кнюпфэр і Цэльлінскі знашлі цукраварні ў маёнтку Гурко (Магілеўск. губ., Аршанск. пав.), у кн. Варшаўскага ў Гомелі, у Храптовіча ў Віцебскай губ. і ў Карэлічах у маёнтку Вітгэнштэйна (Навагрудзкі пав., Менскай губ.). На цукраварні ў Карэлічах штогод пераапрацоўвалася каля 1000 пуд. цукровых буракоў пры 120 рабочых. З чэцьверці буракоў выходзіла ад 15 да 16 ф. цукру, г. зн. каля 4 проц. усіх буракоў.

[1]) В. Пальчинский. О состоянии промышленных сил России до 1832 г. Соб. 1833, 83—84.

[2]) Статистические труды И. Ф. Штуккенберга, т. II. Статистические описания Могилевской, Витебской и Минской губ., стр. 13, 15, 95. Земл. Газ. 1850, № 78, стр. 586—587.

[3]) Бенеке, Ж. М. Г. Им. 1845, XVII. 190, 211, 213 по данным Де Ливрона. Статистическое обозрение Российской империи. Собр. 1874. У Менскай губ. было ў той час 5 суконных фабрык з 540 рабочымі і вытворчасьцю на 244800 руб. (стар. 126).

[4]) Обзор действий Департамента Сельского Хозяйства в течение десяти лет 1844—1854. Соб. 1855, 129. Паводле даных „Памятной книжки Минской губ. за 1845 г.“ меліся цукраварні ў Бабруйскім пав. ў Булгака ў Пархімковічах і Пушчына ў Парычах. Затым у Навагрудзкім пав. ў гр. Вітгэнштэйна.

[5]) Статистические труды И. Ф. Штуккенберга. Соб. 1860 г., т. II. Описание Могилевской губернии, стр. 13.

Прадаваўся цукар па 22½ кап. сер. за фунт, а рафінад па 25 кап. фунт. Цукровыя буракі садзіліся на лепшых панскіх палёх, апроч таго, скупляліся ў сялян. Дзякуючы няглыбокаму ворыву палеткаў пад буракі, ураджай не перавышаў 600—1000 пуд. [1]).

Цукровая прамысловасьць асабліва вызначалася працаёмасьцю, давала продукцыйны занятак рабочым сілам на ўвесь год. Апроч таго, яна давала жмакі, складаўшыя добры корм для жывёлы, а значыцца, падтрымлівала ральніцтва.

X

Як мы ўжо сказалі, тая-ж мэта—гадоўля значнае колькасьці жывёлы, ня робячы, цяжкага ў беларускіх умовах, паляпшэньня сенажацяй,—у значнай ступені ажыцьцявілася ў галоўнай галіне пераапрацоўкі спажыўных продуктаў Беларусі—броварніцтвам.

Трэба памятаць, што Беларусь зьяўляецца краінаю вольнага броварніцтва яшчэ з 1772 году, пад умоваю дадатковае платы да падушнага падатку ў разьмеры 50 кап. з душы. Натуральна, што вакол броварніцтва і яго гаспадарчае ацэнкі сярод аўтараў, якія прадстаўлялі гаспадарчыя інтарэсы беларускага абшарніцтва, разгарнулася досыць жвавая полеміка, з дапамогай якой мы больш-менш дэтальна можам разабрацца ў довадах як абаронцаў, так і супраціўнікаў броварніцтва. Галоўны аргумант абаронцаў—гэта, па-першае, магчымасьць з дапамогаю броварніцтва, пракарміць значную колькасьць жывёлы—ня толькі свае, але і тае, што бярэцца на пракорм з Украіны, а, па-другое, атрыманьне такога продукту, які выключна можа ісьці па прыроднаму кірунку вадзяных шляхоў, большае часткі Беларусі, г. зн. на поўдзень па Дняпры.

„Торговля хлебным вином одна вознаграждает достаточно труды белорусского помещика, обязанного трудиться на неблагодарной почве“.

Абшарнік В. В. вылічвае, што з 500 чацьвярцей жыта і 1300 чацьвярцей бульбы, сабраных з 120 скарбовых дзесяцін, выганяецца 6000 вядзёр гарэлкі, за якія, па-першае, атрымліваецца пры продажы 3000 руб. і якія, апроч таго, даюць магчымасьць паставіць на брагу 80 украінскіх валоў з чыстым прыбыткам у 800 руб. сер. і забясьпекаю палеткаў добрым угнаеньнем, а бяз броварніцтва тыя-ж 120 дзесяцін далі-б толькі 625 р.“[2]).

„Сознавая,—кажа, Цэльлінскі,—все нравственное и вещественное зло, которое влекут за собой непомерное производство и в особенности усиленная мелочная распродажа горячего вина, нельзя, однако ж, не признать, что при изменении обстоятельств, полагающих сему преграды,

[1]) Ж. М. Гос. Им. 1846, XX; 1847, XXV, 187; 1848, XXVI, 156.

[2]) С. Веселовский. О свободном винокурении в Белоруссии. Земл. Газ. 1840 г. № 16, 122. В. В. О винокурении в Белоруссии и о причинах бедности ее жителей. Земл. Газ. 1840, № 21, 103.

помещики не столь легко приищут способы вознаградить утерянный, хотя своими последствиями самый жалкий и даже пагубный доход“ [1]).

Хто выступае супраціўнікам браварніцтва?

Як відаць, гэта перш за ўсё абшарнікі, якія ня маюць патрэбнае колькасьці лесу і прымушаны, дзеля гэтага, цярпець яшчэ ад конкурэнцыі хлебных зьлішкаў, што застаюцца ў абшарнікаў, якія кормяць жывёлу брагаю. Чуюцца скаргі, што браварніцтва руйнуе сялян, пашыраючы сярод іх надмернае п'янства. У адным Себескім павеце, паводле слоў абшарніка Кэрна, было ў 1838 г. сорак бровароў; апроч таго, гарэлка, быццам-бы, ня вывозіцца з Беларусі, а, наадварот, у той-жа Себескі павет яшчэ прывозяць з Уралу ды Ліфляндзіі штогод да 24000 вёдраў. Нарэшце, ня больш як 23000 душ насельніцтва Себескага пав. выпівае за год 179000 вёдраў [2]). Шынкі трымаюць ня толькі яўрэі, якіх, урэшце, і выселілі з вёскі ў горад, а і шляхта, і аднадворцы; нават ёсьць прыклады, „что имеющие собственных своих крестьян арендуют карчмы, получая таким образом легкий и скорый заработок“.

У цяперашні час, з прычыны беднасьці сялян, абшарнік плаціць за іх да паловы падаткаў, а каб ня было вольнага браварніцтва—ён плаціў-бы 1/3 альбо 1/4, а гадоў праз 10 і зусім-бы ўжо не плаціў. Браварніцтва даводзіць да зьнішчэньня лесу, яно патрабуе значных выдаткаў, а між тым усякія надзеі на тое, што з дапамогаю браварніцтва падымуцца цэны на хлеб „зусім ня маюць пад сабою падставы ў гаспадарчай рэчаіснасьці“. Справа ў тым, што попыт на гарэлку і попыт на хлеб—гэта зьявы, якія не замяняюць адна адну, а супадаюць. „Если случится, что не будет требования на хлеб, то наверно не потребуется в торговле и вина“ [3]).

Што датычыцца водкарму жывёлы, то корму можна дастаць і апрача брагі (успомнім, што ў Мянжынскага якраз жывёла корміцца высеўкамі). Паводле слоў Бэнэке, корм жывёлы быццам-бы і не дае пажаданае колькасьці ўгнаеньня ані ў адным з тых маёнткаў, якія ён назіраў.

Людзей, занятых на браварніцтве, вельмі добра можна было-б скарыстаць для расчышчэньня чаротаў, тады зьявіўся-б і корм; вельмі няўважлівае прыйманьне жывёлы для водкарму з Украіны толькі распаўсюджвае пошасьці [4]). Полеміка адносна браварніцтва мела месца ў пачатку 40-х гадоў, калі пытаньне аб інтэнсыфікацыі ральніцтва не стаяла

[1]) Ж. М. Г. Им. 1848, XXVI, 39 стар. Также М. Жданов. Путевые записки по России, собранные в 1843 г., стр. 178.

[2]) Керн. Замечание о причинах упадка хозяйств в Витебской губ. Земл. Газ. 1838, № 99, 790—791.

[3]) Ар. Менжинский. О влиянии на Белоруссию неограниченного винокурения. Земл. Газ. 1840, № 28, 223.

[4]) А. М. Еще о причинах бедности белорусских крестьян Земл. Газ. 1840, № 53, 420—421. Ар. Менжинский. О влиянии на Белоруссию неограниченного винокурения. Земл. Газ. 1840, № 28, 223. Бенек. Хозяйственные очерки Ж. М. Г. Им. 1845, XVII, 198.

яшчэ так войстра. Далей гэтая палеміка ў значнай ступені заціхае, дзеля таго што браварніцтва адваёўвае сабе ў краіне што-раз большае значэньне. Лік бравароў у Віленскай губ. ў 1850 г. дасягаў 4200, у Віцебскай у 1844 г.—4136 (у якіх у 1843 г. выгнана 1.004.718 вёдраў гарэлкі і сьпірытусу[1]). Лепшым бравармі на Беларусі Бэнэке лічыць бравары ў Навагрудзкім пав.—Брухацкага (у Гарадзее) і гр. Алізара. Цэльлінскі і Кнюпфэр знашлі бравары ў Ленкевіча ў Падбярэзьзі і ў Гурко, у Крынках, і Вэкерта, ва Ўсьвяжы, Аршанск. п., у Гэрнгросса, у Вялікім пав. Калі часамі цана на гарэлку і зьніжалася, дык усё-ж у большасьці яна зьяўлялася значнаю крыніцаю прыбытку. У 1841 г. гарэлка ў 35° прадавалася ў Магілеўскай і Менскай губ. па 1 руб. сер. за вядро.

З Магілеўскае губ. яна ішла пераважна ў Смаленск, і гэта было да таго часу, пакуль тамтэйшае браварніцтва не перашло на выганку ўласнага сьпірытусу шляхам паравых прылад. Пад канец 40-х гадоў гэты збыт зусім спыніўся, але затое ўзрос збыт на Украіну[2]).

Унутранае спажыўленьне гарэлкі адбывалася ў карчмах, якія, як зазначана, з рук яўрэяў паволі перашлі ў рукі розных вольных арандатараў з аднадворнікаў і мяшчан. Карчмы пашыраліся надзвычайна хутка,—і, урэшце, цана ў раздроб на гарэлку была досыць таннай. Пры тым, ня маючы магчымасьці збыць усю вялізную колькасьць гарэлкі за гатоўку, арандатары карчмаў раздаюць яе сялянам напавер і прымаюць у лік платы продукты. Карчмары пад аховаю васеньніх цёмных ночаў разьяжджаюць па вёсках з бочкамі гарэлкі і зьбіраюць плёны сваёй працы.

Каб унікнуць поўнага руйнаваньня сялян карчмарамі, віцебскі абшарнік Кэрн прапануе ў 1838 г. наступныя спосабы перасьцярогі:

1) абмежаваць і азначыць лік карчмаў, згодна з сапраўднаю агульнаю патрэбаю;

2) спыніць здачу карчмаў у арэнду і пад поўны загад староньнім людзям;

3) азначыць для продажу ў раздроб агульную і сталую цану на гарэлку, і за ўсякае самавольнае зьніжэньне караць штрафам да 500 руб.

4) дазваляць продаж толькі за гатоўку[3]).

Нарэшце, робячы агульныя ўвагі аб прыбытках беларускіх маёнткаў у 1845 г., Бэнэке знаходзіць, што чысты прыбытак, за выключэньнем вартасьці ўжытае работы, выдаткаў на ўгнаеньне і інш., атрымліваецца толькі ў невялікім ліку маёнткаў, з найлепшым кіраўніцтвам.

[1]) Статистические труды И. Ф. Штуккенберга, т. II, соб. 18. Описание Виленской и Витебской губ., стр. 10—16.

[2]) Бенеке. Хозяйственные очерки Ж. М. Г. Им. 1845, XVII, 207.

Цэллинский. Обозрение некоторых имений Ж. М. Г. Им. 1847, XXV, 85—86. 1848, XXVI, 39.

[3]) Керн. Замечание о причинах упадка хозяйства в Витебской губ. Земл. Газ. 1838, № 99, 791.

Большасьць маёнткаў нібы не даюць прыбыткаў, і выдаткі на іх перавышаюць прыбытак. Гэты пэсымістычны водзыў грунтуецца на агульным уражаньні ад пераважнае колькасьці маёнткаў; але, з другога боку, маючы на ўвазе добраўпарадкаваныя маёнткі Менскай губ., Кнюпфэр сьведчыць якраз аб сярэдняй заможнасьці абшарніка.

Такое-ж уражаньне аб абшарніках Беларусі атрымаў і Міх. Жданаў [1]).

XI

Мы прасачылі даныя літаратуры аб беларускай сельскай гаспадарцы, цяпер крыху спынімся на тых старонках літаратуры, якія прысьвечаны характарыстыцы галоўнае рухавое сілы гэтае гаспадаркі—беларускаму селяніну.

Бясспрэчна—гэта досыць навучальныя і цікавыя старонкі, якія паказваюць, што гаспадарчая думка беларускіх абшарнікаў 30—40-х гадоў не пазбаўлена была сьвядомасьці і што лёс абшарніцкае гаспадаркі шчыльнейшым чынам зьвязаны з умовамі і тэмпам гаспадарчага разьвіцьця прыгоннае вёскі. Як ужо зазначана, паводле ўражаньня Бэнэке, беларускі селянін 40-х гадоў наогул ня церпіць ад малазямельля ані ў якой ступені.

Зямлі,—лічыць Бэнэке,—хутчэй ёсьць зьлішак, бо нават і там, дзе пляц, што належыць да сялянскага двара, не здавальняе яго патрэб, яму даецца магчымасьць выгадна наймаць нехапаючую колькасьць зямлі.

Пры шмат якіх скарбовых маёнтках лічыцца яшчэ запасная зямля, што аддаецца сялянам за памяркоўны чынш; таксама ёсьць і такія маёнткі, дзе сяляне пры недахваце сваёй зямлі наймаюць у іншых сялян, даючы ім некаторую частку ўраджаю, звычайна трэці ці чацьверты сноп. Калі селянін, часамі, дрэнна спраўляецца са сваёю гаспадаркай, дык гэта з прычыны адсутнасьці часу для работы, ад недахопу рабочых рук, які перашкаджае правільнаму вядзеньню трохпалёвае сыстэмы. „Дзе не хапае рук,—паводле слоў Бэнэке,—там селянін сее на адным і тым самым полі збожжа, пакуль яно не пакіне радзіць, а потым пакідае гэта поле і пачынае абрабляць яго ізноў не раней, чымся яно зможа даваць мізэрны ўраджай“ [2]).

Зразумела, сярод сялян патрэбна адзначыць даволі вялікую дыфэрэнцыяцыю. Бяручыся за гаспадарку ў сваім маёнтку, Гібэр фон Грэйфэнфэльс знайшоў сялянскую зямлю зусім неразьмежаванай, так што амаль усякі араў, дзе хацеў і колькі хацеў. Багацейшы селянін араў лепшую зямлю, таму што мяняў на яе сваю дрэнную з бедным, якому даваў у прыдачу чацьвярык збожжа ці бутэльку гарэлкі; уся беднота была ў залежнасьці ад вясковага старшыні, які прызначаўся заўсёды з самых

[1]) Ж. М. Г. Им. 1846, XX. Бенеке. Ж. М. Г. Им. 1845, XVII, 213. Мих. Жданов. Путевые записки, стр. 178.

[2]) Бенеке. Хозяйственные очерки. Ж. М. Г. Им. 1845, XVII, 214, 215.

заможных і рабіў з імі, што хацеў. Багатыр высылаў заміж сябе на паншчыну работнікаў, а сам займаўся сабе спакойна сваёю гаспадаркаю. У багатыроў і жывёлы было па некалькі штук, улетку ў іх малако, а ўзімку сьвіное сала, а часамі і бараніна.

Такіх багатыроў, згодна Гібэра фон Грэйфэнфэльса, прыходзіцца хоцькі-ня-хоцькі адпускаць на волю ня толькі таму, што яны даюць за сябе добры выкуп, але і таму, што яны ставяць у залежнасьць ад свайго ўплыву ўсё жыцьцё вёскі [1]). Наадварот, зусім іншы малюнак мае звычайная гаспадарка і быт беларускага селяніна. Тут амаль што ніколі не хапае хлеба да канца году; ды што за хлеб—з асьцюкоў; ён, „для большага напаўненьня жывата“, пячэцца звычайна напалам з падсяванаю альбо нават з непадсяванаю мякінаю. Да хлеба патрэбна соль, але і яна дастаецца з некаторым цяжарам [2]). Ужо з каляд пачынаюцца пазыкі і ў сваіх суседзяў, у яўрэяў, і ў так званае заможнае шляхты, ці, нарэшце, ў абшарніка. У самыя летнія годы, калі ўраджай сам-тры, плацяць за чатыры чацьвярыкі пяты, а ў няўродлівыя—даюць на два трэці альбо нават паўтара чацьвярыкі на чацьвярык і чацьвярык на чацьвярык. Пазыкі сялян на баку абшарнік нехаця павінен дазваляць, таму што часта ня мае магчымасьці карміць поўгода ўсю вёску. Жывёлы ў сялян звычайна мала; яна церпіць і ад дрэннага догляду і ад мізэрнага корму. У лепшым выпадку назапашваецца сена па 20 пудоў на кожную жывёліну на ўсю зіму.

Апроч зямляробства, у беларускага селяніна маюцца яшчэ сякія-такія заработкі, але яны даюць яму вельмі нязначную падмогу.

Пераважную частку сваіх грашовых набыткаў селянін атрымлівае ад вазацтва або ад работы ў лесе, у суседніх маёнтках, але заработак гэты настолькі нікчэмны, што не перавышае 10 кап. сер. у дзень. І ў справе вазацтва, вядома, займаюць першае месца багатыры, якія маюць па 10 коняй. Частка беларусаў адыходзіць з поўгадовымі або гадовымі пашпартамі ў Наваросію ў якасьці цесьляроў, цагляроў, муляроў, грабароў, а па каротка-тэрміновых пашпартох—у якасьці чорнарабочых. Грабары Віцебскай і Магілеўскай губ. былі вядомы па ўсёй Расіі. Грошы, патрэбныя для выплаты падаткаў або для спраўленьня сьвят, здабываюцца яшчэ ад продажу на кірмашох ільнянога і канаплянага семя, пянькі або лыка, мясных матэрыялаў, адкормленай жывёлы, масла ды інш. Прадаваць гэтыя продукты зноў-жа маюць магчымасьць толькі больш заможныя. Прыбытак-жа ад продажу ня бывае значны, ён ледзь

[1]) Гибер фон Грейфенфельс. Нечто о белорусском хозяйстве и введении инвенаря. Земл. Газ. 1845, № 28, 221. Его-же. Мысли на статью: „О средствах и водворению грамотности среди крестьян“. Земл. Газ. 1846, № 30, 244.

[2]) Иван Сердюков. О белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845 г., № 73, 578. В. Михельсон. О средствах к улучшению скотоводства. Ж. М. Г. Им. 1846. XXI, 115.

перавышае выдаткі на паездку на кірмаш, ледзь дазваляе купіць фунты 3—4 солі ды пірага для дзяцей [1]).

У цяжкім змаганьні за існаваньне беларускаму селяніну цяжка захаваць стары сямейны быт, захаваць непадзельнымі значныя сем'і, якія любіць падтрымліваць і сам абшарнік: пры поўгалодным існаваньні стварэецца глеба для нясупынных сямейных сварак. Паводле назіраньняў вяліскага абшарніка Гібэра фон Грэйфэнфэльса, звычайна сям'ю складае толькі сам гаспадар, жонка яго і малыя дзеці; рэдка—калі жывуць разам два браты ці дарослы сын з бацькам або сваяком. Пакуль жыве строгі стары бацька, дзеці, у іншых выпадках, яшчэ сяк-так ужываюцца, баючыся толькі старога. Па яго-ж сьмерці пачынаюцца нелады, якія канчаюцца звычайна дзяльбою [2]).

Невясёлы малюнак быту беларускага селяніна дае нам адносна Магілеўскай губ. ў сваім апісаньні амсьціслаўскі абшарнік Сярдзюкоў і Цэльлінскі.

Беларускі селянін,—зазначаюць гэтыя аўтары,—нярэдка жыве ў курнай хаце. Клеці і двары зроблены абы-як, нядбайна і нятрывала, у сярэдзіне брудна і не дае ніякай магчымасьці захаваць элемэнтарных правіл ахайнасьці і гігіены. Беларускі селянін ня мае звычкі мыцца і прычэсвацца, а ад гэтага і ад дыму ён хварэе на вочы і нажывае каўтун. Некаторы нахіл да ахайнасьці і форсу можна заўважыць у сьвяточныя дні: селянін прыбіраецца ў белую сьвітку, падпяразваецца чырвоным поясам, абувае боты, ці так званыя „аборы", на галаву надзявае „маргелку"—нешта накшталт капялюша бяз брыля; але гэта выключныя моманты; наогул кажучы, найчасьцей здараецца бачыць беларуса згорбленым над работаю, счарнелым ад бруду, з ускудлачанымі ад каўтуна валасамі, разбраклым тварам і ўпалымі вачыма, у жабрацкай вопратцы [3]).

У беларускага селяніна няма сталай дбайнасьці аб гаспадарцы. Ён жыве дзень-ада-дня, не клапоцячыся аб будучыне. Усё, што ня купляецца, ён лічыць танным і марна траціць. Калі хлеб ёсьць, ён яго зьядае па тры—сем фунтаў у дзень, калі няма—здаволен двума і адным, затое ў гэты час бывае худы і слабы. Ён менш за ўсё выяўляе гаспадарнасьці і ашчаднасьці якраз у няўродлівыя гады, хоць-бы, здаецца, менавіта ў гэты час і трэ' было-б выявіць асаблівую дбайнасьць і ашчаднасьць.

[1]) Бенске. Хозяйственные очерки. Ж. М. Гос. Им. 1845, XVII, 216. Иван Сердюков. О белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845, № 73, 578—579. К. Будницкий. О промыслах земледельческого сословия в Новогрудском крае. Ж. М. Гос. Им. 1847, XXIII, 62—63. Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Гос. Им. 1848, XXVI, 41—42.

[2]) Гібер фон Грейфенфельс. Нечто о белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845, № 28, 221.

[3]) Иван Сердюков. О белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845, № 73, 578—579. Целлинский. Ж. М. Гос. Им. 1848, XXVI, 41—42.

Беларуская зямля вымагае старэннага абробу,—а беларускі селянін звычайна позьніцца з узворваньнем, апроч таго, робіць яго павольна і абы-як, не даючы належным чынам вылежацца ўзоранай глебе.

У чым крыюцца прычыны такое ўвагі абшарніцкае літаратуры да цяжкіх бытавых умоў сялянства?

Справа, ведома, не ў якой-небудзь гуманнасьці абшарнікаў, чуласьці да сялянскай беднасьці: справа, зразумела, у тым, што, перш за ўсё, „выгоды помещика от таких крестьян самые незавидные". Але цікава, што, дашукваючыся прычын такой нэндзы беларускіх сялян, паказваючы на прычыны моральныя—на нібыта прыроджаныя няспрыяючыя ўласьцівасьці,—як гультайства, млявасьць, бесклапотнасьць, нахіл да п'янства і распусты, хітрасьць, фальшывасьць, якія перашкаджаюць абшарніку ў пару накіраваць селяніна на правільны шлях,—гаспадарчая літаратура ўсё-ж такі ўздымаецца і да думкі тлумачэньня ўсіх гэтых уласьцівасьцяй некаторымі об'ектыўнымі ўмовамі сялянскага быту. Гэтыя погляды гаспадарчае літаратуры выяўляюць думкі і мары часткі прогрэсыўных абшарнікаў.

„Если уже белорусскому крестьянину желать более трудолюбия, радения, заботливости о своем хозяйстве, добродетелей воздержанности,—кажа Цэльлінскі,—то прежде надобно пожелать благоприятнейших внешних обстоятельств, более способствующих первому желанию"[1]).

Развагі аб якойсьці прыраджонай няздольнасьці беларускага селяніна да работы выдаюцца для Цэльлінскага беспадстаўнымі. На тыя з прогрэсыўных пачынаньняў абшарніка, якія зьяўляюцца сапраўды карыснымі для сялянскага быту, беларускі селянін адклікаецца, бадай, актыўней, чымся ў іншых краінах. У выпадку патрэбы, пры добраахвотнай рабоце, беларус зьяўляецца досыць працаздольным, ён выславіўся, напрыклад, як добры грабар, тады, калі за грабарскія работы неахвотна бяруцца і вялікарусы. Калі ў беларуса няма цікавасьці да ўласнасьці, няма бадзёрасьці, няма і „сильнейшей пружины человеческой души, т. е. надежды", дык, з пункту гледжаньня Цэльлінскага і Сярдзюкова трэба прыняць пад увагу, як, наогул, няспрыяюча склаліся яго гаспадарка і быт. Вельмі няроўна разьмяркоўваюцца земскія павіннасьці; шкодзіць усякай бадзёрасьці неўраджай, што зьяўляецца ў выніку дрэннага ўгнаеньня, а гною не хапае, таму што Беларусь ляжыць на вялікім шляху, па якім ганяюць скаціну з Украіны і ад якога пашыраюцца на Беларусі пошасныя жывёльныя хваробы. Паморак на скаціну—гэта звычайнае ліха беларускіх сялян. Ня ўсюды паправіўся беларускі селянін і ад вайны 1812 г. Няма ў беларускага селяніна ашчадных і эканомічных адносін да набытага дабра,—але-ж яму і наогул вельмі цяжка яго захаваць. Мала хто з беларускіх сялян ня мае доўгу, „невы-

[1]) Ж. М. Г. Им. 1848, XXVI, 141.

водно" ў заставе апыняюцца і жупаны, і жаночыя андаракі, і косы, і лемяшы. „Сколько не оратарствуйте перед такими людьми,—прызнаецца Ів. Сярдзюкоў,—они вас не послушают". А тут яшчэ нязвычайная таннасьць гарэлкі, спрыяючы распусьце, уплыў шынкоў на тым-жа вялікім шляху, спойвае сялян рознымі паразытамі, якія, з дазволу, самога абшарніка, будуюць свой дабрабыт на арэндзе шынкоў. Гэтыя паразыты думаюць за беларускага селяніна, прымушаючы яго за гэта фізычна працаваць на іх карысьць[1]). Такім чынам, робячы кароткае абагульненьне пададзенаму, мы констатуем, перш-на-перш, што сучасная паншчыньне абшарніцкая літаратура дае некаторы досыць цікавы матэрыял, які характарызуе, з аднаго боку, кірунак абшарніцкае думкі, а з другога—дае нам такія-сякія фактычныя зьвесткі. Беларуская гаспадарка 30—40-х гадоў у высьвятленьні гаспадарчае літаратуры дае малюнак пераходу ад некаторае дэпрэсіі 30-х і першае паловы 40-х гадоў да больш спрыяючых рыначных кон'юнктур канца 40-х гадоў, калі выяўляецца вялікі попыт на жыта, і адпаведна гэтаму зварачаецца ўвага на браварніцтва, у мэтах, галоўным чынам, выкарму скаціны. Інтэнсыфікацыя зямляробства выявілася, у паасобных маёнтках, у організацыі шматпольля, з травасевам і польнай культурай караньплодаў. Як і ўсюды, інтэнсыфікацыя гаспадаркі, з аднаго боку, ставіць пытаньне аб зьмене ручной працы машынай, а з другога—аб прыцягненьні на дапамогу працы паднявольнай, прыгоннай, вольнанайманай, больш продукцыйнай і гібкай у сэнсе яе якаснага і колькаснага ўрэгуляваньня; урэшце—зьяўляецца патрэба ўздыму як матэрыяльнага, так і культурнага ўзроўню прыгонных сялян, хоць, зразумела, дабрабыт сялян і паншчына зьяўляліся разуменьнямі, часта ўжо зусім несумяшчальнымі.

Прыгонная гаспадарка вымагала паляпшэньня сялянскага быту, а паляпшэньне сялянскага быту там, дзе яно ўсё-ж мела месца, падцінала паншчыну. Так і ў Беларусі—у працэсе ўнутранага разьвіцьця самой прыгоннай гаспадаркі ўтвараліся і комбінаваліся ўмовы, што падрыхтоўвалі яго новую, значна інакшую фазу, якая і ажыцьцявілася пасьля сялянскай рэформы 1861 г.

[1]) Целлинский. Обозрение некоторых имений. Ж. М. Г. Им. 1847, XXV, 87—90. 1848, XXVI, 41—42, 139—140. Ив. Сердюков. О белорусском хозяйстве. Земл. Газ. 1845, № 73, 577—579. Ответ на статью „О белорусском хозяйстве". Земл. Газ. 1846, № 18, 142.

# ДРАМАТЫЧНЫЯ ТВОРЫ ЦІШКІ ГАРТНАГА

**Проф. І. Замоцін**

Драма заўсёды займала самае выдатнае месца сярод жанраў літаратурнае творчасьці. У наш час яна ня толькі захавала сваё значэньне найбольш цяжкага паводле выкананьня і найбольш дасканалага віду літаратурнае продукцыі, але і становіцца найбольш адказнай з усіх мастацка-слоўных твораў, якія створаны нашаю сучаснасьцю. Паводле слоў Каўцкага, „драма і рэволюцыя вельмі блізкія адна да аднэй, паколькі яны абедзьве становяць сабою катастрофы, якія рыхтуюцца няўпрыцям, але няўхільна, а потым раптам выбухаюць". Як жанр, ідэёва і композыцыйна аднагучны рэволюцыйнаму часу, драма патрабуе ад аўтара вялікай творчай напружанасьці, упартае працы ды ідэёвага ўздыму. Адсюль і складанасьць запатрабаваньняў, якія цяпер ставяцца да драматурга соцыолёгічнай крытыкай у яе марксыцкім удакладненьні.

Чаго шукае цяпер крытык-марксысты ў драматычным творы, разглядаючы яго ў соцыолёгічным разрэзе. Прыкладаючы свой аналіз перш за ўсё да зьместу данае драмы, ён выкрывае тую соцыяльную сутнасьць, якая ў ёй адбіта. Гэтая соцыяльная сутнасьць выяўляецца ня толькі ў тым, што зьмест драмы ўвязаны з пэўным соцыяльна-культурным момантам і з псыхолёгіяй тых ці іншых кляс ды грамадзкіх груповак, але і ў тым, што соцыяльна-бытавое і соцыяльна-псыхолёгічнае насычэньне драмы заўсёды знаходзіцца ў сьціслай залежнасьці ад клясавае позыцыі самага аўтара і атрымлівае адпаведнае гэтай позыцыі ідэолёгічнае асьвятленьне. Пры гэтым крытык-марксысты не абмяжоўваецца толькі констатаваньнем увязкі зьместу данае драмы з соцыяльным жыцьцём наогул і з клясавай прыродаю аўтарскае псыхолёгіі ды ідэолёгіі паасобку. Ён нямінуча ацэньвае і соцыяльную значнасьць драмы, г. зн. выкрывае яе асноўную тэндэнцыю і яе адносіны да соцыялістычнае будовы жыцьця; інакш кажучы, крытык аналізуе зьмест драмы ня толькі як матэрыял жыцьцяпазнаньня, але і як матэрыял жыцьцябудовы,—ня толькі як твор, што ілюструе жыцьцё данага моманту, як ўжо зжыты або яшчэ перажываецца, але і як твор, які цалкам ці ў паасобных сваіх мотывах організуе нашую думку ў яе паступовым руху да новага побыту.

Падыходзячы соцыолёгічна да формы ўсякага мастацкага твору, у тым ліку і драматычнага, крытык-марксысты ставіць і ў адносінах да формы шэраг запатрабаваньняў. Запатрабаваньні, што ставяцца да мастацкае формы, у адным з апошніх артыкулаў А. В. Луначарскага („Тезисы о задачах марксистской критики“, „Новый Мир“, 1928, № 6) формуляваны, між іншым, так: мастацкі твор павінен быць прапрацаваны ў форме вобразаў і, значыць, не павінен зьяўляцца „голаю пропагандаю“ і публіцыстыкаю; мастацкі твор па форме павінен быць орыгінальным, а не трафарэтным, г. зн. такім, у якім „формальнае цела твору зьліваецца ў непарыўнае цэлае з задумам яго і зьместам“, што дасягаецца пры наяўнасьці „формальных рэсурсаў“ у сэнсе мовы, архітэктонікі твору ў цэлым і ў частках, рытму ды іншых форм вершаванае мовы; урэшце, твор па форме павінен быць агульнадаступны, г. зн. павінен быць „адрасаваны да мас“, павінен „апэляваць да іх, як да галоўных творцаў жыцьця“, і, значыць, не павінен мець паводле формы ўсякае „замкнутасьці“, „умоўнасьці“, „рафінаванасьці“. Гэтыя агульныя запатрабаваньні да формы мастацкага твору могуць быць дапасаваны цалкам, зразумела, і да драмы, паколькі яе соцыяльная значнасьць ня ў меншай, а хутчэй у большай, чым у іншых літаратурных жанрах, ступені абумоўліваецца гармоніяй зьместу і формы.

Але драма, як жанр найбольш блізкі нашай сучаснасьці паводле свае соцыяльнае значнасьці, зьяўляецца і паводле формы больш, чым іншыя літаратурныя жанры, адказным і цяжкім. Таму да формальнага боку драмы, апрача агульных, ужо паказаных, вымаганьняў цяпер ставяцца і іншыя запатрабаваньні,—праўда, для драматургіі ня новыя, але значна ўдакладненыя і ўзмоцненыя крытыкаю нашых дзён. Крытыка жадае, каб драматург, выконваючы асноўныя запатрабаваньні мастацкаслоўнае тэхнікі, выявіў большую, параўнальна з поэтам-эпікам, сюжэтную вынаходнасьць; каб, компануючы сваю драму, ён здолеў надаць яе форме магчымую сьціслаcьць, г. зн. каб у малы аб'ём уклаў вялікі і дэталізаваны зьмест; каб ён стварыў мастацкі дыялёг, каб будаваў дзею свае п'есы пасьлядоўна, жвава, у выстарчальнай ступені напружана, умела ўводзячы ў развой п'есы асоб; каб сваячасна сконструяваў завязку дзеі і таксама сваячасна і жыцьцёва давёў яе да вышэйшага напружаньня, прывёў да разьвязкі і г. д. Побач з тым ад драмы вымагаюць сцэнічнасьці, пад якою цяпер разумеецца ня толькі тое, у якой меры яна падыходзіць да ўмоў сцэнічнае пастаноўкі, але і тое, як яна глядзіцца масавым гледачом, і тое, урэшце, як яна рэконструюецца і да некаторай ступені перарабляецца на сцэне рэжысэрам і трупаю, бо, як зусім правільна разважаюць сучасныя тэорэтыкі драмы, п'еса пішацца ў пачатковым выглядзе аўтарам, але закончваецца ўсё-ж ткі на сцэне.

Далучаючыся да гэтых запатрабаваньняў, што ставяцца сучаснай драме, і да самага мэтоду іх дапасаваньня ў яго асноўных тэзах, я

ўкладаю іх адначасна ў звычайную сваю гісторыка-літаратурную схэму. Для таго, каб зрабіць соцыолёгічны разрэз данага мастацкага твору як паводле зьместу, так і паводле формы,—я ўстанаўляю наступныя чатыры асноўных моманты пры аналізе твору: генэзіс твору ці яго крыніцы, якія констатуюцца пад поглядам увязкі твору (у даным выпадку драматычнага) з усім соцыяльна-культурным момантам, які яго абумоўлівае; тэматыку твору, як спалучэньне тыповых характараў, сцэн ды іншых зарысовак, што адбіваюць клясавае жыцьцё данага моманту; ідэолёгію твору, абумоўленую клясаваю пазыцыяй аўтара, і, урэшце, мастацкую форму твору, узятую ў шырокім сэнсе гэтага слова, якая таксама знаходзіць сваё тлумачэньне ва ўсім соцыяльна-культурным укладзе эпохі і ў залежнасьці аўтара ад яе грамадзкіх і літаратурных плыняй і груповак. Вытрымліваючы ў асноўным гісторыка-літаратурны падыход да твору, гэтая схэма адначасна дае магчымасьць устанавіць соцыяльную сутнасьць і соцыяльную значнасьць твору як паводле зьместу, так і паводле формы. Пры гэтым соцыолёгічны аналіз твору, у тым ліку і драматычнага, зроблены з пагляду вышэйпаказаных чатырох момантаў, ня толькі констатуе ілюстрацыйную яго частку, што адбівае жыцьцё данае эпохі і данага асяродзішча, але і дае ацэнку таму ідэолёгічнаму асьвятленьню, у якое даны твор афарбоўвае свае ілюстрацыі жыцьця. Зразумела, што пры разглядзе кожнага мастацка-літаратурнага матэрыялу соцыолёгічны аналіз павінен адбывацца ў непарыўнай сувязі з формальным аналізам, бо толькі мастацкае афармленьне ставіць даны твор на ступень мастацтва. Гэта асабліва можна дапасаваць да драмы, як да такога жанру, да якога цяпер ставяцца асабліва выразныя формальныя запатрабаваньні.

Таму крытык-соцыолёг, ставячы пытаньне аб крыніцах драмы, аб яе тэматыцы, ідэолёгіі і архітэктоніцы, заўсёды лічыцца ня толькі з тым, *што* малюе драма, але і з тым, *як* яна малюе, г. зн. паасобку, як яна компануе тыя ці іншыя (фабульныя ды інш.) крыніцы, як памастацку афармляе свае тэмы, як экспонуе характары, побыт ды іншыя зьявы жыцьця, як увязвае ідэолёгічную частку зьместу з усім рухам дзеі і з зарысоўкамі паасобных яе частак і г. д.

У адносінах да беларускай, параўнальна яшчэ маладой драматургіі, якая толькі што пачынае свой росквіт, гэтыя запатрабаваньні ўскладняюцца яшчэ і тым, што ў беларускай літаратуры, у тым ліку і ў беларускай драматургіі, апрача агульных задач, высунутых літаратурнай сучаснасьцю, ёсьць і свае нацыянальна-культурныя задачы. Будучы выяўленьнем сучаснага культурнага будаўніцтва Беларусі, пролетарскага па зьместу і нацыянальнага па форме, беларуская літаратура,—а значыць, і беларуская драматургія, паасобку,—павінны ня толькі ідэолёгічна выразна адбіць зьмест нашага сучаснага жыцьця ў яго будаўнічых імкненьнях і дасягненьнях, але і даць месца—на фоне гэтае сучаснасьці—фор-

мам нацыянальнай беларускай рэчаіснасьці, г. зн. унесьці ў мастацкую творчасьць рысы і мотывы нацыянальнага беларускага побыту, разьвінуць на агульным фоне сучаснасьці мясцовыя тэмы і задачы, выкарыстаць мастацкія сродкі беларускае мовы і г. д.

З гэтымі запатрабаваньнямі я ўласна і падыходжу да агляду беларускай драматургіі, якой мною ўжо прысьвечаны адзін нарыс („Узвышша", 1927, № 1). Перагляд драматургічных спроб беларускіх пісьменьнікаў, асабліва тых з іх, якія цяпер займаюць у беларускай літаратуры найбольш выдатнае месца, дасьць магчымасьць мне ў далейшым зрабіць некалькі вывадаў як аб тым, што ўжо дасягнута беларускай драматургіяй, таксама і аб тым, што ёй належыць яшчэ ў будучыне асіліць для свайго разьвіцьця і росквіту.

У даным нарысе я разглядаю драмы Ц. Гартнага. Ім напісана і зьявіліся ў друку чатыры драматычных творы: „Хвалі жыцьця", драма ў 3-х дзеях („Зажынкі", зб. Масква, 1918), „Соцыялістка", драма ў 5-ці дзеях (Сцэнічныя творы, кн. 2-ая, Менск, 1924), „На стыку", п'еса ў 5-ці дзеях, і „Дзьве сілы", драматычныя сцэны з жыцьця прамысловага цэнтру (Ц. Гартны, „Прысады", апавяданьні, Менск 1927; п'еса „На стыку" ўпяршыню друкавалася ў часопісі „Полымя" № 3 за 1926 г.). Гэтыя п'есы і будуць мною цяпер разглядацца.

Першая п'еса, г. зн. драма „Хвалі жыцьця", пабудавана на мотывах клясавае барацьбы ў беларускай вёсцы перадрэволюцыйнай эпохі, іменна незадоўга да 1905 году. Сужэт яе не складаны. Бедны селянін Мікалай Драяў, які гаспадарыць разам з двума сынамі Карыонам і Ясем, завінаваціўся вясковаму кулаку Кандрату Ягіну, які трымае ў руках усіх сялян тае вёскі. Ніякія просьбы Мікалая і яго жонкі Марты ня маюць уплыву на ліхвяра: ён больш ня хоча адкладаць тэрмін запазычніку і прыводзіць вясковую ўладу, каб апісаць маемасьць Мікалая. Сыны Мікалая, з якіх малодшы Ясь—„рэволюцыянэр-самародак", даўно ўжо на воку ўлады і ўеўся кулаку Кандрату ў косьці—ледзь-ледзь ўтрымліваюць сябе ў час апісаньня маемасьці і толькі ў гарачых прамовах выказваюць свой протэст проці драпежніцтва і прыгнечаньня бедняты. Але калі Кандрат з ураднікам, з старшынёю і дзесяцкімі прыходзяць забіраць апісаную маемасьць ды інвэнтар бедняка, браты Драевы ня могуць больш стрымліваць свайго абурэньня; старэйшы кідаецца на вуліцы на ўрадніка і старшыню з крыкамі: „Грабаўцы... парэжу", а малодшы ў дзьверах хаты б'е Кандрата цяжкаю даўбежкай са словамі: „Вось табе, крывапіўца"...

Сужэт п'есы, наколькі можна меркаваць паводле сьціслага яго ўкладаньня, у аснове соцыяльна значны, але з фабульнага свайго боку зьяўляецца некалькі шаблённым і блядым.

Як-жа аўтару ўдалося разьвінуць гэты сужэт у драматычнай форме? Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба перш за ўсё ўстанавіць генэзіс

п‘есы,—крыніцы, якія жывілі ў даным выпадку творчасьці аўтара, бо крыніцы ці матэрыялы, выкарыстаныя аўтарам, зьяўляюцца базай, на якой ён творыць і якая непасрэдна зьвязвае яго твор з жыцьцём, эпохай, асяродзішчам, клясавымі ды ідэолёгічнымі адносінамі.

Самы працэс увязкі мастацкага твору з яго крыніцамі звычайна адбываецца ў наступнай пасьлядоўнасьці: пачатковаю крыніцаю вельмі часта бывае крыніца фабульная, часам ускладненая аўтобіографічнымі рысамі; потым пачатковая фабульная крыніца, часамі шаблённая і схэматычная, насычаецца соцыяльна-бытавым і соцыяльна-псыхолёгічным зьместам, і, такім чынам, да крыніцы фабульнае далучаецца крыніца конкрэтных аўтарскіх назіраньняў ды экспэрымэнтацый; урэшце, фабула, дэталізаваная і насычаная конкрэтным жыцьцёвым зьместам, насычаецца далей з трэцяе крыніцы, ідэолёгічнае, якая надае ідэёвае аформленьне ўсяму матэрыялу аўтара. Гэтая схэма не зьяўляецца, зразумела, канечнай для тэорыі і псыхолёгіі творчасьці кожнага аўтара, але яна лёгка адшукваецца дасьледчыкам у вельмі многіх выдатных творах літаратуры заходня-эўропэйскай, расійскай, а таксама і беларускай.

Як выкарыстана і ці выкарыстана гэтая схэма ў данай п‘есе? Фабульная яе крыніца—адзін з тыповых выпадкаў дарэволюцыйнага вясковага расслаеньня і соцыяльнага прыгнечаньня; да фабульнае крыніцы далучаюцца назіраньні аўтара (непасрэдныя або атрыманыя праз кагонебудзь) над вясковым побытам і вясковаю псыхікай у перадрэволюцыйную эпоху; урэшце да ўсяго гэтага дадаецца азначанае ідэолёгічнае асьвятленьне, якое адпавядае настрою моманту, г. зн. пярэдадню 1905 г. Такім чынам, схэма крыніц ёсьць, і ў даных адносінах аўтар ішоў правільным шляхам. Другое пытаньне—якія гэтыя крыніцы паводле свае зьместоўнасьці, конкрэтнасьці, яскравасьці і паводле свайго псыхолёгічнага насычэньня ды ідэёвага ўздыму. Каб адказаць на гэтае пытаньне, крытыку ці гісторыку літаратуры трэба дапасаваць да данага моманту творчасьці, г. зн. да крыніц твору як соцыолёгічны, так і формальны аналіз. Даць крыніцам твору соцыолёгічны разрэз — значыць устанавіць, наколькі яны канкрэтны і зьместоўны, наколькі яны здольны зрабіць даны твор адбіткам эпохі і зьвязаць яго з азначаным момантам жыцьця, асяродзішча, клясы—яго псыхолёгіяй ды ідэолёгіяй. Даць формальны разрэз крыніцам, значыць высьветліць, наколькі ўдачна яны скомпанаваны ў адно цэлае, ці апрануты ў мастацкую форму, якая адказвае задуму аўтара, і ці ствараюць для чытача і гледача (калі п‘еса ставіцца на сцэне) закончанае псыхолёгічнае ды ідэёвае ўражаньне.

Дапасаваўшы да крыніц п‘есы „Хвалі жыцьця“ першы аналіз, г. зн. соцыолёгічны, трэба сказаць, што фабула для п‘есы ўзята ў вельмі агульнай і неяскравай форме, соцыяльна-бытавое і соцыяльна-псыхолёгічнае насычэньне яе мала конкрэтна і мала драматычна, і толькі ідэолёгічнае асьвятленьне драмы больш моцнае ды яскравае. Інакш кажучы,

драматургу, які выбраў для свае п'есы фабульную крыніцу і які ўзброены пэўным ідэолёгічным настроем, трэба было-б пашукаць для абранай фабулы больш жыцьцёвага, конкрэтнага, сваясаблівага зьместу, узяўшы яго з сваіх непасрэдных назіраньняў ці са зьвестак іншых асоб і дакумантаў. Аўтар—так мне здаецца — ня выканаў гэтага. І адсюль атрымалася, што ўвязка драмы з данай эпохай і асяродзішчам невыстарчальна моцная і мала органічная: хцівы вясковы кулак, бедны селянін, што папаў да яго ў лапы, вураднік і старшыня, якія апісваюць маемасьць і г. д. і г. д.—усё гэта не зьяўляецца характэрна спэцыяльна для пярэдадню 1905 г. і якраз для беларускае вёскі гэтага часу, бо ўсе гэтыя зьявы, узятыя ў агульных формулёўках, уласьцівы таксама і іншым эпохам і розным тэрыторыям ды групам насяленьня, але разам з тым, гэтыя зьявы ня былі-б характэрнымі ды жыцьцёвымі, каб даны сужэт умясьціў у сябе больш конкрэтны і колёрытны зьмест.

Формальны разрэз крыніц данае п'есы дае больш спрыяючыя вывады. Сапраўды, аўтар здолеў ужо і ў гэтым раньнім сваім драматычным творы скомпанаваць у адно цэлае ўсе тры крыніцы свайго драматычнага задуму, і п'еса чытаецца даволі лёгка і стварае пэўны настрой. Іншая справа—наколькі гэта п'еса ўдачная ў сцэнічных адносінах; у кожным разе, расьцяглы першы акт і перавага наогул залішне даўгіх гутарак над дзеяньнем і рухам робіць яе для гледача менш выгоднай і цікавай, чым для чытача, які цярпліва ўспрыймае залішне разрослую, коштам дынамікі, статычную частку твору.

Другі момант у стварэньні мастацкага твору, паасобна драмы,—гэта яго тэматыка, што складаецца на падставе крыніц, якімі карыстаецца аўтар. Тэматыка драмы выяўленая ў малюнках, сцэнах, тыпах, вобразах ды іншых зарысоўках, падлягае таксама і соцыолёгічнаму і формальнаму аналізу. Соцыолёгічны аналіз тэматыкі датычыцца пераважна зьместу твору. Крытык-соцыолёг шукае ў тэматыцы твору адбітку данага соцыяльна-культурнага моманту жыцьця, — паасобку тых ці іншых клясавых адносін, узятых з бытавога, псыхолёгічнага ды ідэолёгічнага бакоў. Формальны аналіз мае пры гэтым на ўвазе азначыць самы характар мастацкае тэхнікі, якая дапасавана аўтарам да яго тэм—да малюнкаў побыту, да зарысовак клясавай псыхолёгіі, для характарыстык паасобных тыповых прадстаўнікоў клясавага жыцьця і г. д. Значыць, тэматыка павінна мець соцыяльна-значны і жыцьцёва-дасьледаваны і распрацаваны зьмест і, апроч таго, павінна быць мастацка аформлена, адпаведна зьместу, у композыцыйных і стылевых адносінах.

Тэматыка драмы „Хвалі жыцьця“, узятая ў соцыолёгічным разрэзе, на першы погляд задавальняе звычайным запатрабаваньням: аўтар імкнецца адбіць соцыяльнае жыцьцё беларускае вёскі пачатку XX сталецьця ў розных адносінах—бытавых, грамадзка-псыхолёгічных ды ідэолёгічных. Сапраўды, у драме даюцца малюнкі быту вясковай бедннаты;

ёсьць спробы драматызаваць клясавую барацьбу ў вёсцы данае эпохі і вясковае клясавае расслаеньне,—пролетарызацыю вёскі, з аднаго боку (сям'я Мікалая Драева), і разьвіцьцё вясковага капіталізму, з другога (Кандрат Ягін); ёсьць і нарастаны рэволюцыйны протэст проці політычнага ды экономічнага прыгнечаньня (Ясь Драеў). Але ўжо зазначаны пачатковы недахоп у выкарыстаньні крыніц, г. зн. недахоп конкрэтных назіраньняў ці, лепш, невыстарчальная ўвага аўтара да конкрэтных назіраньняў над жыцьцём данага асяродзішча, якія, магчыма, і рабіліся ім, але ня былі ім як сьлед улічаны,—гэты недахоп адбіўся і на распрацоўцы тэматыкі: бытавыя малюнкі ў драме вышлі нейкім, плыўкімі і нават некалькі шаблённымі, асобы драмы—ня досыць жывыя паасобныя сцэны і сытуацыі некія трафарэтныя і г. д. Адным словам, не адчуваецца, што драма ўзята з жыцьця, якое непасрэдна назіралася аўтарам; не заўважаецца ў аснове драматычнага пабудаваньня той індывідуальны жыцьцёвы выпадак, той рэальны жыцьцёвы стрыжань, на якім маглі вырасьці і ўзмацніцца тыповыя асобы драмы. Гэтая агульная бледнасьць тэматыкі ў драме павялічаецца яшчэ і тым, што ў формальных адносінах тэматыка таксама не заўсёды апрацавана так, як гэта патрабуецца драматургічнай тэхнікай. Я хачу сказаць, што ў драме слаба праведзена т. зв. экспозыцыя быту і характару; бытавы бок свае драмы аўтар выкрывае, так сказаць, мэханічна, галоўным чынам у сваіх рэмарках, даных у пачатку кожнае дзеі, між тым, як быт павінен экспонавацца ў прамовах і ўчынках дзеючых асоб,—ён павінен быць нібы ўстаўлены ў самы ход п'есы; таксама павінны экспонавацца і характары дзеючых асоб; гэта, праўда, часткова робіцца ў драме, але экспозыцыя характараў у кожным выпадку прапрацавана драматургам слабавата.

Трэці момант у стварэньні мастацкага твору—момант ідэолёгічнага асьвятленьня яго ці ідэолёгічнага афармленьня. Социолёгічны аналіз гэтага моманту павінен выкрыць социяльную прыроду аўтарскай ідэолёгіі, укладзенай ім у свой твор; клясавая позыцыя аўтара ў гэтым выпадку дапамагае ўсьвядоміць і яго ідэолёгічныя прадпасылкі, якія ўваходзяць у склад зьместу яго драмы, роману, лірыкі. Формальны аналіз у даным выпадку ўстанаўляе тыя прыёмы, з дапамогаю якіх аўтар выяўляе свой ідэолёгічны твар, г. зн. высьвятляе пытаньне, ці робіць аўтар свае ідэолёгічныя прызнаньні шляхам непасрэдных зваротаў да чытача ў выглядзе, напрыклад, так зв. лірычных адступаньняў, ці робіць ён гэта праз сваіх герояў, ці нават проста сродкамі свайго стылю, пераважна стылю эмоцыянальнага; у драме звычайна мае месца другі прыём, г. зн. перадача аўтарскае ідэолёгіі праз сваіх герояў.

Аналізуючы гэты трэці момант у драме „Хвалі жыцьця“, трэба прызнаць, што ён зьдзейсьнены аўтарам больш удачна, чым тэматыка. Рэволюцыйны настрой у драме, у сэнсе нарастанага і гатовага перайсьці

ў дзею протэсту проці соцыяльнае бяспраўнасьці і прыгнечаньня, паданы даволі выразна і выяўлены ня толькі ў прамовах Яся і Карыона Драевых, але і ў прамовах старэйшага пакаленьня сям'і, г. зн. Міколы і Марты; гэта значна ажыўляе драму і дае ёй вядомае ідэёвае і псыхолёгічнае адзінства. Аднак з формальнага боку ёсьць і тут некаторы недахоп: прамовы Яся, прасякнутыя рэволюцыйным пафосам, месцамі некалькі кніжныя і так сказаць публіцыстычныя; гэткі, напрыклад, яго монолёг у канцы другога акту п'есы, які нагадвае часткова тонам і лірызмам прамовы некаторых романтычных герояў (Карл Моор у Шылера, Эрнані ў В. Гюго ды інш.).

Чацьверты момант у аналізе кожнага твору—гэта аналіз яго мастацкае формы. Гэты аналіз асабліва срога дапасоўваецца, як было ўжо вышэй азначана, да драмы, да якой ставяць патрабаваньні ня толькі чытач, але і глядач. У гэтых адносінах даная драма Ц. Гартнага, зразумела, не пазбаўлена недахопаў. Апрача слаба праведзенае экспозыцыі, трэба адзначыць у драме, асабліва ў першых двух актах, недахоп дзеі, якая запаўняецца даволі даўгімі дыялёгамі; зьвяртаюць на сябе ўвагу монолёгі (Яся—у канцы другое дзеі, Марты—у пачатку трэцяе),—прыём некалькі пастарэлы і мала жыцьцёвы. Апрача таго, канец п'есы ня зусім ясны. Ясь кідаецца на Кандрата, б'е яго даўбешкай і крычыць: „Вось табе, крывапіўца"... А Карыон за сцэнай протэстуе толькі крыкам: „Грабаўцы! Душагубы!.." Гэткая ці падобная да яе сцэна, зразумела, павінна была ўвайсьці ў разьвязку драмы, але гэта ўсё-ж такі не разьвязка, якая задавальняе чытача і гледача: лёс сям'і Драевых і далейшая роля прыгнятацеляў, асабліва Кандрата (ні то забітага, ні то толькі добра правучанага), астаецца нявысьветленай, і перад чытачом паўстае пытаньне: што-ж вышла з гэтае заключнае сутычкі абяздоленых з хцівай вясковай уладай і вясковым капіталам?

Але ў мастацкім афармленьні драмы ёсьць адзін бясспрэчна моцны бок, гэта мова аўтара, багатая сваім лексычным складам, рознастайная ў фразэолёгічных адносінах і цесна ўвязаная з жывою моваю. Трэба, апроч таго, адзначыць у мове п'есы, так сказаць, яе соцыяльную вытрыманасьць: мова дзеючых асоб ня проста рэальная і колёрытная, але і насычана соцыяльным жыцьцём, бо багата мае лексыкі быту, лексыкі вясковае псыхікі, лексыкі прыгнечаньня і лексыкі протэсту проці гвалту. Можна сказаць, што мова п'есы ў значнай ступені пакрывае яе недахопы і надае ёй характар мастацкага цэлага.

Другая п'еса Ц. Гартнага, драма „Соцыялістка", зьявілася ў друку праз шэсьць гадоў пасьля першае, у 1924 г. Як задумам, так і мастацкім афармленьнем гэтая п'еса—прыкметны рух уперад па шляху разьвіцьця драматургічнае манеры аўтара.

Дачка заможнага селяніна Сымона Рыхлага, Палута, дзяўчына прыгожая, сымпатычная характарам і да таго-ж: „чулая к новым навеям

жыцьця“, любіць беднага вясковага хлапца, свайго аднавяскоўца Пятруся Ліса, чалавека ўдумнага і чулага, які знаём з горадам і фабрычнаю працаю і ўжо больш ці менш сьвядома адносіцца да вясковае рэчаіснасьці. У Пятруся ёсьць супраціўнік Ян Сьліва, сын багатых бацькоў, які зьбіраецца жаніцца на Палуце, хоць-бы і проці яе жаданьня. Бацькі Палуты і бацькі Яна, блізкія між сабою сваім побытам і псыхікаю вясковых кулакоў, згодны на гэты шлюб. Перашкодаю служыць каханьне Пятруся і Палуты. Жадаючы пазбавіцца свайго супраціўніка, Ян Сьліва цкуе вясковую ўладу на Пятруся, як на чалавека політычна ненадзейнага. Пятруся прыходзяць арыштаваць, ён хаваецца і прымушаны ўцякаць з роднае вёскі. У часе яго адсутнасьці Палута проці свае волі прымушана выйсьці замуж за нямілага Яна. У выніку—два разьбітых жыцьці і няшчаснае сямейнае жыцьцё Палуты з дакорамі, сваркамі, біцьцём. У фінальных сцэнах даецца малюнак вялікае драматычнае напружанасьці: Палута бяжыць ад п'янага і разьюшанага мужа ў дом сваіх бацькоў, якія, позна ўсьвядоміўшы сваю памылку, бяруць яе пад сваю абарону. П'яны Ян прыбягае з запатрабаваньнем выдаць яму жонку, пачынае бойку з Сымонам Рыхлым, які бароніць сваю дачку, валіць яго на зямлю; тымчасам нечакана зьявіўся Пятрусь і са сваім тварышом бяжыць з вуліцы ў хату. Яны кідаюцца на Яна з крыкам: „А, крывасмок паганы! Мы-ж табе пакажам“.

Фабула гэтае п'есы не стаіць асобна ў беларускай літаратуры перадрэволюцыйнага часу. Яна, як відаць, служыла канвой і для іншых літаратурных твораў. Так, напрыклад, у п'есе Янкі Купалы „Паўлінка“, надрукаванай у 1912 годзе, мы знаходзім прыблізна тую-ж фабулу. Там і тут маладая дзяўчына, прывабная сваім фізычным і моральным харством, любіць маладога чалавека, перадавога сваімі адносінамі да вакольнага жыцьця і нават рэволюцыйна накіраванага; там і тут у закаханай пары ёсьць перашкода ў выглядзе супраціўніка ў каханьні з другога клясавага асяродзішча і з іншай ідэолёгічнай устаноўкай; там і тут чалавека, які рэволюцыйна разважае і пасвойму протэстуе проці вакольнай соцыяльнай неўпарадкаванасьці, цкуюць сродкамі цёмнае рэакцыі; там і тут закаханыя разлучаны і жыцьцё іх разьбіта. Такім чынам фабула п'есы нібы прадыктавана абставінамі жыцьця перадрэволюцыйнае Беларусі; ужо ў гэтым адчуваецца больш удачны выбар для данае п'есы фабульнае крыніцы, якая больш конкрэтна зьвязана з пэўным соцыяльна-культурным момантам. На гэтай фабульнай канве аўтар разьмясьціў і больш конкрэтныя свае назіраньні над бытам ды псыхолёгіяй абранае ім эпохі ў іх клясавай дыфэрэнцыроўцы: ён выкарыстаў сямейныя і бытавыя абставіны заможных сялян, заглянуў у хату беднае ўдавы Аўгені Ліс, падслухаў думы і настрой найбольш чулае часткі вясковае моладзі, а таксама і маладога пакаленьня вясковых багатыроў, прыкмеціў найбольш характэрныя рысы вясковае клясавае барацьбы, устанавіў месца

ў гэтай барацьбе вясковае адміністрацыі і г. д. Таму другая крыніца, якую мы назвалі вышэй крыніцаю аўтарскіх назіраньняў і экспэрымэнтацый, у гэтай другой п'есе Ц. Гартнага атрымала больш конкрэтны зьмест, сконцэнтравала ў сабе больш дэталяй, і значыць, дала п'есе больш багацьця і жыцьця; ці былі праробленыя аўтарам у даным выпадку якія-небудзь экспэрымэнтацыі, г. зн. ці прарабляў ён свае назіраньні над дарэволюцыйнаю вёскаю паводле плянамернага і вызначанага задуму, ці карыстаўся выпадковымі назіраньнямі,—сказаць цяжка, але ў кожным выпадку ён стаіць тут—так мне здаецца—куды бліжэй да матэрыялаў рэчаіснага жыцьця, чым у першай п'есе. Што датычыцца трэцяе крыніцы, ідэолёгічнае, дык і яна ў гэтай другой п'есе зьяўляецца больш конкрэтнаю, паколькі аўтар у асьвятленьні п'есы адыходзіць ня проста з шырокага протэсту проці соцыяльнага прыгнечаньня вясковае беднаты, як у першай п'есе, але і з больш вузка-абрысаванае і, значыць, больш конкрэтнае сутычкі настрояў дзьвёх груп расслоенае вёскі. Такім чынам, соцыолёгічны разрэз крыніц п'есы „Соцыялістка" дазваляе ўстанавіць больш цесную (чым у першай п'есе Ц. Гартнага—„Хвалі жыцьця") увязку драматургічнага задуму аўтара з даным соцыяльна-культурным момантам і паасобку з бытам перадрэволюцыйнае Беларусі.

З формальнага боку ўсе тры крыніцы драмы скомпанаваны таксама больш удачна, чым у першай п'есе: іменна тут фабула ня так аголена, як там, і даволі цесна зьліваецца з бытавым і псыхолёгічным зьместам п'есы; апрача таго, ідэолёгічны момант тут адчуваецца на ўсім працягу дзеі, тымчасам у першай п'есе ён выразна відаць толькі месцамі, галоўным чынам, у прамовах сыноў старога Міколы Драева. Урэшце, увесь бытавы і псыхолёгічны матэрыял, выкарыстаны ў п'есе, ня ўшыты ў паасобныя месцы драмы жывымі ніткамі, як гэта часткова назіраецца ў першай п'есе, але больш ці менш органічна зьліты ў адно цэлае з драматычнаю дзеяю на працягу ўсіх пяці актаў.

Больш удачны і паглыбены выбар крыніц для п'есы зьявіўся прычынаю і больш конкрэтнае распрацоўкі яе тэматыкі. Аўтар тут, як і ў першай п'есе, дае перад кожным актам некалькі сваіх рэмарак па пытаньні аб сцэнічных абставінах паасобных момантаў п'есы,—галоўным чынам у інтарэсах лепшае інсцэніроўкі бытавога яе боку. Але гэтыя рэмаркі не зьяўляюцца тут галоўным прыёмам экспозыцыі быту: быт экспонуецца ва ўсіх актах у чыннасьці і ў прамовах дзеячых асоб і, трэба сказаць, экспонуецца выразна і дэтальна. Сапраўды, на працягу дзеі п'есы аўтар уводзіць чытача і ў абставіны жыцьця Сымона Рыхлага, і ў заможны дом бацькоў Яна Сьлівы, і ў бедную хату Лісоў. Перад чытачом разьвінаецца малюнак сядзібы Рыхлых з садам каля дому і з гаспадарчымі будынкамі, унутраны выгляд сялянскага дому як заможнага (Рыхлага і Сьлівы), так і беднага (Лісоў), штодзенныя абставіны дому Рыхлых і сьвяточны выгляд іх сядзібы ў дзень шлюбу іх дачкі. Ва ўсіх

гэтых выпадках аўтар умее ня толькі накідаць у агульных контурах патрэбную, на яго думку, дэкарацыю данага акту (гэта ён робіць у сваіх рэмарках), але і ўдакладніць і ўзмацніць уражаньне таго ці іншага бытавога малюнку ў часе самае дзеі кожнае паасобнае часткі драмы, увязваючы і прамовы дзеячых асоб, і іх рух па сцэне, і іх мігі з тымі бытавымі абставінамі, сярод якіх яны ў даным выпадку знаходзяцца. Першы акт, які адбываецца паводле рэмаркі аўтара ў садзе, сапраўды ў садзе і адбываецца: гэта адчуваецца, нават незалежна ад дэкарацыі, з самых паводзін Палуты і другіх удзельнікаў гутаркі—з іх вольных рухаў па выабражальнай сцэне, з частай зьмены імі месца, з аддаленых галасоў і гукаў і г. д. Таксама ў чацьвертым акце шлюбная вясёласьць жвава і конкрэтна перадана ня толькі сцэнічнымі абставінамі вясковае гутаркі на дварэ, але і тым ажыўленьнем сярод гасьцей, якое выяўляецца ў прамовах, у постаці, мігах, у дынаміцы людзей з узбуджаным, паднятым настроем. Экспозыцыя быту некалькі слабей праведзена ў актах другім, трэцім і пятым, але і там аўтар у паасобных выпадках няпрыкметна, спакваля, здолеў увесьці ў самы ход дзеі некаторыя бытавыя рысы, якія адпавядаюць тэй ці іншай сцэне.

Побач з тэматыкаю быту ў п'есе атрымала больш конкрэтную апрацоўку і тэматыка характараў. Ад сымпатычнага вобразу Палуты вее жыцьцёваю цеплатою; чытач з цікавасьцю прыглядаецца да яе, сочыць за яе лёсам, шкадуе аб яе разьбітым жыцьці. Больш бледна намаляваны Пятрусь: ён параўнальна мала выяўляе сябе, як перадавога чалавека свайго асяродзішча, і неяк млява выказвае свае пачуцьці і настроі, але ў ім чытач ўсё-ж ткі ўгадвае, асабліва ў трэцім акце, дзелавога чалавека, які здолен на барацьбу і геройства для ідэі. Больш выпукла замаляваны прадстаўнікі заможнае групы—бацькі Палуты, бацькі Яна Сьлівы і сам Ян; у іх прамовах і ўчынках адчуваецца моцная сувязь са сваім бытам і сваёю клясаваю позыцыяй вясковых багатыроў, якія моцна чапляюцца за свае інтарэсы; у прамовах гэтых тыповых кулакоў атрымлівае сьціслую і законченую характарыстыку і „дэмократ“ Пятрусь Ліс—іх клясавы вораг. Трэба адзначыць, што ў гэтую п'есу аўтар увёў значна большую колькасьць дзеючых асоб, чым у першую сваю драму, і гэта вельмі ажывіла яго драматычны задум і зрабіла тэматыку шматвобразнай і цікавай. Асабліва ажыўляе п'есу тое, што абодва супраціўнікі ў каханьні, Пятрусь і Ян, выступаюць у п'есе не паасобна, а ў кругу сваіх сяброў і аднадумцаў паводле клясавых інтарэсаў; дзякуючы гэтаму атрымліваецца больш шырокі малюнак бытавога жыцьця вёскі і побач з тым больш распрацаваны малюнак клясавых настрояў. Наогул, тэматыка п'есы стварае даволі моцную ілюзію жыцьця і прымушае чытача з цікавасьцю перажываць ня толькі інтрыгу драмы, але і ўсе бытавыя ды псыхолёгічныя яе абставіны.

Ідэолёгічны бок п'есы, як і ў першым драматычным творы Ц. Гартнага, досыць выразны: асабовы роман Петруся і Палуты разьвінаецца на фоне

передрэволюцыйных настрояў вёскі,—галоўным чынам, на фоне клясавага расслаеньня вёскі і клясавай барацьбы, якая адсюль вынікае. Але станоўчыя героі п'есы слаба выяўляюць яе ідэолёгічную частку: Палута—„соцыялістка", бо яна любіць „соцыялістага" Пятруся; але ў чым выяўляецца соцыялізм Пятруся Ліса і як ён яго рэалізуе ў вакольнай рэчаіснасьці,—ён аб гэтым сам амаль не гаворыць. Адмоўным шляхам ідэолёгію Пятруся выкрываюць яго клясавыя ворагі. Пятрусь Ліс—гэта чалавек, які „навучыўся лаяць друігх людзей, не паважаць багатых і знатных, разводзіць дэмократства, бунты проці начальства" (дзея І, зьява 4-я: Сымон Рыхлы аб Пятрусю Лісу). Яго сяброў, якія падзяляюць яго погляды і мэты, Матруна Сьліва азначае наступнымі словамі: „Людзі гультаі—непаслушнікі; распусныя ўсе, не баяцца бога, не паважаюць багатых і знатных. Вунь набралася дэмократаў нейкіх, соцыялістых,—проста за кару божую. І сеюць нелады, вядуць грабествы—ліха ведае што"... У кожным выпадку ідэолёгічныя імкненьні аўтара, які малюе передрэволюцыйную рэчаіснасьць з вялікай верай у блізкую перамогу новага жыцьця, зусім выразныя.

Значна адрозьніваецца гэтая другая п'еса Ц. Гартнага ад першай і з формальнага боку. Яе драматургічнае пабудаваньне трэба прызнаць больш удачным перш за ўсё ў сэнсе большай вытрыманасьці паасобных момантаў драматычнае дзеі, г. зн. яе завязкі, вышэйшае напружанасьці і разьвязкі. Потым трэба адзначыць у межах гэтых асноўных момантаў наяўнасьць заўсёднага і прытым паступова нарастанага драматызму ў тых жыцьцёвых абставінах, бытавых ды псыхолёгічных, якія аўтар у ідэолёгічнай форме разьвінае перад чытачом: аўтар амаль увесь час умее падтрымліваць у чытача цікавасьць да інтрыгі, якая разьвінаецца, прымушаючы сачыць за яе водценямі і з некатораю напружанасьцю чакаць канца драматычнае барацьбы. Гэта дасягаецца і даволі складанымі бытавымі абставінамі п'есы, і рознастайнасьцю асоб, якія ў ёй прымаюць удзел, і вядомай дынамічнасьцю ўсяго ходу дзеі. Побач з тым і ў гэтай п'есе аўтар не перамог тых дыялёгічных даўжынь, якія мае яго першая п'еса і якія часам вельмі затрымліваюць поступ дзеі і нават проста зьяўляюцца залішнімі, бо амаль нічога новага не экспонуюць—ні характараў, ні быту, ні інтрыгі п'есы, ні яе драматызму; гэткімі зьяўляюцца, напрыклад, дыялёгі пачатку і канца першага акту і амаль усяго другога акту. Таксама нельга не зазначыць, як на недахоп драматургічнае архітэктонікі, на традыцыйнае карыстаньне монолёгамі (параўн. монолёгі Палуты і Яна ў першым і другім актах), якія значна аслабляюць тую ілюзію рэчаіснасьці, якую імкнецца стварыць кожная п'еса, асабліва-ж бытавая. Як у першай п'есе, так і тут прыходзіцца таксама зазначыць і сваясаблівасьць разьвязкі драматычнае дзеі: аўтар нібы не даказвае свае драмы, абрываючы яе на тым момацне, які яшчэ больш ускладняе адносіны дзеючых асоб, але нічога не растлумачвае ў

іх далейшым лёсе. Ня гледзячы, аднак, на гэтыя недахопы, мастацкая форма п'есы наогул дапасавана да яе соцыяльнага зьместу. Гэта асабліва датычыцца мовы п'есы, лексычна вельмі рознастайнае і жывое, якая нібы непасрэдна выхаплена з быту і, значыць, адказвае яе тэматыцы.

Такім чынам, паводле тэматыкі і мовы, п'еса бясспрэчна павінна выклікаць цікавасьць і ў сцэнічным выкананьні, пры ўмове, што яна будзе пазбаўлена некаторых даўжынь (у дыялёгах і монолёгах), якія шкодзяць сцэнічнасьці.

Трэцяя п'еса Ц. Гартнага, „На стыку", якая зьявілася ў друку ў 1926 годзе, зьяўляецца далейшым этапам у разьвіцьці яго драматургічнае манеры.

У аснову яе легла фабула, аналёгічная фабульнай канве першых дзьвёх п'ес: як там, так і тут барацьба старога быту з новым, сутычка соцыяльных груп рознае ідэолёгічнае ўстаноўкі, супастаўленьне двух сьветапоглядаў—старога, які сходзіць з гістарычнае сцэны, і новага—мужнага, які будуе новае жыцьцё; але ў п'есе „На стыку" фабула ўзята яшчэ больш конкрэтна, чым у п'есе „Соцыялістка". Павал Чэмер, старшыня райвыканкому, які жыве ў месцы свае службы ў мястэчку Авосьсе, не шкадуючы сіл, цалкам аддае сябе савецкаму будаўніцтву—зямляўпарадкаваньню, электрыфікацыі, клопатам аб школе, папраўцы мосту, пастаноўцы машыны ў млыне і г. д. Яго горача і энэргічна падтрымлівае Адарка Верамеіха, якая загадвае Райжанаддзелам; яму спачуваюць і некаторыя больш сьвядомыя, жыхары мястэчка. Але значна больш у яго ворагаў, якія стаяць на другім бытавым ды ідэолёгічным фронце, прыхільнікаў старога складу жыцьця, што ня зжылі яшчэ сваёй мяшчанскай псыхікі і мяшчанскіх ідэалаў. Гэта—некаторыя саўслужачыя, як страхавы агент Кандрат Торка, настаўнік сямігодкі Віцюк Агародзіна, каморнік; гэта—вядомая частка маласьвядомых і акасьцянелых жыхароў мястэчка; урэшце, яго жонка Юстына Чэмер, якая, не разумеючы свайго мужа, рознымі спосабамі імкнецца ўмяшацца ў яго пачынаньні і зганіць іх, на кожным кроку компромэтуе яго, як грамадзкага дзеяча і як свайго мужа, і наогул стварае для яго цяжкія абставіны жыцьця. Заўсёдная сутычка Паўла Чэмера з жонкаю, з яе прыяцелямі, што складаюць яе заўсёдную дружыну, і з цёмнаю часткаю насяленьня мястэчка стварае драматызм п'есы, які паступова нарастае, загастраецца і прыводзіць да катастрофы—замаху Юстыны на жыцьцё Паўла. Але асабовае няшчасьце Паўла Чэмера адыходзіць на задні плян перад радасьцю яго дасягненьняў у галіне грамадзкай працы: з прастрэленаю рукою ён спатыкае ўрачысты момант, калі па вуліцах мястэчка быў пушчан электрычнае сьвятло. Ён адчувае, як расьце да яго давер'е і спачуваньне, ён забывае аб сямейным горы і з натхненьнем гаворыць аб сьветлым новым радасным жыцьці, якое будуе савецкая ўлада.

З кароткага зьместу п'есы ўжо ясна, наколькі цесна яна ўвязана самым сваім генэзісам з нашай сучаснасьцю. Не разглядаючы таго, ці

зыходзіў, у даным выпадку, аўтар у сваім замысьле з таго ці іншага паасобнага факту жывой рэчаіснасьці, ці браў гэтую рэчаіснасьць у штодзенных тыповых праяўленьнях,—можна пэўна сказаць, што як знадворная фабульная канва п'есы, так і соцыяльна-псыхолёгічнае насычэньне гэтае канвы непасрэдна ўзяты з вакольнага жыцьця і адразу ўводзяць чытача ў будзёны, дзелавы ды інтымны бок сучаснага будаўніцтва жыцьця. Аўтар тут вельмі блізка падышоў да проблемы аб соцыолёгічнай увязцы драматычнае творчасьці з сучаснасьцю, узяўшы матэрыялам для свае п'есы тыя зьявы, якія часамі здараюцца ў нашым быцце, у кожным выпадку, могуць здарацца ў тэй ці іншай адмене. Ці зьяўляецца гэты матэрыял, апрацаваны ў п'есе, вынікам непасрэднага назіраньня аўтара над жыцьцём мястэчка, якое ён намаляваў, ці ён падабраны ім праз іншых асоб, ці нават конструяваны паводле домыслу і аналёгіі з якімі-небудзь блізкімі да фабулы п'есы выпадкамі,—усё роўна крыніцы п'есы вызначаюцца вядомай праўдападобнасьцю і злабадзеннасьцю.

Адсюль і тыя тэмы, якія аўтар распрацоўвае ў п'есе, адразу захапляюць увагу чытача. Сапраўды, хіба ня цікава ведаць, як жыве цяпер якое-небудзь мястэчка, што знаходзіцца далёка ад цэнтру, як яно ўспрымае новы быт, як зьдзяйсьняюцца ў яго мясцовых умовах задачы савецкага будаўніцтва жыцьця? І вось аўтар задавальняе зацікаўленасьць чытача. Ён адразу ўводзіць нас ў штодзенныя абставіны местачковага жыцьця, у інтымнае жыцьцё старшыні райвыканкому Паўла Чэмера, у яго адносіны да насяленьня і да таварышоў па службе, ва ўмовы яго працы, у яго настроі і перажываньні. Мы бачым тут і хатняе і дзелавое жыцьцё Чэмера, прысутнічаем і на пагулянцы, наладжанай яго жонкай у часе адсутнасьці мужа, і ў габінэце старшыні райвыканкому, які клапатліва і нэрвова абдумвае чарговыя справы, і на пікніку, дзе весяліцца Юстына са сваёй кампаніяй, і на местачковай вуліцы, дзе з нецярплівасьцю чакаюць, што будзе пушчана электрычнасьць. Трэба наогул сказаць, што бытавая тэматыка п'есы рознастайная, колёрытная і дэтальная, а таму зараз-жа, з першага акту, можа зацікавіць чытача. Таксама даволі рознастайная і зьмястоўная тэматыка грамадзка-псыхолёгічная, г. зн., галоўным чынам, тэматыка характараў. У п'есе даецца даволі стракатая галерэя портрэтаў: вар'ятка—Юстына, мяшчанка бытам і псыхікаю, якая ўся ўвайшла ў мары аб дробна-буржуазным дабрабыце, які, аднак, у яе ўяўленьні ня ідзе далей флірту з закускаю і выпіўкаю і спробы навучыцца фокстроту; Кандрат Торк, хітры чалавек, які служыць за страх, а не за сумленьне; Віцюк Агародзін—настаўнік з вялікаросаў, які ненавідзіць беларусізацыю; Андрэй Квактач, кулак-фальварковец, які моцна чапляецца за сваё багацьце ды імкнецца як-небудзь абыйсьці закон; гаспадарная старушка Прузына Чэмер, якая эпічна-спакойна зносіць і недарэчныя капрызы Юстыны і дзелавую нэрвовасьць свайго сына Паўла;

суворая службачка Адарка Верамеіха, якая патаварыску падтрымлівае Паўла Чэмера ў яго цяжкой працы, ды інш.,—усе намаляваны з вядомай дакладнасьцю, што дазваляе чытачу доўга помніць кожную асобу, як нешта індывідуальнае, своеасаблівае. Наколькі бытавыя абставіны п'есы і яе жывыя прадстаўнікі адпавядаюць рэчаіснасьці і наколькі яны, г. зн. зьявы быту і людзі, якія жывуць сярод гэтых бытавых абставін, тыповы—сказаць цяжка без адпаведных даведак, якія-б дазволілі ўгрунтаваць гэтую тыпізацыю. Тут прыходзіцца верыць аўтару на слова, які, трэба думаць, бачыў гэткі быт і гэткіх людзей, якія зьяўляюцца прототыпамі яго герояў, і, можа быць, нават больш ці менш падрабязна іх вывучаў.

Ідэолёгічнае афармленьне п'есы вельмі выразнае; барацьба соцыялістычнага будаўніцтва з політычнаю несьвядомасьцю, з закаранеласьцю старога мяшчанскага ўкладу ў яго грамадзкіх, бытавых і сямейных выяўленьнях,—барацьба і побач з тым і ўпэўненасьць у канчатковай перамозе новае соцыяльнасьці выразна выяўлены ў Паўла Чэмера і асоб, якія яму спачуваюць; Павал Чэмер намаляваны аўтарам, як пэўны савецкі працаўнік, як чалавек працы, часамі круты, рэзкі, гатовы на жорсткія расправы з тымі, у кім ён бачыць ворагаў новага будаўніцтва, але пры гэтым заўсёды адкрыты, шчыры ды энэргічны. „Кожнае дзела“, гаворыць ён, „ляпей многіх і многіх слоў“... „Мы бярэм фортэцыю і кожнаю справаю замацоўваем сваю перамогу... гэта найлепшая агітацыя“... Асноўны лёзунг, у імя якога ён бярэ фортэцыі старога быту, сьцісла і моцна выказаны ім у апошніх словах пятага акту: „Савецкая ўлада можа, мусіць, умее... і зробіць новае, сьветлае, радаснае жыцьцё“...

У формальна-мастацкі бок п'есы аўтар увёў прыкметныя палепшаньні параўнальна ня толькі з першаю, але нават і другою сваёю драмаю. Ён, праўда, яшчэ не адмовіўся ад монолёгаў, але затое перамог дыялёгічныя даўжыні ў прамовах сваіх герояў і амаль усюды выкарыстаў дыялёг для адпаведнай экспозыцыі быту, характараў ды ідэолёгіі сваіх пэрсонажаў; апроч таго, значна ўзмоцнена дынаміка п'есы, дзякуючы рознастайнасьці малюнкаў, сцэн, заўсёднай зьмене ў становішчах і ў групоўках дзеючых асоб, а таксама дзякуючы ўвядзенью ў п'есу элемэнтаў вулічнага і абывательскага жыцьця. Недахопам п'есы, з майго пункту погляду, астаецца, як і ў першых дзьвёх драмах, некаторая недагаворанасьць сюжэту. Павал Чэмер перамог у даным выпадку коснасьць жыцьця, як чалавек справы, як савецкі працаўнік,—гэта ясна; але, як вырашылася яго, асабовая драма, што здарылася з Юстынаю і з некаторымі іншымі асобамі п'есы,—чытачу невядома, хоць ён хоча гэта ведаць і мае права чакаць адказу на тыя пытаньні, якія так ці іначай ставяцца п'есай. Ня зусім ясна і сама па сабе Юстына. Сапраўды, хто яна: местачковая мяшчанка, якая знаходзіць заспакаеньне ў пустой пагулянцы з п'янымі сьпевамі гасьцей пад гукі разьбітай гітары, ці гэта перажытак буржуазнай пані, якая праз замуства з партыйцам папала ў

глухі провінцыяльны вугал і сумуе па Маскве і маскоўскіх забаўках. Ня ясны і яе адносіны да мужа, з якім яна быццам і ня хоча жыць, але ня хоча і парываць. Самы замах яе на мужа псыхолёгічна не матываваны і не падрыхтаваны ходам п'есы, бо для помсты з палітычных матываў Юстына вельмі нікчэмна і ў кожным выпадку палітычна-бясьцьветна, а для помсты з асабовага пачуцьця ў яе няма падстаў, бо любві ўжо няма ні на адным, ні на другім баку; вось таму яе стрэл у мужа ў пятым акце атрымлівае чыста вонкавае тлумачэньне: вар'ятка-жанчына ў імпэце прыкрасьці і капрызу нечакана парашыла выявіць сваю злую волю, карыстаючыся тым, што, згодна з рэмаркамі аўтара, і ў прыватнай кватэры Паўла Чэмера і ў яго службовым габінэце ў райвыканкоме меліся на гэты выпадак стрэльбы да паслуг яго самадуркі-жонкі. Мова п'есы значна згладжвае некаторыя недахопы ў зарысоўках характараў і бытавых зьяў: яна, як і ў іншых п'есах Ц. Гартнага, лексычна багата і колёрытна; нават макаранічная мова настаўніка Агародзіна і Юстыны, якія варожа настроены ў адносінах да беларусізацыі, зьяўляецца стылёвай і характэрнай для данае групы асоб.

Чацьвертая п'еса Ц. Гартнага, іменна „Дзьве сілы", надрукаваная ў тым-жа зборніку „Прысады", не выклікае асобнай ацэнкі, бо яна і паводле замыслу, і паводле драматургічнае пабудовы вельмі блізка да п'есы „На стыку" і да некаторай ступені нібы паўтарае яе асноўны мотыў, толькі перамяшчаючы яго з бытавых абставін мястэчка ў заводзкі быт вялікага прамысловага цэнтру. Тут спатыкаюцца „на стыку" таксама два бакі жыцьця, дзьве сілы—старыя спэцы, якія ўзброены ведамі, але яшчэ сядзяць карэньнямі ў старым быце і ў старой ідэолёгічнай устаноўцы, і новыя маладыя сілы, якія старанна праводзяць у жыцьцё,—у даным выпадку ў жыцьцё заводу,—савецкія дырэктывы і заданьні. У таго і другога боку ёсьць свае прыхільнікі і, значыць, свая падтрымка ў асяродзішчы заводзкіх служачых. Сутычка абедзьвюх сіл, на падставе асабовых крыўд, нязычлівасьці і супрацiўніцтва, цяжка адбіваецца на працы заводу і прыводзіць нават да катастрофічных зьяў, як пажару, прычына якога застаецца дачасу ня выкрытай, але ўжо загадзя тлумачыцца, як злы намер аднаго з варожых бакоў. П'еса ў фінальных сцэнах зноў стварае ўражаньне некаторай недагаворанасьці: цяжка вырашыць, наколькі мае рацыю Вяндушэвіч, які ацэньвае старога спэца, інжынэра Лусту, толькі як „гной для аздабленьня новае глебы", але побач з тым і адносіны Лусты да маладога канструктара-вынаходцы наўрад ці можна лічыць за бесстароньнія. Інтрыга п'есы, узятая цалкам, мала актуальная і мала драматычная; аўтар гэта адчуваў сам і таму назваў сваю п'есу „драматычнымі сцэнамі". Але бытавы яе бок, які малюе і дзелавое жыцьцё заводу і прыватнае жыцьцё заводзкіх служачых, а таксама і мова п'есы, не пазбаўлены тае жыцьцёвасьці і колёрытнасьці, якія ўжо адзначаны намі ў другой і трэцяй драмах.

Абагульняючы зробленыяназіраньні над драматычнымі творамі Ц. Гартнага, трэба прызнаць, што драматургічная манера яго прыкметна эволюцыянуе ў бок большай зьмястоўнасьці і большай мастацкай апрацоўкі: у сваіх п'есах, асабліва ў другой і трэцяй, аўтар у выстарчальнай ступені аўладаў рэальна-бытавым матэрыялам, ён умее знайсьці актуальную тэму ня толькі ў мінулым, але і ў нашай сучаснасьці, ён уводзіць у композыцыю сваіх п'ес патрэбную дозу драматызму і дынамічнасьці, ён насычае сваю мову жывым і колёрытным матэрыялам у інтарэсах лепшай замалёўкі зьяў жыцьця і характараў і г. д. Побач з тым, соцыолёгічны аналіз п'ес Ц. Гартнага дае падставу прызнаць, што яго драмы, асабліва больш позьнія, зьяўляюцца соцыяльна-значнымі і паводле зьместу, як ілюстрацыі таго ці іншага соцыяльна-політычнага моманту, і паводле ідэолёгічнага асьвятленьня, якое выразна азначае даны момант з пункту погляду соцыялістычнага будаўніцтва. З фармальнага боку, пры некаторых недахопах, якія ўжо вышэй паказаны, драмы Ц. Гартнага зьвяртаюць на сябе ўвагу жывою і колёрытнаю мовою, якая адпавядае бытавому жыцьцю ў розных яго праяўленьнях. Наогул, асноўны драматычны жанр Ц. Гартнага, які найбольш адпавядае яго таленту,—гэта рэальна-бытавая драма на актуальную, сучасную тэму. Тут ён можа, на маю думку, даць рад твораў, цікавых для масавага чытача і выгодных для сцэнічных пастановак.

# ДЗЕЙНАСЬЦЬ З. ЖЫЛУНОВІЧА Ў АБСЯГУ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ КРЫТЫКІ

**Ул. Дзяржынскі**

I

Неаднакраць у беларускім літаратуразнаўстве, пісьменьніцкіх і чытацкіх колах была констатавана разьбежнасьць у разьвіцьці беларускае мастацкае і крытычнае літаратуры. Адсталасьць апошняе (літаратурнае крытыкі) ад даволі быстрага поступу найноўшае беларускае поэзіі трактавалася (і трактуецца) у памянёных сфэрах ня толькі як адмоўны факт у агульным разьвіцьці беларускае літаратурнае культуры, але як некаторы спэцыфікум апошняе. Сталася трафарэтам палажэньне, што беларускае крытыкі няма, што яе ўдзельная вага ў разьвіцьці беларускае літаратуры калі ня роўна нулю, то ў кожным выпадку мізэрная. Зразумела, што аб якім-колечы ўплыве яе на кірунак і фармаваньне поэзіі як у пору нашаніўскую, так і сучасную гаварыць у беларускім літаратуразнаўстве і проста ў літаратурнай практыцы ня прынята. „Які там уплыў, калі самой беларускай крытыкі ня было і няма дагэтуль! Такі ўжо лёс беларускага мастацкага слова існаваць і разьвівацца бяз больш-менш людзкай крытыкі“ і т. п. выслоўі пануюць у беларускім літарацкім сьвеце, не спаткаючы сабе зьнікуль і цені запярэчаньня. І гэтыя погляды знаходзяць сабе падмацаваньне (пасыўнае або актыўнае) нават у тых працах, што носяць назову гісторыі беларускае літаратуры. Так, у нарысе акад. Карскага літаральна ніводнага радка не прысьвячона беларускай літаратурнай крытыцы, а М. Гарэцкі абмежаваўся ў трэцім выданьні сваёй „Гісторыі Беларускае Літаратуры“ таксама літаральна 3½ радкамі аб крытыцы, з якіх два радкі заняты прозьвішчамі крытыкаў. Наогул, беларуская бібліографія бадай ня ведае ніводнае асобнае працы або артыкулу, прысьвячонага вывучэньню гісторыі беларускае крытыкі.

Бясспрэчна, што апошняя як у нашаніўскую пару, так і ў сучасную не патрапіла заняць у нашым літаратурным жыцьці таго месца, якое належыць гэтаму жанру. Бясспрэчна, што як колькасна, так і якасна яна адставала (і адстае) ад попыту на яе і з боку чытача і з боку пісьменьніка. Бясспрэчна, што ў крытыцы ня выявілася дагэтуль хоць-бы прыблізна такіх значных талентаў, якія беларуская літаратура мае ў лірычных і эпічных жанрах.

Але таксама бясспрэчным зьяўляецца і тое, што пануючы на беларускую крытыку погляд ня зусім мае слушнасьць. Далёка ня так

адстала яна, як гэта лічыцца, далёка ня так мізэрны ўплыў яе, як гэта гаворыцца. Рамкі данага артыкулу не дазваляюць мне, як належыць. Разьвіць апошнюю думку, тым ня менш не магу ня выказаць тут хоць вельмі агульна тых меркаваньняў, на якія наводзіць мяне цэлы рад зьяў і фактаў як з абсягу жыцьця беларускае поэзіі, так і з нашае літаратуразнаўчае практыкі. Возьмем хоць-бы нашаніўскую крытыку.

Каб гаварыць аб ёй, трэба не выпушчаць з-пад увагі экономічкай базы беларускага друку ў нашаніўскаю пару і гістарычнае пэрспэктывы. Першая (экономбаза) давала магчымасьць існаваць спачатку аднэй, а затым дзьвём невялічкім тыднёвым газэтам („Наша ніва“ і „Biełarus“), выпушчаць у сьвет беларускі каляндар, і ўся рэшта сродкаў ішла на выданьне зборнікаў (пара спроб альманахаў) поэзіі і мастацкае прозы або популярных сельска-гаспадарчых брошур. Невялічкая тыднёвая газэта і каляндар—жанры друку, на старонках якога трудна квітнець літаратурнай крытыцы, якая, як правіла, можа спорна расьці толькі на базе разьвітае журналістыкі. Гэта—адна акалічнасьць. А другая—параўнаўчая малалікасьць об'ектаў крытыкі ў нашаніўскаю пару (асабліва да 1912-13 г.г.). Я не хачу гэтым падкрэсьліваць убогасьць беларускае нашаніўскае літаратуры. Наадварот, апошняя як колькасна, так і асабліва якасна была ўжо параўнача багатай для такога невялічкага адрэзку часу, як нашаніўская пара, але далёка ня ўся яна магла быць об'ектам крытыкі, перш за ўсё з прычыны сваёй раскіданасьці (зборнічкі поэзіі былі лічаныя; даволі для прыкладу будзе адзначыць, што творы такіх выдатных нашаніўцаў, як А. Гарун і З. Бядуля, вышлі асобнымі зборнікамі ўпяршыню ўжо па-за межамі нашаніўскае пары; праўда, З. Бядуля меў зборнічак імпрэсій-абразкоў, але-ж не яны яго характарызуюць). І трэцяя неспагадлівая акалічнасьць для беларускай крытыкі ў гэту пору—малая наяўнасьць літаратурных традыцый, густаў і поўная адсутнасьць якой-колечы спадчыны ў абсягу крытычных жанраў. Больш-менш значнае разьвіцьцё літаратурнай крытыкі любой нацыянальнай культуры характарызуецца, як правіла, дваякай яе (крытыкі) накіраванасьцю. З аднаго боку, яна праходзіць стадыю нэгатыўнай крытыкі ў адносінах да зложаных літаратурных ацэнак і густаў, для якой уся спадчына крытычнае літаратуры зьяўляецца звычайна выточным пунктам (у сэнсе адмаўленьня гэтае спадчыны). Затым пачынаецца позытыўная крытыка, якая высоўвае і бароніць новыя погляды на літаратурныя зьявы. Адмаўленьне старога і станаўленьне новага—вось шлях разьвіцьця крытыкі. XIX век пакінуў XX сякую-такую спадчыну беларускай поэзіі (Марцінкевіч, Багушэвіч, Няслухоўскі і інш.), але бадай зусім не пакінуў спадчыны ў абсягу літаратурнае крытыкі (на беларускай мове), у абсягу традыцый што да літаратурных густаў.

Першым нашаніўскім крытыкам літаральна прыходзілася закладаць першыя цаглінкі пад фундамант нашай літаратурнай крытыкі. І, ня гледзячы на гэтыя об'ектыўныя перашкоды, нашаніўская крытыка зараджаецца

бадай адначасна з нашаніўскай поэзіяй, крок у крок ідзе поруч з апошняй (праўда, колькасна, а часамі і якасна, уступаючы ёй), тлумачыць, ацэньвае, а часта нават і ўплывае на характар разьвіцьця яе. Бадай кожны 10—15 нумар „Нашае Нівы“ (пачынаючы з 1908 году) сьведчыць, што беларуская крытыка на шляху свайго разьвіцьця; паяўленьне бадай кожнага зборнічка нашаніўскае поэзіі спатыкае водгалас (і я-б не сказаў, што заўсёды слабенькі і кволы) у маладой толькі-толькі нараджонай крытыцы. Адным словам, крытыка пачала жыць, і ў ёй у зародку пачалі ўжо ў нашаніўскаю пару складацца рознастайныя жанры: крытычны фэльетон, літаратурны агляд, літаратурны ліст, рэцэнзія, крытычна-полемічны артыкул, крытычны нарыс. Праўда, усе гэтыя віды крытыкі былі толькі ў зародку (апрача рэцэнзіі, якая ўжо тады была літаратурна аформілася), колькасна іх было нямнога, але ўдзельная іх вага ў нашаніўскай літаратурнай практыцы тым ня менш была значная. Аб гэтым ужо можа сьведчыць пэрсональны склад крытыкаў: М. Багдановіч, Антон Навіна, Альгэрд Бульба, С. Палуян (Ясеновіч), Л. Гмырак, В. Ластоўскі, Я. Купала і інш. Гэтыя асобы працавалі ў нашаніўскай літаратурнай крытыцы і адначасна стаялі на чале літаратурнага жыцьця наогул, зьяўляючыся выдатнейшымі поэтамі, рэдактарамі, ідэолёгамі, кіраўнікамі ня толькі ў абсягу літаратуры, але і ў абсягу беларускага нацыянальнага руху наогул. Гэты факт паказвае на тое, што іх крытыка павінна была мець уплыў на характар і накіраванасьць творчасьці паасобных нашаніўскіх поэтаў. (На жаль, месца не дазваляе тут падаць некалькі конкрэтных фактаў гэтага ўплыву; гэта зьяўляецца тэмай спэцыяльнае працы, якая мной рыхтуецца). Цікава адзначыць, што ідэолёгічна-мастацкія ацэнкі, зробленыя нашаніўскімі крытыкамі, як правіла, пануюць і ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве. Гісторыкі беларускае літаратуры (М. Гарэцкі, акад. Карскі і інш.) часта грунтуюцца на нашаніўскай крытыцы, асабліва на крытыцы М. Багдановіча і А. Навіны.

Літаратурнае афармленьне нашаніўскае крытыкі стаіць таксама даволі высока. У гэтым сэнсе ёсьць чаму павучыцца ў яе і нашай сучаснай крытыцы, якая, захапляючыся тэндэнцыяй да навуковасьці, часта пакідае ў занядбаньні сваю літаратурную форму, захапляючыся дакументальнасьцю і фактычнасьцю свайго аналізу, часта зводзіцца да ступені простае комунікацыі, пазбаўленае ўсялякае мастацкае выразьлівасьці, пазбаўленай усялякага ўплыву на пачуцьці чытача. Нашаніўская крытыка ня проста аналізуе і разважае, а пераконвае і пры тым пераконвае ня толькі аргумантамі лёгічнага і фактычнага парадку; яна пастаянна імкнецца да таго, каб кожнае яе слова ня столькі інформавала, як узбуджала, хвалявала, парывала. Калі яна прымае характар соцыялёгічнай крытыкі, то чытач радуецца або плача, абураецца або моцна верыць; калі-ж яна выліваецца ў форму эстэтычнае крытыкі, чытач паражаецца тонкасьцю, вытворнасьцю і пранікліваcьцю мастацкага ўспрыйманьня, трапнасьцю і вышуканасьцю слоўнага выражэньня. Вось, напрыклад, характэрны для

нашаніўскае крытыкі зачын рэцэнзіі на „Песьні жальбы“: „Працаўнікоў на народной ніве прыбывае, з-пад зрэбнай кашулі вырываюцца ўсё новыя песьні, новыя думкі. Сыны забітага, загнанага народу аддаюць сваім братом свае найлепшыя думкі, бо „трудна з імі жыць замкнута“, „яны хочуць выбіцца на сьвет“. А вось узорык крытыкі-характарыстыкі з тае-ж рэцэнзіі: „Колас, апяваючы смутак палёў ці маркоцячыся з астрожных сьцен, ані на момант не адрываецца ад роднага краю, ад свайго народу; ён ня сам церпіць за сябе, а церпіць за мільённы народ, і гэта цярпеньне родзіць у ім веру: мучыцца, у такой беднасьці жыве не адзін чалавек, а мільёны, і іх цярпеньне ўжо не слабы шэпт, а галосны стогн, каторы павінен дайсьці нават да тых, хто шчыльна затыкае вушы... „А вось канцоўка тае-ж рэцэнзіі: „За работу, жыва, жыва, каб нас доля ня кідала, каб ня сохла наша ніва!“—кліча поэта, бо толькі тады скрозь выпалецца поле, і буйны колас украсіць нашу ніву [1]). Такім грамадзкім патосам, закутым у дасканалую слоўную форму, прасякнута бадай уся нашаніўская крытыка соцыялёгічнага кірунку.

Ня ўступаюць ёй сваім майстэрствам і ацэнкі формальна-эстэтычныя: „Талент Купалы ўзрастае, пашырае круг сваіх тэм, ужо не галосіць (ці, лепей, ня толькі галосіць), а ўжо павявае сьмеласьцю, жыцьцёвай сілай і пагардай. Гэта перамена зьместу адбілася і на форме вершаў Купалы, асабліва на іх важнейшым, усё ажыўляючым нэрве—моцна забіўшым рытме. Буйны, шпаркі, ён падмывае, захапляе чытача, гіпнотызуе яго, не дае апамятавацца, затрымацца і нясе ўсё далей і далей. Бадай што ва ўсіх леташніх вершах Купалы б'ецца ён з вялікай сілай і гуртуе вакол сябе ўсё іншае ў іх. Каб здаволіць яго разгон, канцы строк аж зьвіняць, зьяўляюцца рыфмы і ў сярэдзіне вершу, нават словы да яго падбіраюцца зычныя, моцныя“... Гэтыя радкі прыналежаць пяру Максіма Багдановіча ў рэцэнзіі, напісанай у 1911 г. [2]). Перагарнеце сучасную беларускую крытыку, непараўнана багацейшую колькасна за нашаніўскую, мала знойдзецца ў ёй радкоў такой выразьлівасьці і мастацкай сілы, такой трапнасьці і пранікліваасьці ў ацэнцы мастацкае літаратурнае формы. У гэтым сэнсе, г. ё. сваёй літаратурнай формай, нашаніўская крытыка часта можа служыць узорам і для сучаснае крытыкі, якая, зразумела, сваім мэтодам, сваёй навуковасьцю і дакладнасьцю аналізу, стаіць, бязумоўна, вышэй за першую. Культывуючы ўдала сваю літаратурную форму, нашаніўская крытыка зьяўлялася даволі ўбогай і прымітыўнай у соцыялёгічным абсягу, дзе яна выяжджала больш на патосе, чымся на конкрэтным аналізе грамадзкае рэчаіснасьці, што парадзіла той ці іншы літаратурны факт, зьяву. Ідэалістычная і народніцкая інтэрпрэтацыя мастацтва пануе ў нашаніўскай крытыцы. Адсюль і ўстарэласьць яе там, дзе яна прабуе тлумачыць.

[1]) „Наша Ніва“, 1910, № 40.
[2]) „Наша Ніва“, 1911, № 3.

Ці мела нашаніўская крытыка ўплыў на разьвіцьцё сучаснае беларускае літаратурнае крытыкі? На гэта з дакладнасьцю зможа адказаць будучы яе дасьледчык; мне-ж здаецца, што хоць ня значны ўплыў, а мела, і іменна на тых з сучасных крытыкаў, якія непасрэдна вырасьлі з нашаніўскае пары. Да іх ліку ў некаторай меры належыць і З. Жылуновіч, які на арэну крытычнай дзейнасьці ўступіў ужо за межамі нашаніўскае пары, у пасьлякастрычніцкі пэрыод, і ў працягу 10 год праявіў сябе надзвычай пладавітым (бадай самым пладавітым) беларускім крытыкам. У яго працах даволі багата прадстаўлены розныя крытычныя жанры, паміж якімі пераважаюць: *літаратурны агляд, крытычная монографія, крытычна-полемічны артыкул, рэцэнзія*. На характарыстыцы паасобных жанраў крытыкі З. Жылуновіча зараз і спынюся, прычым сьпяшу падкрэсьліць, што ў задачу данага артыкулу ўваходзіць ня столькі даць вычэрпваючы агляд дзейнасьці З. Жылуновіча ў абсягу беларускуй літаратурнай крытыкі, як гэта зазначана ў загалоўку, колькі зрабіць спробу некаторай клясыфікацыі яго крытычных прац і хоць-бы агульнай характарыстыкі пануючых у яго крытыцы жанраў як з боку ідэолёгічна-мэтодолёгічных прынцыпаў, так і з боку літаратурнае формы і стылю. Падобная праца зьяўляецца ў беларускім літаратуразнаўстве новай і таму асабліва труднай; вось чаму ня ўхілена магчымасьць тут і памылак, і непаўнаты, і невыстарчальнай угрунтаванасьці з майго боку, што, аднак, ня можа служыць сур'ёзнай перашкодай для пастаноўкі гэтага новага пытаньня.

## II

*Літаратурны агляд*—жанр, якім распачаў З. Жылуновіч сваю крытычную дзейнасьць і ў якім ён найболей працаваў, як крытык. У 1918 г. ў зборніку „Зажынкі" зьмешчана яго першая крытычная праца пад загалоўкам „Беларуская Літаратура. Нарысы і агляды. Лекцыя, чытаная ў беларускім народным унівэрсытэце ў Маскве". У гэтым артыкуле ў найвялікшай ступені праявіўся ўплыў нашаніўскае крытыкі на З. Жылуновіча. Ужо сам зачын артыкулу наводзіць на гэту думку: „Цяжкая доля, якая на працягу ўсяго гістарычнага жыцьця Беларусі неадступна яе спраўваджае, давяла да таго нашу краіну, што месца яе, як роўнае з другімі, чуць ня зусім загубілася ў ходзе жыцьця". Той-жа нашаніўскі стыль і настрой! Але ўжо тут заўважваецца і розьніца яго крытычнае концэпцыі ў параўнаньні з нашаніўскай, ужо тут праяўляецца выразна тэндэнцыя разьвіцьцё беларускае літаратуры ўвязаць з разьвіцьцём грамадзка-экономічных форм беларускае рэчаіснасьці ў той ці іншы гістарычны адрэзак часу. Асабліва ярка гэта тэндэнцыя выразілася ў той часьці артыкулу, дзе З. Жылуновіч разьвівае прадпасылкі ўзьнікненьня нашаніўскае поэзіі; „1905 год поміж з пад'ёмам соцыялістычнага руху падняў да нябывалай вышы і рух нацыянальны. Варта прагледзець гісторыю гэтага часу, і лёгка будзе ўбачыць, які значны крок у справе нацыянальнага

зьневальненьня зрабілі цэлы цуг расійскіх недзяржаўных прыгнечаных нацый. Літоўцы, латышы, украінцы, фіны і інш. Але асобна значным плёнам адбіўся гэты год на абуджэньні беларускага народу. Здаецца, з гэтага боку 1905 год знарок і выпаў дзеля таго, каб даць штырхач толькі беларускаму народу, які астаўся пазадзе ўсіх на дарозе свайго нацыянальнага будаўніцтва. Іначай думаць мы і ня можам. Той размах, тая шыр, якія раптам ахапілі беларускі народ хвалямі самапазнаньня, таго не дазваляюць. Адначасова заварушыліся і гарады, і мястэчкі, і сёлы. Беларусь пакрылася нацыянальнымі, палітычнымі і соцыялістычнымі гурткамі, колкамі і грамадамі“... Гэтакі вось спосаб маляваньня, грамадзка-палітычнага фону, на якім толькі і належыць вытыкаць шляк разьвіцьця літаратуры—характэрны прыём у крытыцы З. Жылуновіча. І чым далей, тым больш органічная сувязь будзе ўстанаўляцца ў яго паміж гэтымі двама момантамі яго крытыкі. Але на пачатку сваёй крытычнай дзейнасьці З. Жылуновіч часамі знаходзіўся яшчэ пад уплывам ідэалістычна-народніцкіх поглядаў на ход літаратурнага разьвіцьця. Так у тым-жа артыкуле ён характарызуе творчасьць Дунін-Марцінкевіча наступным спосабам: „Творчасьць В. Марцінкевіча адбівала сабою пачуцьцё спагады да прыгнечанага народу і выказвала сабою гэта пачуцьцё. Ён прышоў да яго з боку, пакахаў за мяккасьць і пакору народ-горацешац, і гэта настроіла яго струны да апеву свайго чуцьця аб ім“...

Цэнтральнае месца ў артыкуле займае характарыстыка творчасьці Я. Купалы і Я. Коласа. Асаблівай увагі заслугоўваюць старонкі, прысьвячоныя першаму з іх. Тут З. Жылуновіч удала разьвівае рад поглядаў на поэзію Янкі Купалы, якія ня ўтрацілі сваёй вагі і ў цяперашні час, якія неаднакрадь паўтараліся пазьней у беларускім літаратуразнаўстве. Перш за ўсё падкрэсьліваецца крытыкам бунтарскасьць Купальскае лірыкі, яе грамадзкі оптымізм і вера ў сілу змаганьня. „Месца жудасьці і жальбе даецца досі мала,—чытаем у гэтым артыкуле.—Толькі паміжходна чапае ён (Я. Купала) іх, але з таго боку, каб, зачапіўшы, болей падбухторыць пачуцьцё помсты... У сілу народу, моцную і непаборную, верыў поэта. Нават культам яго музы стала тая мага і крэпасьць, з якой мужык можа ўсё зрабіць... і зробіць, калі захоча“. Далей Я Купала супастаўляецца з Шэўчэнкам і Міцкевічам, называецца беларускім Шэўчэнкам (гэту думку спэцыяльна разьвіў з часам М. Байкоў [1]). Падкрэсьліваецца там-жа цэнтральнае месца Купалы ў нашаніўскай літаратуры: „Можна не абмыліцца, калі сказаць, што ўсе іншыя беларускія поэты вырасьлі на ім і свае таленты прычасьцілі яго творамі...“ Ц. Гартны бадай першы выказаў думку, што нашаніўская пара была кульмінацыйным пунктам у творчасьці Янкі Купалы.

[1]) Гл. зборнік „Янка Купала ў літаратурнай крытыцы“. Менск, 1928 г.

У гэтым-жа першым крытычным артыкуле выразна праявілася і тэндэнцыя З. Жылуновіча да малюнковасьці, сакоўнасьці і эмоцыянальнасьці стылю. Вось для прыкладу адрывак, у якім крытык характарызуе творчасьць Я. Коласа: „Бурлячая хваля народнага паўстаньня цягнула яго на верхаводзьдзе хваль, а душа, у свой чарод, другую песьню пяяла, аплаквала нядолю стараны, сум лесу, ніў, зьліваючыся з маркотнаю песьняю аратая і плытніка на Нёмне. І ў гэтым яго плачы, у жальбе яго тонаў няспынна клакацела завіруха яго глыбокае, бязьмернае любасьці да краю. Здаецца, чытаючы яго стальныя радкі, з кэроткіх моцных слоў, без нацягласьці і насільля—яскрава адчуваеш на сабе рухомасьць усіх праяў нядолі ўрачонага краю“... Тэндэнцыю да такога стылю можна прасачыць ва ўсёй крытычнай дзейнасьці З. Жылуновіча, асабліва-ж у яго літаратурных аглядах і крытычных монографіях. У гэтым сэнсе З. Жылуновіч зьяўляецца ў некаторай меры прадаўжальнікам нашаніўскіх традыцый.

Як-бы працягам разгледжанаму артыкулу зьяўляецца другі літаратурны агляд: „Беларускі парнас у новай вопратцы“, напісаны ў 1923 г. [1]. Калі ў першым артыкуле З Жылуновіч даў агляд беларускай літаратуры да Кастрычніка, то ў гэтым другім артыкуле ён дае малюнак яе пасьля Кастрычніцкае рэволюцыі. Кідаецца ў вочы запальчывы, тэмпэрамэнтны тон гэтага артыкулу. Крытык тут ня толькі аглядае літаратурныя падзеі, але гарыць полымем то гневу-абурэньня, то радасьці-надзеі. Захоплены сілай уласнага пачуцьця, ён ня губляе, аднак, гістарычнае пэрспэктывы, не адрываецца ад грунту грамадзкае рэчаіснасьці. Наадварот, гэта рэчаіснасьць становіцца выточным пунктам для кожнае яго думкі, для кожнага яго палажэньня адносна разьвіцьця беларускае літаратуры. Мне здаецца, што гэтым артыкулам З. Жылуновіча беларуская крытыка ўпяршыню шчыльна наблізілася да марксыцкага мэтоду крытыкі.

Годы вайны і затым Кастрычніцкая рэволюцыя былі, як вядома, годамі глыбокага крызісу ў беларускай літаратуры. На высьвятленьні прычын гэтага крызісу перш за ўсё і спыняецца ў даным артыкуле З. Жылуновіч. „Пералом у разьвіцьці беларускае літаратуры якраз прышоўся з момантам абавяшчэньня сусьветнае вайны,—піша З. Жылуновіч.—З гэтаю вайною Беларусь падпала пад ярмо нявыказаных бядотаў нішчэньня і глумленьня. На яе раўнінах мусіла адбыцца нявіданае крывавае пабоішча. Лёс працоўных грамад павярнуўся ў бок цяжкіх пакут; стала пад пытаньнем і доля блізкага яго адраджэньня. Руіны ці ў лепшым выпадку зьнішчэньне напалову—вось што залунала ў паветры над змучанаю, змардаванаю, здратаванаю вякамі краінаю. Тыя блізкія провіды сьветлага вызваленьня, якія к часу абвяшчэньня сусьветнае вайны прынялі досыць шырокія адзнакі і нясупынна захоплівалі ўсё

[1]) Полымя, 1923, № 2.

новыя слаі і абшары, завалакліся шэраю хмараю... Сьпёртае духатою і пахам крыві паветра не давала мажлівасьці вольна дыхаць. Куды-ж было да таго, каб пяяць? І муза беларускае творчасьці раптам прыцішыла свае песьні. Многія песьняры замест леры, па прымусу, узяліся за стрэльбы і мячы. Бразг сталі замяніў зыкі нядаўна грымучай, крылатай песьні. Другія, абмінуўшы ўдзел у крывавай людзкой байніцы, павінны былі моўчкі перажыць першыя праявы ваеннае навалы. З замі-раньнем душы глядзелі яны, як варожая людзкому стану справа, гібельная вайна, якую распачалі багацеі і цары, маравым паветрам засьцілала Беларусь. Страхацьцё яе расло з дня на дзень. Перш паход праз Беларусь мільённых армій войска, а пасьля бязьлітаснае высяленьне з краю беларускіх працоўных грамад. Тысячы і сотні тысяч выгнанцаў пацяглося ў неспадзяваную падарож, кінуўшы хаткі і нівы і здабыты крывавым потам, цяжарнаю работаю статак. Уперадзе—няведаны край, цёмнае бяздом'е, а ззаду пажары, зьнішчэньне. Падарожная, бяздомная Беларусь—якава твая мэта? Гэтыя пытаньні чорнымі, страшнымі птахамі завіліся перад ваччу беларускіх пісьменьнікаў, атрутнымі нажамі паранілі іх сэрцы. Ніводнае жывое, прасьветлае думкі, ні каліва надзеі на будучыну... Нагнёт гэтага крызісу каменіў сэрцы беларускіх пісьменьнікаў да таго балюча, што ў іх застыла ўсякая радасьць і сьветласьць надзей. Нават адмерла мажлівасьць адчуваць далейшы бег здарэньняў..."
Я падаў тут такую даўгую выпіску, бо нідзе больш у беларускай крытыцы і літаратуразнаўстве ня знойдзецца такой яркай спробы супастаўленьня імпэрыялістычнае вайны і першага крызісу ў маладой беларускай літаратуры. Прычына гэтага крызісу адчувалася бадай кожным, хто меў сякое-такое дачыненьне да беларускай літаратуры, але З. Жылуновіч першы ўцяліў гэта адчуваньне ў жывую, захапляючую літаратурную форму, даў калі і ня вычэрпваючы аналіз прычын гэтага крызісу, то намеціў тут асноўныя вехі. Але гэта толькі ўводная тэма яго артыкулу.

Цэнтральны пункт артыкулу—Кастрычнік і адносіны да яго беларускага парнасу. Тэма сапраўды актуальная і надзвычай дражлівая для таго часу. Бо, сапраўды, ня гледзячы на тое, што нашаніўскія ідэалы—нацыянальнае і соцыяльнае вызваленьне сярмяжнае Беларусі—не адмаўляліся Кастрычніцкай рэволюцыяй, а, наадварот, агністымі словамі праменіліся на яе сьцягу, песьняры-нашаніўцы апынуліся ў дзіўным становішчы нейкага злавешчага маўчаньня. А калі і адзываліся, то іх „песьні-творы аставаліся шэрымі, адсталымі, пазагуменнымі ад урачыстай процэсіі сышоўшага вызваленьня нявольнікаў",—паводле трапнае характарыстыкі З. Жылуновіча ў тым-жа артыкуле. У чым прычына гэтае зьявы? „Ці то аднімала палкасьць пазыву непраясьненасьць хмар, што цягнулі вісець над Заходняй Беларусьсю і якіх рэволюцыя Кастрычніка ня ў сілах была разагнаць з першых дзён свайго жыцьця, ці то ажыцьцяўлялася агульная ісьціна, якая кажа, што муза маўчыць, калі гавораць

гарматы—гадана. Пэўней, адно і другое разам мелі свой уплыў на маўчаньне беларускіх песьняроў пры іх стрэчы з Чырвоным Кастрычнікам“,—так адказвае на гэта пытаньне З. Жылуновіч. Адказ хоць далёка і ня вычэрпвае прычын данае зьявы, але тым ня менш даволі справядлівы. Асаблівага патосу дасягае крытык, аднак, там, дзе ён спыняецца на змаганьні беларускага нацыянал-незалежніцтва з поступам Кастрычніка на Беларусі. „Фальшывы пакост,—чытаем там-жа,—выдаваўся за слаўныя традыцыі працоўнае дэмократыі. Ранейшыя лёзунгі прывешваліся, дзе зарвала. Дрындушкамі зьвінелі тысячы крылатых, нібы шчырых слоў аб змаганьні, аб мэце незалежнасьці... І воблачкі ружовага дымку віліся над беларускім парнасам“... Але вось надыходзіць студзень 1919 году, „які прынёс Беларусі гэта вызваленьне, даўшы да таго бязымяннай, пагарджанай, разбуранай краіне зыркабліснае імя—Беларуская Незалежная Савецкая Рэспубліка,—констытуцыю, соцыялістычную праўную дзяржаўнасьць. У громе, у бліскавіцы, цудоўную казкаю з апокаліпсісу прынясла гісторыя гэта нараджэньне, асьляпіўшы яго вялікасьцю волата зямлі, гаспадара жыцьця, працоўнага беларускага народу. Колькі сілы, колькі музыкі, колькі неахопнай красы і магутнасьці трымалі ў сабе гэтыя здарэньні! Палкім агнём абурэньня растаплялася ўсё нуднае, прымёршае, запуджанае... Як агнядыхаючы Везуві, клекатала рэволюцыйным морам працоўная сіла беларускіх абшараў...“ А які-ж уплыў мела гэта вялікая дата на дзейнасьць беларускага парнасу? Якую позыцыю заняў ён цяпер у стасунку да маладой Савецкай Беларускай Рэспублікі? Адказваючы на гэта, З. Жылуновіч бязьлітасна і жорстка бічуе нашаніўцаў, з якімі ён яшчэ ўчора поплеч ішоў і змагаўся, чынам і мастацкім словам, за супольныя нашаніўскія ідэалы. Тут—што ні слова, то ўдар мяча, то зьзяньне бліскавіцы, то гром абурэньня. „А беларускі парнас ні зарухаў, ні маленькім рухам не адказаў на нячуваную зьяву. Над ім насіўся ледзяны павеў зьмярцьвеньня. Гістарычныя зьявішчы, што пісалі злотавогненнымі літарамі вялікую памятку вызваленьня мільёнаў беларускіх працоўнікаў, выглядалі ў іх ваччу сібернай бурай навалы, якая „праз узгоркі“ кацілася на іх ногі, грозячы раздавіць іх... Для беларускіх пісьменьнікаў незразумелым было (а некаторым і ёсьць) тое гэроічнае, першае сьвядомае змаганьне працоўных грамад за сваю соцыялістычную радзіму Беларусь. Кроў і ахвяра тых беларускіх сялян і рабочых, чые мукі раней натхнялі беларускіх парнасцаў, цяпер ня кралі адзервянелых сэрцаў, запуджаных песьняроў. Яны або маўчалі, або ўпотайку, як шашаль у дзераве, рыпелі тонамі будзённых дзён, тонамі васеньніх скрыпак, тонамі нуды, безнадзейнасьці...“ Завастрыўшы да гіпэрболі адмоўнасьць беларускага літаратурнага жыцьця ў Кастрычнікавую пару, З. Жылуновіч не ўпадае, аднак, у пэсымізм што да будучыны. Соцыолёгічны аналіз грамадзкай і літаратурнай сучаснасьці (польская окупацыя, рос-

квіт савецкага будаўніцтва, новыя маладыя парасткі на беларускай літаратурнай ніве) прыводзіць З. Жылуновіча да вываду, што „з пачаткам 1921 г. развой новай бадзёрай плыні ў беларускай пісьменнасьці робіцца ўсё больш і больш значным. Ён ахоплівае і старых, ужо зложаных песьняроў, і новых, якія яшчэ не пасьпелі скласьціся... Амаль ня ў кожным творы, амаль ня ўсіх беларускіх пісьменьнікаў і песьняроў выразна выглядае навізна формы, глыбіня здольнасьці, шырыня рэволюцыйнага размаху, уступ на шлях колектыўнае творчасьці“. І замыкаецца разгледжаны артыкул, як гэта наогул характэрна для крытыкі З. Жылуновіча, надзвычай оптымістычнай канцоўкай, „беларускія песьняры сваімі песьнямі будуць бадзёрыць і ўзмацняць ваякаў за сьветлую будучыну, будуць запальваць новыя маякі і зьніжаць іх сьвятло ў працоўныя гушчы“...

Гэтыя радкі (як і ўвесь артыкул) раскрываюць асноўную мэтодолёгічную ўстаноўку крытыкі З. Жылуновіча, яго погляд на мэты і задачы літаратурнага мастацтва. Калі мы з гэтага боку падыдзем да нашаніўскае крытыкі, то заўважым, што там ня было еднасьці ў гэтым пытаньні. Адны крытыкі разглядалі поэзію, як фактар уплыву на масы з мэтай абуджэньня ў апошніх нацыянальнае і соцыяльнае сьвядомасьці. Поэта, паводле іх думкі, павінен быў ня проста пяяць, а пяяць-заклікаць. Адсюль і грамадзкая накіраванасьць іх крытыкі: яна вартасьць мастацкага твору вымярала перш за ўсё сілай апошняга ўплываць на чытача ў сэнсе яго нацыянальнага і соцыяльнага ўсьведамленьня, у сэнсе яго залучэньня да актыўных удзельнікаў беларускага адраджэнскага руху. Да гэтай плыні ў нашаніўскай крытыцы належалі А. Бульба, А. Навіна, Л. Гмырак, Я. Купала і інш. У другой плыні пераважаў погляд „мастацтва для мастацтва“; для крытыкаў гэтае плыні вартасьць літаратурнага твору залежала галоўным чынам ад мастацкасьці яго формы. Аналіз апошняе займае ў іх крытычных артыкулах цэнтральнае месца. Яны нават змагаюцца супроць грамадзкае актуальнасьці і надзеннасьці тэм, панаваўшых у нашаніўскай поэзіі, яны дакараюць поэтаў-нашаніўцаў, напрыклад, наступнымі словамі: „Чаму... ня вучыце нас любіць і разумець гоман бору, плеск вады ў сонцы, задуму зьмеркаў, яснату ўсходаў“... [1]). Да такой вось тэматыкі былі спробы сьцягнуць нашаніўскую поэзію крытыкамі гэтае другое плыні, да якой належалі М. Богдановіч, часткаю Верашчака і С. Палуян і інш. З. Жылуновіч прымыкае да першае плыні нашаніўскае крытыкі з тэй розьніцай, што ён больш радыкальна становіцца на шлях разуменьня мастацтва, як жыцьцябудаўніцтва. Мастацтва ня толькі продукт грамадзкага жыцьця, але адначасна і моцны фактар уплыву на будаўніцтва гэтага жыцьця,—вось асноўны прынцып яго крытыкі.

[1]) „Наша Ніва“, 1913, № 30.

У 1924 г. з-пад пяра З. Жылуновіча паявіўся трэці артыкул-агляд: „Беларускае пісьменства. Гістарычна-крытычны нарыс“ [1]). Гэты артыкул зьяўляецца як-бы спалучэньнем двох першых, з тэй розьніцай, што ён напісан больш з ухілам у бок гістарызму, чымся крытычнай надзеннасьці. Гэта адгукнулася і на стылі артыкулу, больш сухім і бледным, чымся ў папярэдніх артыкулах. Як відаць, сіла З. Жылуновіча зусім не ў гістарычным абсягу літаратуры, а ў чыста-крытычным. Там, дзе ён прабуе выступіць гісторыкам беларускай літаратуры (а ў гэтым артыкуле ён іменна стараецца быць ім), адчуваецца бадай на кожным кроку яго бязраднасьць, навуковая недасьведчанасьць, замалое веданьне гістарычных фактаў і зьяў. Таму ня дзіва ў яго спаткаць такія „даныя“, як тое, што Рыпінскі „друкуе свае лекцыі на беларускай мове, а к канцу жыцьця цалкам захапляецца беларушчынай“, або, што адзін беларускі поэта „побач з пролетарскімі мотывамі дакранаецца і мотываў чыста лірычных“ (быццам ня можа быць пролетарскае лірыкі!).

Цікавай у даным артыкуле зьяўляецца спроба клясыфікацыі беларускіх поэтаў XIX і XX ст. З. Жылуновіч групуе іх наступным парадкам: шляхоцкія поэты—Марцінкевіч, Вярыга-Дарэўскі, Каратынскі; поэты-народнікі—Ф. Багушэвіч і Я. Няслухоўскі; поэты-рэволюцыянэры-інтэлігенты—Каганец, Цётка, Ядвігін Ш.; народныя поэты—Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, А. Гарун, З. Бядуля, М. Гарэцкі і інш.; поэты-розначынцы—М. Багдановіч, А. Паўловіч, Г. Леўчык і інш. Ня гледзячы на некаторую штучнасьць, а галоўнае, невыстарчальную ўгрунтованасьць, чаму іменна таго або іншага поэту крытык адносіць да данай групы, усё-ж гэта спроба клясыфікацыі і дыфэрэнцыяцыі беларускіх літаратурных дзеячоў, асабліва нашаніўскіх, зьяўляецца каштоўнай, як выточны момант для далейшае працы ў гэтым кірунку.

Зварачае на сябе ўвагу разьдзел „Гісторыкі і крытыкі“, у якім З. Жылуновіч хоць дае пераважна інформацыйны матэрыял да гэтага пытаньня, але ўпяршыню падкрэсьлівае вагу беларускае крытыкі ў літаратурным жыцьці і яе даволі вялікія дасягненьні. Канчаецца гэты разьдзел наступнай фразай: „у агуле ўсе пералічаныя асобы складаюць сабою моцную сілу ў крытычнай галіне беларускае літаратуры, сочачы за яе разьвіцьцём і пасабляючы ёйісьці належным шляхам“. Першае слова прызнаньня беларускае крытыкі, як бачым, было сказана З. Жылуновічам і сказана даволі станоўка. Кідаецца ў вочы яшчэ адна вельмі цікавая рыса ў гэтай фразе. З. Жылуновіч крытыку разглядае, як галіну мастацкае літаратуры. Як вядома, гэты погляд падзяляецца ня ўсімі прадстаўнікамі беларускага літаратуразнаўства, асабліва сучаснага.

Чацьвертым артыкулам-аглядам З. Жылуновіча, на якім мы спынімся яшчэ, зьяўляецца яго крытычная праца „Літаратурныя падзеі ў 1926 г.“

[1]) Зборнік „Беларусь. Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэволюцыйнага руху“. Менск, 1924 г.

Асаблівасьцю гэтага агляду зьяўляецца параўнаўча невялікі адрывак часу—адзін год. Падобныя гадавыя агляды, як вядома, практыкаваліся і ў нашаніўскай крытыцы (асабліва ў М. Багдановіча). Сваёй пабудовай артыкул распадаецца на дзьве часткі: у аднэй З. Жылуновіч дае агляд і ацэнку літаратурнай продукцыі за 1926 г., у другой спыняецца на організацыйна-ідэолёгічных падзеях гэтага году. І тут, як і ў ранейшых артыкулах, З. Жылуновіч стаіць на прынцыпе—мастацтва на службу грамадзкасьці. Яго радуе, што беларуская літаратура імкнецца да гэтае службы, і ў большасьці выпадкаў дасягае сваёй мэты; яго радуе, што найвыдатнейшыя поэты-нашаніўцы прынялі рэволюцыю. „Часовае ўхіленьне некаторых пісьменьнікаў ад хвалюючых думак бягучага часу... мінулася, і беларускія пісьменьнікі сьцісьлымі шэрагамі становяцца на службу рэволюцыі,“—констатуе нядвузначна тут крытык. Ноты радасьці, бодрасьці, веры ў будаўніцтва новага жыцьця пануюць, паводле думкі З. Жылуновіча, у беларускай літаратуры за 1926 год. Грунтам для гэтага літаратурнага оптымізму зьяўляецца „імпэтны ўздым будаўнічае працы, накапленьне матэрыяльных сродкаў рэспублікі, героічныя заваёвы подступаў да комунізму...“

Цэнтральнай тэмай другой часьці данага артыкулу зьяўляецца раскол „Маладняка“ і ўтварэньне групы „Узвышша“. Гэты раскол разглядае крытык як скутак натуральнае дыфэрэнцыяцыі ў „Маладняку“, ідэолёгічнае і мастацкае. І цікава адзначыць, што ў момант вострага полемічнага і організацыйнага змаганьня паміж „Маладняком“ і „Узвышшам“, калі ўжо былі пушчаны ў ход аргуманты далёка нелітаратурнага характару, З. Жылуновіч у даным артыкуле займае даволі об‘ектыўную і бесстароннюю позыцыю да абедзьвюх груповак. Так, разглядзеўшы вострапалемічны артыкул тады маладнякоўскага крытыка Тодара Глыбоцкага „Аб фальшы камэртонаў“, З. Жылуновіч робіць наступны вывад: „Калі верыць Тодару Глыбоцкаму, то настраёвы зьмест узвышаўцаў складаецца выключна з элямэнтаў—„плаксівасьці і формальнае бескаштоўнасьці, аднастайнасьці (Я. Пушча), нікчэмнага калупаньня ўнутры сваёй псыхікі і бясконцага, бязмэтнага блуканьня ў цеснай клетцы свайго індывідуальнага сьвету (К. Чорны), істэрычнае крыклівасьці (У. Дубоўка) і містыцызму (З. Бядуля)“. „Панашаму,—заключае З. Жылуновіч,—у гэтых сваіх вывадах крытык паддаўся суб‘ектыўнаму пачуцьцю і пад яго націскам нямерна згусьціў фарбы ў шкоду сапраўднасьці. Тым болей, што выпадкі адыходу ад бадзёрасьці і грамадзкага натхненьня да мотываў індывідуальнага сьвету трапляюцца заўжды і з кожным пісьменьнікам. Падобнае зьявішча можна адмеціць нават і ў саміх ідэолёгаў-маладнякоўцаў, як М. Чарот, М. Зарэцкі, А. Александровіч. Мы ўжо ня кажам аб Дудару, В. Маракову ці аб цэлым шэрагу іншых маладнякоўцаў, у якіх ноты суму зусім ня рэдкія госьці... У творчасьці абодвых памянёных аб‘яднаньняў амаль што роўна адбіваюцца ідэі пролетарскасьці ў

тым зьмесьце, на згуст якога даюць мажлівасьць беларускія ўмовы“— такава позыцыя З. Жылуновіча ў пачатку 1927 г. да змаганьня „Маладняка“ з „Узвышшам“. Позыцыя, як бачым, ня меніш сталая, чымся сымпатычная для кожнага, каму дарага беларускае мастацкае слова, яго разьвіцьцё і росквіт.

Пад канец таго-ж 1927 году З. Жылуновіч выступіў яшчэ з адным артыкулам-аглядам—„Беларуская літаратура і 10 год Кастрычнікавае рэволюцыі“. Першая частка артыкулу занята схэматычным аглядам беларускае літаратуры да Кастрычніка; затым крытык дае пераважна бібліографію літаратурнай продукцыі за 10 год, усюды і нязьменна падкрэсьліваючы бязупынны рост апошняе. Зноў пабежна спыняецца на літаратурных групоўках, але цяпер ужо выяўляючы сябе выразным прыхільнікам „Маладняка“ супроць „Узвышша“.

Цікавымі ў даным артыкуле зьяўляюцца радкі, прысьвячоныя часспісі „Полымя“; роля яе ў беларускім літаратурным жыцьці бясспрэчна вялікая, асабліва ў годы, калі яна была зьбіральніцай раскіданых літаратурных сіл, мастацкім і асабліва ідэолёгічным іх выхавальнікам. Не абмінуў тут З. Жылуновіч ізноў беларускае крытыкі, якая разьвівалася на працягу гэтых 10 год галоўным чынам на старонках „Полымя“. Пералічае тут выдатнейшых крытыкаў „Полымя“ (за выключэньнем самога сябе) і іх творы. Констатуе спробы зараджэньня марксыцкае крытыкі і верыць, „што яна неўзабаве запоўніць адведзенае ёй месца“. Канчаецца артыкул ўласьцівым наогул у крытыцы З. Жылуновіча глыбокаоптымістычным заключным акордам: „З вераю ў гэта на парог новага дзесяцілецьця беларуская літаратура ўступае рашуча і ўпэўнена“.

III

*Крытычная монографія*—побач з літаратурным аглядам займае ў крытыцы З. Жылуновіча выдатнае месца. Важнейшымі артыкуламі гэтага жанру зьяўляюцца: „У надзеях над прасторамі“ („Полымя“, 1924 год), „Купчастыя руні“ („Полымя“, 1926 год). „Я. Купала“ (збор твораў Я. Купалы, том I, і зборнік артыкулаў „Я. Купала ў літаратурнай крытыцы“), „Рэволюцыйным шляхам“ („Полымя“, 1928 г.). Дзеля браку месца спынюся пры разглядзе гэтага жанру толькі на двох апошніх артыкулах, як самых каштоўных і характэрных.

Монографія аб Я. Купале пачынаецца, як гэта ўласьціва і для літаратурных аглядаў З. Жылуновіча, з маляваньня фону грамадзка-палітычнага і культурна-нацыянальнага жыцьця на сходзе XIX і пачатку XX сталецьця на Беларусі. Тут крытык даволі ўдала нашчупвае вытокі творчасьці Я. Купалы, які „як-бы ў моц гістарычнае прымхі нараджаецца з полымя вялікае рэволюцыі, каб апаліць у ёй сваю музу і загартаваным выйсьці на няроўны шлях свае працы“. Далей крытык разгортвае схэматычна біографію поэта, прычым ён спыняецца выключна на тых фактах

яе, якія так ці інакш дапамагаюць раскрыць ідэолёгічную істоту Купальскае поэзіі; як правіла, у крытычных пабудаваньнях З. Жылуновіча біографія поэта ня грае самасобнае ролі. У гэтым сэнсе ён блізкі да марксыцкае літаратуразнаўчае школы Пераверзева. Галоўная задача, якую ставіць сабе З. Жылуновіч у сваіх крытычных монографіях, гэта ўстанаўленьне соцыолёгічнагага эквіваленту мастацкае творчасьці данага поэта, выяўленьне яго соцыяльнае існасьці, яго прыналежнасьці да тае або іншае соцыяльнае групы. Янка Купала, паводле З. Жылуновіча, „пасланец у літаратуру ад працоўнага сялянства, яго будучы баян і трубадур". Гэту тэзу ўгрунтоўвае крытык ня толькі біографічным матэрыялам, але і, галоўным чынам, аналізам мастацкае творчасьці поэта.

Ужо ў 1918 годзе, як вышэй адзначалася, З. Жылуновіч падкрэсьліваў оптымістычны характар Купальскае поэзіі. Гэту думку з асаблівай выразнасьцю разьвівае ў даным артыкуле. Вось як ён характарызуе паяўленьне ў сьвет „Жалейкі": „На „Жалейку" накінуліся, сталі чытаць з захапленьнем. Вершы яе гостра ўрэзваліся ў душу, будзілі надзеі, клікалі наперад, разьбіваючы цемру насеўшай рэакцыі. Кожнае слова зразумелае, выпуклае, ачулае біла молатам па струнах душы, прымушала іх гучэць бадзёрым тонам..."

У гэтай-жа монографіі З. Жылуновіч прабуе вызначыць у творчасьці Я. Купалы пэўны літаратурны кірунак. Ён констатуе ў поэта тэндэнцыю ў бок сымболізму. „У 1908 годзе, калі ён (Я. Купала) трапіў у Вільню і спаткнуўся з разгулам рэакцыі, якая няшчадна распраўлялася з астаткамі свабоды, уціскала духова ўсё перадавое, нельга было радыкальныя думкі ды ідэі выкладаць іначай, чымся сымболямі. Тым болей, калі гэтыя ідэі, як то было з Янкам Купалам, неабходна вярцеліся вакол аднаго—соцыяльна-нацыянальнага вызваленьня працоўнае Беларусі. Яму прыходзілася адшукваць параўнаньні разуменьняў і сымболізаваць іх". Як бачым, тут З. Жылуновіч сымболізм Я. Купалы бачыць не ў яго спэцыфічным сьветаадчуваньні, уласьцівым гэтаму літаратурнаму кірунку, і нават ня ў стылі, а ў алегорычнасьці некаторых твораў поэта. Падмена алегорыяй сымболю, зьмешваньне гэтых паняцьцяў—уласьціва не аднаму толькі З. Жылуновічу. Адсюль і беспадстаўнасьць даволі пашыранага ў беларускім літаратуразнаўстве погляду аб сымболічнасьці Купальскае творчасьці, выражанай нібы-то найбольш ярка ў яго драме „Раскіданае гняздо". Проф. Замоцін у свой час давёў неўгрунтаванасьць гэтага погляду [1]). Трэба наогул сказаць, што ўстанаўленьне літаратурнае школы ў творчасьці таго ці іншага поэта—слабое месца ў крытычных працах З. Жылуновіча. Недапушчальнае ўжываньне і блытаньне ім літаратуразнаўчае тэрмінолёгіі—пастаянная зьява. Узорык гэтае блытаніны знаходзім і ў даным артыкуле: „Янка Купала няўхільна падаваўся ў бок сымболізму. Слабыя

[1]) „Узвышша", 1927, № 1.

налёты яго ўжо выразна адзначаліся ў „Жалейцы“. Але дух эпохі рэволюцыйнага ўздыму, калі „Жалейка“ пісалася, разьвяваў сымболічны налёт. Ї першы зборнік зьявіўся романтычна-рэалістычным вобразам. Разьвіцьцю сымболістычнага напрамку ў творчасьці Я. Купалы дапамагала тагачасная політычная сытуацыя“. Усё тут звалена ў адну кучу—і сымболізм, і рэалізм, і романтызм. Ї гэта не адзіночнае месца ў крытыцы З. Жылуновіча.

Далей ён закранае пытаньне аб адносінах соцыяльнае і нацыянальнае стыхіі ў Купальскай поэзіі. Справа ў тым, што ў беларускай крытыцы былі спробы бачыць у Я. Купале пераважна нацыянальнага адраджэнца, захопленага ідэаламі толькі нацыянальнага вызваленьня Беларусі. З. Жылуновіч з імпэтам навальваецца на такі погляд: „Грунт Янкі Купалы,—чытаем у гэтай-жа монографіі,—вясковая, зрэбная Беларусь. Яна на яго вокліч, зразумелы, блізкі, давала „водклік“, найперш успрыняцьцем роднага слова, а пасьля вялікаю цягаю да. вызваленьня і будаўніцтва працоўнае рэспублікі. Так як-бы ні стараліся іншыя бачыць у Янку Купале выключна нацыянальнага адраджэнца, нельга ўлажыць творчасьці поэта ў гэтыя рамкі. Наадварот, усе мотывы аб „бацькаўшчыне“ прасякнуты наскрозь глыбокімі соцыяльнымі нотамі“.

Ужо ў „Жалейцы“, паводле думкі З. Жылуновіча, як мы вышэй бачылі, пераважае оптымістычны настрой. Ці не адышоў з часам поэта ад гэтага настрою ў бок пэсымізму, бязьвер‘я? Некаторыя дасьледчыкі беларускай літаратуры (проф. Піотуховіч) якраз бачаць такі адыход у зборніку „Гусьляр“. З. Жылуновіч з гэтым ня згодзен. Ён, наадварот, падкрэсьлівае, што ў часы страшэннае рэакцыі 1910—1911 г. г. „Янка Купала ўзносіўся высока над вакольным жыцьцём, кідаючы напевы сваіх бадзёрых, спадзейных песень. Радасны настрой, сягаючы да патосу, справодзіў яго неадменна пры напісаньні „Гусьляра“ і „Шляхам Жыцьця“. Паводле З. Жылуновіча, Я. Купала на працягу ўсяго свайго творчага шляху „заставаўся оптымістым, упэўненым у нямінучым прыходзе лепшых дзён“.

Зусім новы погляд выстаўляе тут крытык на адносіны Я. Купалы да Кастрычніцкае рэволюцыі. Мы памятаем, як у артыкуле „Беларускі парнас у новай вопратцы“ крытык бічаваў нашаніўскіх песьняроў за іх абыякасьць і халоднасьць у стасунку да Кастрычніка, ня робячы выключэньня і для Я. Купалы. Цяпер-жа крытыку ўся гэта справа, як відаць, прадстаўляецца іначай. „Янка Купала,—чытаем у разгляданай монографіі,—з адкрытай душой сустрэў гэты вялікі акт у жыцьці свайго народу (абвяшчэньне БССР); ён з радасьцю пакінуў Смаленск і паехаў у сталіцу свае рэспублікі. Пачуцьцё грамадзяніна не пакідала поэта... Зьліўшыся з мільённаю грамадой, ён сачыў, „каб абсевак ня кінулі дзе“. І далей крытык характарызуе Янку Купалу ўжо на фоне Кастрычніцкае пары: „Пясьняр адразу адгукаецца новай эпосе „Інтэрнацыяна-

лам“. Рэволюцыйнае пачуцьцё, пачуцьцё пераможнага народу дае яму вялікую сілу ды неахопнае натхненьне знайсьці тую жалезную моц і сьмелую глыбіню, якія набылі пад яго пяром зычныя словы міжнароднага гімну ў беларускім перакладзе. Поэта ўлажыў у свой пераклад дакладнасьць яго сэнсу і апогей урачыстасьці пачуцьця“... „Няхай думаюць іншыя, што Янка Купала не адгукнуўся як сьлед на вялікія падзеі Кастрычніка,—воля думаць, калі панікласьць іх зьбівае спанталыку. Мы трымаемся цьвёрдага погляду на поэта, як на пасьлядоўнага рэволюцыянэра, які наймоцна, найвыразна адбіў дух Кастрычніка ў беларускіх праламленьнях, як адбіваў дух папярэдніх эпох і рэволюцый...“ Калі нават крытык дазволіў сабе тут некаторае перавялічэньне, то, мне здаецца, усё-ткі ў меншай меры, чымся ён перавялічыў адмоўнасьці нашаніўцаў ў артыкуле „Беларускі парнас у новай вопратцы“.

Наогул, монографія аб Я. Купале мае значную каштоўнасьць, бо яна зьяўляецца фактычна першай спробай даць суцэльны портрэт найслаўнейшага беларускага поэта. Значэньне гэтае монографіі ў тым, што З. Жылуновіч даў удалую (праўда, не заўсёды) увязку важнейшых момантаў Купальскае творчасьці з сучаснай яму грамадзкай рэчаіснасьцю; ён-жа на працягу ўсёй монографіі ўгрунтаваў вельмі аўторытэтна тэзу аб глыбокім оптымізьме Купальскай поэзіі, аб яе грамадзкай актуальнасьці як у нашаніўскую пару, так і пасьля Кастрычніка. Недахопам монографіі зьяўляецца адсутнасьць у ёй аналізу мастацкага боку Купальскае поэзіі; выпадковыя заўвагі наконт гэтага пытаньня, як мы вышэй бачылі, зьяўляюцца не заўсёды трапнымі і правільнымі.

Найвялікшай крытычнай працай З. Жылуновіча зьяўляецца напісаная нядаўна монографія аб творчасьці М. Чарота. Гэта, бадай, самая вялікая крытычная монографія ва ўсім беларускім літаратуразнаўстве. Композыцыйнай асаблівасьцю данае монографіі і зьяўляецца адсутнасьць у ёй біографіі М. Чарота і разгляд яго творчасьці не тэматычны, а хронолёгічны, паводле паасобных твораў. Распачынае крытык са зборніку „Завіруха“. Гэты разьдзел, на мой погляд, найбольш бледны ў монографіі. Крытык тут стаў на вельмі няўдзячны (і ўстарэлы) шлях ілюстрацыі вершамі М. Чарота гісторыі рэволюцыі на Беларусі і адступіўся на момант ад свайго асноўнага мэтодолёгічнага прынцыпу, каб вярнуцца да яго ізноў у другім разьдзеле монографіі, прысьвячоным поэме „Босыя на вогнішчы“. Разьдзел ва ўсіх адносінах цікавы. Нават і стыль выкладу набывае тут асаблівай пераканаўчасьці і эмоцыяльнасьці. Стрыжнем гэтага разьдзелу зьяўляецца проблема пролетарскасьці поэмы. Даўшы поэме тэматычны і ідэолёгічны аналіз, паказаўшы яе і ў сьвятле крытычных ацэнак, З. Жылуновіч констатуе грамадзкую нявыразнасьць героя поэмы—босых. „Поэме не хапае зусім нямнога асобных рысаў, якімі-б выразнасьць босых стала яскравей і пауней. Увесьці-б аўтару гэтыя рысы, і тады далёка ясьнейшы выгляд мела-б і сама крытыка

твору. Але, ці знарок, ці па недагляду, поэта прапусьціў іх, і разуменьне яго босых, як клясавае катэгорыі, стала рознасэнсным"... Вельмі колёрытны аналіз даў крытык лірычнай поэме „Чырвоныя вясьнянкі". Гэтыя старонкі монографіі ў сэнсе стылю належаць да найпрыгажэйшага, што даў З. Жылуновіч у сваёй крытыцы. Справядлівую, хоць і залішне суровую, ацэнку даў крытык поэме „Чырвонакрылы вяшчун": „Поэме не хапае непасрэднага пачуцьця, якога хапае ў поэты, калі ён не адрываецца ад зямлі. Нацягнутасьць струн яго леры і адсутнасьць конкрэтнае апоры ў непасрэдным адчуваньні абветрываюць поэму. Перасычанасьць яе рэволюцыйнымі фарбамі і гучнымі эпітэтамі надаюць наварот на агітку"... Затое-ж крытык падкрэсьлівае ўдала падобранымі, хоць і не заусёды пераканаўчымі, аргумантамі вялікую ідэолёгічную і мастацкую вартасьць поэмы „Ленін". На яго думку, гэты твор зьяўляецца „значнейшым і багацейшым творам, прысьвячоным Леніну". „Поэма „Ленін" з мастацкага боку ня ўступае лепшым узорам беларускае літаратуры". Прааналізаваўшы далей поэмы „Марына" і „Карчма", З. Жылуновіч асабліва спыняецца на поэме „Беларусь лапцюжная", якая, паводле яго думкі, „па багацьцю радасных настрояў, па размаху бадзёрых напеваў, па рэволюцыйнай насычанасьці,—вельмі блізка падыходзіць да „Босыя на вогнішчы". „У „Беларусі лапцюжнай",—сьведчыць крытык,— М. Чарот ізноў падняўся на ўзровень выдатнейшых трубадураў нашае гістарычнае сучаснасьці. Гэта поэма зьяўляецца гімнам соцыялістычнай творчасьці і пэрлам у беларускай пасьлякастрычнікавай літаратуры". Слабейшым разьдзелам у монографіі зьяўляецца яе канец, прысьвячоны разгляду прозы М. Чарота. Тут З. Жылуновіч абмежаваўся ўстанаўленьнем яе тэматыкі і пераказам цэлага раду апавяданьняў. Праўда, крытык азначае падабенства Чарота-прозаіка да І. Бэхэра, Л. Сынклера і Джэк Лёндана. Але гэтай сваёй думкі ня ўгрунтоўвае ніякімі аргумантамі, чаму бадай ці варта яе браць у сур'ёз. Монографія аб М. Чароце мае падагульняючы характар, дапасоўна да 10-лецьця творчасьці поэта, і, як гэткая, зьяўляецца каштоўным укладам у скарбніцу маладой беларускай крытыкі.

## IV

Аб трэцім крытычным жанры, які займае ў працах З. Жылуновіча далёка менш месца, як два першыя, і якім зьяўляецца крытычная полеміка, можна меркаваць паводле двох наступных артыкулаў: „Аб крытыцы „Босыя на вогнішчы і яшчэ аб саміх „Босыя на вогнішчы" М. Чарота" („Полымя", 1922 г.) і „Шкоднае ў беларускай літаратуры" („Полымя", 1927 г.). У першым артыкуле З. Жылуновіч полемізуе з проф. Ігнатоўскім і тав. Кнорыным па пытаньні аб пролетарскасьці поэмы. Полеміка вытрымана ў жывым і тэмпэрамантным тоне, не пазбаўленым месцамі вастрыні і досьціпу. Прыём

полемікі,—выявіць на падставе цытат з артыкулаў сваіх опонэнтаў супроцьлежнасьць паміж імі, погляды аднаго нэўтралізаваць поглядамі другога, каб на гэтым пабоішчы выставіць і ўгрунтаваць сваю ацэнку. Гэты прыём полемікі даволі ўдала праведзен З. Жылуновічам праз увесь артыкул. Крытыка проф. Ігнатоўскага разьбіваецца крытыкай т. Кнорына, якая ў сваю чаргу, аслабленая такой бойкай, разьбіваецца крытыкай З. Жылуновіча. Другім прыёмам полемікі яго зьяўляецца адшукваньне супярэчнасьцяй ў свайго опонэнта. Прычым тут наш крытык праяўляе значную спасьцерагальнасьць у абсягу лёгічнае пасьлядоўнасьці. Варта толькі яго праціўніку дапусьціць, не скажу нават непасьлядоўнасьць, а толькі двузначнасьць або нявыразнасьць, як З. Ж. нязьменна заўважыць гэта і выкарыстае для сваёй мэты. Яго полеміка не пазбаўлена і рыс азартоўнасьці, у рэзультаце чаго ім дапушчаюцца часамі нават адвольныя ці мімавольныя, „перадзержкі“. На гэту ўласьцівасьць крытычнае полемікі З. Жылуновіча паказаў быў адзін з крытыкаў тае-ж поэмы „Босыя на вогнішчы“ [1]). Полемічны стыль Ж. З., як правіла, зьяўляецца лёгкім, эмоцыянальным і набывае часта фразэолёгічную трапнасьць.

Другі артыкул—„Шкоднае ў беларускай літаратуры“—уласна не зьяўляецца чыста полемічным. Яго першая палова бліжэй да літаратурнага агляду, чымся да крытычнае полемікі. Тут крытык спыняе галоўную ўвагу на адносінах організацыі „Маладняк“ і паасобных яе членаў да старэйшых пісьменьнікаў-нашаніўцаў, востра крытыкуе нелітаратурныя прыёмы, якія дазвалялі сабе ўжываць некаторыя члены „Маладняка“ ў змаганьні з старым пакаленьнем пісьменьнікаў. Другая палова артыкулу мае востра-полемічны характар і прысьвячона аб‘яднаньню „Узвышша“. Асаблівасьць крытычнае полемікі ў гэтым артыкуле ў параўнаньні з першым тая, што там об‘ектам полемікі быў літаратурны твор, а тут роль об‘екту іграюць пытаньні ідэолёгічна-організацыйнага характару і асабістых узаемаадносін. Адсюль і некаторая розьніца ў прыёмах і стылі полемікі.

---

Апрача разгледжаных жанраў у крытыцы З. Жылуновіча выдатнае месца займае рэцэнзія. Уласьціва кажучы, рэцэнзія прадстаўлена ў яго куды больш багата і разнастайна, чымся крытычная полеміка. Але ён свае рэцэнзіі, як правіла, падпісвае псэўдонімамі і пры тым амаль у кожным паасобным выпадку рознымі. Гэта зьяўляецца прычынай таго, што я ў даным артыкуле ня спыніўся спэцыяльна на гэтым крытычным жанры, бо мне прышлося-б раскрываць псэўдонімы аўтара; значную перашкоду становіць і раскіданасьць рэцэнзій па розных газэтах і часопісах.

Падагульняючы сваю спробу клясыфікацыі і некаторай характарыстыкі крытычных жанраў З. Жылуновіча, констатую наступнае: а) мэтодолёгічным прынцыпам у яго крытыцы зьяўляецца разуменьне літаратур-

[1]) „Полымя“, 1923, № 2.

нага мастацтва як фактару жыцьцябудаўніцтва. Каштоўнасьць мастацкага твору, паводле крытычнае мэтоды З. Ж., знаходзіцца ў проста-пропорцыянальнай залежнасьці ад таго, які ўплыў даны твор мае на грамадзкае жыцьцё; з пункту погляду гэтага прынцыпу перш за ўсё робіць З. Жылуновіч свае літаратурныя ацэнкі; б) бадай усе крытычныя жанры З. Жылуновіча адносяцца да публіцістычнае крытыкі; в) формальна-эстэтычныя ацэнкі, хоць і спатыкаюцца сям-там у яго крытыцы, то, як правіла, носяць догматычны, няўгрунтованы ніякімі аргумантамі характар; г) біографічны, псыхолёгічны і стылістычны моманты ў яго крытычных працах зьведзены да мінімуму; д) тэндэнцыя ў бок маляўнічасьці літаратурнага аформленьня сваёй крытыкі (у ранейшых артыкулах у большай меры, у пазьнейшых у меншай); е) невыстарчальнасьць навуковае эрудыцыі ў крытыка-гістарычных экскурсах; ж) неазначанасьць і блытанасьць ужываньня літаратуразнаўчае тэрмінолёгіі; з) невыстарчальнасьць угрунтаванасьці ў вызначэньні літаратурных кірункаў у творчасьці разгляданых поэтаў; і) што датычыць морфолёгіі крытычных жанраў З. Жылуновіча, то трэба адзначыць наступнае: 1) як літаратурны агляд, так і крытычная монографія звычайна пачынаюцца даволі пашыраным уступам, у якім крытык разгортвае фон грамадзка-экономічнага і культурнага жыцьця ў пэўны гістарычны адрэзак часу на пэўнай тэрыторыі; толькі на такім фоне пачынае аналіз і ацэнку літаратурных зьяў і фактаў; 2) ва ўсім далейшым выкладзе крытык стараецца кожную разгляданую літаратурную зьяву паставіць у сувязь з разьвіцьцём грамадзка-экономічных форм рэчаіснасьці, сучаснае данай зьяве; 3) частае падмацоўваньне сваіх думак цытатамі з пісьменьнікаў; 4) у літаратурных аглядах перавага тэматычнаму, а ў монографіях—хронолёгічнаму мэтоду разгляду літаратурнага матэрыялу; 5) у абодвух жанрах нязьменна бодрая оптымістычная канцоўка; 6) дапасоўнасьць стылю (асабліва ў сэнсе яго эмоцыянальнасьці) да характару разгляданага твору.

Зразумела, вышэйшыя радкі ані ў якім разе не павінны разглядацца, як вычэрпваючая характарыстыка крытыкі З. Жылуновіча. Я ў даным артыкуле імкнуўся больш паставіць проблему вывучэньня данага пытаньня, чымся яго разьвязаць.

10 лістапада 1928 г.

# ТВОРЧАСЬЦЬ МАЛАДНЯКОЎЦАЎ

## Максім Гарэцкі

### *I. Аркадзь Моркаўка*

Аркадзь Моркаўка нарадзіўся 26 студзеня (ст. ст.) 1900 г., у вёсцы Зазер'е, 15 вёрст ад м. Рудзенску, на Чэрвеншчыне. Бацька—селянін, быў будачнікам на чыгунцы. Скончыўшы пачатковую школу, далей вучыцца ня меў сродкаў. З 1916 па 1924 г. служыў на чыгунцы. З 1922 г., служачы, ён разам і вучыўся ў рабочым тэхнікуме ў Менску. З 1924 г. вучыўся ў віцебскім электро-мэханічным тэхнікуме, які і скончыў у 1927 г. Цяпер (1928 г.) працуе ў палаце мерак і вагі ў Менску.

З беларускаю літаратураю Моркаўка пазнаёміўся яшчэ за царскім рэжымам, у 1912-13 г., калі нейкі час вучыўся ў вясковай школе разам з дзецьмі зазерскага аконама, братам і сястрою Буйламі. Яны далі яму цэлы пук газэт „Наша Ніва", якая зрабіла на яго, як цяпер сам успамінае, вялізнае ўражаньне. Вершы М. Багдановіча і Я. Купалы далі яму імпэт да першых літаратурных спроб. З расійскіх поэтаў асабліва любіць А. Блока. „Апрача літаратурнай працы, шмат энэргіі аддаў на працу ў літаратурнай студыі Віцебскай філіі „Маладняка". У ей А. А. вёў заняткі па поэтыцы і беларускай літаратуры" [1]).

Першая друкаваная рэч Аркадзя Моркаўкі—верш „К новаму году", зьмешчаны ў „Вольным Сьцягу", № 1, за 1922 г. З 1923 г. яго вершы друкуюцца ў „Полымі", потым—у „Маладняку" і ў розных газэтах. Творчая продукцыя ішла ў яго вельмі няроўна. У 1922 і 1923 г. ён напісаў некалькі вершаў. У 1924 г.—нічога не напісаў. У 1925 г.—зноў некалькі вершаў, а ў 1926 г.—зноў нічога, ніводнага вершу. Найболей напісаў у 1927 г. Мала і з вялікімі перапынкамі піша ён, між іншым, з прычыны цяжкіх умоў жыцьця: быў нейкі час бяз працы, кватэра ў яго маленькая, а сям'я вялікая, цесна, тлумна—няма ні часу, ні спрыяючых умоў для творчасьці.

Цяпер, улетку 1928 г., вышаў першы зборнічак яго выбраных вершаў пад назваю „Дым жыцьця".

Крытыка мала дапамагала Аркадзю Моркаўцы. Аб яго творчасьці пісаў толькі З. Жылуновіч (артыкул „Купчастыя руні" („Полымя", № 2, 1926 г.) і два рэцэнзэнты: П. Фралоў (рэцэнзія па зборн. Віцебскай

[1]) М. Касьпяровіч. „Вывучэньне віцебскай літаратуры і мастацтва" („Маладняк", № 6, 1927 г.).

філіі „Маладняка“ „Пачатак“, у „Аршанскім маладняку“, № 6, 1927 г.) і А. Гародня (рэцэнзія на „Дым жыцьця“ у „Маладняку“ № 8, 1928 г.).

Аркадзь Моркаўка—інтэлігент сялянскага пахаджэньня, узрос без асаблівае блізкасьці да рабочае асярэдзіны і рэволюцыйнага руху, шчыра праняўся матэрыялістычным сьветаглядам, але ня мог шырока і глыбока разьвіць яго ў сабе праз адукацыю; літаратурна разьвіваўся пад уплывам нашаніўства і выпадкова, бяссыстэмна чытаных расійскіх аўтараў, як Блок, Брусаў, Бунін (у вершах), з запалам аддаў свае маладыя сілы соцыялістычнаму будаўніцтву ў Савецкай Беларусі, але мусіў цярпліва зносіць розныя недагоднасьці жыцьця, як савецкі служачы, нейкі час беспрацоўны,—і гэтым вызначаюцца межы, у якіх знаходзяцца зьмест яго творчасьці.

Рэцэнзэнт П. Фралоў пералічае такія галоўныя мотывы ў вершах Моркаўкі, зьмешчаных у зборніку Віцебскай філіі „Маладняка“ „Пачатак“: соцыяльнае змаганьне („Крык вуліцы“), заклік да соцыялістычнага будаўніцтва („Працуй“, „Сьцены“), успаміны аб грамадзянскай барацьбе, захапленьне адраджэньнем бацькаўшчыны. Рэцэнзэнт П. Фралоў кажа, што ў Моркаўкі „ёсьць поўная сугучнасьць мотываў, адпавядаючыя сучаснасьці, бадзёрасьць“... Ён кажа: „Аосбна стаіць верш „Я жыў“, дзе поэта разважае над ідэяй колазвароту сьвету, але і тут ён бадзёры“... [1]).

Рэцэнзэнт А. Гародня піша: „У сваіх вершах Моркаўка адбівае і свае індывідуальныя настроі, і розныя выдатныя здарэньні грамадзкага жыцьця—рэволюцыя, забойства Сако і Ванцэці, індустрыялізацыя краіны, будаўніцтва, паўстанчы рух і г. д. Чыстая лірыка, асабістыя перажываньні, часам з водценьнем псыхолёгізму, таксама займаюць у творчасьці Моркаўкі выдатнае месца. Наглядаецца часам імкненьне аўтара ўвайсьці ў глыб сваіх унутраных перажываньняў. Пэўная частка вершаў пабудавана на эмоцыянальных адносінах да рачаіснасьці, адчуваецца нейкі, часам беспрадметны, мэлянхолічны сум; у другіх вершах—наадварот,—глыбокі, філёзофскі падыход да тых ці іншых жыцьцёвых зьяў, даюцца інтэлектуальныя, разумовыя адносіны песьняра да ўсяго навакольнага, часам—наглядаюцца спробы філёзофскага іх абагульненьня“. Рэцэнзэнт А. Гародня зазначае, што „некаторыя вершы Моркаўкі—бязумоўна не для мас, некаторыя з іх занадта складаныя і заблытаныя як у сэнсе формы, так і ў сэнсе зьместу“ [2]).

Паказаная характарыстыка ідэолёгічнага зьместу ў творчасьці Аркадзя Моркаўкі—зусім правільная, прынамсі, у сваіх агульных рысах. Застаецца толькі падкрэсьліць некаторыя моманты.

Бязумоўна, Аркадзь Моркаўка ў сваёй творчасьці—інтэлігент, з нахілам да філёзофскіх разважаньняў, да сымболічных вобразаў і да клясычнае формы ў вершаскладаньні. Ён нават піша верш: „Краса, краса!

[1]) „Аршанскі маладняк“, № 8, 1927 г., стар. 63.

[2]) „Маладняк“, № 8, 1928 г., стар. 82—83.

табе мой сьпеў!“ („Дым жыцьця“, стар. 47). Тымчасам, поэта не забываецца на клясавае змаганьне і на сваё пахаджэньне „з вясковае галоты“. У адным лепшым сваім вершы ён піша аб сабе так:

Я ня маю роскашы чырвонцаў,
Не заўсёды нават маю медзь,
Не ваджу я залатога сонца,
Каб цябе, мой край, агнём сагрэць.
Але маю ў сэрцы звоны веча,
Але маю пчолак-песень рой,
Што падслухаў у калядны вечар,
Што зьбіраў я роснаю зарой.
Ды і гэта я аддам балотам,
Ды і гэта я пушчу ў аўсы;
Хай паслухае вясковая галота,
Аб чым звоніць яе брат і сын.

На жаль, аднак-жа, творчасьць Аркадзя Моркаўкі, як яна выяўлена ў зборніку „Дым жыцьця“ і як А. Гародня зазначыў толькі наконт некаторых вершаў, бязумоўна, ня можа быць зусім сваёю, блізкаю і роднаю ў балотах, аўсох і ў сэрцах вясковае галоты. Лірыка яго, сапраўды, такая часам індывідуалістычная, такая туманна-філёзофская і наогул такая выкручаная ў мотывах, вобразах і проста зваротах мовы, што ня можа быць лірыкаю ня толькі для вясковае галоты ці гарадзкога рабочага, але і для звычайнага савецкага служачага. Гэтая лірыка—хіба для тых толькі „братоў і сыноў вясковае галоты“, якія вучыліся на вершах Блока, Буніна, Багдановіча і Купалы, але ня здолелі яшчэ скінуць з сябе іхныя ўплывы і стварыць нешта зусім новае, сваё, рабоча-сялянскае як у зьмесьце, так і ў форме, і пролетарскае ня толькі ў фразэолёгіі, а ва ўсёй сваёй сутнасьці. Трэба зрабіць пэўнае тлумачэньне, каб не пакрыўдзіць сьляпых ушанавальнікаў Багдановіча і Купалы, асабліва Купалы. Купала—самы блізкі беларускім народным масам поэта, але не ва ўсёй сваёй творчасьці. Аркадзь Моркаўка насьлядуе Купалу якраз у той часьці яго творчасьці, якая бліжэй да індывідуалістычна-інтэлігенцкіх настрояў, чым да настрояў сялянска-масавых. Аркадзь Моркаўка імкнецца да колектывізму, але покуль што больш застаецца сам з сабою, а сам з сабою ён—даволі мінорна настроены інтэлігент, з нахілам да псыхолёгізму, рэфлексій, углыбленьня ў сябе, да мэлянхоліі („мэлянхолічнага суму“—паводле А. Гародні), да філёзофскіх развважаньняў, праз якія хоча ён, як відаць, знайсьці прымірэньне з жыцьцём...

Самы галоўны мотыў, так сказаць, ідэолёгічная аснова ў творчасьці Аркадзя Моркаўкі, гэта—зусім не змаганьне, як піша рэцэнзэнт П. Фралоў, уводзячы ў падман савецкага чытача [1]), а філёзофскія развважаньні на тэму аб тым, што няма нічога вечнага на гэтым марным сьвеце, але шка-

[1]) „Аршанскі маладняк“, № 6, 1927 г., стар. 63.

даваць ня варта, трэба жыць і знаходзіць імпэт да жыцьця хоць-бы ў гэтай філёзофіі прыціснутага вечнасьцю. Бачыце, у гэтым ёсьць сваё хараство

Мы рассыплемся яскравым пылам,
Зорным пылам зьнікнем ля дарог.

Так піша Аркадзь Моркаўка ў першым, так сказаць, програмным вершы „І раней гадзіны звоным стылі“... (стар. 7), пад якім стаіць дата 1-XII—1927 г., і ў шмат якіх іншых вершах у зборніку. З такім падыходам піша ён нават аб сьмерці Сако і Ванцецці (туманны верш „Паў на калені дзень“, стар. 11). З такім падыходам піша ён нават аб адносінах між горадам і вёскаю, між фабрычным рабочым і селянінам-земляробам (верш „Завівайцеся, дымы заводаў“, стар. 12). З падобным падыходам пяе поэта нават аб каханьні, аб адносінах да каханае жанчыны. Скрозь у яго—філёзофія, праз якую імкнецца ён знайсьці сэнс і хараство ў жыцьці ўсяе прыроды і чалавека, імкнецца прыняць і ўславіць процэсы жыцьця такімі, якія яны ў сваім асноўным былі, ёсьць і будуць,—але, пэўна-ж, ён стаіць за ўсё тое, што вядзе чалавецтва далей наперад, стаіць за клясавае змаганьне, за пролетарыят і г. д., і г. д.

І каб не засталося ў каго-небудзь няправільнае ўяўленьне аб творчасьці Моркаўкі з ідэолёгічнага боку, трэба падкрэсьліць таксама і тыя вершы ў яго зборніку, у якіх найбольш выразна выяўляецца яго клясавае пачуцьцё, калі ня поўная клясавая ідэолёгічная ўгрунтаванасьць, яго зусім здаровы імпэт да змаганьня з клясавым ворагам. У некаторых яго вершах, папершае, шмат непасрэднай радасьці жыцьця, бадзёрасьці, як гэта слушна адзначыў рэцэнзэнт П. Фралоў (вершы „Дзень“, „Накрыліся хаты“ ды інш.). У Савецкай Беларусі гэтая радасьць можа быць толькі ў чалавека пролетарскае ідэолёгіі. А ў вершы „Крык вуліцы“, ён піша:

Над намі кпілі, зьдзек над намі
Тварылі ўсе, забыўшы грэх.
Цяпер мы робім над панамі
Апошні суд, суд не на сьмех... (Стар. 33).

У вершы „З дарогі“ поэта ўцяшаецца, убачыўшы ў вёсцы арку, што засталася пасьля сьвяткаваньня 1-га мая. Ён бачыць, як цяжка залячыць старыя раны і рабіць новае, соцыялістычнае, будаўніцтва, ён не баіцца паказаць і недахопы. Але разам з тым ён добра бачыць і новае. Характэрныя радкі:

Вось і школа, дзе дзірак нямала,
Як нямала й бязногіх сталоў,
Толькі з сьцен пазірае Купала
На капу маладняцкіх галоў. (Стар. 43).

І поэта канчае верш так:

Але новыя песьні зьвіваюцца,
Ды сасоньнік узьняўся другі,
Ды са твараў сялянскіх змываюцца
Кросны доўгай сялянскай тугі. (Стар. 44).

Рэцэнзэнт П. Фралоў піша: „Мастацкія сродкі Моркаўкі самыя звычайныя—няма новых вобразаў. Не пазбаўлены ён і старых маладнякоўскіх выкрутасаў, зьбітых вобразаў: „крынічыць“, „кудзеліць“, „пенны“ і інш. Не ўдалася яму і алітарацыя:

А родны рады росны ложак
Ускіне ўгору сотні моў—

і незразумела і груба[1]). Трапна зазнаючы ўплывы „выкрутасаў“, добра падаўшы незразумелы вобраз у гэтых двух радкох вершу, П. Фралоў робіць тымчасам вялікую памылку, думаючы, што мастацкія сродкі ў Моркаўкі самыя звычайныя і што ў яго няма новых вобразаў. Якраз самая моцнае ў творчасьці гэтага поэты — вобраз і фраза. Тут ён узьлятае часам вельмі высока. Але-ж у гэтым, праўда, бываюць у яго і галоўныя недахопы: у вобразе і фразе ён часам нізка валіцца. Я гэта тлумачу тым, што ён увесь час шукае і стараецца даць моцны вобраз і моцна збудаваную фразу, але не заўсёды добра разьлічае на свае сродкі, на сваё штукарства ў слове, і таму, паклаўшы шмат стараньняў, мае ўсё-ж ткі не належныя вынікі. Гэтым, праўда, абясцэньваюцца шмат якія вершы ў зборніку. Гэта, так сказаць, „лыжка дзёгцю ў бочцы мёду“—ад лішняга апрацоўваньня формы, ад мэханічнае працы, ад працы бяз тых ужо эмоцый, якія былі ў поэты, калі ён пісаў верш, і якія, быць можа, зноў зьяўляліся ў яго, калі ён пачынаў апрацоўку, але, не рэалізаныя ў невялікі працяг часу, слаблі і зусім зьнікалі, пакідаючы вобраз шурпатым у агульнай гладкасьці. Гэта яшчэ неспрактыкаванасьць мастака, які тымчасам ставіць сабе вельмі цяжкія заданьні, вельмі шмат вымагае ад сябе з боку формы. Трэба пажадаць, каб усе нашы маладнякоўцы так адносіліся да формы сваіх твораў, як гэта робіць Аркадзь Моркаўка, але трэба пажадаць ім таксама, каб яны ведалі псыхолёгію творчасьці і тую тэхніку працы, якая была патрэбна нават самым вялікім мастаком. Ня можна вылучваць з сябе арыгінальную форму, калі даўгая мэханічная праца аслабіць або зусім зьнішчыць уздым патрэбных эмоцый.

Можна цалком згадзіцца з А. Гародняю, калі ён піша: „У сэнсе формы ў творчасьці Аркадзя Моркаўкі адчуваецца некаторы ўплыў экспрэсіянізму ды імажынізму; апошняе выразна выступае ў сыстэме пабудовы вобразаў, якія, між іншым, у Моркаўкі часта бываюць вельмі моцныя і вельмі сьмелыя[2]). Няўдалыя вобразы ў Аркадзя Маркоўкі А. Гародня тлумачыць „памылкамі“. Правільна зазначае А. Гародня ў вершах Аркадзя Моркаўкі і „ня зусім здаровы ўхіл у бок мяшчанскага эстэтызму, у псэўда-клясычным стылі[3]), толькі ня зусім надаюцца тут тэрміны „мяшчанскі эстэтызм“ і „псэўда-клясычны стыль“. Я сам ня ведаю,

[1]) „Аршанскі маладняк“, № 6, 1927 г., стар. 63.

[2]) „Маладняк“ № 8, 1928 г., стар. 83.

[3]) Там-сама.

як лепей было-б гэта назваць, але справа-ж тут, бязумоўна, не ў мяшчанстве, як зазвычаена яго ў нас разумець, і ня ў „псэўда“,—а хутчэй у „нэо“-клясычным стылі. Гэта ўсё—неператраўленая як мае быць спадчына і ўплывы ад Блока, Брусава, Буніна, Багдановіча, Есеніна ды інш. Уплываў і практыкаваньняў яшчэ поўна ў творчасьці Аркадзя Моркаўкі, але ёсьць у яго і ўжо свой, зусім самабытны шлях у маладой беларускай поэзіі, і, бязумоўна, Аркадзь Моркаўка выяўляе ў поэзіі сучаснага маладняка адну з асобных плыняй, але яшчэ цяжка назваць гэтую плынь зусім акрэсьлена. Гэта не народна-романтычная плынь, як у Паўлюка Труса; гэта не рэволюцыйна-романтычная плынь, як у Звонака, Фаміна і шмат у каго з іншых маладнякоўцаў; гэта не футурыстычныя практыкаваньні, што заўважаліся пэўны час у Відука; гэта і не пачаткі конструктывізму, якім пачынае захапляцца цяпер М. Хведаровіч. Найбліжэй, паводле некаторых асаблівасьцяй, стаіць Аркадзь Моркаўка да Валерыя Маракова і Ізраіля Плаўніка.

Аркадзь Моркаўка—праўдзівы поэта, праўдзівы мастак вобразаў і слоў. Глібынёю думкі, нахілам да філёзофскіх разважаньняў яго вершы нагадваюць творчасьць Багдановіча, Дубоўкі, часткова Купалы, Гаруна ды інш. поэтаў. Гэта—вельмі сур‘ёзны поэта, вельмі дарослы ў сваіх поглядах на жыцьцё, хоць часам і памылковых і не сваіх для нашае эпохі. Орыгінальнасьцю ў форме вобразаў яго вершы таксама нагадваюць Багдановіча, Дубоўку, Купалу, Пушчу, але ён ужо даволі таксама самабытны мастак. Няўдалых вобразаў і зваротаў, што А. Гародня называе памылкамі, хібамі і „поэтычнымі вольнасьцямі“, у яго, праўда, шмат. А. Гародня дае прыклад:

Ой за вольнасьць сьвету разьбяры ў тумане,
Разьбяры заснулі у тумане чорным. (Стар. 10).

Мусіць, поэта хацеў сказаць слова „заснулі“ ў сэнсе „памерлі“, а то выходзіць недарэчнасьць. І яшчэ прыклады няўдалых месцаў, паводле А. Гародні: „*прастру* любоў“ (стар. 18), „узьняла на шмат *паверх*“ (86), „аддыха“ (45). Каб дапамагчы поэце, я, з свайго боку, зьвярну яго ўвагу на такія няўдалыя, на мой погляд, вобразы:

Я сэрца слухаю. І, здэцца, мора жыта
Пад латамі рабёр—пад небасхілам сінім. (Стар. 22).

Ну, што-ж гэта за сіні небасхіл і мора жыта ў вантробе? І яшчэ у вельмі поэтычным наогул вершы „Ноччу“:

Цемру начную я здужаю, здужаю,
Здужаю ведзьмаў-кабет. (Стар. 41).

Хоць тут вялікага крыміналу няма, але калі вы называеце ведзьмаў кабетамі, дык дужацца з імі мужчыне—далёка не поэтычны занятак, у кожным разе—занятак сьмешны. У трэцім месцы, апісваючы сьветлы радасны дзень (верш „Дзень“), поэта кажа, што дзень гэты самы—

То гамонкаю радаснай школаў
Аплятае сады, бы павук.

Ня ведаю, можа, у мяне пэўная адсталасьць у няпрыхільнасьці да павукоў, можа—пэўная асоцыяцыя пасьля чытаньня брошуры „Павукі і мухі“, але неяк не падабаецца параўнаньне, што радасная дзіцячая гамонка аплятае сады, як павук.

А тымчасам, удалыя вобразы ў Аркадзя Моркаўкі ідуць скрозь праз увесь зборнік; няўдалых у параўнаньні з імі вельмі мала. Поэта ўмее сказаць у вершы „Я сэрца слухаю“:

Між поўных каласоў, пяшчотны, ціхі, кволы,
Застыў і васілёк—блакітны дар красе.
Бы нітку доўгую, зьвіваюць песьню пчолы,
І ён жартліва ім галоўкаю трасе. (Стар. 22).

Або ў вершы „Я цалаваў жанчын і марыў“:

Гады лажацца мяккім пылам
На кволы сьлед пярэйдзеных дарог.
Што маладосьць калісьці сьніла,
Зьмёў венік дзён у яму за парог. (Стар. 26).

Або ў вершы „Квяцісты палісаднік ран і болек“:

Аднэй рукой пушчаем к небу птушак,
Другую сунем гідка ў твань,
І копы матылькоў прыгожых тушым,
А самі прагнем характва... (Стар. 30).

Або ў вершы „Ноччу“:

Месячык цэдзіць праз сіты праменьні
На грамаду камяніц.
Месячык блытае кволыя цені,
Хіліць маўкліва іх ніц. (Стар. 41).

Гэта—што да будаваньня і наогул формы вобразаў. У погляде на вобразнасьць Аркадзя Моркаўкі П. Фралоў, бязумоўна, вельмі памыліўся. Але П. Фралоў у поглядзе на мастацкія сродкі поэты мае пэўную рацыю, калі закрануць строфіку, мэтры і рытмы, а таксама рыфмаваньне. Блізу ўсюдых у вершах Аркадзя Моркаўкі пануе чатырохрадкоўе, мэтры і рытмы даволі звычайныя, хоць верш, аднак-жа, даволі музычны, рыфма—таксама звычайная, часам спатыкаюцца пажаданыя ў наш час асонансы і алітарацыі.

Недахопы—і вялікія—у Аркадзя Моркаўкі: 1) недакладнасьць выразаў, 2) граматычныя няправільнасьці, 3) некаторыя ня вельмі мілагучныя месцы.

Недакладнасьць выразаў робіць часам яго верш незразумелым, хоць вобраз сам па сабе і зразумелы і даступны.

Паў на калені дзень... Як шэпты ціхіх лоз,
Узьнятыя растаць, пыліцца у вадзе,—
З душы трывожнае з трывогай дня сплыло. (Стар. 11).

Незразумелае месца. Аўтар хацеў сказаць, што шэпты ўзьняліся, каб растаць, распыліцца ў вадзе, а хто гэта лёгка зразумее? Такіх недакладнасьцяй у Моркаўкі шмат, яны і псуюць яго поэзію.

Граматычныя няправільнасьці спатыкаюцца даволі рэдка, але псуюць справу ня менш, чым недакладнасьці. Поэта піша:

Гэта песьня ціхаму канцу
І мяжы гадзінам і загонам,—
Абарвецца залаты ланцуг
І рассыплецца далёкім звонам. (Стар. 14).

Можа тут друкарская памылка, што няма косак пасьля слоў: „мяжы“, „гадзінам“. А калі памылкі няма, дык аўтар хацеў, мусіць, сказаць: „І мяжы гадзін і загонаў“, але дапусьціў няправільнасьць, ужыўшы давальны склон замест роднага.

Потым, ён піша слова „мора“ ў множным ліку з націскам на канцы— „мары“ (стар. 8). Адразу не зразумець:

Шмат пераж ыта на гонях,
Помнім чужыя дары...
Нас ля труны ня прыгоняць
Край свой прадаць за мары!

Нягучныя месцы ў Моркаўкі найчасьцей бываюць ад дрэннага ўжываньня гуку і.

І сьвячамі-соснамі,
Й маладосьцю губ —
Вечарамі роснымі
Убірала шлюб. (Стар. 17).

Мімаходам кажучы, вобраз „сьвячамі-соснамі“ нагадвае адзін вобраз у Дубоўкі, толькі там, здаецца, кіпарысы, што лепей. Ёсьць нешта і ад Купалы: „Чвыр прыгаруніў“ (стар. 38). Уплывы добрыя і для маладога поэты зразумелыя і дапушчальныя.

Мімаходам-жа і пра мову. Яна ў Моркаўкі наогул добрая, вельмі рэдка—расіянізмы ў слоўніку: радам (=побач, 15, 35), калясом (=колам, 42), на ём (=на ім, 46). Чвыр (=жвір), палі (=віткі, вехі) трэба разглядаць, як паветалізмы, якія, можа, яшчэ і ня зусім прышчапіліся ў літаратурнай мове, хоць спатыкаюцца і ў іншых нашых поэтаў з паўднёвай Меншчыны, Случчыны, Бабруйшчыны.

*Вывады.* Аркадзь Моркаўка—адзін з самых моцных поэтаў спаміж літаратурнае моладзі. Яго моц—у вобразе, філёзофскім ухіле і стараннай апрацованасьці вершу. Але яму трэба наблізіць сваю вобразнасьць да вобразнасьці мас, а сваю філёзофію да сучаснасьці. Трэба зьвярнуць увагу на мэтры, рытмы і строфіку. Розныя шурпатасьці ў форме зьнікнуць з далейшым ростам поэты.

## II. Янка Ліманоўскі

Нарадзіўся 23 сакавіка (ст. ст.) 1896 г. ў в. Доўгія, тры вярсты ад м. Відзы, на ўзьмежках Беларусі з Літвою. Бацька—вясковы каваль. Да 19 год Янка працаваў на гаспадарцы і ўчыўся. Скончыўшы міністэрскую школу, ён яшчэ трымаў экстэрнам выпыты за рэальную

школу. Потым быў у старой арміі (1915-1917 г. г.), у Чырвонай арміі (1919-1920 г. г.), а пазьней працаваў на розных політыка-асьветных пасадах. Рэдагаваў газэты. Беларускі дзярж. унів., куды паступіў на юрыдычны аддзел, ён пакінуў, ня маючы ахвоты працаваць у судовай галіне. Цяпер Ліманоўскі—адзін з кіраўнікоў Маладняка.

---

Першае апавяданьне, ці, лепей кажучы, аповесьць—„Адшуканы скарб" (друкавалася ў „Полымі" № № 1 і 3 за 1925 г.). Потым напісаў аповесьць „Дзьве пуціны" (друкавалася ў „Полымі" № № 1, 3 і 4 за 1926 г.). Цяпер (1928 г.) друкуецца ў „Полымі" яго роман „Над абрывам". Апрача таго, друкаваліся яго драбнейшыя рэчы, у прыгодніцка-гераічным жанры, з жыцьця на фронце ў „Савецкай Беларусі" ды іншых выданьняў.).

---

У аповесьці „Адшуканы скарб" апавядаецца аб тым, як загадчык народнае асьветы Міхась Дуброўка, пакінуўшы сваю каханую дзяўчыну Галю, пайшоў на вайну з белапалякамі, выпадкова адбіў з чырвонаармейцамі ў дарозе нязвычайна вялікі скарб, але застаўся адрэзаным ад сваіх і схаваў яго ў мазырскіх лясох, потым цярпеў страшэнныя зьдзекі ў палоне, быў прыгавораны да пакараньня сьмерцю, пад Горадняю ўцёк з-пад варты, прычым быў цяжка паранены, доўгі час жыў, схаваўшыся ў лясьніка, нарэшце, з рознаю небясьпекаю для жыцьця, прост нейкім дзівам перайшоў праз мяжу і зьявіўся ў свой горад якраз тады, калі там сьвяткавалі гадавіну вызваленьня ад белапалякаў, прышоў у салю, калі яго памяць шанавалі ўставаньнем... Рэдкі па драматызму, але радасны для ўсіх момант! Тут і Галя. Потым яны пажаніліся. Ён знаходзіць скарб і перадае яго савецкай дзяржаве. Ідэолёгічная тэма гэтага апавяданьня—вялікая адданасьць комуніста сваёй справе ў змаганьні рабочых і сялян з клясавым ворагам.

У аповесьці „Дзьве пуціны" апавядаецца аб тым, як Янка Пралеска, яшчэ быўшы пісарам у нейкім штабе на імпэрыялістычнай вайне, пакахаўся з шляхцянкаю Алесяю Ліпкоўскаю, як потым быў у гасьцёх на іхным хутары, далей жыў у Ленінградзе ў сястры Марыны, гэта якраз пасьля Кастрычніка, зблізіўся там з адным сваім земляком, бальшавіком Язэпам, пайшоў на чырвоны фронт, далей—змагаўся з бандытызмам, перажыў жудасную Язэпаву сьмерць ад рукі бандытаў і г. д. Янка Пралеска ўсё больш уваходзіў у рэволюцыйнае змаганьне і партыйную працу, і яго пуціна ўсё далей адыходзіла ад Алесінае пуціны, хоць праз увесь час кахаў ён Алесю моцна. Нарэшце, ён даведваецца, што Алесю аддалі замуж. Пуціны канчаткова разышліся. Ідэолёгічная тэма аповесьці—грамадзкая павіннасьць у комуніста стаіць вышэй за асабістае шчасьце.

І ў роман „Над абрывам" галоўная ідэолёгічная тэма—гэта выяўленьне героізму эпохі і яе людзей, героізму змаганьня, толькі ўжо больш у

абставінах соцыялістычнага будаўніцтва, калі яно яшчэ толькі пачыналася. Асяродкам сюжэту мае быць каханьне Карпіцкага з Таісаю.

Магчыма, што ў залежнасьці ад формальна-мастацкіх асаблівасьцяй маладога аўтара, ідэолёгічны зьмест у Ліманоўскага не заўсёды яшчэ выяўляецца досыць поўна, а часам мае ня зусім вытрыманы характар. Возьмем, напрыклад, першы па часе напісаньня твор—„Адшуканы скарб“. Аповесьць вельмі яскрава малюе жудасную вайну з белапалякамі. Тут гісторыя—поўная неспадзяванак, небясьпек, напружанага змаганьня за жыцьцё і частага знаходжаньня на мяжы з сьмерцю. Такіх гісторый было тады шмат. Кожная з іх дае самы багаты матэрыял раманісту, нават прыгодніцкага жанру. Аднак-жа, гісторыя, узятая Ліманоўскім, гісторыя з адшуканым скарбам, як у сваёй завязцы, так і ў некаторых дэталях—вельмі рэдкая, нятыповая, калі не сказаць—непраўдападобная, гісторыя. Романтычная фантазія аўтара дайшла да некаторых ухілаў, ня столькі зьвязаных з романтыкаю эпохі, колькі з літаратурнаю спадчынаю ад некаторых старых пісьменьнікаў, няправільна ўспрынятаю. Гэта ёсьць нявытрыманасьць. Возьмем другі твор—„Дзьве пуціны“. Янка Пралеска—характэрны прадстаўнік бальшавіка-інтэлігента з вёскі, але соцыяльнае пахаджэньне яго паказана даволі цьмяна, пра яго вёску, яго бацькоў, яго даўнейшае жыцьцё сказана мала. Алеся—шляхцянка, няхай сабе. Затое-ж яна такая рэдкая дзяўчына, што кожнаму яна прыпадзе да сэрца. Толькі аўтар мала высьвятляе адносіны яе і яе бацькоў да сялян, да рэволюцыі, яго герой, Янка Пралеска, мала цікавіцца гэтымі адносінамі. Тут—непаўната ідэолёгічнага зьместу.

Аповесьць „Адшуканы скарб“ і аповесьць „Дзьве пуціны“ збудаваны болей-меней аднакава: каля гісторыі галоўнага героя, апісанай у хронолёгічным парадку, даюцца зарысоўкі і малюнкі навакольнага жыцьця, уводзяцца навакольныя пэрсонажы, з якімі галоўны герой чым-небудзь зьвязаны ці мае якую справу. Нават пачынаюцца гэтыя творы з аднакавага літаратурнага прыёму: даўшы пачатак дзеяньня, завязку, аўтар, пераказваючы думкі героя або гаворачы ад сябе, з большага ўводзіць чытача ў мінулае героя, каб гэтак лепей пазнаёміць з ім.

Перажываньні пабочных асоб у аповесьці „Адшуканы скарб“ выяўляюцца мала. Адхіленьняў ад гісторыі галоўнага героя, як і агітацыйных уставак, што мы ўбачым у „Дзьвюх пуцінах“, тут блізу зусім няма. Вельмі мала выяўлена нават Галя, і дзеля гэтага выяўленьня аўтар карыстаецца, між іншым, вельмі простым прыёмам: зьмяшчае Галін ліст да Міхася. Некаторыя месцы ў апов. дадзены лішне каротка, схэматычна і нават без закончанага апрацаваньня. Але чытаецца аповесьць з нязьменшанаю цікавасьцю ад пачатку да канца, бо ў ёй шмат драматычных момантаў і ёсьць пэўны элемэнт прыгодніцкіх твораў (на жаль, як было казана, часам без належнае вытрыманасьці). Лепшыя месцы ў аповесьці—апісаньне тых расстрэлаў, катаваньняў, зьдзекаў, зьняваг і дзікай барбар-

скай лютасьці і жорсткасьці, якую дапушчалі белапалякі ў адносінах да палонных чырвонаармейцаў. Удаюцца аўтару зарысоўкі з беларускага селяніна, якога гоняць у фурманкі, лясьніка з сялян, які хоча ратаваць параненага бальшавіка і баіцца за сваю галаву, яскрава выступае ў яго вялічавы вобраз простае беларускае жанчыны, сялянкі, лясьнічыхі, якая праз пачуцьцё нянавісьці да паноў, што забілі яе пляменьніка, праз успаміны аб уцякацтве, дзе пагінулі яе дзеткі і муж, падмацоўвае дух у мужчынах і рашуча бярэцца ратаваць Міхася, рызыкуючы сваім жыцьцём. Удаюцца аўтару апісаньні беларускае прыроды, быту.

У аповесьці „Дзьве пуціны“ не асабліва добра захована сюжэтная цэльнасьць і няма патрэбнае пропорцыянальнасьці частак. Спачатку шмат пішацца пра каханьне і вельмі мала пра палітычныя падзеі, потым— якраз наадварот, і Алеся зусім зьнікае з аповесьці. Выходзіць як-бы нейкі дзеньнік Янкі Пралескі. Шмат уведзена пабочных падзей, ня зусім шчытна зьвязаных з сюжэтам. Апрача таго, шмат гутарак на агітпропагандыцкія тэмы, прычым гутаркі гэтыя часам ня толькі не характарызуюць асобу, якая гаворыць, але нават зьяўляюцца штучна ўкладзенымі ў яе вусны. Напр., сястра Марына гаворыць з Янкам такою моваю, быццам чытае якую-небудзь газэту (падобна, як Зося ў Цішкі Гартнага, у пачатку II ч. „Сокаў цаліны“). Тымчасам, пры ўсіх гэтых недахопах аповесьць пакідае ўражаньне. Дасягае гэтага ўражаньня аўтар тым, што апавядае пра Янку і Алесю з вялікаю любасьцю, а пра ўсё наогул апавядае проста, шчыра, цікава і лёгка. Часам толькі залішне зацягвае некаторыя месцы.

Ліманоўскі—апісальнік і апавядальнік з праўдзівым і мяккім пачуцьцём, з пэўнаю наглядальнасьцю, з любасьцю да характва, з імкненьнем да прышчэпліваньня чытачу комуністычных ідэй, але яму яшчэ бракуе пэўнага майстэрства, мастацкай тэхнікі і часам пачуцьця мастацкае меры.

Мова ў яго вобразная, жывая і правільная. Часам толькі бываюць няўдалыя выразы. Напр., Янка думае пра Алесю так: „Тут-жа ўсё аддае Алесяй“, або Алеся разважае пра бацькоў: „Адкараскаюцца ад мяне“. Іншы раз ён ужывае недапушчальны ў мастацкай мове прозаім „і інш.“, і нават скарачаючы слова. Гэтая канцыляршчына спатыкаецца ў мове сястры Марыны. Ёсьць закручаныя сказы: „Рабілі яго больш уражлівым, захоплівым у імкненьнях, хоць няясных, няпоўных, да лепшага“, або: „Пры дапамозе брата і зробіш палепшаньне становішча ў Петраградзе“ (гэта значыць, яго становішча палепшыцца з дапамогаю ад брата).

Апрача таго, трапляюцца памылкі ў сынтаксе і слоўніку аўтара, як беспатрэбнае ўжываньне роднага склону (брата Алесі, гнёзды грачоў і да т. п), няправільнае ўжываньне слова „амаль“ (бяз „не“ і бяз „што“), ён піша нейкае „міжвольна“ (замест „мімаволі“), часам дапушчае расіянізмы, піша „адзін з другім“, замест „адзін з адным“, старыкі, замест старыя, „кінь дурака валяць“, замест „кінь дурня строіць“ і да т. п., часам пракідаюцца полёнізмы („Янка прыглядаўся гэтай барацьбе“).

Наогул-жа, творчасьць Янкі Ліманоўскага ўсё болей разьвіваецца, аб чым сьведчыць роман „Над абрывам“, які цяпер друкуецца ў „Полымі“. У романе лепшая пабудова, больш выступае жыцьцё колектыву, чым у ранейшых творах, даюцца мастацкія тыпы шмат якіх партыйцаў і савецкіх служачых, менш расьцягнутых уставак і няма голае агітацыі, лепшыя дыялёгі, больш дагледжаная мова.

Ліманоўскі ўсё больш афармляе тую добрую рэалістычную плынь, якая вызначаецца ў мастацкай прозе маладнякоўцаў.

# УВАГІ А ПРАВАПІСЕ І СКЛАНЕНЬНІ ЧУЖАЗЕМНЫХ УЛАСНЫХ ІМЕНЬНЯЎ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Л. Цьвяткоў

Правапіс чужаземных уласных іменьняў зьяўляецца вельмі цяжкаю проблемай для кожнай мовы. Іншыя чужаземныя запазычаныя словы могуць, часам, быць заменены сваімі—тады, зразумела, усе фонэтычныя цяжкасьці адпадаюць. Гэтым шляхам пайшла, напрыклад, чэская навуковая мова, але да ўласных іменьняў даны прынцып дапасаваць нельга. Для іх фонэтычная проблема ў кожным выпадку застаецца ў поўным сваім аб'ёме. Уласнае імя месца і асобы мае ня толькі чыста навуковае, але і практычнае значэньне, і тут дакладнасьць фонэтычнае перадачы набывае асаблівую каштоўнасьць. Наколькі цікавяцца гэтым пытаньнем у навуковых сфэрах, сьведчыць ужо тая акалічнасьць, што ў шмат якіх навуковых працах уласныя іменьні (галоўным чынам, асабовыя) прыводзяцца проста ў іх аўтэнтычным напісаньні. Дакладнасьць—поўная, але і стракатасьць вялікая! Апроч таго, нельга карыстацца даным спосабам у творах, разьлічаных на больш шырокія масы чытачоў (а гэткія агульна-даступныя працы навуковага зьместу таксама-ж ня могуць абысьціся без чужаземных уласных іменьняў). Адным словам, чытач зусім не абавязаны быць поліглётам.

Які-ж можа быць выхад з гэтага цяжкага становішча? Як мне здаецца, ён можа быць знойдзены толькі шляхам компромісу—замест *поўнае* дакладнасьці, мы атрымаем толькі *магчыма блізкую* перадачу, але і фонэтыка тае мовы, якая запазычае чужаземныя іменьні, паставіцца для гэтых гасьцей з меншай суровасьцю, чымся да аномалій у сваёй уласнай сям'і—толькі тады можна будзе дайсьці да нейкіх карысных вынікаў.

Магчыма, што нам добра будзе ў якасьці ўводзін зрабіць вельмі кароткі агляд розных спроб вырашыць падобныя пытаньні. Гэтыя спробы рабіліся рознымі народамі. У маляўнічым пісьме ў індыйцаў уласнае асабовае імя абазначалася малюнкам жывёліны (фамільнага тотэму).

Мовы з маляўнічым ды ідэографічным пісьмом, пры перадачы чужаземных уласных іменьняў, сустракаюцца з вялікімі перашкодамі. У мэксыканцаў ня толькі для чужаземных, але нават і для мясцовых уласных іменьняў ужываліся спосабы, крыху падобныя да сучасных рэбусаў. Там карысталіся рознымі рэбуснымі спосабамі, прычым поўная

дакладнасьць дасягалася даволі рэдка. Зразумела, пры падобных мэтодах так павінна было-б быць ва ўсіх мовах: і ў нас удалыя рэбусы—напрыклад, малюнак вядомага дрэва для абазначэньня ракі Бярозы або карчма, поўная п'яніц, як сымболь гораду Прапойску,—траплялiся-б ня часта. Гэткае пісьмо зусім не залежыць ад фонэтыкі данае мовы і наогул слаба зьвязана з яе граматыкаю—таму перадача ўласных іменьняў ня цалкам згодна з агульнымі прынцыпамі і вызначаецца нейкаю штучнасьцю.

Кітайцы (гіерогліфічнае пісьмо) таксама ахвотна ўжывалі розныя выкруты. Не дарма-ж, паміж іншым, замест Корэі, гавораць часта: „краіна ранічнае цішыні", а замест Японіі: „краіна сонечнага ўсходу"—імя ўласнае нярэдка падмяняецца мэтафорай.

У эгіпцян уласныя іменьні абазначаліся радам гіерогліфаў. Напрыклад, трэ' было напісаць імя Аляксандар. Малявалі *арла* (*ахом*), *льва* (*лабо*) і г. д. Гэта быў ужо пераход да літарнага пісьма—пісьмо—„акростых".

Сэміцкае складовае пісьмо давала ўжо магчымасьць сапраўднае транскрыпцыі чужаземных іменьняў уласных. У больш позьнюю эпоху сэміты ў гэтым стасунку выявілі вялікую добрасумленнасьць. Праўда, ня толькі ўласныя, але і іншыя чужаземныя іменьні ў сэмітаў не заўсёды транскрыбаваліся зусім дакладна, аднак, імкненьне да гэтага было. Вышэйшы орган яўрэйскага самаўрадаваньня называўся sanhedrin. Гэта бясспрэчна, запазычанае ў грэкаў слова, якое мы цяпер звычайна вымаўляем, як sünedrion. Галосны гук у першым складзе, відавочна, рабіў на сэмітаў ня зусім выразнае акустычнае ўражаньне, чым і тлумачыцца яго няправільная перадача. Але цікава тая акалічнасьць, што ў звычайным грэцкім пісьме густое прыдыханьне—spiritus asper=h—у сярэдзіне слова пасьля *n* ніякім знакам не перадавалася, а яўрэйскае талмудычнае sanhedrin сьведчыць аб існаваньні гэтага гуку ў даным становішчы. Грэкі не запісвалі, але вымаўлялі, а яўрэі пачулі і запісалі.

Падобныя нагляданьні вельмі цікавыя,—і ў уласных іменьнях чужаземнага пахаджэньня іх можна было-б зрабіць таксама нямала. Але наогул сэміты імкнуліся да дакладнасьці ў транскрыпцыі (напрыклад, яны даволі добра захавалі ў сваіх помніках імя Аляксандра Македонскага).

Грэкі не плацілі ім узаемнасьцю ў гэтым стасунку. Імя Ганібала (=ласка панская), рымлянамі перададзена добра: Hannibal, а ў грэкаў мы бачым: Annibas—бяз h і са зьмененым канцом слова. Ня зусім дакладна перадавалі грэкі (і рымляне) і назоў бацькаўшчыны гэтага войскавода: Karchêdôn, Carthago. Пафінікійску гэта гучэла Kartha-ha-datha—Новы Горад (як у расійцаў Ноўгарад і ў нас Навградак), а пры хутчэйшым, нядбалым вымаўленьні нават: Kartha-da.

Іменьні Гамількара, Газдрубала, Ганона перадаваліся ў грэкаў ды італікаў не з аднолькаваю дакладнасьцю; таксама і геаграфічныя назвы транскрыбаваліся даволі страката.

Італікі мелі вельмі даўно сталыя дачыненьні з грэкамі. Пры гэтым некаторыя ўласныя іменьні перадаваліся вельмі дакладна. Там, дзе цяпер знаходзіцца Castell'a Mare della Bruca, быў калісьці грэцкі горад Элея. У пазьнейшым грэцкім пісьме F (дыгама, білябіяльнае w) зьнікла зусім, дый адпаведны гук у большасьці дыялектаў ужо загінуў, а італікі (у тым ліку і рымляне) гаварылі і пісалі Velia, захоўваючы правільную старажытную форму гэтага слова ў галоўных рысах (праўда, зьмяніўшы *e* на *i* ў другім складзе). Добра захавалі сваю грэцкую форму і Neapolis (сэмасыялёгічна тое-ж самае, што Картаген, Ноўгарад і Наваградак), і дорыйскае Messana і г. д.

Але іменьні асабовыя часам моцна зьмяняліся пры пераходзе ад грэкаў да рымлян. Мы чакалі-б: Heracles, Aeas, Odysseus, а знаходзім: Hercŭles, Aiax, Ulixes, прычым некаторыя з гэтых зьменаў законамі лацінскае фонэтыкі зусім лёгка тлумачацца (напрыклад, зьяўленьне *й* паміж *c* і *l* у слове Hercŭles—нормальная лацінская зьява (параўнай miracŭlum, tentacŭlum, oracŭlum і шмат іншых аналёгічных слоў).

Таксама і Alexsander, замест грэцкага Aleksandros, зусім адпавядае законам лацінскае мовы (лац. ager ральля пры грэцкім agros). Цікава, што і ў сэмітаў (у талмудзе) мы знаходзім Aleksander-ha-Mokdoni або Aleksander Mokdon (але Antignos замест Antigonos), Philippos і г. п. У рымлян і ў геаграфічных іменьнях мы часам знаходзім нечаканасьці, як, напрыклад, Troia замест слова Troea, якога мы нідзе ня знойдзем, хоць яно і было-б правільным.

У больш позьнюю эпоху пераважае ўжо новы прынцып—як найдакладнейшае перадачы сваёю графікаю чужое фонэтыкі. Ранейшыя запазычаньні пакідаюцца бяз зьмены, але новыя мала ўжо лічацца з законамі лацінскае фонэтыкі.

Для запазычаных слоў існуе нават спэцыяльная літара Z=дз. У лацінскай мове гэтага гуку ня было. Што да *y* (іпсылёна), дык гэты гук (=ням. ü) у лацінскай мове існаваў, напрыклад, у словах proximus або proxumus, maximus або maxumus, дзе пасьля *x* быў гук сярэдні паміж *i* і *u*. Чаму *y* (іпсылён) ужываўся толькі ў грэцкіх словах, а ў вышэйпададаных прыкладах яго ня ставілі, ня лёгка сказаць. Мы ведаем, што нават сьмелы рэформатар лацінскае графікі і правапісу імпэратар Кляўды (Claudius) адважыўся выдумаць для гэтага гука новы знак, але *y* (іпсылёна) ня пісаў.

Пры перадачы рымскіх уласных імэньняў грэкі замянялі лацінскае F сваім ф, тымчасам як рымляне грэцкае ф перадавалі сваім ph. Лацінскае *v* было білябіяльнае. Знак *v* у рымлян пісаўся і замест *u* і заўсёды перадаваўся ў грэкаў злучэньнем омікрона з іпсылёнам, гэта чыталася як нашае *y* (у пэўных выпадках, магчыма, нескладовае). Ступянёва ўсталіліся цьвёрдыя правілы транскрыпцыі рымскіх уласных іменьняў пагрэцку—і наадварот.

Скончыўся росквіт антычнае культуры; пачаўся яе заняпад. Ува ўсіх провінцыях вялізнае імпэрыі зьявіліся чужынцы. Асабліва шмат было германцаў. І таксама, як на некалькі вякоў пазьней, Кароль Вялікі (Carolus Magnus) даў славянам повад утварыць назовы для уладароў—kral (у чэхаў), kralj (у сэрба-харватаў), król (у палякаў), кароль (у нас) і г. д.—такім-жа парадкам з лацінскага прозьвішча Ceasár утварылася нямецкае Kaiser. Гэтае слова дае нам некаторыя цікавыя паказаньні адносна вымаўленьня лацінскага *c* і дыфтонга *ae* ў эпоху першых зносін германцаў з рымлянамі.

Пазьнейшая перадача немцамі лацінскіх іменьняў уласных паказвае ўжо на пэўныя зьмены ў вымаўленьні.

У французаў лацінскія словы (у тым ліку і ўласныя іменьні) маглі запазычацца або з захаваньнем даўнейшага націску і са скарачэньнем пасьлянаціскных складоў, або з перамяшчэньнем націску на канец слова. Так, мы знаходзім Claude, Serge, Marcel і г. д. (з лацінскіх Claudius, Sergius, Marsellus), а побач з імі—Titus, Florus і г. д. Першы спосаб трэба лічыць жывым, народным, а другі—кніжным.

У ангельцаў чужаземныя ўласныя іменьні мелі лёс ня зусім падобны да вышэйпаказанага, бо, хоць яны таксама запазычаліся ў розныя эпохі, але месца націску ня так выразна залежала ад эпохі запазычаньня. Галоўнаю цікаваю адзнакай ангельскіх уласных іменьняў чужаземнага паходжаньня зьяўляецца адсутнасьць фрыкатыўнага (міжзубнага) вымаўленьня *th* (у слове Thomas—мы знаходзім у вымаўленьні не фрыкатыўны гук, а звычайнае t).

Італьянцы ды гішпанцы, з іх простым і лёгкім правапісам, пішуць чужаземныя старажытныя ўласныя іменьні згодна з цьвёрдымі законамі сваё ортографіі. Праўда, у гішпанцаў захавалася яшчэ дзе-ні-дзе на пісьме h (як і ў французаў), але італьлянцы яго ўжо ня пішуць,—старая традыцыя выяўляецца ў гішпанцаў у іх няўменьні правільна перадаваць ангельскае глухое *th*. Яны маглі-б дасканала выражаць яго перад галоснымі пярэдняга раду сваім *c*, але сьмеласьці для гэтага ў іх не стае.

Сярод славянскіх народаў—сэрбы і баўгары вытрымлівалі толькі дакладнасьць чужых напісаньняў, але цяпер больш за ўсё імкнуцца правільна перадаваць вымаўленьне. У баўгараў *x* вымаўляецца зусім выразна; яно замяняе для іх няміцкія *h* і *ch*—гэта ўжо ня зусім зручна.

Ангельскае *u* кароткае баўгары перадаюць праз ъ (прабавалі перадаваць і праз юс вялікі, які ў іх вымаўляецца аднолькава з ъ),—адным словам—клапоцяцца аб дакладным выяўленьні чужое фонэтыкі; сэрбы ўжываюць сваё нячутнае *x* таксама замест *h* і *ch*. Заходнія славяне чужыя ўласныя іменьні ахвотна перадаюць у аўтэнтычным выглядзе, зусім ня цікавячыся іх правільным вымаўленьнем. У палякаў супроць гэтага выступіў Эмілі Альбан (Trybuna Komunistyczna, 1924 г., № 2). З ім нязгодны Чэслаў Домброўскі (Młot № 242, 1924 г.) і Стэфан К. (Варшаў-

ская Nowa Kultura № 12 (27). 1924 г.). Фактычна гэты прынцып праводзяць кіеўскі Sierp ды інш.

Народы Заходняй Эўропы, як мы бачым, перажылі два пэрыоды запазычаньня чужых уласных іменьняў; органічны і штучны. У першым пэрыодзе слова набывала мясцовую фонэтычную афарбоўку ў вуснах народных мас, у другім—яно перадавалася паводле правіл школьнае тэорыі. Эпоха адраджэньня клясычнае старажытнасьці дала магчымасьць вучоным гуманістым мець моцны ўплыў на мову адукаванага грамадзтва. Але падобныя эпохі бывалі і раней, могуць сустрэцца і пазьней. Кожны раз, як толькі вучонасьць атрымлівала парамогу над беспасрэдным пачуцьцём, бывалі такія-ж самыя вынікі. Да гэтай-жа катэгорыі зьяў трэба залічыць штучнае расійскае вымаўленьне: Алексий, Сергий, Симеон, Петр і г. д., замест органічных Алексей, Сергей, Семён, Пётр. Тут таксама мы бачым як быццам адраджэньне Грэцыі, але ўжо не клясычнай, а хрысьціянскай (пры дапамозе некаторых славянскіх уплываў) у вуснах духавенства дый наогул людзей кніжных—начытаных.

Наогул—да ўсходніх славян эпоха адраджэньня навук і мастацтва дашла і ў сапраўдным сваім выглядзе, але значна аслабленым.

У нас на Беларусі, а таксама і на Украіне водгукі адраджэньня клясычнае старажытнасьці былі крыху мацнейшыя, але ўсё-ткі да таго выразнага разьмежаваньня дзьвёх эпох запазычаньня чужаземных уласных іменьняў, як на захадзе, справа не дайшла.

Асаблівасьцю большасьці тых моў, якія карыстаюцца лацінскім альфабэтам, зьяўляецца захаваньне традыцыйнага чужаземнага напісаньня ўласных іменьняў, асабліва пэрсональных. Нямецкая мова, праўда, мае органічна ўтвораныя Genf, Venedig, Neapel, Warschau, Moskau замест Genève, Venezia, Napoli, Warszawa, Москва, але прозьвішчы піша ў аўтэнтычным чужаземным выглядзе, калі там графіка лацінская, а для перадачы некаторых гукаў кірылаўскага альфабэту дапускае няўжываныя ў немцаў злучэньні літар, напрыклад, Shukowski (Жуковский) пішацца праз *sh*. Пры гэтым апошні спосаб, зразумела, дае чытачу значна больш у сэнсе фонэтычнае дакладнасьці, чымся першы,

Славянскія гукі, асабліва зычныя, перадаюцца ў германскіх і раманскіх мовах злучэньнем дзьвёх і большае колькасьці літар, што для чужаземнага, неславянскага чытача часам бывае дзікавата і ня зусім прыемна. Байрон у „Дон Жуане“, апісваючы расійскіх дзеячоў эпохі Кацярыны II, гаворыць, што цяжка вымавіць гэтыя прозьвішчы, дзе мала галосных і страшэнна многа зычных.

У польскай мове, побач з такімі загадкамі, як Rousseau, Shakespeare ёсьць і такія цікавыя, але таксама некарысныя праявы надмернага фонэтызму, як Gorkij (родны склон Gorkija), Tołstoj (р. с. Tołstoja). Ёсьць і імкненьне сэрбскае іć захоўваць у польскай мове, а не замяняць гэты патронімічны суфікс беларускім *icz* (іч), часта сустраканым у польскіх

прозьвішчах. Так, Popowić, а не Popowicz. Такім парадкам сваім канцавым гукам гэтае слова будзе нагадваць, паляку, прозьвішчы тыпу, скажам, Kupść, Paulуć, а ня Mickiewicz.

Расійскі правапіс чужаземных іменьняў параўнальна толькі нядаўна пачаў набліжацца да фонэтычнае транскрыпцыі. Нават францускія, нямецкія ды ангельскія асабовыя іменьні (ня кажучы ўжо аб іншых менш вядомых мовах) і цяпер яшчэ запісваюцца ня зусім і не заўсёды фонэтычна. Цяпер, праўда, расіец не напіша ўжо „Шарлотта Кордай“, „Дидерот“, „Бирон“ (Byron—Байрон), але гаворыць і піша „Робеспьер“, „Марат“. Таму сьмелым наватарствам і цяпер яшчэ здаюцца некаторым нават вучоным людзям і большасьці чытачоў наогул—вершы Валерыя Брусава (Брюсова):

> Это колокол вселенной
> С языком из серебра,
> Что качали миг мгновенный!
> Робеспьеры і Мара,

дзе якраз дадзена правільная фонэтычная транскрыпцыя гэтых прозьвішчаў.

Цікава яшчэ імкненьне (хоць часам і нявытраманае) надаваць уласным іменьням нямецкую афарбоўку, нават на сваёй расійскай тэрыторыі, а тым больш на чужой. Усе гэтыя „Петербурги“, „Оренбурги“, „Петергофы“, „Ораниенбаумы“, „Шлиссельбурги“, „Кронштадты“ зьвязаны ўсёткі з нямецкімі сымпатыямі ўладарнага Раманава-Гольштайнскага дому. Але чаму кашубскі і цяпер яшчэ ня зусім зьнемчаны Гданск з пэўнаю колькасьцю славянскага насельніцтва, захаваны з гэтым сваім імем і Біронам і Мініхам ды іншымі немцамі (ня кажучы ўжо аб даўнейшых расійскіх поэтах), заменены цяпер у расійцаў „Данцигом“? А тымчасам зусім згерманзаіваны „Breslau“ (польск. Wrocław) завецца ў расійцаў „Бреславль“, што пры пабежным нават поглядзе на карту кідаецца ў вочы сваёй адноўленай славянскай афарбоўкай.

Яшчэ цікавейшаю трэба лічыць тую акалічнасьць, што іменьні заходня-эўропэйскіх уладароў зьяўляюцца не ў аўтэнтычнай, але ў нямецкай (часам і ў лацінскай) форме. Таму—„Чарльз Дарвин“, „Франсуа Пуанкаре“, „Джордж Вашингтон“, „Джон Локк“, „Жан-Жак Руссо“, але „Карл Стюарт“, „Франциск Валуа“, „Георг Третий из Гановерского дома“; „Иоанн“, а ня „Джон“—„Безземельный“ ды „Иоанн“, а ня „Жан“—„Добрый“—даюць ужо грэка-царкоўна-славянскую, а не аўтэнтычную і не органічна-расійскую („Иван“) форму гэтага імя.

А тымчасам і самыя нямецкія ўласныя іменьні і вымаўляюцца і нават запісваюцца расійцамі не заўсёды правільна. У германскіх мовах націск звычайна бывае на карэнным складзе—гэта правіла. А тымчасам нават адукаваныя людзі гавораць у Расіі—Бэрлін з націскам на апошнім складзе; што-ж можа быць з іншымі назвамі, калі імя сталіцы перадаецца няправільна! Дыфтонгі *eu* ды *äu* перадаюць парасійску *ей*, а далёка

лепш было-б пісаць *ой*. Амаль зусім непамякчальнае нямецкае *е* перадаюць расійскім *е*, а ня *э*, і г. д.

З усіх славянскіх моў з кірылаўскай графікаю расійская найгорш абыходзіцца з чужаземнымі ўласнымі імяньнямі. Ніякага прынцыпу, ніякае пасьлядоўнасьці: „Лифляндия, Эстляндия, Курляндия, Финляндия", але „Лапландия, Ингерманландия", і ўсё гэта на прасторы толькі даўнейшае расійскае імпэрыі. У польскіх уласных іменьнях не адрозьніваюць *е* ад іе—таму, чытаючы аб Сэнкоўскім (што расійцы пішуць—Сенковский), ня ведаеш, як вымаўляюць гэтае прозьвішча палякі (а тут якраз ня было мяккасьці: Sękowski).

Чэскія ды польскія вынікі зьмякчэньня *r* (лацінская літара), калісьці аднолькавыя, цяпер ужо не супадаюць. У чэхаў мы знаходзім зьлітае рж, рш, а ў палякаў у літаратурнай мове і ў большасьці гутарак—проста *ж, ш*. Расійцы і ў польскіх і ў чэскіх іменьнях запісваюць гэтыя гукі аднолькава (з рж, рш).

Сэрбскае *е* непамякчальнае расійцы (як і францускі, нямецкі, ангельскі і наогул романскі ды германскі падобны гук) перадаюць сваім *е* памякчальным, што так і вымаўляецца большасьцю чытачоў. Гішпанскую хоту (j), а таксама і g перад галоснымі пярэдняга раду расійцы перадаюць не праз *х*, як-бы належала, а праз *ж*, гэта пераймаем ад іх і мы. У мяне ў самога напісана крыху вышэй „Дон Жуан", а ня „Дон Хуан" (як трэ' было-б згодна з сапраўдным вымаўленьнем і як зрабіў толькі адзін вядомы расійскі пісьменьнік—Аляксей Талстой у сваёй славутай драме). Трэба заўсёды праводзіць фонэтычны прынцып таксама і пры перадаваньні гішпанскага *х*.

З усходнімі мовамі ня інда-эўропэйскае сям'і ў расійцаў таксама бываюць непаразуменьні. Наўрад ці правільна пішуць расійцы „Чжан-цзо-лин", „Манчжурия" і да іх падобныя словы. Дзякуючы гэтай акалічнасьці, летась быў выяўлен адзін брыдкі ўчынак кітайскіх мілітарыстых: яны падрабілі дакумант з мэтаю скомпромэтаваць савецкае пасольства ў Кітаі. Гэты дакумант яны склалі парасійску, але, замест „Чжан-цзо-лин", напісалі (мусіць, згодна з сваім вымаўленьнем) „Джан-дзо-лин". Таксама і некаторыя іншыя словы кітайцы-фальсыфікатары напісалі згодна з сваім вымаўленьнем, а ня з прынятаю ў расійцаў няправільнаю транскрыпцыяй—і гэтым, як той кажа, выдалі сябе з галавой. Наогул расійскія спосабы перадачы чужаземных уласных іменьняў не зьяўляюцца дасканалымі.

Наша мова ў некаторых адносінах знаходзіцца ў лепшым становішчы, чымся больш апрацаваныя мовы. У нас слаба адчуваецца ўплыў традыцыі. Ангельцу, французу тыранія звычаю, дзікае самаўладзтва агульнае прынятых норм проста не даюць жыцьця. У нас гэтае перашкоды няма. Мы можам будаваць новы гмах, бо ад старое беларускае культуры эпохі росквіту цяжкія гістарычныя акалічнасьці пакінулі для нас толькі попел.

Якія-ж прынцыпы пакладзем мы ў аснову правапісу чужаземных уласных іменьняў?

Папершае, мы павінны клапаціцца аб дакладнасьці ў транскрыпцыі чужаземных гукаў, а не пераймаць чужыя напісаньні.

Падругое, мы ня маем права ўводзіць новыя літары для небеларускіх гукаў.

Такім парадкам, мы павінны дасягнуць найбольшае дакладнасьці, якая толькі магчыма пры карыстаньні выключна знакамі нашага ўласнага альфабэту.

Разгледзім перш за ўсё зычныя гукі.

Мы маем чатыры задняпаднябенныя гукі: *к*, *г*' [1]) *х* і *г*. Гэты апошні ў некаторых гутарках, як паказалі дыялектычныя досьледы апошняга часу, мае яшчэ і іншае вымаўленьне. Ён можа гучэць, як звонкае прыдыханьне, і ў такім выпадку зьяўляецца ўжо гартанным. У чужаземных мовах, напрыклад, нова-грэцкая „гамма"—фрыкатыўны звонкі задня-паднябенны гук, а індыйскае прыдыханьне ёсьць звонкі гартанны гук. Ёсьць і глухаватыя прыдыханьні—у германскіх мовах і г. д. Але мы ня маем магчымасьці ўскладняць наш альфабэт, уводзячы знакі для ўсіх гэтых адценьняў,—прыдзецца для ўсіх гэтых гукаў узяць адзін і той самы знак—*г*. Аднак, лацінскае g мы павінны транскрыбаваць, як *г*'. Гэтая літара нашымі граматыстымі заўсёды прызнавалася, а адсутнасьць яе ў нашых друкарнях тлумачыцца проста інэртнасьцю ды няўважлівасьцю.

Такім парадкам, мы будзем пісаць Гомэр, Гэсыод, Гэродот, Горацы, Гостылі, Голяндыя, Гановэр, Гарры, але Г'орды, Агрыг'ент, Пэрг'ам, Вэрг'ілі, Аг'рыпіна (нашае абеларушанае жаночае імя будзе Грыпіна—бяз „а" і з *г* фрыкатыўным), Г'ерманік, Віттэнбэрг', Г'е-Люсак.

Фрыкатыўнае *г* у нова-грэцкіх уласных іменьнях будзе нам сустракацца рэдка,—амаль выключна ў прозьвішчах, як Мэгалёпулё і г. д., бо географічныя назвы мы прынялі старагрэцкія.

Узьнікае пытаньне, як перадаваць прыдыхальныя зычныя гукі (асьпіраты). Немцы, напрыклад, пішуць h у слове Buddha. Мне асабіста здаецца, што і нам можна было-б бліжэй трымацца індыйскага першаўзору і не забараняць напісаньня „Буддга".

Трэба, зразумела, ад такіх выпадкаў адрозьніваць напісаньні, падобныя да асьпіратаў сваім графічным выглядам, але з зусім іншым значэньнем. Італьлянскае ch мы перадамо праз *к*, гішпанскае і ангельскае—праз *ч*, нямецкае, чэскае, польскае—праз *х*, францускае—праз *ш*.

Ангельскае th можа быць звонкім і глухім. Глухое вымаўляецца, як гішпанскае *c* што стаіць перад галоснымі пярэдняга раду, і як новагрэцкая „фіта" (θ). Звонкае th вымаўляецца, як новагрэцкая „дэльта" (Δ).

У нас такіх гукаў няма. Прыблізна—гэта *с* і *з* асаблівай міжзубнай артыкуляцыі. Нічога іншага нельга прыдумаць, як пісаць *с* і *з*

[1]) Усюды, дзе стаіць г', чытаецца, як г.

апострофам у якасьці дыякрытычнага значка, хоць і гэта будзе ня зусім дакладным і ў пэўнай меры ўмоўным графічным абазначэньнем.

Ангельскае *w* білябіяльнае (ёсьць і *v* лябіё-дэнтальнае) прыдзецца заўсёды выражаць праз *ў* (зразумела, калі гэтае *w* у злучэньні з іншымі гукамі не зьмяніла зусім свайго вымаўленьня). Гэта ня будзе зусім згодна з законамі нашае мовы, калі *w* будзе стаяць перад галосным гукам, але толькі такім парадкам можна будзе адрозьніць *w* ад *v*, якія ў ангельскім вымаўленьні вельмі выразна адасабняюцца.

Гішпанскае ń—Goruńa, францускае gn—Cognac, італьлянскае gn—Bologna прыдзецца перадаваць нашым мяккім *н*. Таксама і сэрбскае њ мякка—ньегош (Ńegoš). Гішпанскае ll—Sevilla, італьлянскае gl—Ventimiglio, сэрбскае *ль* Льубомир (Ljubomir) трэба будзе перадаваць нашым мяккім *л*. Але ў французаў гэты гук цяпер ужо перайшоў проста ў ёт, напрыклад, у прозьвішчы Батай (Bataille).

Гішпанскае *j* (хота), а таксамама і *g* перад галоснымі пярэдняга раду трэба перадаваць праз *х:* Хосэ́ (Jǫse—*s* у гішпанцаў і паміж галоснымі ня робіцца звонкім), Хуан (Juan), Хосэфа (Josefa), Архэнтына (Argertina).

Аб гішпанскім *х* мы таксама ўжо гаварылі.

Гішпанскае *b* і *v* паміж галоснымі чытаюцца аднолькава, як *v*—таму Ibańez — Іванес, San Sebastian—Сан Сэваст'ян.

*Н* у гішпанцаў, французаў ды італьлянцаў у літаратурнай мове загінула зусім (у італьлянцаў нават і ня пішацца—і літара *акка* засталася толькі для транскрыпцыі некаторых чужаземных прозьвішчаў).

Ангельскае j, італьлянскае (а часам і ангельскае) g перад галоснымі пярэдняга раду, сэрбскія ђ (папольску dź) і џ (dž) можна будзе прыблізна перадаць нашымі знакамі, але дакладна я яшчэ ня ведаю, як найлепш гэта зрабіць. Тое самае трэба сказаць і аб італьлянскім *c* перад галоснымі пярэдняга раду і аб сэрбскім ћ (=папольск. ć). Што да італьлянскага злучэньня *sc* перад галоснымі пярэдняга раду, дык, мусіць, трэба будзе яго перадаваць напісаньнем *ш*: Брэша (Brescia).

Падваеньне зычных у чужаземных уласных іменьнях я прапаную захаваць толькі ў становішчы беспасрэдна пасьля націску. Падваеньне зычных у чужаземных мовах у такім становішчы часам асабліва выразна скарачае вымаўленьне папярэдняга галоснага гуку. У славянскіх мовах Р. Т. Брандт заўважыў тую-ж самую зьяву. Таму ў гэтых выпадках мы можам такім спосабам адзначыць сапраўднае чужаземнае вымаўленьне галоснага гуку. Бяз націску беспасрэдна перад двума аднолькавымі зычнымі гукамі мы будзем замяняць іх адным. Такім парадкам: Шлёссэр, Ля-Русс, але Шамісо, Русо; Зоммер, Рэннэр, але Грамон, Лінэй і г. д.

Пры гэтым я-б настойваў на гэтым патрабаваньні не для іменьняў географічных, а толькі для ўласных асабовых, дзе мы імкнемся да найбольшае дакладнасьці.

*р* і *л* складовыя існуюць у розных мовах: у расійцаў вялікая стракатасьць у іх перадачы: пішуць Киршна, але Вырхлицкий, Вылчек. У беларускай мове рэфлексы плаўнаглухіх комплексаў далі: і кілбаса і глытаць, і верх і дрыжэць, і воўк і глотка—у залежнасьці ад розьніцы яшчэ ў глыбокай старажытнасьці. Я-б прапанаваў пісаць аднолькава і індыйскія і славянскія словы: Кыршна, Вырхліцкі, Вылчэк (прытым ня толькі не баяўся-б напісаць *ы* пасьля *к* ў слове Кыршна, але лічыў-бы гэта вельмі добрым, бо гэта адразу-ж паказала-б чытачу, што тут ёсьць нешта нязвычайнае).

Польскае „шапялявае" г (rz) трэба перадаваць праз ж (а ў суседзтве з глухімі зычнымі—праз ш). Таму—Жэвускі, Хшаноўскі, а чэскае ř перадаецца праз рж і рш—Пршыбрам, Бржэгі (калі гутарка ідзе аб чэскай мясцовасьці, і Бжэг'і, калі гавораць аб польскай).

Заходня-эўропэйскае *l* сярэдняе ў нас прынята перадаваць праз *л* мяккае. Адносна ангельскага *l* трэба сказаць, што артыкуляцыя яго і акустычнае ўражаньне ня зусім такія, як у большасьці романскіх і германскіх народаў, але гэтае акустычнае ўражаньне перадаць даволі цяжка, і транскрыпцыя тут мала дапаможа. Яшчэ цяжэй было-б перадаць какумінальнае старажытна-індыйскае *l*, якое мовазнаўцы пры транскрыпцыі адзначаюць кропкаю ўнізе. Часьцей-жа ў індусаў быў іншы гатунак *l*.

У чужаземных асабовых уласных іменьнях, хоць-бы нават і славянскіх, я не замяняў-бы *л* гукам *ў*: такім парадкам пісаў-бы Волкаў, Далгарукаў.

Італьлянскае *z* часам абазначае ня *ц*, а *дз*,—у такім выпадку трэба і пісаць *дз*.

Старагрэцкае ζ у літаратурным дыялекце вымаўлялася, мусіць, як *зд*, а ня як *дз* (аб гэтым сьведчыць, напрыклад, перадача філістымскае геаграфічнае назвы Asdod, як Azod; таксама з Athenas-de атрымалася Athenaze). Але цяпер ужо ўсе народы забыліся на даўнейшае значэньне старагрэцкае *дзэты* або *здэты*,—таму і мы змушаны грэцкае ζ перадаваць нашым *з*.

Грэцкае *s* (як і гішпанскае) ніколі не пераходзіць у *з* паміж галоснымі. Таму будзем пісаць, як гішпанскія словы Мэндоса (Mendosa), Товосо (Toboso), таксама і грэцкія: Піса, Пісандр, Лісандр, Элісэйскія палі; ангельскае *s* у канцы слоў чытаецца, як *з*, і так трэба яго і пісаць у нашай транскрыпцыі: „Лідз", „Гэстынг'з" і г. д.

Яўрэйскае „цадэ" першапачаткова вымаўлялася ня зусім падобна да нашага *ц*; гэта, магчыма, быў гук, крыху падобны да *s*. Але апроч слоў, што прайшлі праз грэцкую мову, прыдзецца перадаваць „цадэ" праз *ц*, а не праз *с*.

### Галосныя

*Насавыя галосныя гукі*. Транскрыбаваць нашымі літарамі гэтыя гукі з поўнаю дакладнасьцю нельга, і можна абыйсьціся бяз гэтага. Трэба заўважыць, што насавы рэзонанс у португальскіх, провансальскіх, фран-

цускіх, а таксама і ў польскіх ды кашубскіх насавых гуках ня зусім аднольќавы. У палякаў, напрыклад, сапраўдныя *o* і *e* насавыя чуюцца толькі перад z, s, w, f, а перад імгненнымі зубнымі будзе *n* поўнага ўтварэньня, перад задня-паднябеннымі—задня-паднябенны насавы гук, а перад губнымі—*m*—таксама поўнага ўтварэньня.

Перад *l* і *ł* і ў канцы слоў насавы рэзонанс звычайна зьнікае. Які-ж сэнс пры такіх умовах фіксаваць у нашай транскрыпцыі тое, што варта было-б зьмяніць і ў польскай графіцы, бо і там яно ўжо цяпер у большасьці выпадкаў не адпавядае сапраўднасьці—фактам жывое мовы? Думаю, што і наогул можна абыйсьціся бяз знакаў для насавога рэзонансу.

Трэба толькі з большай дакладнасьцю перадаваць галосны элемэнт цяпер-жа сустракаюцца такія напісаньні, як „Пуанкарэ“—замест больш правільнага Пуэнкарэ.

*Мяккія зычныя* выражаюцца ў нашай графіцы ў напісаньні галосных (а часам дадаткам мяккага знаку—*ь*)—таму добра будзе сказаць аб іх у разьдзеле аб галосных, хоць гэта і ня зусім навукова.

Сапраўднае зьмякчэньне зычных перад галоснымі сустракаецца пераважна ў славянскіх мовах, прычым асабліва пашырана ў паўночнай палове славянства. Зусім відавочна, што, напрыклад, у сэрбскіх і славенскіх уласных іменьнях (апроч флексіяў ды суфіксаў, уласьцівых і паўднёваму і ўсходняму славянству), мы ня маем ніякага права ўводзіць зьмякчэньне, калі яго там няма.

Таму трэба пісаць Младэновіч (суфіксу—vić надаём нашую афарбоўку, бо віч у нашых прозьвішчах вельмі пашыраны суфікс, а рэшту слова: Mladen—транскрыбуем бяз зьмены), але Кукулевіч-Сакцынскі (бо тут мы маем lj, што абазначае *л* мяккае).

Расійскія іменьні ўласныя перадаем з поўным захаваньнем мяккасьці ўсюды, дзе яна ёсьць у расійцаў. Мне асабіста здаецца, што можна было-б пісаць у расійскіх уласных іменьнях (прынамсі ў прозьвішчах) нават графічныя знакі памякчальных галосных, а таксама і „мяккі знак“ пасьля *р*. Ня бачу бязумоўнае патрэбы ўводзіць дзеканьне і цеканьне ў расійскія прозьвішчы. Той, хто не патрапіць вымавіць належным парадкам гэтыя ня нашыя іменьні, усё роўна і „цекне“ і „дзекне“ і „рэкне“. Але расійскага Дедюліна рабіць беларусам Дзядзюліным, Тіханава—Ціханавым, Рябова—Рабовым мы, уласна кажучы, ня маем ніякага права.

Усе іншыя словы, заходзячы на чужыну, падлягаюць яе законам, бо могуць зрабіцца агульнаю ўласнасьцю, органічным элемэнтам чужога моўнага багацьця. Для нас цяпер германскія словы: хлеб, тын, гусь ды шмат іншых, некаторыя запазычаныя словаўтваральныя суфіксы зьяўляюцца ўжо сваімі роднымі. А іменьні ўласныя тады толькі будуць намі ўспрымацца, як нашы беларускія, калі самі людзі зробяцца беларусамі. Гвалтам-жа беларусізаваць нікога нельга і ня трэба. Таму мне здавалася-б,

што Скрябін не павінен перарабляцца ў Скрабіна, Рюмін—у Руміна, Брюсаў—у Брусава і г. д.

Што да географічных уласных іменьняў, дык яны ўжо не зьяўляюцца такой выключнай асабістай уласнасьцю—і таму прымаюцца ў найбольш пашыранай сярод беларусаў форме, з беларускім вымаўленьнем (або нават зусім у асобным выглядзе), калі беларусы маюць з гэтымі мясцовасьцямі сталыя зносіны. Таму, як мы бачылі, нават трэба гаварыць і пісаць Гданск, Каралевец, а ня Данцыг, Кёнігзбэрг, бо жыхары Заходняе Беларусі так завуць гэтыя гарады. Таму Арол, Цьвер маюць чыста беларускую афарбоўку, а ў словах Кяхта, Кюмэнь могуць быць неўласьцівыя нашай мове злучэньні *кя* ды *кю*.

Гэта ўсё якраз будзе згодна з правіламі, дадзенымі Б. Тарашкевічам і Я. Лёсікам.

*Умляўт*. Гэтую чужамоўную зьяву ніякім чынам нельга прыраўноўваць да папярэдняе. Француская *u*, нямецкае *ü*, праўда, некаторыя дасьледчыкі лічаць блізкімі да славянскага *ю* пасьля зычных, але яны могуць быць і ў пачатку слова. Таксама паўночна-расійскія дыялектычныя миленькёй, хорошенькёй можна супастаўляць адносна складу кё з нямецкім König, але дзе-ж аналёгія для слова „Öfen"—печкі? Гук *ä* зусім не аврозьніваецца ад *е* ў шмат якіх выпадках.

Думаю, што можам пісаць Дюран, Дюрынг (паміж іншым, з гукам *ы*, а ня *і* не дзеля беларусізацыі, але дзеля большае блізкасьці нямецкага *і* да нашага *ы*). Добра зрабіў З. Жылуновіч, што, гаворачы аб чужаземнай літаратуры, напісаў у „Савецкай Беларусі" (№ 264—2156, аўторак 22 лістапада 1927 г.): Тюрлюпэн, але, на жаль, іншыя аўтары артыкулаў з ім не згаджаюцца.

*Ё* на месцы ö трэба пісаць толькі пасьля Г' (g), напрыклад: Г'ётэ, Г'ёттынг'ен, і *К*—Кёльн, Кёрнэр. У іншых выпадках прыдзецца пісаць *э*, хоць гэта і ня зусім дакладна. Пасьля Г' (g), і К мы будзем пісаць *е* на месцы ä (і звычайнага *е*). У іншых выпадках *ä* і *е* трэ' будзе перадаваць праз *э*.

Як быць з такімі выпадкамі, як Hugo (Victor—пісьменьнік), Ösel (выспа ў Балтыцкім моры)? Апошняе яшчэ, хоць і вельмі недакладна, можна напісаць: Эзэль, але што рабіць з Hugo? Калі-б яшчэ расійцамі ня была выкінута іжыца, дык тут ёй было-б якраз месца. Думаю, што прыдзецца пісаць Іг'о, Ібэрвэг' праз *і*, бо Юг'о, Юбэрвэг' больш пакалечылі-б вымаўленьне.

Ангельскае *u* (моцнае) мае ў пэўных выпадках больш падабенства да нашага сапраўднага *ю*. Напрыклад, злучэньне *hu* у моцным становішчы, пачынаючы слова, амаль зусім дакладна адпавядае нашаму *ю*, таму прозьвішча вядомага філёзофа будзе пісацца Юм (Hume). Злучэньне *ew* у пэўных умовах дае падобны-ж вынік.—Таму Нью-Ёрк. (New York). Часам і простае *u* моцнае чытаецца, як наша *ю*.

Слабое *u* ў ангельцаў вымаўляецца крыху падобна да нямецкага *ö*, але паколькі такое *u* у іх надта кароткае, дык гэтае падабенства ня вельмі выразнае. Надта падобны да *ö* францускія гукі *eu*, *oeu*, *oe*. Лацінскае *oe* таксама падлягае тым увагам, якія мы вышэй зрабілі адносна *ö*.

**Некаторыя асаблівасьці ў запісваньні чужых галосных гукаў**

Ангельскае *a* ў моцным становішчы звычайна вымаўляецца, як *эй* і так павінна намі і запісвацца ў ангельскіх уласных іменьнях. Перад *l* і пасьля *w* ангельскае *a* часам запісваем, як *o*. Таму—Ўокер, Ўот Тэйлор, ангельскае *y* у моцным становішчы чытаецца, як *ай*. Гэтак-жа будзем мы запісваць нямецкія дыфтонгі *ei* ды *ai*.

Нямецкія дыфтонгі *eu*, *äu* будзем, хоць і не з абсолютнай дакладнасьцю, запісваць, як *ой*—Тойбнэр, Ноенбург' або больш навукова—Нойэнбург', Ройтэр, Лейг'нэр. Амаль з поўнай дакладнасьцю ангельскае *oy* запішам, як *ой*—Роб—Рой (Rob—Roy). Часам і *oi* можна запісаць таксама—Дэтройт (Detroit). Ня часта, але сустракаецца *oi* і ў немцаў: Voigt (побач з Vogt). Voigt мы перадамо, зразумела, як „Фойгт".

Нямецкае *au*, ангельскае *ow*, а таксама звычайна і ангельскае *ou* мы запішам, як *аў*. Таму анг. Кінг'зтаўн, ням. Нойгаўзэн, ангельскае і нямецкае прозьвішча Браўн і г. д.

Некаторым чытачом можа прыйсьці на думку пытаньне: ці-ж трэба запісваць нават адценьні ў вымаўленьні чужых гукаў, а таксама, ці трэба адзначаць хоць-бы і больш-менш в разнае вымаўленьне, але ўласьціваe толькі літаратурнай гутарцы данае мовы. Адказваем на гэтае пытаньне так, што дробныя адценьні запісваць ня варта, а больш-менш яснае вымаўленьне (хоць-бы ўсё-ткі і ня зусім выразнае) трэба фіксаваць, калі яно ёсьць у літаратурнай гутарцы. Ведаем, што за далёка меншае наватарства кіеўскаму польскаму выданьню Sierp рабілі закіды ў польскай прэсе ў Саюзе, што з нашым прынцыпам нязгодны некаторыя выдатныя асьветныя працаўнікі. Але ёсьць усё-ткі часопісы, нават у Польшчы, што імкнуцца да фонэтычнага прынцыпу—Gazeta Świąteczna ды інш. Тым больш падставы для такое рэформы ў нас, бо нас яшчэ не скавала традыцыя.

*Аканьне* мы наглядаем, галоўным чынам, у беларусаў і паўднёвых ды цэнтральных расійцаў. У некаторых гутарках аканьне не ахапляе сабою складоў з мяккімі зычнымі—гэта завецца аканьне бяз яканьня. Літаратурная расійская мова акае, але ня якае.

Як быць з расійскімі ўласнымі іменьнямі? Географічныя назвы я падпарадкаваў-бы і аканьню і яканьню, а ўласныя асабовыя—толькі аканьню. Я пісаў-бы: Далгарукаў, Талстой, Ляскоў, Агарёў, Мережкоўскі, Мядынь, Арол, Лебядзянь; пытаньне адносна такіх расійскіх прозьвішчаў і псэўдонімаў, як Щедрин, я ня ведаю, як вырашыць. У расійскай літаратурнай мове ня скажуць: Шчадрін, таму я лічыў-бы магчымым пісаць

Шчэдрін (паміж іншым, расійскія гукі: *щ*, падвойнае *ж*, а таксама *ч*, бясспрэчна, мяккія—і паўстае пытаньне, ці ня трэба выразіць нам гэтую мяккасьць і на пісьме).

Небеларускія і нерасійскія славянскія іменьні ўласныя о̀каюць. Таму: Огоноўскі, Бжозоўскі, Дорошэнка, Поповіч (сэрбскае), Попо̀ў (баўгарскае) і г. д.

Супроць падобных правіл могуць сказаць, што яны ставяць розныя славянскія мовы не ў аднолькавае становішча адносна а̀каньня. Аднак, наш прынцып просты і ясны: запісваць у чужаземных прозьвішчах іх вымаўленьне з магчымаю дакладнасьцю. Расійцы ў літаратурнай мове маюць аканьне бяз яканьня, маюць мяккае р, ня ведаюць дзеканьня і цеканьня, гэта мы і перадаем у нашай транскрыпцыі, г. зн. нашай графікай, але ня прытрымліваючыся ані нашага, ані расійскага правапісу, а толькі фонэтыкі. Іншыя чужаземныя словы мы беларусізуем, а ўласныя асабовыя іменьні—захоўваем у належнай ім фонэтычнай афарбоўцы, бо кожны, хто хоча гаварыць аб чалавеку, павінен крыху цікавіцца пытаньнем аб тым, як гучыць імя гэтае асобы.

## Морфолёгія

Скланеньне чужаземных уласных іменьняў.

Іменьні мужчынскага роду, якія канчаюцца на зычны гук, трэба скланяць як „кот", „конь", Вэрдэн,—а,—у і г. д., Шыльлер,—а,—у і г. д., Шэкспір,—а,—у, Молешот,—а,—у. Асобнае месца займаюць іменьні, якія маюць на канцы—*ow*—пераважна нямецкія: Бюлёў (Bülow), Вірхаў (Wirchow).

Іх трэба скланяць так, як тыя расійскія прозьвішчы на *ов, ёв*, што перайшлі ў нашу мову. Таксама прозьвішчы тыпу Цэппэлін я-б скланяў, як Калінін, Малінін, Лукін і г. д.

Як уступку жывому народнаму звычаю, я-б скланяў і Русо і Дыдро: Русо, Руса, Русу, Дыдро, Дыдра, Дыдру (як „акно"). У нас ёсьць беларускія прозьвішчы з націскным *о* на канцы—і яны скланяюцца. Скланяў-бы я і Гётэ (як „мора"). Вінавальны склон, аднак, будзе, як родны, бо справа ідзе аб жывых істотах.

Патрэба ў скланеньні чужаземных іменьняў уласных адчуваецца і расійцамі. Дзякуючы таму, што ў іх амаль няма прозьвішчаў на *о*, яны часам штучна пераводзяць чужаземныя іменьні асабовыя ў скланеньне тыпу „кот".

Шмат прыкладаў можна падаць з расійскіх пісьменьнікаў, дзе замест Тассо, Данте і г. д. бяруцца Тасс, Дант і скланяюцца паводле агульнага ўзору. Украінскія прозьвішчы расійцы часта перараблялі, дадаючы гук *в:* замест Солдатенко—Солдатенков і г. д.

На гэтую ўступку народнай славянскай моўнай традыцыі прыдзецца пайсьці і нам і гаварыць: Шамісо,—са,—су,—ом,—е. Справа ў тым, што слова бяз флексіі ня мае свайго выразнага сынтактычнага твару ў сказе:

„Русо пахваліў Дыдро“—сказ нявыразны, бо хто каго хваліў,—невядома, а „Дыдро быў пахвален Русо“—наўрад ці значна выразьней гучыць, але затое крыху цяжкавата. Тымчасам „Русо пахваліў Дыдра“—зусім выразна ды ясна. Тут мы перараскладаем чужое слова на наш лад, але робім-жа мы гэта ў іменьнях агульных, напрыклад: паліто,—а,—у,—ом, паліце, бюро,—а,—у,—ом,—ы.

Робяць так і расійцы, толькі ня пускаюць гэтага ў літаратурную мову. А палякі і гавораць і пішуць: biuro,-ra і г. д., як pióro,-ra і г. д. Трэба падумаць і аб тым, ці ня можна было-б скланяць Золя, як судзьдзя, Дюма, як ваявода.

У асобным становішчы знаходзяцца расійскія прозьвішчы, утвораныя з роднага склону прыметнікаў: Дурново́ (замест—о́го), Мертва́го (з гукам г). У Сібіры ўжываецца і родны склон множнага ліку: Лукіных.

Вельмі часта ў прозьвішчах падобнага тыпу зьмяняецца націск. Калі людзі з гэткімі прозьвішчамі трапляюць на Беларусь, дык у нас мала хто помніць, што гэта родныя склоны (адзіночнага або множнага ліку), і прымаюць гэтыя словы за назоўныя склоны адзіночнага ліку ды скланяюць, як акно або стол (аднак вінавальны склон=роднаму).

Расійцы вельмі часта не пазнаюць славянскіх прозьвішчаў—ім яны ўяўляюцца падобнымі да італьлянскіх, вэнгерскіх, грэцкіх і басцкіх з канчаткам на—і. Напрыклад, прозьвішча вядомага фізыка Chladný расійцы чытаюць—Хладни, гэтак і пішуць, а павінны былі-б пісаць: Хладный і скланяць:—ого,—ому,—ого,—ым,—ом. Так трэба рабіць і нам: Хладны,—ага,—аму,—ым,—ым. Прозьвішча гэтае, мусіць, чэскае, але можа быць і славацкім. Жонка Хладнага, зразумела, Хладная, як у Канцавога жонка--Канцавая.

У словах—іменьнях уласных асоб жаночага роду з канцом на зычны гук у расійцаў няма пасьлядоўнасьці. У словах, запазычаных праз царкоўна-славянскую мову, мы бачым скланеньне тыпу косць: Ноэминь, Эсфирь, Юдифь, Суламифь, Руфь і г. д. Аднак, у пазьнейшых беспасрэдных запазычаньнях—Кармен, Гретхен (панямецку граматычны род слова Gretchen—ніякі)—мы знаходзім адсутнасьць скланеньня. Паміж іншым, Эсфирь, Ноэминь і г. д. падтрымліваюцца ў сваім тыпе скланеньня прыкладам імя ўласнага „Любовь“.

Ня ведаю, як трэба зрабіць нам, бо на памякчэньне зычнага ў словах: Кармэн, Грэтхэн мы нічым ня ўпоўнаважаны,—гэта ўжо будзе самавольны, даволі тыранычны крок. Расійцы, аднак, у мужчынскім родзе гавораць і пішуць: Цезарь, хоць у лацінскай мове гэта аснова на зычны гук, а не на галосны—*i*, з якога нормальна ўтвараўся *ь* у даўнейшыя эпохі славянскага жыцьця. Даўняя традыцыя не заўсёды яўляецца гарантыяй поўнае навуковае дакладнасьці.

У канцох чужаземных, асабліва славянскіх, уласных іменьняў, мы даем беларускія напісаньні—такім парадкам: Горкі, Сабалеўскі, Арлоў-

Адносна Горкага трэба яшчэ падумаць, ці не захаваць *ь*, бо мы-ж выставілі прынцып захоўваць тыя гукі, што знаходзяцца не ў канчатку. *Ў* (у нескладовае) мы пішам усюды паводле нашага правапісу, бо інакш прышлося-б пісаць вельмі часта *ф*, а гэта ўжо ўскладняла-б справу (мы-ж імкнемся да передачы не напісаньня, але вымаўленьна—а *в* перад глухімі дае *ф*). Напісаньне з *ф* было-б усё-ткі занадта вялікаю навінай,—і таму мы пайшлі ў даным выпадку па шляху беларусізацыі.

У жаночым родзе, зразумела, Г'оркая, Сабалеўская, Арлова, Дароніна, Цэпэліна, Крэпэліна, Халодная.

Думаю, што трэба гаварыць і пісаць: Младэновічыха, Караджычыха і нават—Шэкспірыха, Шыльлерыха, Кромўэліха, інакш бясконца прышлося-б ужываць слова „паня“.

Аб дзяўчатах можна было-б гаварыць і пісаць Караджычанка, Кромўэлянка (бо інакш прышлося-б вельмі часта ўжываць слова „панна“: панна Караджыч, панна Кромўэл). Можна, зразумела, сказаць і нават слушна, што на пераробцы пані Шэкспір у Шэкспірыху ляжыць адбітак нейкага прастацтва і неачасанасьці. Неачасанасьць гэтая будзе, аднак, адчувацца вельмі кароткі час. Людзям новае школы, наадварот, будзе здавацца нудным бязупыннае ўжываньне слоў „паня“ і „панна“.

У падвойных прозьвішчах тыпу Шварцбург'-Зондэрзгаўзэн трэба скланяць абедзьве часткі, бо мы-ж гаворым Друцкага-Сакалінскага, Друцкаму-Сакалінскаму і г. д.

У расійцаў і палякаў ды ў іншых славян існуе тое-ж самае правіла адносна ўласных іменьняў свайго народу. Расійская пасьлядоўнасьць у даным выпадку заслугоўвае тым большае ўвагі, што нават у літаратурнай мове сустракаюцца часам такія выразы як: „Ждём князь Пётр Ильича“ (праўда, у комэдыі, дзе выяўляюцца ўсе дэфэкты данага грамадзтва, значыцца—не ад імя аўтара, але ад імя пэрсонажаў).

Заўважым, што для іменьняў географічных абставіны крыху іншыя: гэтыя іменьні трацяць самастойнасьць сваіх частак,—і цяпер ужо ня толькі Ноўгарад і Царград у нас, як і ў расійцаў, не скланяюць першае часткі, але ў расійцаў гэта бывае і з словам „Москва-река“: гаворать: „Москвá-реки“ з рэзкім націскам толькі на вá, (хоць інтэлігенцыя часам ужывае і граматычна-правільнае: „Москвы́-реки́, Москвé-рекé“ і г. д.).

## Параўнаньне з даўнейшымі правапіснымі нормамі

Ці далёка адышлі нашы меркаваньні ад правіл Б. Тарашкевіча і Я. Лёсіка?

Тарашкевіч і Лёсік прапануюць не падваяць зычных у чужаземных словах наогул, але асабовых уласных іменьняў у прыкладах на самае правіла няма; яны знаходзяцца якраз у пераліку выключэньняў (Ганна, Будда, глядзі таксама пункт *к* на старонцы 107). Адносна іменьняў географічных і я лічу магчымым не падваяць зычных, хоць у Лёсіка

сярод выключэньняў і ёсьць Мекка (*е* тут—друкарская памылка, бо далей на стар. 107—Мэкка. Правапіс выданьня 1926 г., стар. 105).

Чужаземнае *th*, паводле сучаснага правапісу, мы перадаем праз наша *т*. Я. Лёсік падкрэсьлівае, што гэта трэба рабіць заўсёды. (Правапіс, стар. 106). Я дадаю сваю ўвагу: „апроч ангельскіх слоў, дзе *th* глухое, будзем выражаць праз *с*' (*с* з апострафам—у гэтым выпадку ў якасьці дыякрытычнага знаку), а *th* звонкае—пра *з*'.

Чаму-ж мы гэта робім? Таму, што ангельскае вымаўленьне ўсё-ткі бліжэй да *с* і да *з*, чымся да іншых гукаў. Той, хто ня ведае паангельску, будзе чытаць *с* і *з*, а гэта ўсё-ткі значна бліжэй да сапраўднасьці ўжо самай сваёю фрыкатыўнасьцю, чымся *т* або *д* (праўда, апошняга Я. Лёсік зусім не прапанаваў). Дадалі мы ўвагу і аб новагрэцкіх і аб гішпанскіх аналёгічных гуках. Захоўваецца даўнейшае правіла адносна ўсіх іншых моў, апроч ангельскае, грэцкае ды гішпанскае.

У Лёсіка і Тарашкевіча нічога ня сказана адносна *Г*' у чужаземных уласных іменьнях, але паколькі яны далі раней агульнае правіла аб ужываньні гэтае літары, дык ясна, што і ў даным выпадку ў іх ня было-б падставы блытаць *Г*' і *Г*.

Праўда, на старонцы 107 Лёсік гаворыць аб блізкім падабенстве гукаў *г* і *й*, але ў даным выпадку можна думаць, што гутарка ідзе аб чужаземных словах, запазычаных намі пры дапамозе нямецкіх дыялектаў з фрыкатыўным звонкім задня-паднябенным гукам.

У пералічэньні гэтых слоў аніводнага ўласнага імя няма.

Сапраўдная нязгода паміж намі і Я. Лёсікам існуе адносна дыфтонгаў *аў*, *эў*. Я. Лёсік думае ня пісаць іх перад галоснымі, а пісаць два паасобныя склады: *а*+*у*, *э*+*у*.

Я думаю пісаць іх усюды згодна з чужаземным вымаўленьнем.Нагогул „*ў*" я прапаную пісаць згодна не з законамі нашае мовы, а з чужой фонэтыкай (зразумела, толькі ў уласных іменьнях, бо надаю гэтым іменьням зусім асобнае, у пэўных адносінах аўтономнае, значэньне ў нашай мове).

У пункце *к* (стар. 107) Я. Лёсік гаворыць, што ў уласных іменьнях могуць не захоўвацца некаторыя правілы нашага правапісу. Прынцыповага разыходжаньня, такім чынам, у нас няма, а ёсьць нязгода толькі ў падрабязных, конкрэтных вывадах па некаторых пытаньнях.

Дю-Лёран, Дюрынг', Тюрлюпэн і г. д., а таксама Г'аг'арін (з *і*, а ня з *ы*), у Лёсіка не адзначаны, але на старонцы 108 мы знаходзім: „у чужаземных словах (трэба заўважыць—што ня толькі ў уласных іменьнях. *Л. Ц.*) дапускаюцца такія злучэньні, як *бю, кю, гю*, невядомыя беларускай мове; напрыклад: бюро, бюджэт, Кюрі, Гюго, Бельвю (Бэльвю. *Л. Ц.*), Дэ-Бюсі, Мюзэта, жюрі і падобныя.

*Кюрі* і *жюрі* падтрымліваюць, паміж іншым, маю думку аб Г'аг'аріне ды Аг'арёве, а Дюрынг' і Тюрлюпэн знаходзяцца відавочна ў поўнай

гармоніі з Гюго. Трэба толькі сказаць, што Кюрі і жюрі маюць менш правоў на *і*, чымся Г‘аг‘арін, бо расійскае *і* адрозьніваецца ад нашага *ы* значна больш, чымся *і* романа-германскае. Романа-германскае *і* нам можна было-б перадаваць і праз *ы* ў разе патрэбы, а расійскае *и* транскрыбаваць гэткім спосабам было-б непажадана.

Разыходжаньні з сучасным правапісам у маім проекце сапраўды ёсьць напрыклад: у мяне Уільям, а ў Я. Лёсіка (стар. 107)—Вільлям у мяне Баўэр (а ў яго—Бауэр) і г. д.

Але асноўныя прынцыпы не парушаны.

---

Цяпер трэба сказаць некалькі слоў адносна „Руса“, „Дыдра“, „Шэкспірыхі“ (паміж іншым, гук *с* я не памякчаю тут, бо чужаземнае *„і“* значна цьвярдзейшае за наша), „Кромўэлянкі“ і г. д. Інтэлігенцкаму вуху ўсё гэта здаецца дзіўным, але... гэта-ж бясспрэчны факт нашае жывое мовы. Калі мы нават абмінем тыя вядомыя сялянам чужаземныя панскія прозьвішчы, як Плятэр, Вольф, якіх асабліва шмат у Полаччыне,—дык трэба-ж памятаць, што, побач з сялянствам, жыве вялікая колькасьць яўрэяў. Ці-ж сапраўды селянін ня скажа; „быў у Бляха*рыхі*, спрачаўся з Каплан*іхай*, гаварыў з Маз*ам*“? Бясспрэчна, скажа. Вось чаму і мы, улічаючы факты нашае жывое мовы, выводзім правіла: з Рус*ом*, як з Маз*ам*, з Шэкспір*ыхай*, як з Бляхар*ыхай*. Фонэтыку чужаземную мы захоўваем аж да словавытваральных канчаткаў, а канчаткі ўжо наша ўласнасьць, хоць часам мы яе (як у прыкладзе з Русом) здабылі захопным парадкам. Справа ў тым, што напісаньне згоднае з чужаземнай фонэтыкай, ня вельмі пагвалціць нашу мову, а захавае навуковую дакладнасьць. Калі ў селяніна, скажам, „Шэкспір“ будзе вымаўляцца з *с* цьвёрдым, як напісана, дык гэта добра, але ён можа вымавіць і паводле законаў нашае фонэтыкі—з *с* мяккім і гэта напэўна будзе найчасьцей,—усё-ткі і тут вялікага гвалту хоць-бы над чужою моваю няма. Але калі мы будзем змушаць селяніна парушаць законы словазьмену і словавытварэньня,—гэта ўжо гвалт над мовай.

Пушкін пісаў: „Суровый *Дант* не презирал сонета“, Некрасаў зафіксаваў у адным сваім творы родныя склоны: „*Тассов*, Шекспиров и *Дантов*“. Ці-ж яны ня ведалі, што можна сказаць Дантэ, Тассо? Ведалі, але хацелі зрабіць гэтыя словы больш блізкімі да законаў свае мовы, дзе іменьні скланяюцца. Толькі яны скланялі гэтыя словы, як скланяецца „кот“, і таму зьмянілі, нават адкінулі канчатак, а мы хочам трымацца іншае парадыгмы—і можам канец пакінуць бяз зьмены, пераскладаўшы слова: Рус-о, Дыдр-о і г. д.

На ўсе гэтыя меркаваньні трэба глядзець, як на пастаноўку некаторых пытаньняў. Вырашыць гэтыя пытаньні, разьвязаць гэтыя проблемы так або інакш—канечна трэба. І добра будзе, калі будуць выпрацаваны пэўныя і цьвёрдыя правілы.

# КНІГАПІС

**В. Каваль. На загонах. Апавяданьні.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск. 1928 г. 3.000 экзэмпляраў.*

Гэты невялічкі зборнік В. Каваля зьмяшчае ў сабе наступныя апавяданьні: „Сіла Зямлі“ (казка), „На загонах“, „Дзед Пілім“, „Ноч“ і, нарэшце, „Жыцьцё і Сонца“ (вершы ў прозе).

„Сіла Зямлі“—казка пра мінулае чалавецтва, пачынаючы ад яго зьяўленьня да нашых дзён і Кастрычнікавай рэволюцыі.

Усё гэта мінулае—жыцьцё і барацьба—зьвязаны з зямлёй. Гэта яна „сагрэтая і ўмоленая“ выгадавала яго. І чалавек „сонцам апалены стаў на дзьве нагі, выпрастаў грудзі, дзе сэрца білася, бунтоўнае і гордае“.

Так апавядае В. Каваль аб „бунтоўным“ чалавеку і такі ў яго чалавек.

„Сіла Зямлі“— гімн людзям—чалавеку ў яго барацьбе.

Тут нельга знайсьці фабулы, тут няма героя, але затое ўзята вельмі шырокая тэма — чалавек у змаганьні і то схованы „у падобных масе“, „зьліты ў агульным слове— людзі“...

Узвышана-ўрачысты тон, афарбаваны эмоцыянальнасьцю, вытрыманы на працягу ўсёй казачкі-апавяданьня.

Трэба толькі пашкадаваць, што аўтар ўзяў такую адцягненую тэму, якая ня зьвязана з беларускімі „загонамі“.

Апавяданьне „На загонах“ зьяўляецца цэнтральным пунктам зборнічку. Не здарма-ж і сам зборнік носіць тую-ж назву. Кароткі зьмест яго такі.

Справа адбываецца ў часы імпэрыялістычнай вайны ў беларускай вёсцы. Вайною агульны лад грамадзка-экономічнага жыцьця падарваны. Лепшыя сілы вёскі на фронце. Агульная маса сялянства хутка бяднее. Адзінкі-ж багацеюць. З прычыны заняпаду гаспадаркі і беднасьці незаможнікі ня могуць спраўна плаціць падаткі. Але на гэта не зважае ні вураднік, прыстаўлены, каб „за кожнага адказваць“, ні стараста Макей—„хітры багаты мужык“. Апошні за ўсім сочыць і акуратна даносіць начальству. Заможная частка—кулакі—пачалі цісьнуць незаможнікаў ня толькі экономічна, але і адміністрацыйнымі спосабамі. Беднякі протэстуюць проці гэтага пакуль што пасыўна: ня плацяць падаткаў. Але гэта вельмі моцны ўдар па экономічнай сыстэме самаўладзтва.

Вось чаму селяніна-незаможніка Максіма Холада стараста Макей і вураднік арыштоўваюць і дастаўляюць да земскага ў воласьць.

Лібэрал земскі (прыняты ў губарнатара) „вельмі любіць народ“. Ён нават „яшчэ быўшы студэнтам страшэнна любіў народ“. Ён адчувае, што „мужык—сіла... зямлі“... Аднак, на гэтую „сілу зямлі“ толькі па даносу старасты Макея, што Максім Холад „з братам Андронам муцяць мужыкоў“, земскі зараз-жа накідаецца, як люты зьвер. Крычыць, пагражае Сібірам, катаргай, прыстае з допытам, зьдзекуецца, пакуль ня выклікае адпаведнага адпору з боку Максіма, за што зараз-жа загадвае

пасадзіць у халодную, каб заўтра-ж засудзіць.

Зьняважаная, растаптаная, апляваная чалавечая годнасьць Максіма падняласся бурным протэстам з жаданьнем самаабароны. І гэта справядлівая самаабарона-помста і кіравала Максімам, калі апошні параніў старасту Макея нажом у жывот.

Уцёкшы з халоднай, Максім пачаў блукаць „па загонах“, шукаючы прытулку і людзкога спачуваньня. Мука ад думкі, што ён забіў чалавека, прыводзіць яго да самагубства ў лесе.

Назаўтра ўсё стала вядома ў сяле. І апошняе ўсхваляваласся. Народ зьбіраецца каля хаты старасты і адкрыта выяўляе сваё абурэньне. Староста паранены так, што яго жыцьцю небясьпека не пагражае. Ён хвалюецца „за непарадак у сяле“. Андрон, брат Максіма, ужо не стараецца стрымлівацца. Гэта ў выніку прыводзіць да таго, што стражнікі Андрона арыштоўваюць; урэшце падаецца сцэна разьвітаньня Андрона з жонкай і сям'ёй. „Толькі ланцугі зьвінелі і хацелася Андрону крычаць, буйна крычаць пра вялікі бунт зямны—у прасторы крычаць і зваць людзей“, так канчае сваё апавяданьне В. Каваль.

Беларуская вёска прадрэволюцыйнай пары і часу імпэрыялістычнай вайны вельмі слаба высьветлена ў беларускім прыгожым пісьменстве. Апавяданьне „На загонах“, аднак, не запаўняе гэтага прабелу. Шырокага малюнку гора народнага тут не даецца. А тым часам гэты час надзвычайна багаты рознастайнасьцю тэм і падзей. Вайна на Беларусі ўскалыхнула народныя гушчы і народнае жыцьцё да самай глыбыні. Шырокага мастацкага палатна „родных загонаў“ гэтага часу ў нашай літаратуры няма. Апавяданьне „На загонах“ закранае адзін толькі бок гэтага жыцьця ў своеасаблівым праламленьні псыхікі аўтара.

Здольна створан вобраз прыніжанай асобы селяніна, якога толькі роспач і бязвыходнасьць кідае на барацьбу і забойства. Але ці будзе выяўлена псыхолёгічная праўда ў тым, што селянін, забіўшы, ня можа апраўдаць забойства і супакоіцца, а шукае выхаду ў рэфлексіі і урэшце, ў самагубстве?

Гэта ня тыповая зьява, а індывідуальная, што і паніжае мастацкую вартасьць вобразу і твору наогул.

Да канца вытрыманы вобраз Андрона, як сьвядомага рэволюцыянэра, які яшчэ „ў 1905 годзе социялістым бунты падымаў“.

Цікавы малюнкі вёскі гэтага часу— агульнай узрушанасьці і чаканьня нейкіх нязвычайных падзей. Усё часьцей успамінае Андрон „выразныя словы 1905 году“—„рэволюцыя“, „социял-дэмократы“, „далоў цара!“

Лепш скомпанованы з боку агульнай пабудовы, а таксама стылю і мовы апавяданьне „Дзед Піліп“. Як жывая паўстае ў чытача сялянская хата ў доўгі зімовы вечар. Прышоў той-сёй з суседзяў. Вядуцца гутаркі, апавяданьні, успаміны пра мінулае і розныя здарэньні ў дарогах, пра стрэчу з зьвяр'ём і г. д.

Усе гэтыя гутаркі закранаюць душу дзеда Піліпа і родзяць успаміны. Ён злазіць з печы і ў гутарцы ўспамінае далёкае мінулае. У памяці дзеда ўсплывае адзін выпадак з паляваньня на медзьвядзёў, калі з „ласкі панскай“ ён амаль ня страціў свайго жыцьця.

Але ня думаў дзед, што гэта апошні яго вечар. Позна ўночы, пачуўшы, як гняды „забегаў па пуні“, дзед пашоў паглядзець на яго. „З адчыненых варот шуганулі два ваўкі“. Сэрца ў дзеда закалацілася, і ён толькі і змог дайсьці да каня, ухапіцца за грыву і асунуўся каля сьцяны.

Якім-жа вышаў вобраз дзеда?

Аўтару ўдалося выявіць і паказаць унутраны сьвет душы і перажываньні дзеда. Яго спакойныя за-

мілаваныя адносіны да жыцьця і людзей. Ён ужо вельмі стары. „Дзед Пiлiп сам добра ня ведае, колькі яму гадоў“, „ды хiба-ж iх пералiчыш?“

Розныя часы бачыў і пражыў дзед. „Многа на сяле зьмянiлася, перарадзiлася, пералiлося ў новыя формы, а дзед Пiлiп усё жыве ды жыве, і сам дзiвiцца, і ўсё памiраць ня хочацца“.

Вясна, як сымболь змаганьня жыцьця з сьмерцю, падабаецца дзеду больш усяго. Любiць дзед свае палеткі, сенажаць, а як „пачуецца жнiўная песьня—ускалыхнецца дзедава старое бяскрылае сэрца і яшчэ больш захочацца жыць“.

Дзед мастак—казачнік і дудар.

Дзецям у сваiх казках ён дае „то жудасныя малюнкi, то сьветлыя і цiхiя“.

Казкі дзеда—гэта казка В. Каваля пра працоўнага чалавека, які „ўвабраў у сябе ўсю сiлу“.

„Ідзе той чалавек па зямлi—зямля дрыжыць, мора калашацца, дубы вырывае з карэньнем, горы варочае, пабiвае на зямлi ў новым вобразе ўсю нячыстую сiлу“. А гэта—дванаццацiгаловы зьмей і пан.

І „дудкі жывуць пад пальцамi дзеда“. „Вочы становяцца сьветлымi, радаснымi, крывыя чорныя пальцы жывуць. Гукі родзяцца чыстымi, звонкiмi, мiлагучнымi, гатовымi абняць і расказаць нейкую тайну“.

Дзед—глыбака чалавечная асоба. Ён любiць дзяцей і жывёлу. Толькі, вось, многа слоў ён не разумее сваiх праўнукаў. Ён непадзельна зьвязаны з роднымi загонамi, хоць і ня можа цяпер схадзiць на далёкiя палеткі.

Так пекна намаляваў вобраз дзеда В. Каваль.

Апавяданьне „Ноч“—гэта абразок жыцьця тых-жа „загонаў“.

На начлезе каля вогнiшча селянін Алесь Сiмчонак і аўтар. Навакол шумы ў лесе—гэта буралом і палеткі-загоны. Але яны ня сьпяць. Там баба—Артамонiха—„расу зьбiрае“, бо „ведзьмаю сябе лiчыць“. Да вогнiшча падыходзiць п'янiца муляр—Халiмон. Ён „босы, бяз шапкі; адна калаша порткаў закасана да калена, замызгана ў глiну“... Ён прыблукаўся сюды да вогнiшча, п'яны, але аб крыўдзе сваёй на заможнiка Цiмоха Самсоненка не забыўся. Апошнi заплацiў за яго работу самагонам.

Алесь Сiмчонак—селянін новага часу. Сам ня п'е і п'янiц ня любiць. Ён успамiнае сваю барацьбу з бандытамi ў часы грамадзянскай вайны і апавядае аўтару пра адну стычку, у часе якой загiнуў яго камандзiр і амаль не загiнуў ён сам.

Сiмчонак—сьвядомы барацьбiт за новую вёску і новае сялянскае жыцьцё.

Паказваючы поруч з Сiмчанком Артамонiху і Халiмона, аўтар гэтым уздымае агiду да струхлелага быту мiнулага і выклiкае прывабнасьць і iмкненьне да новага бадзёрага і разумнага жыцьця.

Вершы ў прозе „Жыцьцё і Сонца“—шэраг зарысовак на розныя тэмы. Гэта — сугучнасьцi і стылiзаваныя малюначкі зьяў прыроды „загонаў“ і ўласных перажываньняў.

Пабудова зборнiчку „На загонах“ В. Каваля прадумана і скомпанавана цiкава. Пачаўшы ад надзвычайна шырокай тэмы (казкі) аб чалавеку і зямлi, аўтар перайшоў да змаганьня чалавека на загонах, а ўрэшце даў невялiчкiя зарысоўкі з iндывiдуальнага, свайго.

Увесь зборнiк—дынамiка думак, падзей, iмкненьняў. Вобразы выяўляюцца натуральна, у рэальным адзеньнi часу і настрояў. Нават дзед Пiлiп не выяўляецца контрастам сучаснасьцi, а сугучна зьліваецца з сучаснасьцю, як глыбока чулая натура. Неяк знаходзiш апраўданьне яго сьмерцi, бо гiне ён, абараняючы друга-конiка ад драпежнiкаў-ваўкоў.

Можна з пэўнасьцю сказаць, што Кавалю лепш усяго будуць удавацца бурныя натуры—Андроны, цi такiя,

як дзед Піліп, што падобныя на „ціхую сьветлую песьню“.

Увесь зборнік насычаны самымі рознастайнымі стылістычнымі прыёмамі, афорбаванымі эмоцыянальнасьцю. У яго ня проста „старая хатка“, а „хатка мяцеліцай гадоў засыпана“, „сын любы — нялюбы“, „мукі горкія“, а „сьлёзы ціхія“.

Сустракаюцца і маленькія недакладнасьці, так, напрыклад, „у блін *раздавіць* яго“ (стар. 23), „пячнік Халімон“ замест „муляр“ (стар. 69), „расьцягла з дрыжыкамі ў голасе“ замест з „дрыжачкаю“ (стар. 19), але гэта ўсё нязначныя недакладнасьці, якія ніякага значэньня ня маюць у агульным моры жывой вобразнай стылізаванай мовы.

В. Каваль паказаў нам селяніна такім, якім ён ёсьць—з яго адмоўнымі і дадатнымі бакамі. Апісваючы падзеі, Каваль не малюе іх спакойна—ён перажывае іх. Вось чаму яго зборнічак можна назваць зборам эмоцый аўтара, зьвязаных з загонамі беларускіх палеткаў.

Зборнік „На загонах“ зьяўляецца каштоўным укладам у маладую беларускую літаратуру і паказвае, што В. Каваль хутка вырасьце ў значную літаратурную сілу, якая дасьць многа вобразаў ад родных загонаў, ператорваных у гарне глыбака індывідуальных перажываньняў аўтара.

**В. Залуцкі.**

**Проф. Ростислав Лащенко. Копні суди на Україні, їх походження, компетенція і устрій.** *Збірник правничої комісії Наукового Товариства ім. Шевченка у Львові, т. I, с. с. 1—67, т. II—с. с. 1—87. 1926, 1927 г. г.*

Пытаньню пра копныя суды ў беларускай ды ўкраінскай гісторыі пашанцавала. Вось-жа маем вялікую монографію І. Ю. Чэркаскага—супрацоўніка Украінскае акадэміі навук у Кіеве—прысьвечаную гэтай проблеме. Пакуль што (жнівень 1928 г.) вышаў том І яе, а II том, як ведаем, хутка пабачыць сьвет. Крыху раней вышла ў сьвет і другая праца, прысьвечаная гэтай-жа проблеме. Яна вышла ў Галіцыі, у Львове, надрукаваная ў І ды II т.т. зборніка Юрыдычнай Камісіі Навуковага Таварыства імя Т. Шэўчэнка. Аўтарам яе ёсьць украінскі вучоны - эмігрант, профэсар украінскага эміграцкага унівэрсытэту ў Празе Р. Лашчанка.

Копныя суды — цікавы інстытут гісторыі Беларусі ды Украіны XV—XVII ст. ст. Была гэта асаблівая форма народных судоў, якіх, аднак, прызнавала і дзяржава. Чыннасьць такога суду ахапляла тэрыторыю некалькіх вёсак, зьбіраўся ён на пэўных мясцох—„капавішчах“, прысутнымі на ім былі ўсе гаспадары гэтага раёну, паміж іншымі і шляхта ды іншыя станы жыхарства. Копны суд меў шырокую компэтэнцыю з цывільных ды карных спраў. Характарыстыку гэтых копных судоў і дае праца Р. Лашчанка.

Аўтар глядзіць на копныя суды як на інстытут украінскага права ды украінскай культуры. Гэта асноўная ідэя яго працы. Гэта таму, што „Літва здаўна асабіста падпала пад моўныя ўплывы украінскага права—права звычаёвага, старадаўнага, у якім так ясна прасьвечваліся старыя юрыдычныя асновы „Рускае Праўды“. Украінскае права, таксама-ж і мова, а апроч іх таксама і грэцкая рэлігія, і былі найгалоўнейшымі фактарамі ў разьвіцьці на Літве украінскай культуры“ (т. II, с. 65). Даводзіцца гэтае палажэньне вельмі трапна ды проста: „на аснове цэлага шэрагу дакумантаў—помнікаў культуры і дзяржаўнага жыцьця: помнікаў правадаўчае творчасьці, розных актаў, князёўскіх прывілеяў, судовых выракаў, дагавораў і ўмоў прыватна-праўнага характару і г. д., гістарычная навука даўно ўжо дакладна вызначала, што ў Літоўскім Вялікім Княстве доўгі час панавала культура „руская“. Культура „руская“ ад слова „Русь“; назва-ж „Русь“

была, як вядома, этнографічнай назвай якраз украінскага народу“ (т. II, с. 63). Гэта надзвычай добра і надзвычай проста. Але надмерна ўжо проста, затым што, калі аўтару сказаць, што ў тыя часы і беларусы зваліся „рускімі“ і Беларусь „Русьвю“, дык уся сыстэма яго довадаў адпадае. Тэндэнцыйны падыход Р. Лашчанка да гістарычных ды гістарычна-юрыдычных проблем у навуцы ўжо засуджаны. Тут мы толькі яшчэ раз падкрэсьліваем яго прымітыўнасьць і ненавуковасьць.

Сваю концэпцыю Р. Лашчанка падтрымлівае тым фактам, што вялікая колькасьць вестак пра чыннасьць копнага суду датычыць паветаў Берасьцейскага, Пінскага ды Мазырскага. Але перш-на-перш гэта паветы або са зьмешаным жыхарствам, што ёсьць пераходам ад украінцаў да беларусоў, або паветы беларускія. Падругое, на Беларусі копныя суды былі ўсюды, на Украіне-ж яны былі ў паўночных, сумежных з Беларусьсю, частках яе. Вядомы копныя суды на поўначы Валыні, і толькі некалькі мала вестак пра Кіеўскую ды Падольскую землі. На левабярэжнай-жа Украіне копны суд быў на Старадубшчыне (тэрыторыя зноўткі зьмешанага насельніцтва). Гэта можа сьведчыць за тое, што гэта ёсьць нацыянальны беларускі інстытут, запазычаны суседнімі украінскімі тэрыторыямі ды тэрыторыямі са зьмешаным жыхарствам. Але можа гэта гаварыць і за тое, што экономічныя ўмовы Беларусі і паўночных частак Украіны дапамагалі ўтварэньню тут такога роду судоў. Як відаць, разгадка тут можа быць у соцыяльным складзе ды ўзаемаадносінах жыхарства. Там, дзе соцыяльна-клясавы падзел не аддзяляе экономічна рэзка-няроўныя групы, групы з рэзка-супроцьлеглымі экономічнымі інтарэсамі—там найлепшая глеба для такога роду „народных“ судоў. Якраз так, на наш погляд, і было.

Праца Р. Лашчанка мае шмат спрэчнага і ў іншым. У ёй цяжка знайсьці пэўную сыстэму. Напісана яна догматычна-юрыдычным мэтодам. Асноўная дадатная рыса гэтага мэтоду ў гістарычна-юрыдычнай працы ёсьць у зграбнай, яснай ды лёгічнай концэпцыі ды сыстэматызацыі выкладу, што дае выразнае аблічча юрыдычнае нормы данага інстытуту. Але гэтага якраз і няма ў працы Р. Лашчанка.

Выняткаў у рабоце з актаў мала. Але тыя, што ёсьць, цытуюцца няправільна. Аўтар заўсёды зьменьвае „ѣ“ на „і“, „о“ на „і“ і дае словам украінскія канчаткі (напр., замест „одъѣхалъ“ піша „од'їхав“). Праўду сказаць, робіць гэта ён толькі з украінскімі актамі. Але трэба сказаць, што гэткае цытаваньне ёсьць цалкам ненавуковае—трэба або пакідаць орыгінал як ён ёсьць, або перакладаць на тую цяперашнюю мову, на якой аўтар піша. Інакш будзе сумбур, асабліва, калі прыпусьціць, што другі вучоны, што пойдзе шляхам Р. Лашчанка, будзе зьмяняць яшчэ і другія літары.

Характэрная рыса працы гэта — романтычнае захапленьне аўтара ў яго тэме і ў мінулым украінскага народу. У копных судох, на яго погляд, выяўляецца ўся „народная душа“ украінцаў, усё „праўнае пачуцьцё“ іх. Вось чаму праца Р. Лашчанка ёсьць ідэалізацыя копных судоў. Але мы за ім ня можам у гэтым кірунку ісьці. Адылі з цяперашняга погляду копны суд быў вельмі і вельмі прымітыўная форма суду. І зусім ня мае рацыі аўтар, калі думае,—што цяпер надышоў час адрадзіць гэтыя старыя формы суду: „мы верым, піша ён, што ў нашым часе, калі ўпаў царскі ўрад і адноўліваецца ды аджывае ўласнае, нацыянальнае украінскае права, прачнуцца да жыцьця і найкаштоўнейшыя, найздароўшыя яго асновы; паміж апошніх, менавіта ў сфэры судовай, знойдуць для сябе вызначанае месца (напэўна, у формах,

адпаведных нашаму часу) і найкаштоўнейшыя, наймацнейшыя асновы украінскага копнага права,—асновы украінскага нацыянальнага народнага судоўніцтва“ (II., с. 87). Гэта ня так. Што было ў часы фэўдалізму і ў часы, блізкія да фэўдалізму—даўно прайшло. Ва ўмовах нашага часу не адрадзіцца прымітыўным копным судам ні на Украіне, ні на Беларусі. Што-ж да „народнай душы“ і „праўнага пачуцьця“ народнага, дык гэтыя мэтафізычныя разуменьні гістарычнае школы юрыстых ужо даўно здала ў архіў сучасная навука. Разуменьні гэтыя ня ёсьць навуковыя катэгорыі.

Ёсьць і іншыя памылкі. Найпаметнішая—гэта вялікая вера ў погляды вучоных. Аўтар ставіць іх побач сьведчань актаў. У загалоўку разьдзелу III так і стаіць „сьведчаньні вучоных“, „сьведчаньні актаў“ (I, с. 17). З гэтага ўжо кпіла польская навука ў асобе Я. Адамуса. Сапраўды, погляды вучоных не заўсёды правільныя,—спрэчныя... Навуковы працаўнік мае ставіцца да іх крытычна, правяраць ды выпраўляць іх, нікому ня верыць на слова. А ў проф. Лашчанка спасылка на якоеколечы „сьведчаньне“ А. Кісьцякоўскага ці А. Ефімэнкавай—раз-по-разу спрэчнае і застарэлае—замяняе сабой довад.

Але ёсьць у працы і дадатныя бакі. Праўда, для аўтара барацьба за копныя суды (XVII ст.) ёсьць, перш-наперш, барацьба нацыянальная, бо копныя суды, па яго концэпцыі, ёсьць нацыянальная украінская форма суду. Але мы, прачытаўшы гэтыя старонкі, пабачым у іх перад усім барацьбу соцыяльную, барацьбу клясавую, барацьбу заможнага шляхціча, калі ёнрабіўся памешчыкам, з селянінам—эпохі поўнага прыгону. Вось чаму шляхта—прадстаўнікі сярэдняга землеўладаньня, што спачатку ахвотна судзілася ў копных судох,—потым так змагалася з імі. Гэтыя старонкі дадуць ня мала цікавага матэрыялу і вартых спасьцярог і для марксыстага-соцыолёга.

Цікавая ў аўтара і спроба вызначыць адзнакі ў чыннасьці копных судоў на Украіне ды Беларусі. Ён зазначае, што некаторыя судовыя ўчынкі (напр., судовы заклад—застаўляць у заклад шапкі ці прыстаўленьне нагі) былі толькі на Беларусі, а на Украіне іх ня было. Але гэта яшчэ спроба вельмі нясьмелая; аўтар, калі-б гэтым спэцыяльна зацікавіўся, дык, як відаць, мог-бы вызначыць больш такіх адзнак, але паколькі ён пераважна маўчыць пра чыннасьць копных судоў на Беларусі (між іншым, яе ён за Спрогісам называе „паўночна-заходнім краем“, хоць і бярэ гэтую назву ў двукосьсі),—гэтае пытаньне перад ім не стаяла.

Аўтар цалкам мае рацыю, калі полемізуе з прадстаўнікамі славянафільскай ды народніцкай школ, якія бачылі ў копных судох—суды грамады—„общины“. Але ня мае рацыі ён, калі думае, што яны ёсьць вынік уласьцівага нібы украінскай нацыі імкненьня да „народапраўства“. Справа, мусіць, была прасьцей: копныя суды ёсьць суды фэўдальнага часу ды эпохі раскладу фэўдалізму, з слабай агульна-дзяржаўнай організацыяй гэтае эпохі раскладу грамады—„общины“.

Наогул-жа трэба зазначыць, што адмоўныя бакі працы, — перад усім романтыка, нацыянальнае ненавуковае захапленьне,—пераважаюць у ёй бакі дадатныя. Да мінулага ў навуковай працы нельга падыходзіць з романтычным энтузіязмам нацыянала-публіцыстага, а толькі з халодным спакоем вучонага.

**Л. Окіншэвіч.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

## Сярод беларускіх пісьменьнікаў, поэтаў, літаратараў

* *Міхась Зарэцкі* напісаў новую п'есу „Белыя ружы“. П'еса будзе друкавацца ў бліжэйшых нумарох часопісі „Маладняк“.

* *Ул. Галубок* рыхтуе да друку новую п'есу „Рвачы“.

* *Я. Лімаяоўскі* канчае вялікую новую аповесьць з часоў грамадзянскай вайны на Беларусі, пад назвай „Вецер з усходу“.

* *Васіль Каваль* піша аповесьць з комсамольскага жыцьця. Гэты-ж аўтар працуе над п'есай з вясковага жыцьця пад назвай „Зарунела“. П'еса прызначана да пастаноўкі на вясковай сцэне.

* *Паўлюк Трус* падрыхтаваў да друку новы зборнік сваіх вершаў— „Чырвоныя ружы“.

* *Якуб Колас* здаў да друку Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву другі том збору твораў.

* У хуткім часе ў сьнежні м-цы г. г. ўся Савецкая Беларусь будзе сьвяткаваць 20-гадовы юбілей літаратурнай творчасьці беларускага пісьменьніка Цішкі Гартнага. Прэзыдыум БАН пастанавіў прыняць удзел у гэтым сьвяткаваньні, наладзіўшы пасяджэньне Акадэмічнай Рады з удзелам усіх супрацоўнікаў БАН.

Апроч гэтага, катэдры гісторыі беларускай літаратуры даручана вылучыць дакладчыкаў для абслугоўваньня грамадзкіх організацый, якія будуць адзначаць юбілей пісьменьніка.

Аб'яднаньне беларускіх пісьменьнікаў „Полымя“ для адзначэньня гэтага юбілею вылучыла камісію ў складзе: А. Александровіча, Я. Нёманскага і В. Сташэўскага.

Беларускі камітэт эспэрантыстых рыхтуе да 20-гадовага юбілею беларускага пісьменьніка Цішкі Гартнага спэцыяльны нумар эспэранцкага журналу „Новая эпоха“, які выдаецца ўсясьветным саюзам рабочых эспэрантыстых у Парыжы, прысьвечаны юбілею Ц. Гартнага.

У гэтым нумары будзе зьмешчан спэцыяльны крытычны артыкул аб жыцьці і творчасьці юбіляра і пераводы з яго твораў. Апрача гэтага, будуць пасланы ўва ўсе эспэранцкія часопісі і замежныя культурныя організацыі, з якімі беларускі камітэт мае сувязь, артыкул аб творчасьці юбіляра.

Рыхтуецца таксама спэцыяльны нумар эспэранцкай радыё-газэты, прысьвечаны юбіляру.

* Наркамасьветы БССР адпусьціў літаратурным аб'яднаньням 11.000 р. субсыдыі. З агульнай сумы адпушчана аб'яднаньню „Полымя“— 3500 руб., „Маладняку“—3500 руб., „Узвышшу“—2000 руб., яўрэйскай сэкцыі „ВАПП“ у БССР—1200 руб. і польскай сэкцыі „ВАПП“—800 руб.

* У працягу лістапада м-ца менская філія „Маладняка“ мае правесьці шэраг літаратурных вечароў.

На гэтых вечарох адбудуцца даклады аб творчасьці „Маладняка“ і чытка твораў маладнякоўцаў.

* Гэтымі днямі пры Галоўмастацтве адбылася спэцыяльная камісія па разьмеркаваньні стыпэндый беларускім і яўрэйскім пісьменьнікам-студэнтам розных навучальных устаноў-

У першую катэгорыю залічаны 5 пісьменьнікаў, з якіх М. Зарэцкаму, А. Александровічу і К. Атраховічу (Крапіва) вызначана па 100 р. штомесячна. Алесю Дудару і Язэпу Пушчы па 80 руб. штомесячна.

У другую катэгорыю залічаны 12 пісьменьнікаў, з якіх Барашку—50 руб., Глебку і Вітэнзону—па 45 руб., Серадзе (Дарожнаму), Кляшторнаму, Кавалю, Лужаніну, Трусу, Хурсіку, Маракову, Лііўшыцу і Фаміну па 40 руб.

У трэцяй катэгорыі залічаны 5 пісьменьнікаў, з якіх Вішнеўскай, Казлоўскаму, Камянецкаму і Бобрыку па 25 руб. і Салагубу—15 руб.

* 28 лістапада спаўняецца 5-я гадавіна існаваньня „Маладняка". Юбілею будзе прысьвечана адно ўрачыстае пасяджэньня зьезду „БелАПП'а" (Беларуская АсоцыяцыяПролетарскіх Пісьменьнікаў).

На гэтым урачыстым пасяджэньні будзе заслухан даклад аб творчасьці „Маладняка" за 5 год.

Апрача гэтага, 5-годзьдзю прысьвечваецца юбілейны нумар часопісі „Маладняка" (№ 11).

Па акругах і Менску будуць праведзены літаратурныя вечары, прысьвечаныя юбілею.

* Групай пісьменьнікаў з літаратурнага аб'яднаньня „Полымя" ў складзе: Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, М. Зарэцкага, А. Александровіча, А. Гурло праведзен у лістападзе м-цы г. г. шэраг літаратурных дыскусійных вечароў ў Магілеве.

* У пачатку лістапада ў Менску адбыўся многалюдны грамадзкі літаратурны дыспут на тэму „Чаго мы чакаем ад нашага пісьменьніка".

* Цішка Гартны гэтымі днямі атрымаў ад моладзі Віленскай Беларускай гімназіі наступнае прывітаньне: „У дзень дваццатых угодкаў літаратурна-грамадзкае працы пасылаем табе шчырае прывітаньне і жадаем адважна стаяць на варце інтарэсаў працоўных".

* 5 лістапада ў „Доме Культуры" адбылася вялікія вечарына беларускай мастацкай літаратуры ды музыкі. На вечарыне чыталі свае творы Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, М. Чарот, З. Бядуля, А. Александровіч, П. Трус., А. Дудар ды інш.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* Апошнімі днямі кастрычніка ў Гомлі распачаў свой асеньня-зімовы сэзон Другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр.

Першая пастаноўка „Разлом" прайшла пры перапоўненай салі. Бліжэйшай работай тэатру зьявіцца пастаноўка сучаснай мелёдрамы з жыцьця беларускай вёскі „На прадвесьні". Сцэнічная апрацоўка С. Розэна паводле п'есы М. Ільлінскай „На прадвесьні"—п'еса сёнешняга дня. У ёй вёска паказана з усімі яшчэ ня зьнішчанымі забабонамі ды супярэчнасьцямі. Але разам з гэтым паказаны парасткі новага быту.

Матэрыял для гэтай п'есы сабраў у часе экспэдыцыі па акругах Беларусі рэжысэр Розэн. У гэтых работах прымала ўдзел мастачка Н. Айзэнбэрг, якая зьяўляецца членам асоцыяцыі сучасных мастакоў-дэкаратараў.

П'еса будзе справаджацца беларускай сымфонічнай сюітай. Матар'ялам для гэтай музыкі зьявіліся больш як 200 народных песень і танцаў, запісаных Інстытутам Беларускай Культуры. Самая сюіта напісана маскоўскім композытарам В. Аранскім.

Тэатр рыхтуе таксама п'есу Кіршона—„Рэйкі гудуць". Для пастаноўкі яе рэжысура зьбірае матар'ял у гомельскіх чыгуначных майстэрнях.

У працягу сэзону пойдуць яшчэ сынтэтычная беларуская п'еса, сучасная беларуская камэдыя, а таксама і п'есы леташняга рэпэртуару.

* Вытворчасьць Белдзяржкіно ў 1928—29 годзе вызначылася ў ліку 10 мастацкіх фільмаў, 4-х культурфільмаў і 12 выпусках кіно-хронікі.

Папярэдні тэматычны плян ахапляе 29 тэм.

* Гэтымі днямі пры Галоўмастацтве БССР адбылася нарада па пытаньню падрыхтоўкі да 3-й Усебеларускай Мастацкай выстаўкі. У выстаўцы прымуць удзел усе аб'яднаньні мастакоў БССР, а таксама паасобныя мастакі як з БССР, так і замежныя, якія дадуць карціны з гісторыі і быту Беларусі.

На выстаўцы будуць наступныя аддзелы: малярства, скульптура, графіка, тэатральна-дэкарацыйны аддзел, керамічны, вытворчае мастацтва і аддзел самавучак-мастакоў з рабоча-сялянскага асяродзьдзя.

Карціны маюць быць атрыманы з Гомелю, Віцебску, Масквы і Ленінграду. На організацыю выстаўкі патрабуецца 1600 р. Выстаўку мяркуюць наладзіць у новым Цэнтральным Доме Селяніна.

* У мэтах падрыхтоўкі артыстаў з пачынаючых працаўнікоў клюбных сцэн, НКА ўвёў у штат першага Белдзяржтэатру 4 пасады практыкантаў і ў Беларускі Дзяржаўны яўрэйскі тэатр 8 пасад практыкантаў.

На пасаду практыкантаў будуць прымацца працаўнікі клюбных ды іншых сцэн, а таксама і праз конкурсы.

* Беларускі Дзяржаўны Музэй набыў 3 карціны флёмандзкай школы XVII стагодзьдзя. Паміж гэтымі карцінамі ёсьць мужчынскі портрэт работы мастака Рубэнса, портрэт жанчыны і адна карціна натур-мор.

* 7-га лістапада Віцебскі філіал „ОМАХР“ (аб'яднаньне моладзі асоцыяцыі мастакоў рэволюцыі) адчыніў справаздачную мастацкую краязнаўчую выстаўку краязнаўчай экспэдыцыі „ОМАХР'а“, якая летам 1928 году, разьяжджала па Беларусі.

На выстаўцы прадстаўлена звыш 100 малюнкаў са Слуцку, Менску, Полацку, Віцебску і іх ваколіц.

* У Маскве, у Калённай Залі Дому Саюзаў, 8 лістапада быў організаваны агульна-маскоўскі інтэрнацыянальны вечар. Беларусь была прадстаўлена хорам Беларускага Цэнтральнага Клюбу і студэнцкага зямляцтва, якія выканалі пад кіраўніцтвам т. Равенскага нацыянальныя ды рэволюцыйныя сьпевы.

* У сьнежні г. г. БДТ І мае быць пастаўлена п'еса Гальдоні „Бабскія плёткі“. На пастаноўку гэтае клясычнае п'есы запрошаны вядомы рэжысэр Пятроўкі.

* У пачатку лістапада ў Менску ў клюбе К. Маркса адбыўся першы ў гэтым сэзоне вялікі концэрт беларускай музыкі ды песьні.

У канцэрце прымалі ўдзел артыстыя-солістыя сьпевакі: запрошаная з Ленінграду Л. А. Васільчанка (м.-сопрано), артысты К. І. Мацэлевіч (тэнор), артыстка Л. Р. Янушкевіч (народныя сьпевы), В. А. Сэлях (барытон-бас), солісты балету Л. А. Брэві і Ю. К. Сямёнаў; артысты балету Ю. І. Хераска, Кізіна, Узумава, Глушачкова; цымбалісты Жыдовіч; беларускі вокальны квартэт у складзе артыстых М. І. Мікалаевіча, У. У. Патапава, П. І. Швайко і К. І. Мацэлевіча, каля роялю концэртмайстар БДТ-І Р. А. Шалыт. Выкладчыкі музтэхнікуму: А. Л. Бясьсьмертны (скрыпка), М. М. Вастокаў (бас), Я. Л. Жыў (рояль) і С. Л. Жыў (скрыпка), сьпявачка Л. А. Александроўская (сопрано) і М. М. Пігулеўскі (барытон), оркестры цымбал, жалеек і лер пад кіраўніцтвам А. Л. Ягорава.

* Літаратурна-мастацкі аддзел Белдзяржкіно ўзяўся за распрацоўку пяцігадовага тэматычнага пляну свае вытворчасьці.

* Пры І Беларускім Дзяржаўным тэатры будзе працаваць драматычная студыя. У аснову студыі пакладзена драматычная кляса музтэхнікуму. Навукова-мэтодолёгічны камітэт НКА ўжо зацьвердзіў навучальны плян першага году. Курс драматычнай студыі разьлічаны на

4 гады. На першы курс будзе прынята каля 30 чалавек.

* Да 10-леццproperя агалашэньня БССР БДТ-І рыхтуе новую п'есу Зорава—„Сьвітаньне". Гэтая п'еса малюе рэволюцыйнае абуджэньне беларускага народу.

### Хроніка друку

* Вышаў з друку дзесяты нумар часопісі „Маладняк".

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва здало ў друк зборнік „Цішка Гартны ў беларускай літаратурнай крытыцы".

* А. Гурло падрыхтаваў да друку новы зборнік сваіх вершаў „Межы". Зборнік будзе друкавацца Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам.

* Друкуюцца ў БДВ: зборнікі вершаў Бульбяніка З.—„Сьмех і радасьць вёскі"; А. Вечара — „Коладзён"; Відука—„Вітрына"; Ул. Гладкі—„Голас з неба" (п'еса); І. Дубок (Шпак)—„Партызаны" (п'еса ў чатырох дзеях).

* Да сьвята 10-леццproperя БССР т. Рабіновіч піша кнігу—„Менск за 10 год нацыянальнага ды культурнага будаўніцтва".

* Друкуюцца Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам перакладныя творы: М. Горкі „Детство" (пер. з расійскай мовы); В. Ванчура— „Палі ворныя і баявыя" (пер. з чэскай мовы); Ірчан—„Сям'я штотачнікаў" (пер. з украінскай мовы).

* Міхась Зарэцкі перадаў БДВ да друку „Падарожжа ў новую зямлю".

* Да юбілею 10-леццproperя БССР Цэнтральная Статыстычная Ўправа БССР выдае кнігу ў лічбовых матэрыялах аб дасягненьнях БССР у розных галінах гаспадаркі і культуры. Усесаюзнае т-ва культурнай сувязі з заграніцаю супольна з Беларускай Акадэміяй Навук выдае кніжку аб БССР на розных мовах. Выдаюцца таксама кніжкі аб конституцыі БССР. Ва ўсіх часопісях і газэтах будуць зьмяшчацца розныя артыкулы аб росьце ўсіх галін жыцьця БССР за апошнія 10 год.

* Для падбору аўтараў і арганізацыі перакладаў беларускай мастацкай літаратуры да выданьня на расійскай мове праз Дзяржвыдавецтва РСФСР сакратарыят ЦК вылучыў камісію ў складзе т. т. Шыпілы, Жылуновіча і Сянкевіча.

* Прэзыдыум БАН пастанавіў выдаць бюлетэнь аб сваёй дзейнасьці за апошні год. Бюлетэнь будзе памерам у 6 друкаваных аркушаў.

* Галоўнавука БССР выдае зборнік матэрыялаў навукова-дасьледчай працы БССР.

У зборніку будуць зьмешчаны матэрыялы як навуковых, так і вышэйшых навучальных устаноў

* За 1-ю палову 1928 году ў Вільні вышлі з друку кніжкі на беларускай мове:

1) Колас Якуб: „Сымон Музыка"— поэма. Выданьне (у Польшчы) 1-е. Выдавецтва Белар. Выдав. Т-ва „Пагоня". 211 стар. Кніжка мае прадмову і портрэт аўтара.

2) Колас Якуб: „Новая зямля"— поэма. Выданьне ў Польшчы 1-е, наогул 3-е. Кніжка 1-я (першых 13 песьняў). Выданьне „Народу". 124 стар.

3) Друцкі-Падбярэскі: „Байкі, гумар і сатыра".—Зборнік гумарыстычных вершаў. Сшыткі 1-ы і 2-і разам. Выданьне „Віленскага Выдавецтва" Б. Клецкіна. Стар. 64.

4) Гушча Тарас: „Нёмнаў дар" ды іншыя расказы.—Зборнік новэляў. Новае выданьне „Віленскага Выдавецтва" Б. Клецкіна. Стар. 77.

5) Твэн Марк: „Прынц і жабрак"— аповесьць для юнацтва. Пераклаў Макар Краўцоў. Выданьне „Віленскага Выдавецтва" Б. Клецкіна. 215 стар.

6) Нямiровіч-Данчэнка В. І.: „Стары замак"—апавяданьне. Пераклаў з расійскай мовы В. Ст. Стар. 39.

7) Крапіўніцкі М. „Пашыліся ў дурні"—жарт у 3-х дзеях. Пераклад з украінскай мовы. Выданьне Т-ва

Беларускай школы з сэрыі „Беларускі Тэатр“. Стар. 32.

8) „Беларускі Тэатр“—зборнік беларускіх сцэнічных твораў, які зьмяшчае ў сабе: 1) „Па рэвізіі“—жарт у 1-й дзеі М. Крапіўніцкага (пераклад з украінскай) і 2) „Модны шляхцюк“—жарт у 1-й дзеі К. Каганца. Выданьне Т-ва Беларускай Школы. Старонак 31.

9) „Беларускія сцэнічныя творы“—зборнік, які зьмяшчае наступныя п'есы 1) „Дзядзька Якуб“—драматычны абраз у 2-х дзеях—Фр. Аляхновіча, 2) „На вёсцы“—ідылічны абраз у 1-й дзеі Фр. Аляхновіча, 3) „Міхалка“—камэдыя ў 1 дзеі, пераробка з польскае і 4) „Пярэстая красуля“—жарт у 1-й дзеі М. Чужыніна (пераклад з расійскае). Выданьне Беларускага Выдавецтва. 48 стар.

10) М. А., д-р: „Бор“—філёзофічны нарыс. Выданьне „Хрысьціянскай Думкі“. Стар. 24.

11) Туронак Б., д-р: „Гігіена ўзгадаваньня дзіцяці“—популярна навуковая брошура. Выданьне „Бел. Крыніцы“. Стар. 40.

* Па даручэньню Наркамасьветы Барашка напісаў для школ і іншых культасьветных установ брошуру. У гэтай брошуры адбіваецца барацьба рабочых і сялян за Савецкую Беларусь. Да сьвяткаваньня 10-годзьдзя агалашэньня БССР гэта брошура будзе накіравана па культасьветных установах.

* Сакратарыят ЦК згадзіўся з прапановай АПА на пэрыодычнае выданьне праўленьнем Комвузу навукова-марксыцкіх зборнікаў, якія будуць уключаць працы навукова-дасьледчага характару марксыцкіх сіл, што згрупаваны вакол таварыства марксыстых БССР пры Комвузе.

Зборнікі будуць выдавацца ў асноўным на беларускай мове з дапушчэньнем адступленьня ад гэтага прынцыпу ў адносінах да некаторых вузка-спэцыяльных прац.

* Вышаў з друку чарговы нумар „Студэнцкай думкі“, органу віленскага беларускага студэнцтва.

* Нар. Кам. Аховы Здароўя БССР выдае кніжку-зборнік „10 год аховы здароўя БССР“.

**Рознае**

* У дзень 10-годзьдзя агалашэньня БССР адбудзецца ўрачыстае адчыненьне Беларускай Акадэміі Навук. На адчыненьне чакаецца прыезд вядомых вучоных з саюзных рэспублік.

* У хуткім часе ў Менск прыяжджае для працы ў Навукова-Дасьледчым Інстытуце Сельскай і Лясной гаспадаркі імя Леніна і Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце вядомы вучоны, спэцыялісты па сельскай гаспадарцы—проф. А. Ф. Вільямс.

* 5 лістапада г. г. пад старшынствам т. Хацкевіча адбылося чарговае пасяджэньне цэнтральнай камісіі па падрыхтоўцы сьвяткаваньня 10-годзьдзя агалашэньня БССР.

Сьвята будзе праводзіцца па лініі культасьветы і па лініі культасьветных установ. У школах соцвыху цэлы тыдзень да пачатку сьвята будзе праводзіцца цэлы шэраг тэм аб узьнікненьні і працы БССР. У школах будуць організаваны літаратурна-вокальныя вечары з удзелам бацькоў дзяцей. На гэтых вечарох па пляне будуць выконвацца беларускія песьні, беларуская музыка і ставіцца даклады на адпаведныя тэмы.

У вышэйшых навучальных установах і тэхнікумах таксама будуць організаваны на працягу апошняга тыдню перад сьвятам факультэтныя студэнцкія сходы. У вышэйшых навучальных установах таксама будуць організаваны літаратурна-вокальныя вечары з удзелам нашых пісьменьнікаў і музычных сіл.

Па лініі політасьветных установ і мастацкіх організацый намечана правесьці цэлы рад мерапрыемстваў. Будзе організавана выстаўка выяўленчага мастацтва. Між іншым, зака-

заны карціны на наступныя тэмы: падпісаньне маніфэсту, чытаньне маніфэсту, партызаны, будаўніцтва ў БССР, „Ад веку мы спалі“... на тэму беларускай марсэльезы.

Нашы тэатры рыхтуюць да сьвяткаваньня спэцыяльныя п'есы і выступленьні. Беларускі Дзяржаўны Тэатр рыхтуе да 10-годзьдзя агалашэньня БССР п'есу Міровіча „Тры этапы“. Колектыў „Наш тэатр“ рыхтуе для клюбных пастановак перапробленую для колектыўнай дэклямацыі поэму Чарота „Босыя на вогнішчы“. Мяркуецца організацыя перасовачнай мастацкай выстаўкі, выданьне брошуры „10 год БССР“ і г. д.

У сьвята 10-годзьдзя мяркуецца пусьціць публіку ў тэатры бясплатна.

Белдзяржкіно рыхтуе да дзесяцігодзьдзя БССР новую фільму па апавяданьні Якуба Коласа—„На прасторы жыцьця“. Цяпер гэты фільм апрацоўваецца ў Ленінградзе.

Апроч гэтага, Наркамасьветы даў дырэктыву Белдзяржкіно ў сьвята 10-годзьдзя дэмонстраваць усе фільмы, напісаныя на беларускія тэмы.

Нашы пісьменьнікі таксама рыхтуюць некаторыя свае творы да гэтага сьвята.

Наркамасьветы ўстанавіў 15 стыпэндый імя 10-годзьдзя агалашэньня БССР. Гэтыя стыпэндыі, па 50 руб. у месяц, будуць выдавацца ўдзельнікам вызваленьня Беларусі і іх дзецям. Акругі таксама ўстанаўліваюць стыпэндыі. Так, Менская акруга вызначыла дзьве стыпэндыі ў Дукорскай сямігодцы.

Апроч гэтага, цяпер распрацоўваецца плякат на тэму організацыі будаўніцтва БССР. Наркамасьветы таксама выдае спэцыяльную брошуру аб барацьбе рабочых і сялян за БССР і дасягненьнях за 10 год.

* Беларускі Дзяржаўны Музэй рыхтуецца да 10-годзьдзя агалашэньня БССР.

Да часу сьвята будзе організавана выстаўка мастацтва, якая будзе адбіваць 10-гадовую мастацкую творчасьць БССР.

* Гэтымі днямі Беларуская Дзяржаўная бібліотэка атрымала ад аб'яднаньня навуковых устаноў Нямеччыны вялікую партыю навуковых выданьняў.

З гэтым аб'яднаньнем Беларуская Дзяржаўная бібліотэка трымае шчыльную сувязь па кнігаабмену.

* У новым Доме Селяніна праводзіцца організацыя с.-г. музэю, які па багацьцю і рознастайнасьці экспонатаў будзе мець характар Цэнтральнага Беларускага Сельска-Гаспадарчага Музэю. Музэй падзяляецца на 10 аддзелаў і будзе разьмешчаны ў 10 пакоях. Мяркуецца адчыніць наступныя аддзелы: зямляробства, мэліорацыі і культуртэхнікі, лясны, соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі, па пераапрацоўцы продуктаў сельскай гасп. ды інш. Апрача ранейшых экспонатаў, рыхтуюць яшчэ экспонаты наступныя ўстановы: Белсельтрэст, Белсельсаюз, дасьледчыя станцыі, ГЭТ, Дзяржгандаль, аддзел рыбацтва Наркамзему ды інш. організацыі. Абслугоўваньне музэю будзе ўскладзена на 2-х аграномаў, якія будуць даваць тлумачэньні сялянству.

* У пачатку сьнежня пры Галоўнавуцы БССР адбылося пасяджэньне камісіі ў складзе прадстаўнікоў ВСНГБ, Акадэміі Навук і Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае Гаспадаркі па пытаньні аб організацыі беларускага інстытуту прамысловасьці. Паводле погляду камісіі, інстытут прамысловасьці павінен быць установай комплекснага тыпу, г. зн., што ён павінен аб'яднаць увесь комплекс навук у галіне вывучэньня прамысловасьці БССР.

Інстытут прамысловасьці павінен аб'яднаць і концэнтраваць усю навукова-дасьледчую працу ў галіне вывучэньня прамысловасьці БССР, якую цяпер праводзяць наступныя організацыі: Акадэмія Наук, Навукова-Дасьледчы Інстытут, ВСНГБ, Сел.-Гас. Акадэмія і Наркамзямляства.

**Замежныя краіны аб Беларусі**

* Баўгарская літаратурная газэта „Літэратурны Новіны“ за кастрычнік м-ц г. г. надрукавала вялікі артыкул аб беларускай сучаснай літаратуры.

* У Гэльсынгфорскай рабочай газэце зьмешчаны артыкул на тэму:— „Культурныя дасягненьні БССР за 10 год“.

* Японская газэта „Новая Культура“ зьмясьціла артыкул „Культура Беларусі“.

* У бліжэйшых нумарох часопісі „Славянскі агляд“ („Slavische Reinolschon“) будзе надрукаваны нарыс аб сучасных беларускіх тэатрах (БДТ-І, БДТ-2 і БДВТ), а таксама і аб навукова-дасьледчай прады ў Бел. Дз. ...-це.

Гэтая часопісь „Славянскі агляд“ ...чынае выходзіць толькі з восені ... г. ў горадзе Прага-Чэскай пад ...дакцыяй проф. Ф. Шпіна і Г. Гемана. Часопісь ставіць сваёй мэтай ...біць навуковыя і крытычныя агляды ўсіх актуальных пытаньняў славянскага культурнага жыцьця.

* У газэце (Масква) „Читатель и писатель“ № 45 за лістапад 1928 г. зьмешчаны артыкул Е. Хлябцэвіча „Белоруский пролетарский поэт Тишка Гартный“ з портрэтам Цішкі Гартнага.

* У № 299 чэскай газэты „Narodni Osvobozeni“ ў яе літаратурным дадатку „Hodina“ зьмешчаны верш Янкі Купалы „З юбілейных настрояў“ у перакладзе вядомага проф. Ф. Ціхага.

* У газэце „Українські робітничі вісти“, № 103 за бягучы год, якая выдзіць у г. Вініпегу (Канада), зьмешчаны вершы Ц. Гартнага „Песьні гарбара“ ў перакладзе І. Куліка.

* Дзяржаўнае выдавецтва РСФСР адвяло 77 друкаваных аркушоў для перакладаў з беларускіх пісьменьнікаў. Апроч гэтага, частка твораў апошніх увойдзе ў анталёгію поэзіі СССР і ў нацыянальны альманах, якія таксама маюцца быць выдадзенымі тым-жа выдавецтвам на працягу бягучага гаспадарчага году.

## ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Інстытут імя Шэўчэнкі і харкаўскі будынак літаратуры організуюць у сьнежні м-цы г. г. выстаўку твораў і мэмуарных рэчаў Васіля Блакітнага.

* У канцы кастрычніка г. г. ў Марыупалі скончылася ўсеукраінская мастацкая выстаўка—„10 год кастрычніка“.

* Гэтай зімой мінае 35 год поэтычнай чыннасьці Міколы Варанога і 50 год з дню нараджэньня Васільчэнка. Абодва юбілеі будуць сьвяткавацца разам.

* У Дзяржаўным Выдавецтве Украіны друкуецца кніга М. Лейтэса і М. Яшэка—„Дзесяць год украінскай літаратуры“ (1917—1927) пад агульнай рэдакцыяй С. Пілiпэнкі.

* Навуковы інстытут кнігазнаўства разам з інстытутам навуковай мовы ў хуткім часе выдае кнігазнаўчы украінскі слоўнік, які будзе складацца з тэрмінаў поліграфіі бібліотэчнай справы ды бібліографіі.

* Камісія гістарычнага слоўніка пры ВУАН падрыхтавала да друку першы том украінскага гістарычнага слоўніка на 40 друкаваных аркушаў пад рэдакцыяй проф. Тымчэнка.

* Украінскае таварыства культурнай сувязі з замежамі апрацавала проект вялікай выстаўкі украінскага мастацтва ў Парыжы і Бэрліне, у якой прымуць удзел найвыдатнейшыя украінскія мастакі.

* У Адэсе пачала выходзіць новая украінская літаратурна-навуковая часопісь „Блиски“.

* Усеукраінскі гістарычны музэй імя Шэўчэнкі організуе вялікую мастацкую выстаўку, якая ахопіць малярства за час XVII—XX сталецьцяў.

* Вытворчасьць украінскага дзяржкіно займае звыш два цаці процантаў агульна-саюзнай кіно-вытворчасьці. Гэта тым болей высокая лічба, калі параўнаць яе з нашай беларускаю кіно-вытворчасьцю, якая займае крыху больш аднаго проценту саюзнае. Украінцы вельмі добра зразумелі ўсё значэньне кіно, і дружна ўзяліся за справу яго разьвіцьця. Вакол кіно-ўправы (Вуфку) згрупаваны лепшыя украінскія пісьменьніцкія сілы; у здымках прымаюць удзел выдатныя украінскія артыстыя. Цэлы шэраг выпушчаных Вуфку фільм па сваёй мастацкай вартасьці абагналі вытворчасьць Совкіно і Межрабпом. Нельга не адзначыць яшчэ раз выдатнага фільму „Звенігара“, які прынёс вялікую заслугу украінскай кінематографіі. Гэта фільм, з другога боку, прынёс вядомасьць яе аўтару, таленавітаму рэжысэру Даўжэнку. Апошні цяпер зьяўляецца адным з выдатных кіно-працаўнікоў ва ўсім Саюзе. Але гэта велічыня украінскае кінорэжысуры не застаецца адзінай. Ужо паказалі сябе і другія украінскія кіно-рэжысэры, сярод якіх буйнае месца займае Кавалерыдзе. Досыць таго, што украінцы цяпер амаль ня цалкам абыходзяцца ў гэтых адносінах уласнымі сіламі... Багата ў іх сваіх сіл і сярод выяўленых і зарэкомэндаваных сябе кіноартыстых. Першарадным сярод іх зьяўляецца вядомы Бучма, які ня ўступае кіно-зьвёздам заграніцы.

Вуфку рыхтуе каля дваццаці фільмаў, з якіх фільм „Джэкі Хіггінс“

каштавацьме да чатырохсот тысяч рублёў! Гэты фільм хутка зьявіцца на экране.

Кіеўская кіно-фабрыка, распачатая пабудовай летась вясною, у большай сваёй частцы ўжо закончана. Выведзен асноўны опэрацыйны корпус з бакавымі прыбудоўкамі для хэмічных опэрацый па праяўках і монтажу фільмаў, пакоі для групаў, праглядная заля, памяшканьне пад дэкорацыі і электрычная станцыя. Ужо гэта частка фабрыкі—без адміністрацыйнага і мастацкага карпусоў,—выяўляе сабою нешта нябывалае. Яе велічыня і абсталяваньне па апошнім слову тэхнікі сапраўды зьдзіўляюць. Забіраючы на сябе да чатырох мільёнаў рублёў, з якіх навейшае абсталяваньне абыходзіцца ў трыста тысяч рублёў, кіеўская кіно-фабрыка зьяўляецца першаю пабудаванаю для мэты кіно - мастацтва фабрыкай у СССР.

* У рэпэртуары сэзону 1928-29 г. тэатру „Березіля“ ёсьць новыя п‘есы: „Над“ і „Вялікі сэкрэт“—Вінічэнка, „Украдзена шчасьце“—Франка, „Ділова людина“—Газэнклавера і п‘есі Пятра Панча—„Голубі ешелоні“.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны выпусьціла альбом краявідаў савецкай Украіны.

* З верасьня ў Кіеве пачынае выходзіць „Кіно-газэта“, орган таварыства „Друзів радянського Кіно“.

* Рэжысэр Стыбові робіць здымку кіно-карціны „Перлина Семіраміды“—з мінулага Адэсы; Довжэнка здымае масавыя сцэны кастрычнікавых мітынгаў для карціны „Арсенал“; Грічэр пачаў здымаць карціну „Напередадні“, да ўдзелу ў якой запрошаны вядомы артысты Бучма.

—

# ЗЬМЕСТ

Стар.

**Цішка Гартны**. Рыгор у Пецярбурзе (з роману „Сокі цаліны“—Крыжавыя дарогі) 3
**Язэп Гора**. Сьмерць мужа і жонкі Піводавых (апавяданьне) . . . . 41
**Л. Радзевіч**. „Нягодная“ (апавяданьне) . . . . . . . . 63
**Андрэй Курцї (Куршынскі)**. Прокурор Нат (апавяданьне) . . . . 71
**Н. Вішнеўская**. Завея (апавяданьне). . . . . . . . . 78
**Я. Колас**. На шляхох волі (поэма) . . . . . . . . 83
**А. Александровіч**. Разбойнік Буйтрэ (верш) . . . . . . 93
**І. Бэхэр**. Вялізарнае абжорства (верш—з нямецкае мовы пераклаў **Л. Цьвяткоў**). 97
**Паўлюк Трус**. Ліст да сястры (верш) . . . . . . . . 101
**Валеры Маракоў**. Ён адчыніў вакно (верш) . . . . . . 106
**Праф. С. Вальфсон**. Аб Чэрнышэўскім—рэволюцыянэры і мысьліцелі . 108
**І. Герчыкаў**. Філёзофскія ды гістарычныя погляды М. Г. Чэрнышэўскага . 118
**Проф. Зьм. Жарынаў**. Прыгонная гаспадарка Беларусі паводле даных расійскай гаспадарчай літаратуры і журналістыкі 30—40 гадоў (канец) . . 136
**Проф. І. Замоцін**. Драматычныя творы Цішкі Гартнага . . . . . 151
**Ул. Дзяржынскі**. Дзейнасьць З. Жылуновіча ў абсягу беларускае літаратурнае крытыкі. . . . . . . . . . . . . . 168
**М. Гарэцкі**. Творчасьць маладнякоўцаў . . . . . . . 187
**Л. Цьвяткоў**. Увагі а правапісе і скланеньні чужаземных іменьняў у беларускай мове . . . . . . . . . . . . . 199
**Кнігапіс** . . . . . . . . . . . . . 217
**Хроніка беларускай культуры** . . . . . . . . . 223
**Хроніка украінскага культурнага жыцьця** . . . . . . 230

**ЦАНА 1 р. 25 к.**